## У НУМАРЫ:

# *МОЙ ЛЮБЛІН*



*Некалькімі старонкамі пазней стане вядома, што і гэты том «Планеты Палессе» — міжнародны. У цэнтры ўвагі — Люблін. У яго шматлікія ўніверсітэты прыязджаюць вучыцца студэнты не толькі з Польшчы, але і з Беларусі, і з Украіны, утвараючы адмысловае люблінскае славянскае адзінства.*

*Кожны ўдзельнік разважае на тэму «Мой Люблін».*



## *Наста САЛДАЦЕНКА,*
***студэнтка славянскага аддзялення філфака БДУ, рэдактар аддзела прозы нашага часопіса:***

— У Любліне была два разы на трохтыднёвай стажыроўцы ад БДУ. Праходзілі яе на гуманітарным факультэце Універсітэта імя Марыі Складоўскай-Кюры. Горад уразіў адразу. Нязвыклымі падаліся рашоткі на кіёсках. Пасля нам сказалі, каб мы не насілі пры сабе вялікія сумы грошай, бо іх лёгка могуць сцягнуць. І ўвогуле прасілі быць асцярожнымі, бо ў Любліне павышаная злачыннасць. Але першы шпацыр па горадзе развеяў нашу насцярожанасць. Я тады была за мяжою ўпершыню, і таму ўражанні памнажаліся ўдвая. Горад запомніўся вершамі на прыступках і сценах дамоў, вулічнымі музыкамі. Асабліва ўразіў вальс з фільма «Амелі», які некалькі вечароў запар граў баяніст у Старым Горадзе. Адзінае, што трошкі напружвала, — гэта машыны, якія там чамусьці практычна не прыпыняюцца, калі пераходзіш дарогу, і заўсёдная сігналізацыя то хуткай, то паліцыі. Так і не ўцямілі, чаму.



## *Оля Наташа СКУПІНЬСКА,*
***полька з украінскімі каранямі:***

— Я ў Любліне нарадзілася і пражыла 8 гадоў. 11 год жыву ў Варшаве, але бываю ў Любліне кожныя 3 месяцы, каб пабачыць сваякоў. Гэта студэнцкі горад, у якім пануе атмасфера моладзевай «движухи». Там шмат студэнтаў, а таксама кавярняў, у якіх размаўляюць пра высокае. Мае любімыя месцы ў Любліне — дачы ля музея Скансена, дзе можна паесці свежай садавіны і гародніны, пагуляць басанож, а пах там неймаверны, асабліва летам і восенню. Калі была дзіцём, любіла лазіць па люблінскіх дрэвах, ад чаго ў мяне засталося шмат шнараў.



## *Брат Яўген ХАДАНЁНАК*
***з каталіцкай манаскай супольнасці марыянаў:***

— У Любліне я праходжу манаскую фармацыю ўжо 3 гады, апошні год вучыўся ў духоўнай семінарыі. Люблін для мяне з'яўляецца простым горадам, тут няма вялікага руху, як, напрыклад, у Варшаве ці Мінску, ёсць месцы, дзе можна пагуляць, адпачыць, памаліцца на свежым паветры. Вельмі мне падабаецца Касцёл Братоў Меншых Капуцынаў на Кракаўскім Прадмесці. Шмат там адбылося паміж мною і Хрыстом. Люблю таксама Майданэк — мемарыял на месцы люблінскага канцлагера. Займае дух, калі бачыш горы абутку вязняў, чытаеш успаміны, ходзячы па бараках. Застаецца толькі маўчанне і малітва ў сэрцы; уласныя клопаты здаюцца дробяззю.

## *Вераніка ГЕЦМАН,*

***студэнтка Акадэміі спецыяльнай педагогікі імя Марыі Гжэгажэўскай у Варшаве:***



— Люблін для мяне — гэта пачатак прыгоды з Польшчай. Памятаю, прыехалі мы на курс падрыхтоўкі да вучобы на месяц у Каталіцкі Універсітэт. Недзе пад канец курса нас павезлі на экскурсію ў Майданэк (помнік на месцы канцлагера часоў Другой сусветнай вайны). Насупраць Майданэка ёсць некалькі будынкаў — былыя казармы для жаўнераў. А каля ўвахода — вывеска «Люблінскі Каталіцкі Універсітэт». Як аказалася пасля, там праходзяць заняткі па паліталогіі, педагогіцы і журналістыцы. У кастрычніку, калі распачаўся навучальны год, я таксама прыехала туды і на працягу трох гадоў, калі адказвала ля дошкі, заўсёды ў акне бачыла Майданэк. Мне падабаецца тое, што ў Любліне няма непатрэбнай мітусні, якая вельмі перашкаджае, і ў той жа час там шмат моладзі, студэнтаў не толькі з Польшчы, Беларусі і Украіны, але таксама з розных куткоў свету, што дае магчымасць увесь час адкрываць для сябе нешта новае, знаёміцца з цікавымі людзьмі. Я люблю Люблін.

## *Надзея Сянько,*

***рэдактар на радыё:***



— У Любліне вучылася на «studiach podyplomowych» (паслядыпломных курсах) 2 гады, жыла ў студэнцкім інтэрнаце. Гэта быў мой першы вопыт працяглай вучобы за мяжой. Калі казаць пра студэнцкі інтэрнат, то ў параўнанні з нашымі, хоць сама і не жыла, свабода абсалютная: рабі што хочаш, запрашай каго хочаш, а вяртацца можна хоць у 3, хоць у 4 раніцы. Люблін — студэнцкі горад, таму летам, калі студэнты едуць на вакацыі, жыццё там быццам спыняецца. Але культурнае жыццё не вельмі багатае, усё ж не сталіца. Філармонія, драматычны і музычны тэатр (здаецца, ёсць яшчэ тэатр лялек), кіно. Але квіткі і ў кіно не танныя, як для студэнтаў, а тым больш у тэатр. З маіх знаёмых палякаў, нават з неабыякавых да культурнага жыцця, многія ў тэатры ў Любліне былі толькі аднойчы. Большасць бавіць вольны час у кнайпах ці на дыскатэках. Што датычыцца гісторыі і архітэктуры — стары горад варты ўвагі ўвесь: камяніцы, палацы, касцёлы, замак з капліцай Ягайлы, у якім сёння музей. Ёсць некалькі вядомых легенд, звязаных з горадам. Варта наведаць Батанічны сад, Скансен, Майданэк.

***Запісала Тамара САРАЧЫНСКАЯ***



# АБВЯШЧАЮ ЦУД



***Аркадыюш РЫТЭЛЕЎСКІ нарадзіўся 4 чэрвеня 1976 года ў Любліне. Скончыў факультэт гісторыі Універсітэта імя Марыі Складоўскай-Кюры. Творы размяшчаліся ў інтэрнэце, чыталіся на радыё, публікаваліся ў альманахах «Цэнтрум Культуры» ў Любліне.***

**ВОЛЬНАСЦЬ**

Выходжу з агню ўчарашніх пустыняў, лясоў і мораў
Абязбольваю вочы ад слядоў у іх застылых
Нарэшце не існую, ёсць толькі піва, сонца і цішыня мясцовага дыялекта
Абвяшчаю цуд, без бога, ён проста адбываецца.

**ЭГАІСТЫ**

Напружваемся да крыві, каб прачнуцца ў каралеўскім пакоі
Напружваемся да крыві, каб сесці пры каралеўскім стале
Напружваемся да крыві, каб бачыць каралеўскія сны
Ці спынімся яшчэ раней, чым перальем?

**КАРОЗІІ**

Гэтыя самыя дваццаць душ у чатырох мурах просяць аб каханні
Не спыняюцца
Мінус дваццаць тут на двары
Не спыняюцца
Буда і ланцуг гэты самы сабака моліцца за чалавека

***Пераклад з польскай Ірыны ЗІМНЕВАЙ***

***Эва СОЛЬСКА***
***нарадзілася ў 1977 годзе.***
***Выпускніца факультэта філасофіі Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта і факультэта паліталогіі Універсітэта Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне. Доктар гуманітарных навук, творца з люблінскага літаратурнага таварыства «Ініцыятыва Ўсходні Вакзал».***



**КОНТРА**

Ён сказаў ім: «Вароны
лётаюць чародамі.
Толькі арол блукае самотна»

Не толькі арол, прабачце, спадар Прамоўца.
І бог злачынцаў з крыламі ля ножак,
і тытан, што падбірае святло несмяротным,
і паэт, аднойчы названы чалавекам
«з падэшвамі з ветру» [які паліць рукапісы
на п'янай гандоле — аднаго жыцця
хопіць!], і эфіопскі цар,
які яму аднойчы напісаў: «Як ты?
Я, дзякуй Богу, добра,

прыкладна як усе мае войскі»

* * *

І напісана: «Гора самотнаму —
калі падае —
няма нікога, хто б яго падняў».

І самотны ўстае сам, прабачце, Кніга.
Сапраўды. Самотны
ўстае сам, бо ён сціплы.

А чалавек сціплы прадбачыць адразу
ўласнае падзенне.
І ўсё жыццё вучыцца, як не падаць
праз сілу.

***Пераклад з польскай Ірыны ЗІМНЕВАЙ***



***Анджэй ХАДАЦКІ***
***нарадзіўся 31 мая 1970 года.***
***Па закліку душы муж і бацька,***
***па прафесіі доктар медыцыны.***
***Жыве ў Парчэве, недалёка ад Любліна.***
***Піша прозу і паэзію, а таксама***
***займаецца фатаграфіяй.***
***Лаўрэат некалькіх дзясяткаў***
***літаратурных прэмій.***

## СЕТКА

Яна тэлефанавала зноў. Можа, соты раз за дзень набірала купленыя па інтэрнэце нумары, ствараючы перад патэнцыяльнымі падрадчыкамі бачнасць даброт, што іх чакаюць пасля набыцця прапанаваных ёй паслуг.

Што гэта было: сапраўдная дабрачыннасць ці звычайнае ашуканства? Яна не ведала. Яна толькі мусіла бадзёрым голасам, кожнага разу так, як быццам бы гэта быў першы кліент, заахвочваць да карыстання рэкламнымі прапановамі. Радасць размовы, энтузіязм маладосці, цярплівасць да грубіянства, мяккая талерантнасць да неразумных. Гэта былі яе заданні на сёння. Заўтра ўсе пакуты паўторацца з самага пачатку.

Людзі, якім яна тэлефанавала, звычайна ў ветлівай форме адмаўляліся ад размовы. Яна дзякавала ім, а яны дзякавалі ёй. Па абодва бакі лініі зразумела было, што больш яны адно аднаго ніколі не пачуюць. Тыя людзі адразу блакіравалі яе нумар, яна перапісвала страчаны нумар у спіс для паўторнага продажу другім фірмам.

Той дзень, роўна як і папярэдні, набліжаўся да свайго бессэнсоўнага канца. Прабіванне да сакратаркі, каб дамагчыся размовы з кіраўніком фірмы, выслухванне марных тлумачэнняў, каб прыкрыць адсутнасць зацікаўленасці прапановай. А да гэтага ўсяго — яе дыплом па раманістыцы і другая адукацыя па гісторыі мастацтва. Матрыца, у якую яна была ўцягнута, патрабавала толькі яе ліслівага голасу і дэбільнай пакорлівасці. Чарговы нумар, чарговая адмова, бар’еры ў думках, жаданнях, маніпуляцыі, спроба падтрымаць размову і перарывісты сігнал.

Чалавек, якога яна пачула за гадзіну да заканчэння змены, затрымаў яе на імгненне, узрушыў некалькімі сказамі, вырваў са здранцвення.

— Скажыце мне, калі ласка, колькі ўжо гадоў вы тэлефануеце мне, спрабуючы прадаць тую ці іншую рэч? — запытаў ён пасля таго, як выслухаў яе ўступную прапанову.

— Выбачайце, але вам я тэлефаную ўпершыню… — паспрабавала выкруіцца дзяўчына, але яе перарвалі, бо мужчына нібыта яе не слухаў.

— Гэтулькі гадоў вы спрабуеце мяне ўгаварыць, каб я набыў коўдру для тушэння пажару, крэдыт, моўны курс, ігнаруючы, што я не хачу гэтага рабіць, — хвіліна паўзы, падчас якой ён, стоячы, пахіснуўся, спрабуючы злавіць раўнавагу. — Ці набыў я штосьці ў вас калі-небудзь?

— Выбачайце, я не ведаю, але паўтаруся яшчэ раз: я тэлефаную вам упершыню.

— А ці ведаеце вы, што ў гэтым выпадку найгоршае? — голас гучаў так ціха, меланхалічна. Пытанне ж было пастаўлена так дзіўна, што нават дзяўчына з дзвюма адукацы-

ямі, добра навучаная лавіць патэнцыйных кліентаў у сетку маркетынгу, не ведала, што адказаць.

— А найгоршым з’яўляецца тое, — працягваў ён бясколерным голасам, — што заўтра вы зноў патэлефануеце, нібыта ўпершыню. Вы не стаміліся ад гэтага?

На хвіліну паміж суразмоўцамі павісла цішыня. Так, яна стамілася, хоць мусіла быць бадзёрай, быццам гэта быў першы званок за той дзень.

Ён таксама быў стомлены. Кінуты жонкай, з імпатэнцыяй, заўважанай пасля таго, як два тыдні спаў з сакратаркай. Да таго ж крызіс павольна зацягваў пятлю на шыі яго кампаніі. Сацыяльнае страхаванне распачало расследаванне нявыплаты прэміі супрацоўнікам. Схаваць крадзеж карпаратыўных грошай бухгалтар нават не спрабавала. А яшчэ ён быў вымушаны адмовіцца ад катання на лыжах у Альпах з-за небяспекі сыходу лавіны. І апошняе разбурыла ўсё, стала той кропляй горычы, якая перапоўніла келіх.

— Выбачайце, але наша размова не мае сэнсу, я ведаю, што гэта нічога не зменіць, нават калі папрашу, каб вы выдалілі мой нумар з вашай базы дадзеных, — змоўк ён. На нейкі час павісла цішыня.

— Выбачайце.

Яго бровы ўзняліся ўгору, рысы твару завастрыліся, і ён, быццам недачуў, мацней прыціснуў мабільнік да вуха.

— Паўтарыце, калі ласка? — папрасіў з недаверам, паслабляючы шнур на шыі.

— Выбачаюся перад вамі і выдаляю ваш нумар, — адказала дзяўчына і перапыніла сувязь. Яна зняла з галавы хамут з тэлефонных масак, якія ўжо некалькі месяцаў апляталі яе.

А ён зняў з шыі пятлю і злез са століка.

Цяжка сеў у скураное дырэктарскае крэсла.

Схаваў твар у далоні і пачаў плакаць.

*Пераклад з польскай Настассі САЛДАЦЕНКА*

***Эва КАЛАДЫНЬСКА нарадзілася ў 1968 годзе ў Любліне. Штодзённа — жонка і маці. Па прафесіі — праектны менеджар у гандлёвай фірме. Паэзія — у яе генах, бо маці і бабуля таксама пісалі. І гэта яны паказалі, што найлепшай формай камунікацыі з’яўляецца лірыка.***



**ТРЫЗНЕННЕ**

мы раніцай пойдзем на дах
там будзе бліжэй нам да неба

а зараз ты са мною спі
на месяца адціснутым шчыце
на разламаных прамянях

на парнаграфіі вуснаў дрыготкіх
трызненні маім
ты спі

калі мая думка кахаецца з тваёю

## АБЯЦАННІ

я не люблю перонаў
калі ён і яна не могуць зводдаль адрозніць
чым было гэта нешта ля яе сцёгнаў, што адплыло
як імгла і як пыл дарожны ў дрыжачае паветра

радамі дрэў і дамоў яшчэ хвіліну было
як вобраз нерухомы і страціла бляск
не падымаючы нават вачэй за чарговым зваротам

я не люблю тых белых хустачак у нецярплівых
далонях паднесеных у святле неонаў і плячэй
што ўзрушваюцца абы-як далёкіх і блізкіх
як пад памяці пластамі

і хуткага маршу ў бок ад’язджаючых таямніц,
што набіраюць тэмп у рытме так-так-так-так
як звычайны адгалосак з задуменнасці як біццё сэрца

А ўсё для таго каб вызнаць любоў
Што рэхам адплыве ў вызначаным часе

## ПАВУЧАЛЬНЫ ВЕРШ

паэзія нясе ў сабе
элемент трагізму

бо калі паміж першым
і чарговым вершам
пройдзе чалавек
у чорным капелюшы

заўсёды можна
схлусіць

што памяць наша памерла
забітая вершам

***Пераклад з польскай Аксаны ЮЧКАВІЧ***

***Марцін Даніэль КАВАЛЬЧЫК нарадзіўся 24 красавіка 1979 года ў Парчэве. Кампазітар, вакаліст, гітарыст, паэт і бард. Былы ўдзельнік гурта DEDLI SWIM. З 2010-га лідар гурта, што выконвае кампазіцыі самога Кавальчыка. Штогадовыя дабрачынныя канцэрты — традыцыя Парчэва.***



**МЫ**

Мы сядзелі дапазна ў садзе,
Месяц у поўні паказваў нам
свой срэбны дыск,
далікатна расхінаў вецце дрэў.
Кубкі з гарбатай стаміліся дыміцца,
свет навокал ахінула шата глыбокага сну.
А мы, паглынутыя размовай,
узносіліся па-над усім.

* * *

Мары як хвалі, што імчаць праз вецер.
Некаторыя з іх
разбіваюцца аб краменне вострых скал,
пакідаючы па сабе,
кіпучую пену незбыцця.

**ДРЭВЫ**

Вясной абуджаюць свет сакавітай зялянінай
Летам прыносяць плады тысячы смакаў і фарб
Восенню здымаюць саспелую чырвань і бронзу
— моляцца атуленыя вэлюмамі смугі
Зімой апранаюць карункавыя творы
з калекцыі *цнатлівая бель*

***Пераклад з польскай Вольгі СЕВЯРЫНЕЦ***



***Збігнеў Уладзімір ФРОНЧАК паэт, празаік, эсэіст, літаратурны крытык, рэпарцёр. Галоўны рэдактар часопіса «Люблін. Культура і грамадства», старшыня люблінскага аддзела Таварыства польскіх пісьменнікаў. Адзначаны медалём «Міцкевіч — Пушкін» за папулярызацыю польскай культуры на ўсходзе.***

**ПЕРШЫ МАТЧ ЗА ДВА ТЫДНІ**

Здараецца, не раз і не два, што пацешныя — але таксама загадкавыя — выразы знаходзяць у пэўных колах ці асяродках небывалую папулярнасць.

— Першы матч за два тыдні! — гэты загадкавы выраз са смехам, і часта з горкай іроніяй, вымаўляюць маладыя і дасціпныя людзі, маючы на ўвазе штосьці нечаканае і непазбежнае.

З якога літаратурнага твора, з якога кантэксту ўзяты гэты сказ?

З анекдотаў пра залатую рыбку! Анекдотаў пра гэта казачнае стварэнне хапае, залатая чарадзейка паўстае ў іх як істота, адораная спецыфічным, можна сказаць, вераломным пачуццём гумару.

Гумар падчас спаўнення пажаданняў «кліентаў» або дабрачынцаў чарадзейкі, узнікаў не столькі ад злой волі гэтай усемагутнай істоты, колькі ад нечаканых адказаў на пытанні людзей, рэалізацыю іх просьб, чаканняў ці жаданняў.

Найбагацейшы чалавек свету спаймаў залатую рыбку! Ён лавіў фарэль і цешыўся, як дзіця, злавіўшы некалькі штук, а тут нечакана трапілася яшчэ і залатая рыбка.

«Выпусці мяне, — просіць залатая рыбка, — і я споўню тры твае мары!»

Чалавек нічога не хоча ад рыбкі, бо ўсё мае! Вырашыў пасадзіць рыбку ў акварыум, бо тады ён будзе мець штосьці, чаго ніхто ўжо не здабудзе.

Але рыбка просіць свабоды, а найбагацейшы чалавек слухае і радуецца: цяпер ён можа спаўняць просьбы рыбкі.

Паддаўся ён на ўгаворванні і кажа:

— Вярну табе свабоду, толькі скажы, калі я памру.

— Гэтага я табе сказаць не магу, — адказала са смуткам рыбка.

— Тады скажы, ці траплю я ў рай.

— Вядома, ты трапіш у рай, — абяцала яму рыбка.

— А што ж я там буду рабіць? — пацікавіўся найбагацейшы чалавек.

— Ты будзеш гуляць у хакей! — пачуў ветлівы адказ.

— У хакей? — здзівіўся чалавек. — Але ж я ніколі не гуляў у хакей!

— Тады рыхтуйся, бо першы матч ужо праз два тыдні!

Першы матч праз два тыдні! — гэта таксама сучасная, іранічная версія максімы: memento mori!

***Пераклад з польскай Тамары САРАЧЫНСКАЙ***

***Станіслаў Анджэй ЛУКОЎСКІ***
***празаік, паэт, літаратурны крытык.***
***Нарадзіўся 15 сакавіка 1940 года ў Любліне ў сям'і спрадвек звязанай з гэтым горадам.***
***Член Саюза польскіх літаратараў.***



## ДАНТЫСТ І САБАКА ПА МЯНУШЦЫ ГАМЕР

Малы сабачка бездапаможна круціўся вакол п'янага ў Зюзю, нестарога мужчыны, якога здалёк непрыязна абыходзілі мінакі. Гэта было ў цэнтры горада, на Літоўскай Плошчы. А дзядзька Анзэльм, уважлівы назіральнік за ўсім навокал, адразу гэта ўбачыў. Мы чакалі гарадскі аўтобус.

— От, праклятая нямогласць людская! І гэты во як нахлябаўся. А сабаку шкада: ледзь не вар'яцее, не ведаючы, што рабіць.

Перад тым, як прыехаў аўтобус, дзядзька Анзэльм, каб скараціць час чакання, пачаставаў мяне гісторыяй:

— Я тады жыў з тваімі бацькамі на ўскрайку горада, у раёне, які Касмінкам называлі. Ад яго толькі рэшткі засталіся, бо колькі дзясяткаў год таму тут новы раён пад назвай Макі пабудавалі.

За дзве вуліцы ад нас пасяліўся дантыст. Што яго ў гэты працоўны квартал прывяло, мне цяжка сцяміць. Выдатны быў доктар. Раз, памятаю, зуб у мяне пякельна разбалеўся, а было гэта акурат у святы. Шалфеем паласкаю, ваткі са спіртам закладаю, а боль толькі ўзмацняецца. А часы былі не такія, як цяпер: не паляціш на хуткай альбо да дзяжурнага ў шпіталь.

Праседзеў я так да вечара з надзеяй, што мо неяк само пройдзе. Але калі адчуў, што не вытрымаю, паляцеў да дантыста не без боязі, што пагоніць ён мяне, бо ўжо амаль ноч ды і свята ж! А ён быццам чакаў мяне, ветлівы, усмешлівы, бачна, што ўжо выпіў з нагоды свята. Я яму кажу, што ды як. І толькі тады заўважыў, што адна рука ў яго ў гіпсе ды на павязцы.

Я абліўся халодным потам, але падумаў, што хоць нейкія лекі мне дасць, зрэшты, ён у гэтым разбіраецца. А ён загадаў мне ў крэсла сесці, хлябальнік разявіць, і не паспеў я ачомацца — ён зуб ужо ў шчыпцах трымаў. Калі я хацеў яго неяк узнагародзіць, ён усміхнуўся толькі і сказаў, што чалавек чалавеку дапамагаць мусіць: хто ведае, мо калі і я буду яму патрэбны.

Пазней пачало з тым дантыстам нешта дрэннае адбывацца. Час ад часу бачылі, як ён п'яным крокам брыдзе і невідушчымі вачыма на людзей пазірае. От, праклятая нямогласць людская! Толькі сабака, кудлаты кабель, якога ён так дзіўна абазваў — Гамерам, трымаецца ля ягоных ног і сочыць, каб ніхто ягонаму гаспадару крыўды не ўчыніў.

Не спатрэбілася шмат часу, каб доктар у прорву канчаткова скаціўся. Жонка ўцякла ад яго, на шчасце, дзяцей яны не мелі. Ён толькі з сабакам размаўляў, як з чалавекам, жаліўся і плакаў яму ў пысу, а той лізаў яго твар ды рукі, нібы тлумачачы, што ўсё разумее.

Людзі, якія побач з дантыстам жылі, казалі, што Гамер бегае пад краму і, калі машына з мясам прыязджае, крадзе то кавалак каўбасы, а то і крывянкі ды ляціць з гэтым дадому падзяліцца са сваім гаспадаром. Хіба гэта праўда, бо я на ўласныя вочы бачыў, як яшчэ ў добрыя часы дантыст сабаку па газеты высылаў, а той узбіраўся на акенца і чакаў, пакуль прадавец яму ў пашчу газету ўкладзе, ці штосьці іншае, што на паперцы гаспадар напісаў. Добры і разумны гэта быў сабака.

Аднаго разу дантыст непрытомны ляжаў на вуліцы, а сабака вартаваў яго і нікому не дазваляў наблізіцца. Хтосьці выклікаў міліцыю. Прыехалі і хацелі яго ў газік забраць, а ў сабакі пена з пашчы цячэ — вось-вось за горла схопіць. Дык адзін з міліцыянераў, бачачы, што рады з ім не дадуць, бо сабака не толькі мундзіры падзерці, але і моцна пакалечыць можа, пісталет з кабуры дастаў, мо каб Гамера застрэліць! Лячу я да іх з крыкам, бо быў сведкам здарэння і пытаюся, у чым сабака вінаваты. Ён жа робіць, што павінен: сцеражэ свайго гаспадара. І пераканаў іх, бо пакінулі абодвух у спакоі.

А дантыст з часам недзе згінуў. Мо забралі кудысь на лячэнне, а мо і памёр. Толькі Гамер прыбягаў на вуліцу, круціўся неспакойна па ваколіцы, заглядаў на падворак. А калі Макі пачалі будаваць, ён яшчэ прыходзіў і шукаў дантыста. А стары ўжо быў, з пасівелай пысай, на нягнуткіх лапах хадзіў. Урэшце і ён недзе знік. «От, пакручастыя ды заблытаныя лёсы людзей ды іншых стварэнняў», — задуменна скончыў дзядзька Анзэльм.

***Ян Генрык ЦІХАШ***

**ФОТАЗДЫМАК**

Са знойдзеным на гарышчы фотаздымкам хаджу
ад хаты да хаты. Ад дзвярэй да дзвярэй.
Усе бездапаможна разводзяць рукамі.
Фотаздымак таксама маўчыць, як закляты валун,
І з кожным днём жаўцее ўсё мацней.
Але іх жа трое пад квітнеючай яблыняй
з надзеяй на памяць глядзела ў аб’ектыў
старасвецкага апарата, за каторым, пэўна,
паўвёскі прыклеілася з цікаўнасці да шыб
сваімі насамі, так, як быццам бы ведала, што
з’яўляецца сведкам дотыку часу…
Можа, яны былі габрэямі з найбліжэйшага
мястэчка, ад якіх не засталося нават
пылінкі, а ўспамін пра іх быў выкраслены.
А можа, былі госцьмі здалёку альбо адпачывальнікамі.
А можа, цыганамі, якія пакінулі табар…
Яна ў саламяным капелюшы, з чорнымі,
як крумкач, валасамі. Ён смуглы, у белай кашулі.
Пасярэдзіне — дзяўчынка з вачыма, як вугольчыкі,
У сукеначцы ў белы гарошак…
Развешаў гэты фотаздымак на ўсіх дрэвах
і дошках аб’яў. Нават змясціў
іх у інтэрнэце. Цішыня. Ніхто іх не распазнаў…

***Пераклад з польскай Настассі САЛДАЦЕНКА***

***Рышард КАРНАЦКІ***

**ТВОЙ ВЕРШ — РЭАЛЬНА**

Твой верш — сцвярджаюць сябры
Каштуе менш чым напраўка крана
Сантэхнікам, ад якога нясе алкаголем
Ці нават чым залатаць дзірку ў небе.

Твой верш не даходзіць нават
Да кошту падбіцця падносак
Зусім не сямімілевых ботаў
Ані прышыцця гузіка
У працёртых штанах блазна.

Твой верш каштуе менш
За трагічнае смешнае паданне
Пра суд у справе разводу.
Твой верш каштуе так мала, што
Часам не аплочваецца яго напісанне.
Адзіная надзея на ўзнагароду Нобеля
— кажуць сябры.

***Пераклад з польскай Аксаны ЮЧКАВІЧ***

***Станіслаў РАГАЛЯ***

**ЗАКАХАНАЯ ПАРА**

Той шлюб адбыўся неяк хутка, у параўнанні са шматтыднёвай падрыхтоўкай. Калі мы пунктуальна ўвайшлі ў касцёл, вядома ж, у загадзя вызначаную гадзіну, яны ўжо стаялі перад алтаром. Яна — у традыцыйнай белай сукенцы, са злёгку накінутым на плечы доўгім вэлюмам, што цягнуўся за ёй па падлозе два метры; у снежна-белых туфліках на высачэзных абцасах, з высокай, замацаванай залатой каронай, з вытанчанай торбачкай на левай руцэ — стаяла справа ад яго, злёгку нахіліўшы зграбную галаву. Ён — высокі, спартыўнага целаскладу, што можна было адразу заўважыць па невялікіх складках рукавоў пінжака на біцэпсах і выступе на грудзях; у нагавіцах, якія абціскалі шыкоўныя сцёгны; у металічна-бліскучым, па апошняй модзе, гарнітуры. З вялікім чырвоным мятлікам, што прыцягваў увагу ўсіх. Рукі ён трымаў перад сабой так, што адразу кідаўся ў вочы вялікі і модны залаты пярсцёнак. Згодна з нормай у такіх сітуацыях, правай рукой ён дакранаўся да яе локця, але так, каб быў бачны пярсцёнак. На вачах ён меў прыцемненыя акуляры. Глядзеў праз іх у прастору над алтаром, быццам бы трошкі звысоку…

Ксёндз, нібы ў спешцы, праводзіў шлюбную цырымонію. Як толькі благаславіў іх Крыжом і дазволіў пацалавацца, яна пацягнулася рукой да сваёй вытанчанай торбачкі, а ён — да выступаючага пінжака… Праз момант з іх узнятых рук узляцелі на алтар два белыя галубкі.

Мы былі агаломшаны да такой ступені, што ўжо не маладая пара прыцягвала нашу ўвагу, а белыя птушкі, якія, напалоханыя, кружлялі пад скляпеннем касцёла паміж апосталамі ды святымі.

Калі мы зірнулі на закаханых, яны ўжо адыходзілі ад алтара. Ён ганарыста крочыў на паўкрока наперадзе з рукамі, складзенымі на жываце; яна дробна тупала на сваіх высачэзных абцасах, разносячы па касцёле рэзкае цоканне, а доўгі вэлюм бязгучна цягнуўся за ёю. Праз хвіліну яны зніклі ў сляпучых сонечных промнях, якія асвятлялі касцёл.

Птушкі лёталі пад каляровым скляпеннем паміж апосталамі і святымі. Яны былі моцна напалоханы. Біліся па закутках, намагаліся знайсці выйсце. Засталіся і на панядзелак. Аслабленыя голадам, маркотна сядзелі на падаконні пад скляпеннем і пазіралі ў неба. Раптам падвечар самец знік. Мы падумалі, што ён змог вызваліцца са святой пасткі і цяпер цешыцца свабодай. Самка ж засталася.

У аўторак раніцай яна была такая слабая, што не рэагавала ні на ўскрыкі ксяндза-настаяцеля, ні на ўзмахі крапідла. Тады мы выклікалі пажарнікаў.

Яны прыехалі з выццём сірэны, як на вялікі пажар. Паставілі высокую драбіну, і адважны камендант пачаў хутка ўзбірацца па прыступах. Дабраўся да галубкі, асцярожна схаваў яе за пазуху і спусціўся ўніз. Выйшаў з касцёла і моцна падкінуў птушку ў неба. Галубка адразу змагла ўзляцець. Затрапяталі яе крылы… Тады з высокага каштана, што рос пры касцёле, на нашае здзіўленне, да яе ўспархнуў самец. Быццам чакаў яе. Разам яны памкнулі ў неба над касцёлам. Ад радасці, што так сталася, мы пачалі пляскаць…

Пара белых птушак засталася разам да канца жыцця. Прытулак яны знайшлі ў закутку касцёльнай званіцы, куды траплялі праз праёмы старых акон. Што стала з маладымі: ці яны, згодна з сучаснай модай, развяліся пасля няпоўнага года сумеснага жыцця, ці адзін з іх выехаў за мяжу працаваць, ці… — ніхто гэтым не цікавіўся. У памяці мы захавалі толькі белых птушак…

***Пераклад Тамары САРАЧЫНСКАЙ***

***Уршуля ГЕРШАН***

**УПЭЎНЕНАСЦЬ**

На аўтобусным прыпынку пачуў урывак размовы. Жанчына казала свайму суразмоўцу пра кагосьці, хто меў працёрты лоб. Гэта мяне заінтрыгавала. Ехаў у аўтобусе і спрабаваў узгадаць, адкуль я пра гэта ведаю. Толькі дома, увечары, калі клаўся спаць, мяне азарыла — бабуля! Яна казала мне заўсёды: «Глядзі, каб ніколі не было ў цябе працёртага лба!» Я быў тады яшчэ маленькім і памятаю, што доўга не дакранаўся да лба, баючыся…

Падхапіўся, пабег у лазенку, запаліў святло і доўга аглядаў свой лоб. Так, я заўсёды яго выціраў, вось і сёння пасля ванны зноў гэта зрабіў. Глядзеў і бачыў ужо дакладна, чаму мяне пераследвалі няўдачы. Мой лоб быў працёрты, сухі, матавы і нібы святлейшы за астатні твар. Хутка запырскаў яго вадой. Стаяў перад люстэркам і назіраў. Кроплі вады сплывалі па маім носе і шчоках, капалі на піжаму. Сачыў за кожным струменем, што павольна высыхае.

«Што зрабіць? Злавіць яго? Але… навошта? Бабуля казала, каб не выціраў, дык, напэўна, павінна хапіць?»

Калі ўсе кроплі высахлі або сцяклі, я паглядзеў на свой сухі лоб — ён быў гэткі ж самы, як і раней.

«Можа, ужо запозна?! — напалохаўся я. — Запозна? Для чаго?» — разважаў.

Уладкаваўся ў ложку, але доўга не мог заснуць.

«А калі ўсё ж такі ўжо запозна? Бо я столькі разоў выціраў лоб».

— Ды што з табой, чалавеча?! — крыкнуў я свайму адбітку. Зноў моршчыў лоб і сохнуў перад люстэркам. Увесь дзень пачуваўся змарнаваным, не мог сабе даравацъ.

Паўтаралася гэта некалькі разоў, потым я навучыўся не выціраць лоб. Гэты навык я выпрацаваў так: цягнучыся па ручнік, адразу клаў яго сабе на плечы, а не так, як раней, — прыкладаў найперш да твару.

Я не выціраў лоб ужо некалькі месяцаў. Ганарыўся сабой. Кожны дзень, абсыхаючы перад люстэркам, я аглядаў свой твар. З кожным днём мой выгляд паляпшаўся. Вочы ў люстэрку глядзелі на мяне смела, нават задзірыста. Твар набыў прыемны колер, лоб усё меней адрозніваўся ад астатняга твару. У асабістым жыцці мяне пераcталі пераследаваць няўдачы. Усё ў мяне атрымлівалася! На працы заўважылі змены ўва мне. Жанчыны мне ўсміхаліся, калегі глядзелі з ухвалай. Я быў шчаслівы!

Аднойчы запрасіў Ц, сяброўку, на спатканне. Спачатку было цудоўна, мы крыху выпілі, патанцавалі. Ц глядзела на мяне вільготнымі, вялікімі вачыма ледзь не з абагаўленнем.

Раптам спыталася:

— Скажы, што цябе так змяніла? З пэўнага моманту ты стаў неверагодна прывабным, чароўным проста. Раней усе думалі, і я не выключэнне, што ты — несімпатычны скнара.

Ага! Усё-ткі я меў рацыю! Вырашыў ёй распавесці, можа, і яна пачне карыстацца маёй методыкай?

— Аднойчы мяне азарыла! Узгадаў параду маёй бабулі — ніколі не выціраць лоб — і перастаў гэта рабіць. Можа, і ты паспрабуеш? — сказаў я з усмешкай.

Эфект быў маланкавы: яна знерухомела, вочы рабіліся ўсё большымі і большымі. Яна была здзіўлена і ўражана. Гэта мяне занепакоіла, але не збянтэжыла.

— Ужо некалькі месяцаў я не выціраю лоб, вось і ўся таямніца, — паўтарыў я.

— Не спадзявалася, што ты мяне так успрымеш! — кінула яна і пацягнулася па сумачку. — Нахабны грубіян!

Раптам завагалася і, гледзячы на мяне, падсумавала:

— Насамрэч нічога іншага не варта было і чакаць ад такога хама! Так мяне звінаваціць! Гэта ў цябе медны лоб, не ў мяне! — яна хутка адвярнулася, высока падняла галаву і пайшла прэч.

Аслупянелы, я доўга сядзеў у шоку. Вяртаючыся дадому, думаў пра тое, што я сказаў. Нічога не мог зразумець. Я доўга стаяў перад люстэркам у лазенцы, углядаючыся ў свой здзіўлены твар. Што гэта з ёй адбылося? Я абвінавачваю яе?! І няма ў мяне ніякіх слядоў медзі на лбе! У мяне белая скура...

З таго часу мінула паўгода, і я часта гляджу на свой лоб, на ім дагэтуль няма медзі. Добра, што Ц сышла, пакуль нашае знаёмства не паспела развіцца. Як бы я змог пазней выблытацца са стасункаў і пакінуць такую неўраўнаважаную, можа, нават псіхічна хворую жанчыну? Калі б нешта падобнае здарылася пасля доўгіх адносін, я меў бы страшныя згрызоты сумлення!

Я здрыгануўся, па спіне прабеглі мурашы.

***Пераклад з польскай Ліды НАЛІЎКА***

***«Люблінскі нататнік» падрыхтаваны пры падтрымцы Уршулі ГЕРШАН, Дароты МАСЦІБРОЦКАЙ, Станіслава Анджэя ЛУКОЎСКАГА, і Збігнева Уладзіміра ФРОНЧКА. Шчыра дзякуем!***

*Міхась ПАЗНЯКОЎ*

# І ЎСМЕШКА, У ЯКОЙ СТОЛЬКІ СОНЕЧНАЙ ДАБРЫНІ…



***Я ўваходзіў у літаратуру, калі яна была ўжо вядомай паэтэсай. Імя яе было на слыху, яе вершамі зачытваліся ўсе аматары паэтычнага слова, а такіх налічвалася вялікае мноства — час быў спрыяльны для лірыкі.***

***Сустракацца з вядомай паэтэсай, кумірам маладых рыфмавальнікаў, даводзілася часта: у рэдакцыях, на пленумах і праўленнях Саюза пісьменнікаў, творчых мерапрыемствах, кніжных выстаўках, дзяржаўных святах. Некалькі такіх сустрэч засталіся ў памяць назаўсёды.***

**КАНЕЦ 1981-га**

90-годдзе са дня нараджэння Максіма Багдановіча. Вялікае дзяржаўнае свята з гэтай нагоды праходзіла ў кінатэатры «Кастрычнік» — новым на той момант і даволі папулярным сярод мінчан. Я працаваў дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча і быў, як кажуць, у эпіцэнтры падзей, з’яўляючыся членам Дзяржаўнай камісіі па святкаванні юбілею класіка. Малады… Хваляваўся... Яўгенія Янішчыц, як заўсёды сціплая, падбадзёрыла: «Не хвалюйцеся, Міхась, усё ідзе добра…» Пазней зноў сутыкаюся з Яўгеніяй Іосіфаўнай і ўключаю яе ў работу: прашу вядомую пісьменніцу пакінуць у альбоме водгук пра свята, значэнне Багдановіча для культуры ўвогуле і далучыць да гэтай справы іншых знакамітых асоб. Маўляў, пройдзе час — і аўтографы набудуць музейную каштоўнасць. Яна прыязна ўсміхнулася, дадаўшы, нібы жартам: «А што, вы маеце рацыю. Іншага выпадку можа і не надарыцца…» Мне неяк няёмка зрабілася, быццам справакаваў яе на штосьці недарэчнае…

У прэзідыуме на вялікай сцэне сядзеў бліз яе. Маё выступленне па ліку было пятым. Перад гэтым праглядаў тэзісы прамовы. Вядома, хваляваўся, бо ўпершыню ў жыцці меўся выступаць на такім высокім форуме. Паэтэса падбадзёрвала, супакойвала позіркам і зычлівай усмешкай. А калі запрасілі мяне да трыбуны, шапнула: «Смялей, Міхась, усё будзе добра…» Выступіў удала, заслужыў апладысменты, хоць ад хвалявання і «перасяліў» сваяка нашага класіка і перакладчыка яго твораў на рускую мову Аркадзя Бараховіча з Ніжняга Ноўгарада ў Яраслаўль, пра што той пасля паведаміў мне з прыязнай усмешкай.

Свята доўжылася ў рэстаране ў Раўбічах, куды нас ад кінатэатра павезлі ў камфортным аўтобусе. Прысутнічалі самыя высокія госці: чыноўнікі, дзеячы культуры, паэты. Я сядзеў насупраць Яўгеніі Янішчыц. Рэй тут вялі Максім Танк і Ніл Гілевіч. Паэтэса была маім кумірам і ў застоллі. Стрыманая, уважлівая, шчырая. Прыгубіць крышачку віна і — адставіць келіх убок. Апранута была з густам ды і прычоска акуратная. І ўсмешка, у якой столькі сонечнай дабрыні… Калі ёй далі слова, назваўшы маладым гонарам літаратуры, то выступіла коратка, але змястоўна. Запомнілася некалькі яе глыбокіх фраз. Адна з іх прыкладна такая: «Краіна, у якой так шануюць класікаў літаратуры, павінна мець зайздросную будучыню і шчаслівы народ». Другая, якая прымусіла мяне засамоціцца, была прыблізна такой: «Як і Багдановіча, мяне непакоіць лёс усяго

беларускага, а найперш — матчынай мовы. Маючы сапраўды тытанаў нацыянальнай літаратуры, такіх, як Колас, Купала, Багдановіч, мы вымушаны жадаць нашай роднай мове куды больш лепшага лёсу… Мы, сённяшнія беларускія пісьменнікі, бадай, апошнія рамантыкі і шчаслівчыкі, каго чытаюць і ведаюць у сваёй краіне…»

**МАЙ 1988-га**

Завітаў з падборкай свежых вершаў у рэдакцыю часопіса «Маладосць». У пакоі застаў Леаніда Дайнеку, Яўгенію Янішчыц і Янку Сіпакова. Сузор'е! Дарэчы, кожны адыграў ролю ў маім станаўленні. Сустрэлі паважліва. Даведаўшыся, што прыйшоў з вершамі, Янка Сіпакоў сказаў:

— Шанцуе вам, Жэня, зноў да вас. Яно і зразумела — вясна!

Яўгенія Іосіфаўна радасна ўсміхнулася, запрасіла да стала, а я заўважыў, што ў яе вачах значна прыбавілася суму, болю і гаркоты…

Праз нейкі час паэтэса патэлефанавала сама і паведаміла, што падборка запланавана на дванаццаты нумар. Я падзякаваў і напрасіўся падысці па аўтограф. Яна прызначыла дакладны дзень і час. Хвіліна ў хвіліну я быў у рэдакцыі «Маладосці». Разгаварыліся. Янішчыц пацікавілася творчымі справамі выдавецтва «Юнацтва», дзе я працаваў на той момант намеснікам галоўнага рэдактара.

— Яўгенія Іосіфаўна, — звярнуўся я, — будзем вельмі ўдзячныя вам, калі падрыхтуеце кніжку для дзятвы…

— Вы, Міхась, чытаеце мае думкі… Я і сама думала пра гэта… Сын падрастае, даводзіцца штосьці і для яго прыдумляць. Хочацца запісаць, сабраць у кніжачку раскіданае па папках… Вось асвойтаюся крыху, хмары разганю, дамоў да мамы з'езджу, каб акрыяць душой, і вазьмуся ўсур'ёз...

Я адчуў, што ёй вельмі цяжка. Штосьці прыгнятае яе. І больш не фізічна (ведаў, што перажыла аварыю), а маральна, духоўна. Ва ўсім адчуваўся нейкі надлом, пэўная замаруджанасць, прыхаваны боль, якія не даюць спакою. Я паклаў на стол яе кнігу вершаў «Пара любові і жалю», якую чытаў і перачытваў неаднаразова. Кнігу шчырую хвалюючую, узнёслую, яркую, адзначаную Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Янкі Купалы. Яна ўзяла выданне ў рукі і нібыта не мне, а некаму за спінай прамовіла:

— А хацелася б напісаць яшчэ хоць адну кнігу, новую, больш вартую, надзённую… Але ці паспею…

Агаломшаны яе словамі, якія не рашыўся ні ўдакладняць, ні аспрэчваць, я толькі і сказаў, што ў яе будзе ўсё добра і яна напіша яшчэ нямала таленавітых кніг, у тым ліку і для дзяцей. Янішчыц схамянулася, нібы адчуўшы, што сказала штосьці патаемнае, асабістае, толькі махнула рукой — маўляў, не звяртайце ўвагі, дрэнны настрой, усё пройдзе. Разгарнула кнігу і прыгожым почыркам напісала: «Паважанаму Міхасю Пазнякову на добрую памяць і шчаслівы творчы лёс. У Вас, паэта тонкай душэўнай структуры, вядома ж, будзе нямала трывог і болю, перажыванняў і страт, але гартуйце волю і характар, каб "пераплавіць" усё ў вершы, якія крануць чэрствыя душы і прынясуць Вам поспех. Шчыра — Яўгенія Янішчыц».

— Жадаю вам, Міхась, здзяйснення ўсіх вашых планаў, — падаючы мне кнігу, дадала Янішчыц. — І няхай нішто не спапяліць вашых прынцыпаў і душэўнай раўнавагі…

Я шчыра падзякаваў і цёпла развітаўся, адчуўшы, што ў жыцці Яўгеніі Іосіфаўны адбываецца штосьці настолькі няладнае, што дзяжурнымі словамі не выправіш, а толькі выклікаеш раздражнёнасць.

Так яно і было на самай справе.

Вестка аб трагічнай смерці вядомай паэтэсы стала нечаканай і нават неверагоднай. Не верылася, што з намі няма ўжо яе — трапяткой, даверлівай, непрымірымай да фальшы і чэрствасці, што не дачакаемся яе новых кніг… Як?.. Чаму?.. Навошта?.. Дзе былі блізкія, сябры, калегі?.. Сто пытанняў без адказаў і раны на сэрцы, калючы дакор: не ўберaглі, не зразумелі, не падтрымалі… І чаму гэтак часта надараецца падобнае між людзьмі?..

Дванаццаты нумар часопіса «Маладосць» за 1988 год выйшаў з партрэтам Яўгеніі Янішчыц на ўсю старонку, з тэкстам у чорнай рамцы, дзе паведамлялася аб яе заўчаснай смерці… І ў тым жа нумары надрукавана нізка маіх вершаў, прачытаных, ухваленых і падрыхтаваных да друку ёю, незабыўнай.

Дзякуй вам за талент, хараство і чалавечнасць, шаноўная Яўгенія Іосіфаўна! Няхай заўсёды светла і добра вам будзе на тым свеце — гэтак узнёсла і цёпла, як вы марылі жыць сярод людзей у свеце нашым — мітуслівым і абыякавым.

# ЕЗУІТ




***Гэты чалавек ідэальна падыходзіць для нашага брэсцка-люблінскага нумара: нарадзіўся ў Пінску, вучыўся ў Любліне… А выбітным яго робіць тое, што ён — першы езуіт у сучаснай гісторыі Беларусі. Айцец Віктар ЖУК стаў святаром 14 жніўня 2014 года ў мінскім архікафедральным касцёле. Пагадзіцеся, гутарка з маладым езуітам-палешуком абяцае быць надзвычай цікавай…***

**— Ваш шлях да святарства ўражвае: вучоба ў Любліне, Новасібірску, Мілане, Падуі, Рыме… Распавядзіце пра адметныя моманты гэтага шляху. Калі і чаму вы рашылі ўступіць у ордэн езуітаў?**

— Мяне вабіла думка пра святарства, калі быў яшчэ малы, але ў 16 гадоў я пакінуў гэтую ідэю. Падчас студэнцтва адышоў ад веры, а напрыканцы вучобы перажыў «другое навяртанне», і тады думка пра ордэн вярнулася. Спачатку, праўда, я з яе пасмяяўся. Але заклік рабіўся ўсё мацнейшым — і я зразумеў, што гэта ад Бога. Хоць не адчуваў сябе вартым. Памятаю, што прыняць канчатковае рашэнне дапамагла фраза з кнігі «Аб наследаванні Хрысту», якую адгарнуў наўгад: ідзі за жаданнем сэрца, а Богу давер усе клопаты і сумненні... Чаму менавіта езуіты? Нават не адкажу, бо асабіста я ніводнога езуіта не ведаў... Напэўна, крыху вабіла слава ордэна, крыху чуў ад знаёмых сясцёр-манашак, якія жывуць духоўнасцю св. Ігнацыя Лаёлы — заснавальніка ордэна (да іх належыць і мая родная сястра Вікторыя, якая заўсёды была для мяне светлым прыкладам манаскага жыцця). Калі мяне прынялі, пачаўся доўгі працэс «выхавання»: спачатку навіцыят у Новасібірску — першы этап, прысвечаны далучэнню да духоўнасці ордэна; потым год вывучэння літаратуры і моў у Маскве; два гады філасофіі ў Падуі; два гады пастарскай практыкі ў адной з сярэдніх школ езуітаў у Мілане; вывучэнне тэалогіі ў Рыме (3 гады) і яшчэ год у ЗША, прысвечаны багаслоўскай спецыялізацыі па Святым Пісанні. Усяго пакуль што 11 гадоў для таго, каб атрымаць пасвячэнне, і яшчэ адзін год, каб скончыць спецыялізацыю. Езуіты адрозніваюцца грунтоўным выхаваннем, каб быць гатовымі да самых розных заданняў, і гэтае выхаванне ўключае ў сябе не толькі вучобу, але і шматлікія «выпрабаванні» праз пры-

яненне таго, чаму навучыўся. Настаяцель ордэна часта гаворыць аб глыбіні, якой павінна вызначацца нашае служэнне, а для гэтага трэба мець веды і вопыт.

**— У школьных падручніках гісторыі езуіты прадстаўлены часта не ў лепшым свеце: «мэта апраўдвае сродкі», маўляў. Як вы ставіцеся да дзейнасці ордэна ў мінулым? Чым адрозніваюцца сучасныя езуіты ад гістарычных?**

— Гэта праўда, што пра езуітаў са школьных падручнікаў можна даведацца шмат негатыўнага. Найчасцей гэта ад агульнага стаўлення да каталіцызму ці наогул да хрысціянства. Езуіты ў XVII—XVIII стагоддзях мелі вялікі ўплыў у Еўропе, перадусім у галіне адукацыі, і гэта аўтаматычна стварала ім ворагаў. Варта нагадаць, што з-за несправядлівых, па большай частцы, абвінавачванняў і пад націскам каралеўскіх двароў у 1773—1814 гадах Таварыства Езуса было скасавана ва ўсім свеце, акрамя Расійскай імперыі, дзе Кацярына II адмовілася ўвесці ў сілу папскі закон, і што менавіта на тэрыторыі Беларусі на працягу некаторага часу былі сканцэнтраваны амаль усе існуючыя езуіты разам з настаяцелем у Полацку. Тады пад эгідай езуітаў асаблівае развіццё атрымала Полацкая акадэмія. Таму Таварыства Езуса цесна звязана з беларускай зямлёй. На жаль, на дадзены момант наша дзейнасць у Беларусі вельмі сціплая, і можна толькі жадаць, каб сітуацыя змянілася радыкальна. Я сам спадзяюся ў будучыні вярнуцца на родную зямлю і паспрыяць таму, каб беларусы мелі непасрэдны доступ да багатай спадчыны езуіцкай духоўнасці, перш за ўсё — да духоўных практыкаванняў св. Ігнацыя Лаёлы.

Пасля таго як Ордэн быў адноўлены 200 гадоў таму, пра езуітаў казалі, што яны «засталіся ў мінулым», бо неслі за сабой кансерватызм. Сёння езуітаў абвінавачваюць у лібералізме, што на самай справе хутчэй з'яўляецца адкрытасцю да ўсяго чалавечага ў культуры, а таксама ў іншых канфесіях і рэлігіях. Стэрэатыпы ў адносінах да езуітаў вынікаюць з неразумення падстаў нашай духоўнасці, якая з'яўляецца глыбока хрысціянскай. Добры праклад таму — знакамітая фраза: «Мэта апраўдвае сродкі». Яе сэнс не ў тым, што я гатовы пайсці на ўсё, нават на злачынства, каб дасягнуць свайго, а ў тым, што мая мэта ў жыцці павінна вызначаць выбар шляхоў. Банальны прыклад: калі я хачу быць выдатным спартсменам, вывучэнне вышэйшай матэматыкі не вельмі мне





ў гэтым дапаможа. Канешне, гэты прынцып датычыцца перадусім галоўнага ў чалавечым жыцці: жыць як сапраўдныя дзеці Божыя, прыносячы падзяку і хвалу Богу і адначасова прыкладаючы намаганні, каб наблізіць рэчаіснасць Божага Царства. Для нас, езуітаў, гэтая мэта дасягальная толькі калі мы шчыра ідзём за Хрыстом. Св. Ігнацый таму жадаў, каб у назве ордэна было імя «Езус», і слова «езуіт» паходзіць менавіта ад імя нашага Збавіцеля.

**— Наш нумар прысвечаны брэсцкаму Палессю, а вы паходзіце з Пінска. Ці адчуваеце сябе палешуком? У чым гэта праяўляецца?**

— Мае бацькі з Гродзеншчыны, але я нарадзіўся і рос у Пінску. Частку жыцця я правёў за мяжой, але, калі вяртаюся дамоў, мяне заўсёды захапляе наша прырода. Хоць я вельмі люблю горы (і ўжо два разы арганізоўваў для моладзі з Беларусі ва ўкраінскіх Карпатах час духоўных практыкаванняў і адпачынку), але палескія краявіды маюць для мяне асаблівую «магію». Тысячы адценяў зялёнага колеру, велічныя аблокі на фоне нябеснага блакіту ствараюць карціны, якія здаюцца простымі і сціплымі, але адначасова захапляюць дух. Памятаю, як давялося ў сакавіку ехаць па трасе Гомель—Брэст, а навокал, амаль да ўзроўню дарогі, стаяла вада, і я ўявіў, як гэта выглядала ў мінулым, да меліярацыі, калі для нашых продкаў адзіным сродкам транспарту ў такіх абставінах былі чаўны... Так, для мяне Палессе атаясамліваецца з асаблівай сціплай прыгажосцю прыроды, якая, мне здаецца, адлюстроўваецца ў нашым нацыянальным характары.

**— Якім вам запомніўся Люблін? Што даў вам гэты горад?**

— Люблін, як кажуць, «горад з душой». Замак і старыя вуліцы ствараюць атмасферу старажытнасці, нагадваючы пра многія важныя падзеі, якія там адбываліся. Напрыклад, Люблінская унія ў 1569-м. Адначасова Люблін — гэта студэнцкі горад, поўны маладзевай энергіі, і менавіта такім ён больш за ўсё мне запомніўся. Калі я быў студэнтам эканомікі ў Любліне, дзейнічаў у студэнцкай арганізацыі AIESEC, якая займаецца міжнароднымі практыкамі ў мясцовых фірмах для студэнтаў. Гэтая дзейнасць дапамагла знайсці мноства сяброў, пашырыць гарызонты, пападарожнічаць і займець розныя навыкі, перадусім у тым, што тычыцца адносін з людзьмі. Цяпер я разумею, што ўсё гэта паўплывала таксама на тое, які езуіт з мяне выйшаў.

**— У вас досвед працы ў шматлікіх месцах і, пэўна, у тым ліку працы з моладдзю. Чым розніцца моладзь у Беларусі, Расіі, Польшчы, Італіі? У якім месцы вы б хацелі працаваць цяпер?**

— Цяжка адказаць на пытанне пра нацыянальныя асаблівасці без рызыкі ўпасці ў стэрэатыпы… Гэта праўда, што італьянская моладзь экстравертная і нават «буйная», а каб увайсці ў кантакт з беларусамі, патрэбна больш часу, але на самай справе шмат залежыць ад асабістых якасцей. Палякі, як мне здаецца, у параўнанні з намі маюць мацнейшую нацыянальна-рэлігійную самасвядомасць ужо ў раннім узросце. Амерыканскія юнакі і дзяўчаты зазвычай рана пачынаюць зарабляць сабе на жыццё, бо гэта частка іх культуры і ў грамадстве існуюць для гэтага варункі... Для мяне больш важна тое, што ёсць супольнага ў моладзі розных краін — маладосць: час станаўлення, крэатыўнасці, мараў, ідэалаў, памылак і новых спроб. Таму мне так падабаецца працаваць з моладдзю — гэта цудоўная магчымасць самому зарадзіцца энергіяй і заўсёды быць гатовым узяцца за нешта новае.

***Гутарыла Тамара САРАЧЫНСКАЯ***

*Наталля БІНКЕВІЧ*

# СЛОВЫ Ў ЦЁПЛЫХ ШВЭДАРАХ



***Наталля Бінкевіч нарадзілася 22 снежня 1990 года ў Ваўкавыску, дзяцінства правяла ў вёсцы Вулька-Аброўская Івацэвіцкага раёна. Першае слова — «дзед». У 2008-м скончыла ліцэйскі клас з гуманітарным ухілам, у 2013-м — Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Гэтай падборкай вершаў зычыць «шчасця музыцы вашых сэрцаў».***

* * *

А вершы мае
Як цэментам з разбегу ў сцяну…
Цяжкавата. І ватай не вытрэш.
І мурзатыя сцёгны ў джынсах,
І клубы ў шэрай кашы.
Ушчэнт бы цябе новым
Вер-
Шам-
Каць у аркуш камп’ютарны
Словы. Лепш куліна-
Рыць
Шэрую кашу штоночы,
Штодзень. (А ты сочыш!)
Не падыходзь бліжэй —
Вымажу па самае сэр-
Цап-царап.
Кот не будзе гуляць са мной,
Як ты…
Калі-небудзь
Аддзіраў цэмент?..

**ТА(Ы)ЯМНІЦЫ**

Горад!
Не выкрывай маёй таямніцы!
Цыц! Не расказвай ім
Імклівых, павольных маіх —
Іх — думак.
(Акрэслю вачыма лужыцы.)
Цыц! Не раздавай ім
Імжу з маіх веек.
Як можаш, хавай — хтось забярэ…
(…рэха — жыццё!
Пагучыць і замоўкне).
Рэчы-памылкі ржавеюць праз год-два.
Вадкі воск цяпер мае слёзы.

Зычу шчасця музыцы вашых сэрцаў.
А ў горадзе — дажджу нагавіцы.
Цыц! Цыратай накрый гэты год.
Ён аджыў.

* * *

Падары лірычны снежань
Толькі ёй —
Запалі тры свечкі…
Даланёй
Атулі іх станы, ейны плечы.
Адагрэй бязважкі снег
На вуснах.
Прашапчы не пра сябе, а ёй
На вуха — вусна.
Вусцішна і ціха, — сніся.
Зноў рукі яе краніся
Даланёй.
Падары  лірычны снежань
Снежнай ёй.

**АПРОЧ ТАГО**

Сланечнік спелы
Нам натрос на дол спакусы.
Мы несвядомы
Ў апантанасці сваёй.
Апроч таго
Пабеглі пацукі ды трусы
З суседніх забалочаных лясоў.
Апроч таго
Палеткі з жытам заігралі
І заіскрылася люстэркава рака.
Апроч таго
Узімку ён адзначыў,
Што трэба летам
Выйсці да святла.
Апроч таго
Да Марса ўчора падняліся
Два сінія малыя матылі.
Апроч таго
У Космасе няма такой
Другой Зямлі…
Другой Зямлі…

* * *

Ночы ад думак
Туманяцца.
Кава астыне пад раніцу.
Ложак памнецца —
Распраміцца.
Зрэнкі ад промняў
Кучаравяцца
Пальцы асадку
Намацаюць.
Мрояцца мне мае
Дваццаць пяць.
Я буду лепей
Уночы спаць.
Я буду добра
Пісаць.

* * *

Людзям
людзі пасылаюцца
у каляровых канвертах
у раскрытых капэртах
з пазнакай «priority»
з зашмальцаваным кутком
з белым нутром
людзі
абдаюць цяплом
ліжуць языком
словы

Людзям
словы пасылаюцца
у цёплых швэдарах
у кашулях з матылём
з гарбінкай на носе
у дарагіх сукнях
з сінякамі
словы
дыхаюць праз гукі
ліжуцца паветрам
людзі
прыходзяць па адрасе

я не ведаю індэкса

* * *

я твая буферная зона
у зоне памежнай
тваіх рытарычных пытанняў
нішто так не коле
ўбок
як тае адчуванне
што мяккасць вандроўна
была перададзена мне
не аднойчы
праз мытню
маю ж жаночым даверам
той ноччу

* * *

Я буду тваім ніколі
Непрыціхаючым рэхам.
Ты будзеш ляцець ці ехаць.
Вяртацца верхам ці пехам…

Я буду з карціны Мункавай,
З нямецкіх літараў — рункамі —
Нагадваць пра таямніцы,
Якім для цябе не раскрыцца.

Я буду тваім прыслоўем.
Ты будзеш маім «або».

**ЛЁГКІЯ АНАПЕСТЫ**

Час мінае. Мінаюцца дрэвы і рэкі
Тым аўтобусам , што ў лета ўсіх падвязе.
Мяккім водарам чэрвеня лечыць і рэдкім,
І глыбокім спакоем сваім — пакрысе
Заківаюць здалёк твае кволыя думкі.
Адзінота пры леце — недагледжаны цуд.
І нічога табе не пабачыцца сумным,
Бо яно дзячыць дню, небу, сонцу…
Ты тут
Станеш побач са шчасцем аголеным
ранкам,
Затрымаеш дыханне на шостым бусле.
Час мінае — парыпваюць колы
старанна.
Пракаветная праўда прыроды гудзе,
і плыве,
і жыве…

* * *

Мы перавернутыя коні.
Спінай мнём зеляніну.
Мы на траве з гадзіну.
Дзівяцца побач вароны.
Мы адчуваем хрыбет
Намуляны. Гэтак прыемна
На досвітку хвастом
Смактаць росныя
І недарослыя траўкі.
Я абдымаю аблокі.
Стогнуць мае цяглiцы,
Адтуліны. Але калісьці
У горадзе нас на штыркі
Паставяць,
У вочы зальюць бетон,
Дзеці ў ашчэр прапіхнуць
Поп-корн,
Шэры шыфон на твой
Уздых прысядзе,
Стоміцца — аддасць здымач
Дзядзю.
А ты выдыхай грамчэй,
Пакуль я кранаю хвастом
Фантан. Гэта толькі фантом:
Мы перавернутыя коні.
Мы падпіраем аблокі.



Алёна ПАПКО

# ХУТАРСКАЯ ДАЧКА



**Алёна Папко нарадзілася 24 лютага 1990 года ў вёсцы Сакалова Бярозаўскага раёна. Скончыла факультэт замежных моў БрДУ. Працуе настаўніцай нямецкай і англійскай мовы. Лаўрэат рэспубліканскага літаратурнага конкурсу імя Максіма Багдановіча ў намінацыі «Паэзія». Любіць джаз і вандроўкі.**

## ЦЕНЬ КАХАННЯ

***«З табой, як блізняты мы, хоць нас***
***Бацькі хрысцілі не ў адной купелі…»***
У. СКАРЫНКІН

Зоська сядзела каля акна, зацікаўлена паглядаючы на шыкоўныя бялюткія ўзоры, што пакінуў з ночы мароз. У хаце было цёпла і ціха… Неяк незвычайна ціха…

Дзяўчына захуталася ў цёплую сукенку і асцярожна разгарнула складзеную ўдвая паперку, што дастала з кішэні. Гэта быў ліст… Ліст ад Сцяпана… Крыху пажаўцелы і тысячу разоў перачытаны. Да болю знаёмы почырк роднага чалавека прымусіў сэрца дзяўчыны забіцца мацней. Зоська асцярожна паклала ліст перад сабою, быццам баючыся дакрануцца да яго, каб не прагнаць таго шчасця, якое захоўвала гэтая паперка. Ды ці мае яна права?.. Яна ж усяго дзяўчына з хутара… Выгадавала яе бабуля, а маці яна і не памятала. Пагаворвалі, што тая ўцякла з нейкім афіцэрам. «Вернецца…», — не раз паўтарала Аўдоцця, але за дваццаць гадоў пра яе не было аніякіх звестак. Ды і Зося перастала чакаць, толькі было чамусьці балюча прыняць, што ў яе маці была свая сям'я: дзеці, якія дзялілі між сабой яе любоў і дабрыню.

А Сцяпан… Пайшоў па дарозе, абранай бацькам, нягледзячы на сваё каханне да Зосі. Узяў сабе ў нявесты суседскую дзяўчыну Ганну. Нічога не вернеш… Як і той жнівеньскі вечар, калі Сцяпан упершыню яе пацалаваў, прызнаўшыся ў каханні. А потым яны доўга яшчэ сядзелі ў садзе і марылі пра будучыню. І столькі тады было непадкупнай радасці ў яе сэрцы і яго шэрых вачах… Такога ўжо ніколі не будзе…

Раптам на верандзе рыпнулі дзверы. Зоська хуценька склала ліст, але схаваць не паспела: у хату ўвайшла яе бабуля Аўдоцця. Як заўсёды нечым заклапочаная.

— От халадно, то халадно. Студзень і ў апошнія дні студзіць, мала яму ўсё, — старая падышла да натопленай грубкі і пачала грэць рукі. Цяпло адразу прабегла па зморшчанай скуры, вяртаючы да жыцця.

— А ты што тут робіш? — яна са злосцю паглядзела на ўнучку. — Карову трэба было б пакарміць. А ты лынды б’еш. Гультайка…

Зося накінула на плечы хустку:

— Я хутка. Можа, вады прынесці? — Зося вельмі спакойна ставілася да папрокаў сваёй бабулі, бо і ёй было цяжка, як-ніяк восемдзясят другі год мінуў. Куды ж схаваць паперку, заціснутую ў руцэ?

Але Аўдоцця заўважыла, што ўнучка хвалюецца, і погляд упаў на руку.

— Што там у цябе?

Твар Зосі пабялеў. Схлусіць? Не паспела дзяўчына адказаць, як старая падышла бліжэй.

— Пакладзі на стол.

Зося стаяла і маўчала, сціснуўшы ў руцэ ліст. У гэты момант ёй хацелася збегчы, стаць нябачнай, але толькі б не стаяць твар у твар з гэтай жанчынай, якая глядзела на яе сур’ёзнымі вачыма і чакала, калі будзе выкананы загад.

У вёсцы старую Аўдоццю Хведарэвіч называлі вядзьмаркай. Баба Глаша ўбачыла яе аднойчы на могілках. Аўдоцця рассявала там нейкую траву. А пасля гэтага аж да раніцы ў вёсцы стаяў пах палыну. Дзядзька Антось, які і без таго варожа ставіўся да Зосі і яе бабулі, не раз бачыў Аўдоццю, якая хадзіла па лесе між малінніку і нешта шаптала падобнае да закляццяў. А яшчэ гадоў пяць таму, калі ў Хведарэвіч здохла карова, цётка Тоня пашкадавала даць ёй малака. Увечары бачылі Аўдоццю каля суседскага хлява, а ранкам цётка Тоня знайшла сваю карову мёртвай. Пасля гэтых выпадкаў па вёсцы пранесліся чуткі, што Хведарэвіч вядзьмарка. Адны яе баяліся, іншыя — смяяліся. А што было на самай справе, ніхто і не ведаў.

— Што ты ад мяне хаваеш? — паўтарыла сваё пытанне Аўдоцця. — Не прымушай мяне прымаць крайнія меры. Паказвай!

Іншага выйсця для дзяўчыны не было, рука быццам сама расціснулася і паклала на стол скамечаную паперу. Твар бабулі зморшчыўся, быццам яна з’ела нешта горкае, а потым зрабіўся нейкім халодным і чужым. Што яна зробіць? Спаліць, прачытае, а потым парве?..

Старая ўзяла ліст, пакруціла яго ў сваіх маршчыністых руках, уважліва прыгледзелася да почырку, і раптам кінула на падлогу.

— Надумала стаць *нявесткай* для Крэўдзіча? — слова «нявестка» яна вымавіла з асаблівай злосцю. — Усё яшчэ думаеш пра Сцяпана?.. Па вачах бачу, што не выкінула яго з галавы. Марыш… Што ж, мар далей! Пабачыш, куды цябе завядзе гэтае каханне.

На вачах Зосі з’явіліся слёзы. Яны цяклі па шчоках, а дзяўчына нерухома стаяла і скрозь іх глядзела на бабулю. Аўдоцця цяжка ўздыхнула і села ў крэсла каля стала:

— Што, вядзьмаркай мяне лічыш? — Ад такога нечаканага пытання ў Зосі пераняло дыханне. Яна выцерла слёзы і хуценька падняла ліст, прыціснуўшы яго да грудзей.

— Маладая ты яшчэ, нічога ў жыцці не разумееш. А я век пражыла… Тады маці мая моцна захварэла… Пайшла я да Антося дапамогі прасіць, каб прыехаў, паглядзеў, — погляд старой прасвятлеў. — Антось. Прыгожы ён быў, высокі такі… Вось да каго твой Сцяпан падобны, — ледзь бачная ўсмешка кранула вусны Аўдоцці, але потым яе твар зноўку стаў змрочны. — А ён і не думаў дапамагаць. І другому ўрачу заплаціў, каб і той не прыйшоў, таму што не адказала я Антосю на яго пачуцці. Ды і якія там былі пачуцці, калі сам за Марысяй, дачкою багацея, бегаў. Але я ж была прыгожая… — Аўдоцця расправіла плечы і правяла рукою па валасах. — Памерла мая маці. У тую ж ноч памерла… А я яму не даравала гэтага.

У Зосі затахкала сэрца:

— І што ты зрабіла?

— Сям'ю яго звяла, — сказала старая. — Жонка рана ў яго памерла. Дзеці таксама. Не задумвалася я тады, што грэх гэта вялікі. Толькі потым супакоілася… Але позна было. Думала, забіраю ў яго, але ж не: у сябе забрала.

Зося не вытрымала пільнага погляду старой і адвяла вочы. Яшчэ цяжэй стала на сэрцы. Сцяпан… Дзе ён цяпер? Няўжо і ён ведае? Можа, таму і не шукае больш з ёй сустрэч?

— І няўжо няма збаўлення? — ледзь чутна спытала дзяўчына.

— А дзе ж ты яго знойдзеш, *гэтае збаўленне*? — Аўдоцця з дакорам глянула на ўнучку. — Ці не ў каханні ты вырашыла яго знайсці? Растопча Сцяпан твае пачуцці, калі яшчэ не зрабіў гэтага. Кінь яго, Зоська, Антось ніколі не прыме цябе ў сваю сям'ю.

«Ведала б ты, бабуля, што Сцяпан ужо ўсё вырашыў. І я даўно не жыву ў яго сэрцы. Але ж ці паверыць маё сэрца калі-небудзь? Кожную раніцу я прачынаюся і не ўяўляю жыцця без яго: гэта як жыць без сонца, удыхаючы грудзьмі халодны подых зімы, і разумець, што ён не прыйдзе…» — падумала Зося.

Прыгажосці дзяўчыне было не займаць, нават Ганне было да яе далёка: высокая, спраўнай, з шыкоўнымі светлымі валасамі і блакітнымі вачыма, падобнымі да неба. Яе бялюткі твар, які чырванеў ад сціпласці і сораму, хаваў ў сабе нешта незямное. За гэтай дзяўчынай хацелася ісці следам, абараняючы ад няшчасцяў і людской крыўды.

**ВЫРАЧЫСЯ…**

Сцяпан сядзеў каля ложка хворага бацькі. Ужо другі тыдзень Антось Крэўдзіч адчуваў сябе блага. У апошні час гэты энергічны чалавек злёг ад хваробы. Усё накладвала свой адбітак: цяжкі ваенны час, праца да сёмага поту ў маладосці, каб толькі зарабіць грошай на кавалак хлеба ды пракарміць сям'ю, гады…

Як-ніяк, а ўжо семдзесят. А здаецца, і не жыў зусім. Жонка яшчэ маладая, сына б яшчэ павучыць, на ногі паставіць. Але ўсё, што мог, ён ужо зрабіў. Ёсць час жыць, павінен быць час і паміраць…

Промні ранішняга сонца прабіліся праз квяцістыя фіранкі ў пакой. Ягонае цяпло адчувалася праз шыбы вокнаў, ахутвала цела з ног да галавы. Але Антось не адчуваў яго.

Ён змучанымі ад хваробы вачыма глядзеў на сына, што сядзеў насупраць. У сэрцы Сцяпана цеплілася надзея, што бацька вылечыцца і ўсё будзе, як раней. У хлопца набягалі на вочы слёзы, ён карыў сябе за тое, што нічым не можа дапамагчы, суняць той боль, які адчуваў хворы. Апошняя надзея згасала з кожнай хвілінай. Антось заплюшчыў вочы, цяжка пасопваючы. Сцяпан паглядзеў на маршчыністы твар бацькі, белы, нібы паркаль з самага тонкага ільну, на апушчаныя бровы, што надавалі твару сур'ёзнасць. На левай шчацэ — маленькая радзімка, а чорныя вусы рабілі яго на некалькі год старэйшым.

«І чаму людзі старэюць?» — злавіў сябе на думцы хлопец.

Пройдзе час — пастарэе і ён, Сцяпан. Гэта цяпер, калі малады, не заўважаеш часу, не лічыш хвіліны, а гэта такое пачуццё, калі здаецца, што ўсё мае свой працяг і не спыняецца. І толькі потым здзіўляешся сваім юнацкім разважанням і спрыту,

палкасці сэрца, растрачанага ўпустую, не на таго, каму хацелася, а на таго, хто быў адведзены лёсам.

Рыпнулі дзверы — і ў пакой увайшла Еўдакія, маці Сцяпана. Вось ужо тыдзень, як у сэрцы гэтай прыгожай жанчыны жыў непакой, туды закраўся недавер да мясцовых дактароў і прапісаных лекаў.

Вось і ўчора, калі прыходзіў Драбышэўскі, гарадскі доктар, вельмі здзівіўся, што хворы не адчувае сябе лепш. А потым, як вердыкт, вымавіў, што Антось доўга не працягне… Што заставалася рабіць жонцы? Чакаць… Але чаканне забірала апошнія надзеі на лепшае.

Еўдакія падышла да сына, дакранулася рукою да яго пляча. Сцяпан падаў ёй знак, што Антось спіць, і жанчына ціхенька прысела каля яго, паставіўшы на стол перад ложкам хворага збан сырадою. Прачнецца — пап'е.

Сцяпану было балюча за маці. Як яна будзе жыць? Хлопец адчуваў, гледзячы ёй у твар, як яна пакутуе. Але для Еўдакіі гэта была не пакута, а выпрабаванне, пасланае лёсам, каб пераадолець. Гэтая жанчына была на дваццаць гадоў маладзейшая за Антося. Сустрэліся яны на вяселлі сваіх сяброў. Сустрэліся і адчулі, як успыхнула тое самае каханне, якое даецца чалавеку толькі раз на жыццё. Дзесяць гадоў прайшло, як Антось пахаваў жонку. А Еўдакія закахалася ў яго без памяці, вось толькі маці дзяўчыны была супраць. «Не па ўзросце ён табе…» — адгаворвала дачку. Два разы сватаўся Антось да Еўдакіі… На трэці пашчасціла…

Жанчына выцерла краем хусцінкі з вачэй слёзы. Вось ён, яе Антось, бездапаможны з засмяглымі вуснамі… Праз некалькі хвілін хворы расплюшчыў вочы.

— Антосечка, любы, можа, малака пап'еш? — ускочыла Еўдакія з крэсла. Але яе лёгкая ўсмешка вельмі хутка знікла.

Старому было цяжка гаварыць.

— Які сёння дзень? — спытаў хворы сіпаватым голасам, але прыўзняцца на ложку не змог.

— Цёплы дзень сёння, Антось. На радасць цёплы. Хутка ты на ногі станеш і мы пойдзем паветрам дыхаць, — не замаўкала Еўдакія, стараючыся падбадзёрыць мужа. — Учора прыходзіла Глаша, часопісы прынесла. Твае любімыя, якія ты заўсёды чытаеш. Кажа, як прачнецца Антось, дык ты яму прывітанне ад усёй вёскі перадавай.

Але хворы, здавалася, не слухаў яе. Яго турбавала іншае. Ён адчуваў, што хутка памрэ, і ведаў, што яго адзіны сын закаханы ў Зосю, унучку жанчыны, што скалечыла яго жыццё. Сцяпан злавіў на сабе поўны задумення погляд бацькі.

— Тата, можа, табе падаць што?

Але Антось маўчаў, пільна гледзячы ў вочы Сцяпану. Якіх намаганяў каштавала яму пры жыцці забараніць сыну сустракацца з Зосяй! Нават нявесту яму знайшоў. Але ж Сцяпан і тады не паслухаў яго. Што ж будзе, калі ён, Антось, памрэ?

— Жывіце і далей хараша, каб, як пры мне, сям'я ў вас дружная была… Так, Сцяпан, слухай маці, а ты — за сынам прыглядвай.

Гэта было падобна да развітання. Еўдакія наўзрыд заплакала.

— Ой, родненькі, не пакідай мяне. Як я без цябе адна буду?.. Хто ж мяне абнадзейваць будзе?..

— Сын твой… Нявестку прымі з радасцю, любі яе, як і мяне любіла. А ты Сцяпан, як і дамаўляліся, жаніся. Але…

Стары закашляў. Ён глытаў паветра, чапляючыся апошняй надзеяй за жыццё, што паступова яго пакідала.

— Гаварыць… Пагаварыць трэба, сыне, — ціха прамовіў Антось.

— Я цябе слухаю, бацька, — схіліўся над ім Сцяпан. Дужы, статны, як Антось у маладосці. Чорнавалосы, з шэрымі вачыма.

— Сцяпан, я хачу, — голас старога перайшоў на шэпт, — каб ніколі нага Хведарэвічаў не пераступіла парог нашай хаты. Разумееш?

Для Сцяпана гэтыя словы былі нясцерпным болем. Ніколі… Ці магчыма такое? Але хлопец ведаў, што яму давядзецца выбіраць паміж бацькам і Зосяй, дзяўчынай, якую ён шчыра кахаў. Нават мацней за сваё жыццё. Па волі бацькі ён павінен быў ажаніцца з Ганнай. Хлопец разумеў, што хлусіць сам сабе. Хацеў пайсці да Зосі і папрасіць прабачэння, але Антось цяжка захварэў. Чаму Зося была для яго бацькі ворагам, яму так і не было вядома. Антось паміраў… Паміраў, але добра памятаў, як на яго вачах памерла першая жонка, як памерлі яго дзеці.

Антось глядзеў са страхам у вочы сына і чакаў адказу. Але той маўчаў. Не, іх каханне існаваць не можа. Сцяпан — ягоны сын і ягоная кроў, ён павінен выканаць апошнюю волю бацькі.

— Вырачыся… Вырачыся яе, — маліў Антось. — Паабяцай мне, — ён сціснуў руку сына, намагаючыся прыпадняцца. — Прашу цябе, Сцяпан.

Гэта ж яго бацька… Родны бацька… Яны ніколі з ім больш не сустрэнуцца, і сёння яны бачацца апошні раз на зямлі. Гэта яго апошняя воля, апошняя просьба… Сілы пакідалі Антося, ён скупа глытаў паветра, у надзеі атрымаць адказ ад сына. Еўдакія хацела нешта сказаць, але халодныя вусны Сцяпана вымавілі:

— Абяцаю, — ён нават не пазнаў свой голас.

Прамоўленае абяцанне павінна было назаўсёды развесці яго з Зосяй. Але хворы бацька…

Антось закашляў. Еўдакія падала яму вады.

Сцяпан адчуў, як рука бацькі, што сціскала яго руку, аслабла. На твары старога з'явілася лёгкая ўсмешка. Ён заплюшчыў вочы. Назаўсёды… Але Сцяпану падалося, што перад смерцю бацька падзякаваў сыну поглядам і благаславіў. Хлопец адышоў ад ложка, каля якога плакала маці. Ён не змог знайсці ў сабе сілы, каб застацца. Выйшаў у сенцы. Падышоў да акна, дастаў цыгарэту і запалкі. Можа, закурыць… Сцяпан бачыў, як курыў бацька, а рабіў ён гэта для таго, каб стала лягчэй, каб зняць стрэс. Хлопец вырашыў паспрабаваць, але, зацягнуўшыся адзін раз, закашляў. Едкі дым перахапіў дыханне, і ён адчуў, што задыхаецца. Праз некалькі хвілін хлопец выкінуў цыгарэту праз фортку. Дыхаць стала лягчэй.

Позірк хлопца прывабіла сінічка, якая села на агароджы. Маленькая, з жаўтаватымі грудзьмі і спрытнымі крыламі. Птушачка пільна ўглядалася ў шчыліны плота ў надзеі знайсці пачастунак.

«Ляці лепш да Зосі, — падумаў Сцяпан. — Яна цябе пакорміць».

Кожную зіму дзяўчына даглядала птушак, падвешвала ім пачастункі на дрэвы, сыпала зерне ў кармушкі. Ад успаміну пра яе на душы станавілася цёпла, нават снег, што ляжаў на зямлі, таяў ад гэтай цеплыні.

Сінічка ўзнялася ўвышыню і паляцела далей. Вось і прыйшоў час самому прымаць рашэнні, не перакладваючы іх на плечы іншых. А Зосю ён павінен забыць. Але што значыць «забыць»? Як можна выкрасліць з памяці імя чалавека, якім жывеш, якое гучыць у тваім сэрцы?! Трэба навучыцца.

Сцяпан апрануўся і выйшаў на двор. Марозу не было, але халодны вецер дзьмуў у твар, перашкаджаючы ісці па ваколіцы. Хлопец збочыў на пясчаную дарогу. Дзенідзе ляжаў снег. Ён пайшоў у накірунку крамы. Сунуў рукі ў кішэні ў пошуку рукавіц, але не знайшоў іх.

«Не змерзну», — падумаў хлопец, насунуў каўнер і пайшоў па суседняй дарозе, што вяла да хутара. Ва ўсіх напрамках свістаў вецер, прабіраў да касцей. Куды ён ідзе?.. Ногі самі неслі хлопца, і ён ішоў, спяшаўся, не адчуваючы, як змерзлі яго пальцы і якім шурпаватым зрабіўся ад холаду твар. Ён бачыў перад сабой толькі адну дарогу, яна была для яго ў гэты час адзінай спадарожніцай, што і без слоў разумела яго думкі.

Параўняўшыся з хатаю Зосі, Сцяпан спыніўся. Кім ён быў цяпер? Каханым ёй ці ворагам? Што ён прынёс Зосі? Хлопец глядзеў на яе акно ў надзеі пабачыць дарагі твар. Так хацелася, каб Зося дакранулася да фіранак і ўсміхнулася, як раней… Але фіранкі не варухнуліся…

І тут з другога боку скрыпнула засаўка веснічак. Хлопец азірнуўся і ўбачыў перад сабою яе… Зося стаяла ля весніц, апранутая ў кашулю, з непакрытымі валасамі, запыханая, і баялася падысці бліжэй. Дзяўчына не ведала, што ёй рабіць: плакаць альбо смяяцца. Сцяпана яна заўважыла, калі чэрпала ў калодзежы ваду. Не вытрымала, кінула вёдры ды выбегла на ваколіцу. Зося не верыла свайму шчасцю, яно было падобнае да прывіду, які хутка знікне. Але Сцяпан не знікаў. Ён стаяў і маўчаў, пільна гледзячы на яе, на растрапаныя ад ветру валасы, крыху ружовыя шчокі.

Зося падышла бліжэй і першая парушыла цішыню:

— Ты прыйшоў… Я верыла ў гэта, Сцяпан… — яна падбегла да хлопца, абняла. Яго твар грэўся ад яе подыху, а вусны былі так блізка…

Што ён робіць? Не, ён не можа. Горкая праўда, лепшая за салодкую ману. Зося хціва ўглядалася яму ў вочы і чакала, што той адкажа. Сэрца моцна калацілася ў грудзях, усмешка знікла, а голас дрыжаў у прадчуванні бяды:

— Што здарылася? Сцяпан, ты добра сябе адчуваеш? Чаму ты маўчыш?

Сцяпан дакрануўся да твару дзяўчыны, але потым адхапіў руку, нібы апёк. У вачах Зосі застылі слёзы. Яна адчувала, што ён вярнуўся да яе, але…

Хлопец толькі вымавіў:

— Прабач… — а потым дадаў: — Прабач, Зося…

Ён павярнуўся да яе спінаю і зрабіў некалькі крокаў у адваротным напрамку. Але голас дзяўчыны прымусіў яго вярнуцца да рэальнасці:

— Калі ты цяпер пойдзеш, дык болей не вернешся… да мяне.

Сцяпан спыніўся. Ён пакідае яе? Так, пакідае… І хуткімі крокамі пайшоў далей.

Яго крокі засталіся на бялюткім снезе. Яна чула, як ён рыпеў пад Сцяпанавымі ботамі. Усё цішэй і цішэй…

А ўвечары Зося даведалася, што стары Антось памёр. Але Сцяпан не сказаў ёй пра гэта. Чаму? Прамаўчаў…

— Антось, Антось… — уздыхнула старая Аўдоцця. — Што ж, трэба так.

Столькі жалю ў яе вачах Зося ніколі яшчэ не бачыла.

## ПРАЛЕСКІ ПАД СНЕГАМ

У наступную нядзелю на хутары разгулялася мяцеліца. Завіруха злавала, кідала пад ногі снег, замятала ўсё, што траплялася на яе шляху. Зіма працягвалася… А разам з ёю працягвалася і жыццё. Толькі апоўдні завіруха сціхла. Яе змяніў лёгкі, бялюткі снег, што павольна падаў на зямлю. І не было яму ні пачатку, ні канца.

Зося выбегла на двор, каб дапамагчы бабулі па гаспадарцы. Аўдоцця стаяла ў залатанай кашулі каля хлеўчыка. Зоська зачарпнула вядро вады і хутка падбегла да бабулі:

— Трэба нашу цялушку напаіць.

Старая здзіўлена паглядзела на ўнучку:

— Ты нібы жару ўхапіла! З такой гаспадыняй, як ты, бедная жывёліна ад смагі памерла б, — пажартавала бабуля. — Ну, ідзі ўжо. Сена падкінь ёй.

Зося ўсміхнулася і ўвайшла ў клуню. Паветра, прасякнутае прэлай травой і сенам, запоўніла ўсё памяшканне, і Зося адчувала яго прыемны водар. Злева ляжала вялікая гара сена. Яно нават абвісала з драўляных навесаў увышыні. У загародцы стаяла чорненькая цялушка з бялюткімі плямалі каля вачэй і белай поўсцю на нагах. Жывёліна старанна перажоўвала ежу, пакладзеную з раніцы бабуляй. Менавіта яе, Аўдоццю, цялушка лічыла сваёй гаспадыняй. Вось чаму, калі ў хлеўчык увайшла Зося, яна не звярнула на дзяўчыну ніякай увагі, толькі жавала духмянае сена.

Зося ўвайшла ў загародку і паставіла перад жывёлінай вядро з вадою. Аднак тая працягвала рабіць выгляд, што не цікавіцца нязванай госцяй, але праз некалькі хвілін пацягнулася за вадою. Удосталь напіўшыся, цялушка падняла галаву і перавяла позірк на Зосю, якая сачыла за ёю ўвесь гэты час. Магчыма, такая пільнасць не спадабалася жывёліне, бо тая фыркнула і адышла ад вядра, прыняўшыся за сваю смачную ежу. Зосі заставалася толькі змірыцца з гэтым: яна забрала вядро і выйшла з хлеўчыка. Вось так, робіш дабро, а яго нават і не заўважаюць… Але было б несур’ёзна абвінавачваць у гэтым жывёліну. «Не, яна не можа пакрыўдзіцца», — вырашыла Зося. — «Пакрыўдзіцца можа толькі чалавек». Успомніліся словы Сцяпана, якія ўрэзаліся ў душу, як лязо. Паставіўшы вядро на прыступку каля калодзежа, дзяўчына падышла да ганка. Яшчэ здалёк заўважыла, як да яе бегла суседка Жанна. Яны былі аднагодкі. Жвавая, з густымі бялюткімі валасамі, схаванымі пад зімовую шапачку, у цёплым паліто, якое прывёз бацька з Масквы. У вёсцы Жанну ўсе называлі «модніцай» і гэта не дзіўна, бо ўсё было падабрана з густам: і адзенне, і прычоска з пазалочанымі шпількамі. Але Зосі цяжка было назваць яе сяброўкай. Дзяўчына ўсміхнулася і падалася насустрач Жанне.

— Добры дзень, Зоська, — вымавіла яна, расчырванеўшыся ад марозу. — Вось, завітала ў госці.

— Прывітанне. Калі завітала, дык заходзь у хату. Чаго на марозе стаяць.

— Ды не, я хуценька. Справа такая… — Жанна падміргнула. — Маці абед прыгатавала бацьку ў леснічоўку, а мне занесці трэба. Разумееш?..

— І ў чым праблема? — здзівілася Зося. «Якое я маю дачыненне да яе сям’і? Можа, папросіць мяне занесці абед яе бацьку, а сама да Грышкі пабяжыць… Вось і ўся размова». Зося злавіла сябе на думцы: «Няўжо яна зайздросціць чужому шчасцю?» — І што рабіць будзем? — спытала ўголас Зося.

— Толькі не адмаўляйся. Са мною звычайна Ганна ходзіць. Удваіх весялей ды не так боязна. А сёння яна ніяк не можа. Сцяпана перавялі на лесанарыхтоўку, дык яна за ім туды паехала. Вось я і прыйшла да цябе, Зоська. Дапамажы, га..? Пойдзем разам! — голас Жанны дрыжаў ці то ад хвалявання, ці то ад холаду.

Зося не ведала, што рабіць. Пагадзіцца было цяжка, адмовіцца — яшчэ цяжэй. Але, калі чалавек так усхвалявана просіць…

— Добра, Жанна. Пойдзем. Я толькі бабулю папярэджу, — пагадзілася Зося.

— Вялікі табе дзякуй, — ад радасці абняла яе Жанна. — Сустрэнемся праз гадзіну.

— Я падыду да твайго гародчыка, бо напрасткі будзе хутчэй і зручней.

Яны развіталіся. Зося зачыніла за дзяўчынай дзверцы і паплялася ў хату.

— Надумала, дык ідзі. Толькі да вечара вярніся, — старую Аўдоццю нешта турбавала. Яе твар быў напружаны. Можа, хлусня гэта? А Зося да Сцяпана пабяжыць?

Так яно і ёсць… Старая перастала чысціць бульбу. Тры дні таму Сцяпана Крэўдзіча перавялі на працу леснікОм. А гэта значыць, што Зоська спяшаецца да яго. А можа, яна пакуль нічога не ведае?

Дарога праз лес вілася тонка пратаптанай сцежкай, ледзь прыкметнай здалёк. Дзяўчаты міналі сосны, разгалістыя елкі, абсыпаныя снегам. Дзе-нідзе з зямлі тырчала сухое голле малінніку ды ажын. А навокал панавала цішыня.

— Няма сіл больш ісці, — Жанна спынілася, тупаючы нагамі.

— Больш за палову прайшлі, яшчэ крыху, — падбадзёрыла Зося, мацней захутаўшыся ў шаль, і пажартавала: — Пралескі будзем на зваротнай дарозе шукаць. Ведаеш, колькі іх пад снегам! Вернемся ў вёску з кветкамі — усе дзіву дадуцца!

Жанна нічога не адказала. Пасярод пратаптанай дарогі стаяў магутны дуб, у тры абхваты. Сапраўдны цуд прыроды. Гэта дрэва было гонарам вёскі. Вучоныя налічылі яму каля пяцісот гадоў, таму многія вяскоўцы называлі яго старым дзядком. Заставалася яшчэ некалькі метраў — і яны з Жаннай убачаць леснічоўку, абсаджаную бярозамі. Тут яны з бабуляй замаўлялі летась дровы.

Каля леснічоўкі забрахаў злосна сабака. Жанна здрыганулася.

— Што з табой? — вырвалася ў Зосі, але і ёй зрабілася не па сабе.

— Глядзі.

Да леснічоўкі, азіраючыся, крочылі двое ў чорным адзенні.

— Я іх не ведаю, — боязна прамовіла Жанна. — Не тутэйшыя яны.

— Ды мала хто сюды прыйсці можа… — Зосі здавалася ўсё такім простым, што хваляванне сяброўкі яна лічыла неапраўданым. — Можа, яны па дошкі прыйшлі. Давай крыху пачакаем.

А незнаёмцы тым часам падышлі да леснічоўкі. Упэўніўшыся, што вакол нікога няма, яны дасталі з-пад плашчоў стрэльбы і схаваліся за сцяною. Сабака рваўся з прывязі, брахаў, папярэджваючы пра чужых у лесе. Але на яго брэх ніхто не выходзіў з леснічоўкі. Можа, нікога не было?

Незнаёмцы падышлі да дзвярэй. Адзін з іх, вышэйшы ростам, кіўнуў галавою свайму сябру… Той ужо хацеў адчыніць дзверы — як раптам яны самі адчыніліся і на парог выйшаў Сцяпан. Не паспеў ён апамятацца, як незнаёмцы схапілі яго і пацягнулі ў леснічоўку. Сцяпан вырываўся, але быў бяссільны супраць іх моцы. Ён стукнуў аднаго па твары, што той заенчыў ад болю, але хутка і сам быў кінуты на падлогу. З носа пацякла кроў.

— Можа, прыкончым яго? — спытаў бандыт, наставіўшы на Сцяпана стрэльбу.

— Не, гэта не той.

«Як быццам яны шукаюць іншага», — падумаў Сцяпан. Сёння ў лесніЧоўцы ён застаўся за дзяжурнага. Дзядзьку Міхайлу спешна выклікалі нарыхтоўваць дровы. Павінен быў пайсці ён, Сцяпан. Але галоўны ляснік — Анатоль Цвіркун, бацька Жанны, вырашыў чамусьці па-іншаму.

— Падымайся, — крыкнуў злосна бандыт.

Сцяпан падняўся з падлогі. Усё цела балела. Страшэнна ныла рука, на якую ён упаў.

— Чаго вам трэба? — злосна працадзіў скрозь зубы хлопец і ўзняў поўныя гневу вочы на бандытаў.

— Юрася ведаеш? — спытаў другі бандыт.

— Адказвай хутчэй! У нас мала часу. Дзе ён?

Сцяпан задумаўся. Ніякага Юрася сярод леснікоў не было.

— Першы раз чую, — Сцяпан адмоўна пакруціў галавою. — А гэта імя ці прозвішча?

— Прыкрываць будзеш? — раззлаваўся першы і стукнуў Сцяпана прыкладам стрэльбы па спіне. Хлопец упаў на калені, адчуўшы толькі холад драўлянай падлогі і подых смерці. Яна ўжо чакала яго за той сцяною, працягвала свае рукі, каб забраць да сябе. Некалькі хвілін — і ён паўстане перад ёю. Сцяпан падняў галаву і кінуў абыякавы позірк на злодзеяў, быццам папракаў іх: «За што вы мяне так? Лёс адняў каханне, пакінуўшы на сэрцы папялішча, а вы хочаце забраць жыццё. Не, не атрымаецца…»

Ягоны позірк упаў на вінтоўку, што стаяла каля сцяны. Патрэбна было толькі дацягнуцца да яе, ухапіцца рукамі — і… Але апошнія словы прагучалі быццам прысуд:

— Успомніў? Калі хочаш, мы дапаможам табе. Ён у Маскву часта ездзіць. Апошняя такая паездка магла скончыцца для яго вельмі трагічна. Не аддаў ён нам грошы — падмануў. Вяртлявы такі. Але і мы не дурні. Знайшлі. Калі табе жыць хочацца, дык кажы, дзе ён?

Цяпер ўсё стала на свае месцы. Яны шукалі Анатоля Цвіркуна. Адразу стала зразумела, чаму ён настаяў на сёняшнім дзяжурстве Сцяпана. Вось жа паскуднік… Сваю скуру ўратоўвае за кошт іншага жыцця. А яшчэ ўсміхаўся яму раніцай… Але іншага выйсця не было — усё роўна не пакінуць жывым. Бывай, маці. Бывай, Зося…

Бандыты чакалі. Адзін з іх нават закурыў ад злосці. Попел з цыгарэты сыпаўся на падлогу, на боты…

— Маўчыш, значыцца… Помнік за мужнасць паставяць, ды медаль уручаць, толькі пасмяротна.

Гэта была апошняя хвіліна для роздуму: Сцяпан штурхнуў бандыта, што стаяў бліжэй, і рынуўся за вінтоўкай. Ён добра памятаў, як схапіў яе рукамі, нацэліўся на правадыра, але пачуўся стрэл. Сцяпан адчуў пад сабою халодную падлогу — і праваліўся ў небыццё.

Бандыты выскачылі з леснічоўкі нават не схаваўшы стрэльбы, і пабеглі прэч, не звяртаючы ўвагі на брэх сабакі. Над лесам навісла цішыня, быццам пакутавала на зямлі не адна жывая душа, не адзін чалавек.

## ЗАБЯРЫ ГЭТЫ БОЛЬ…

У пакоі гарэлі свечкі… Ля ложка Сцяпана моўчкі сядзела Еўдакія, і, падпёршы галаву рукой, глядзела на сына. Многа гора легла на плечы гэтай жанчыны за апошні час: месяц таму памёр муж, цяпер вось сын…Словы доктара не змаглі суцешыць яе чулае сэрца: можа выжыве, а можа… Пра апошняе думаць не хацелася. І трэба было ж у той дзень адпусціць яго на працу! Як быццам адчувала, што нядобрае здарыцца. Добра, што тых бандзюг злавілі. Больш не будуць прыносіць шкоду. І была б прычына! Ды не, праз некалькі каляровых паперак. Еўдакія правяла рукою па валасах сына.

— Бедненькі ты мой, — ціха шапталі яе вусны. — Благі табе лёс дастаўся. Такі малады і трэба ж так здарыцца…

Лекі мала дапамагалі, а дактары толькі разводзілі рукамі, але абнадзейвалі. Сцяпан… Даражэнькі сынок… Нават ноччу было цяжка прымусіць сябе заснуць. Сцяпан расплюшчваў вочы, але праз некалькі хвілін упадаў у забыццё. Ці пазнаваў ён маці? Яго вочы глядзелі на яе быццам праз шкло. Пачуўся грук у дзверы. Еўдакія выбегла на веранду — перад ёю стаяла жонка Анатоля Цвіркуна.

— Сцяпан твой як? — нервова спытала Вольга.

Еўдакія пакруціла галавою. Вельмі цяжка было схаваць слёзы, не расплакацца пры госці.

— Здарылася што?

— Вінавата я перад табою… — Вольга з сорамам апусціла вочы.

— Вольга, што ты такое гаворыш?.. Толькі я вінаватая ў тым, што не ўсцерагла сваё дзіця. Ты тут пры чым?

— А пры тым, што грэх гэты на маёй сям'і ляжыць! Не па Сцяпана твайго прыходзілі, а па мужа майго, Толіка. Каторы дзень ужо пануры ходзіць. Галаву апусціць ды маўчыць. У вочы баіцца глядзець. Думаю, штосьці тут не так. А ўчора ён мне ўсё і расказаў. Гэтыя людзі да яго яшчэ ў Маскве прычапіліся, грошы патрабавалі. А Толік жа хітры. Не аддаў… Вось яны адпомсціць і прыехалі.

Для Еўдакіі гэта было нечаканасцю. Але яна моўчкі дастала з печы хустку і накінула на плечы.

— Еўдакія, як хочаш мяне выгнаць, дык я не пакрыўджуся.

— А ў чым ты вінавата? Няма чаго мужыка свайго абараняць. Ён усё жыццё толькі і робіць што хаваецца за твае плечы, — у адказ звонка грукнулі дзверы.

Холад адчуваўся паўсюль, нягледзячы на тое, што ў хаце было цёпла. Жанчына таропка схапіла кажушок і выбегла за ваколіцу.

Яна пойдзе да старой Хведарэвіч… Будзе прасіць яе дапамагчы. Калі спатрэбіцца, дык і на калені перад ёю ўпадзе…

Вось ужо і яе хата. Шэрыя веснічкі, якія старшыня калгаса абяцаў адрамантаваць. Зайсці ці вярнуцца?.. Але раптам яна дапаможа Сцяпану? Любоў да сына ўзяла верх над яе сумненнем. Жанчына націснула на клямку дзвярэй.

Каго-каго, а Еўдакію Крэўдзіч убачыць у сваёй хаце Аўдоцця не думала. «Відаць, нешта сур'ёзнае прывяло яе сюды…» — падумала яна і не памылілася.

— Што стаіш у дзвярах? Праходзь, — Аўдоцця перастала перасяваць муку на стол. Еўдакія зрабіла некалькі крокаў, разгублена гледзячы на старую, і спынілася.

— Дапамогі прыйшла я прасіць у цябе… Сцяпан мой памірае… — у вачах застылі слёзы.

— Вось лёс які! Спачатку мужа пахавала, а цяпер… — і са злосцю дадала: — Вы ж мяне вядзьмаркай лічыце! Дык чым жа я магу дапамагчы? Антось твой, напэўна, і блізка да мяне падыходзіць забараніў. Чаго ж ты ад мяне хочаш?

Толькі раўнадушша і крыўда гучалі ў голасе старой. У нейкі момант Еўдакіі хацелася збегчы адсюль, забыць усё. Але думка пра хворага сына не пакідала яе.

— Я не для сябе прашу, а для Сцяпана. Калі б была мая воля, я б ніколі не прыйшла да цябе. Усе мы вінаватыя адзін перад адным…

Твар старой прасвятлеў. Еўдакія гаварыла праўду.

— Маладая ты яшчэ. Не ад мяне залежыць, ці будзе жыць твой сын. Аднак параду я табе дам: маліся. Толькі вера можа сатварыць сапраўдны цуд.

Старая падхапіла ў рукі сітца і пачала далей прасяваць муку, даючы зразумець, што размова скончана. Аднак Еўдакія, перад тым як зачыніць за сабою дзверы, азірнулася. Можа, перадумае? Але старая Хведарэвіч не звяртала больш на яе ўвагі.

З суседняга пакоя выйшла Зося. Размову яна чула… Усё вяртала яе ў той дзень, калі бандыты напалі ў леснічоўцы на яе любага Сцяпана. Гэта ж яна, пачуўшы выстрал, кінулася на дапамогу. А ўбачыўшы параненага Сцяпана на зямлі, прыпала да яго грудзей і наўзрыд заплакала. Ён быў так блізка ў той момант, а яна і не адчула, што яму пагражала небяспека, якая цяпер каштуе яму жыцця.

— Зося, ты мяне чуеш? Ізноў пра Сцяпана думаеш?

— Што? — схамянулася дзяўчына.

— Яшчэ адзін сіндром кахання. Ды і нашто яно ўвогуле патрэбна, калі прыносіць людзям толькі боль. Ты не ведаеш? А я вось ведаю…

Аднак пасля Зосіных угавораў старая здалася. Яны пайшлі да Крэўдзічаў. Еўдакія правяла Аўдоццю да сына, а Зося засталася чакаць на верандзе. Кволая надзея, што Сцяпан будзе жыць, не пакідала яе. Так хацелася яго ўбачыць… Але што б гэта змяніла ў іх адносінах? Нічога… Дзяўчына сама не заўважыла, як задрамала. Яна паглыблялася далей, у цемру, але працягвала рукі да сонца. Але дзе тое сонца? Вось ён, Сцяпан, ляжыць на ложку, а Зося падыходзіць да яго — і так лёгка робіцца! Быццам ляціць…

І тут Сцяпан расплюшчвае вочы, глядзіць на яе і не пазнае. І ў гэты момант яна адчувае, як яму балюча. Хлопец хоча падняць хворую руку, дакрануцца да каханай, але не можа. Толькі вусны ягоныя шэпчуць: «Забяры гэты боль…» І зноў цемра.

Зося расплюшчыла вочы. Што гэта было? Сон? Дакранулася далонямі да свайго твару. Гарачы. Яе калаціла… Дзяўчына падышла да акна і прытуліла рукі да шкла. Яны палалі агнём, жар ахапіў цела, але пры сутыкненні з халоднай паверхняй стала лягчэй. Але раптам Зося адскочыла ад акна, як ад удару электрычным токам. У хату да Крэўдзічаў спяшалася Ганна. Тая самая Ганна, якая намервалася ўкрасці Зосіна шчасце.

Ганна… Чарнявая прыгажуня, крыху вышэйшая за яе. Дачка намесніка старшыні калгаса. Пра такіх, як яна заўсёды гаварылі з павагай. Сям'ю Альхоўскіх нельга было назваць беднай. Бацька Ганны быў чалавекам адукаваным. Дзяўчына абрала прафесію настаўніцы. Стары Андрэй Альховіч так ганарыўся ёй!

Ягоны малодшы сын вучыўся яшчэ ў школе, таксама на выдатна. Ад яго чакалі, напэўна, прафесарскага звання. На першы погляд, тыповая беларуская сям'я, у якой бацькі гадуюць сына і дачку, але… Людзі казалі, што маці Ганны не была шчаслівай, не было ў іх з Альховічам таго шчырага кахання, на якім будуецца павага. Раней ён, калі яшчэ быў маладым, не раз выганяў жонку з хаты, называючы нахлебніцай. А тая паходзіць па хутары, ды назад вернецца. Цяпер Альховіч пасталеў, з'явіліся сівыя валасы. І ён суняўся. Сама Ганна пайшла характарам у бацьку: такая ж настойлівая, мэтанакіраваная.

Не прывітаўшыся з Зосяй, Ганна пачала яе папракаць:

— Хутка ж пчолы на мёд ляцяць.

— І не толькі, відаць, пчолы, яшчэ і восы, — атрымала яна ў адказ ад Зосі.

Твар Ганны ад пачутага пабялеў. Сама яна скрывілася, нібы кіслы лімон з'ела:

— Колькі ты бегаць будзеш за ім? Што, не можаш паверыць у тое, што Сцёпа мяне абраў у нявесты? Сумлення ў цябе няма, Зоська, вось што я табе скажу! І бабка твая — вядзьмарка. А маці твая дзе? Была — і няма. А ведаеш, чаму? Бо ты не патрэбна ёй…

Колькі ў ёй было яду! Зося стаяла і слухала… Не, яна не заплача. Але слёзы ўжо цяклі па шчоках. Ганне зрабілася кепска, бо яна зразумела, што пакрыўдзіла чалавека. Перайшоўшы на шэпт, Альховіч дадала:

— Чужы ён табе, Зося. Чужы…

Зося не памятала, як выбегла з хаты. Выціраючы слёзы, яна ўцякала ці то ад Ганны, ці то ад гэтай чужой хаты. Не, лепей уцячы ад сябе… Ніколі нагі яе больш не будзе ў Крэўдзічаў. Няхай цяпер там Ганначка гаспадарыць. А яна як-небудзь сама… Раптам паклікаў нечы настойлівы голас.

— Зося, пачакай! — за ёю бег старшыня калгаса. — Вось дык разагналася, — і, перавёўшы дыханне, дадаў: — Даўно я ўжо так не бегаў.

Зося пачырванела ад сораму. Гэта ж трэба, не заўважыць такога чалавека! Леў Пятровіч, быў чалавекам партыйным, меў гадоў сорак, невялікі ростам, чорнавалосы. Ён падышоў да Зосі.

— Прабачце, Леў Пятровіч. Не заўважыла вас.

— Заўважыш ты мяне! — усклікнуў той і з усмешкаю дадаў: — Дзіўна, што ты яшчэ слупы на дарозе мінаеш. Што здарылася?

— Нічога, дахаты спяшаюся.

— Вось што, Зосечка, прыходзь заўтра на працу да нас у калгас. Вельмі ж нам патрэбныя працавітыя рукі: салому будзем на цялятнік перавозіць, стагі разгружаць. Вось хаджу па вёсцы, моладзь заклікаю. Вядома ж, што не бясплатна. Прыйдзеш?

— Прыйду, — не раздумваючы пагадзілася Зося.

* * *

— Ганна, а ты Зосю не бачыла? Яна тут была, — запытала Еўдакія.

— Ды не, не было яе. Я толькі прыйшла, — Ганна агледзелася па баках, зрабіўшы выгляд, што нічога не ведае. — Відаць, не дачакалася.

Жанчына з палёгкай уздыхнула:

— Сцяпану лепш стала. Клікаў яе… Пагаварыць хацеў.

— Можа, я магу чым дапамагчы? — запыталася Ганна, заходзячы ў пакой да Сцяпана, дзе нечакана сутыкнулася з Аўдоццяй Хведарэвіч.

— Ну вось, і гэтая тут… Гнаць яе, цётка Еўдакія, трэба…

Але старая Хведарэвіч, пільна гледзячы ёй у вочы, ціха прамовіла:

— Ты займаеш не сваё месца ў яго жыцці. Таму яшчэ не раз сутыкнешся з *ёю*…

Ганна толькі пагардліва чмыхнула ў адказ.

* * *

А ўвечары яны з бабуляй пілі каву. Зося тонка наразала лусты хлеба і клала іх адна на адну.

— Як быццам да нас прыйдуць госці, — пажартавала старая і забрала ад унучкі нож. І сапраўды: перад Зосяй ляжала нарэзаная ёй гара тоненькіх лустачак хлеба. Зноў задумалася!

— А госці і не перашкодзілі б. Я заўтра, бабулечка, на працу іду. Леў Пятровіч запрасіў. Памочнікі яму вельмі патрэбны.

— Правільна, трэба ісці, — Хведарэвіч адчувала, што ўнучка хоча спытаць пра Сцяпана, але не рашаецца, таму першая прамовіла: — А твой Сцяпан жыць будзе, нікуды ён не дзенецца. А ты чаму дахаты пайшла? Не дачакалася?

— Відаць, што не… Я з Ганнай бачылася, — вымавіла Зося і ў хаце павісла маўчанне. — Ведаеш, добрая з яе настаўніца будзе. Мяне вось жыць вучыла.

Старая зрабіла некалькі глыткоў кавы і пільна паглядзела на ўнучку:

— А Сцяпан цябе бачыць хацеў. Усё імя тваё, як малітву, паўтараў.

Здавалася, яшчэ крыху, і сэрца ад шалёнага біцця вырвецца з грудзей. Дык чаму ж ён тады пакінуў яе, не здолеў забыць?

## НІЧЫЯ

Дні ляцелі вельмі хутка. Вось ужо тыдзень мінуў, як Зося хадзіла на працу ў калгас. Маладыя дзяўчаты і хлопцы раскрывалі прыхаваныя з зімы стагі, грузілі салому на вазы, якія адвозілі яе на цялятнік. Праца была не з лёгкіх: рукі хутка стамляліся, а яшчэ гэтыя балючыя мазалі… У першы дзень Зося хацела ўсё пакінуць, але потым передумала. Аплата была падзённая, ды і добрыя грошы плацілі. Тым больш, што пенсія ў бабулі невялікая, дапамога не перашкодзіць. Калі-нікалі дзяўчына атрымлівала звесткі пра Сцяпана: моладзь любіла пагаварыць пра чужое жыццё… Дзякуючы гэтаму Зося даведалася, што Крэўдзіч амаль паправіўся, стаў на ногі, але да працы ў леснічоўцы яго яшчэ не дапускалі. Доктар не дазваляў…

Зося прыйшла на працу ў гэты дзень раней, чым заўсёды. Рыгор Цыбульскі спрытна грузіў сена ў кузаў калгаснай машыны. Убачыўшы Зосю, ён хуценька нацягнуў па самыя вочы шапку, робячы выгляд, што не заўважае яе. Зося павіталася першай, пасля чаго Рыгор здзіўлена спытаў:

— А ты чаго так рана?

— Ды так, адпрасіцца раней хачу сёння, — адказала дзяўчына, тужэй перавязала хустку і ўзяла вілы. Цыбульскі, тыповы прадстаўнік новай моладзі, быў вельмі самаўлюбёным чалавекам і любіў, калі з ім віталіся першым, бо ўзносіў сябе да нябёсаў.

«Жаніўся б ты хутчэй! — не раз скардзіўся бацька. — Ды з шыі маёй урэшце злез».

Але Рыгор нават і не думаў пра жаніцьбу. Яму і так было добра каля маці. А за дзяўчатамі пабегаць любіў, вось толькі яны, ведаючы яго спрыт і ненадзейнасць, не ўспрымалі яго ўсур'ёз. Падсмейваліся бывала, а Рыгору і то прыемна было, што пра яго гаварылі. Зоські ён спачатку пабойваўся, лічыў фанабэрыстай дзеўкай. «Чаго добрага, бабка ж у яе вядзьмарка, зачаруе яшчэ…»

— А я цябе адразу заўважыў, — парушыў цішыню Рыгор, уторкнуў вілы ў зямлю, дастаў з кішэні цыгарэту і закурыў. — Вырашыў праверыць, ці павітаешся ты першая. Мне гэта для эксперымента патрэбна.

— Ну і як? Праверыў? — ад такога глупства Зося ледзь не рассмяялася.

— Праверыў…— усміхнуўся Рыгор. — Ты не такая, якой я цябе ўяўляў. Іншая…

— Характар складаны ці што? — дзяўчына працягвала кідаць салому ў кузаў, падыгрываючы Цыбульскаму.

— Не, не складаны, — ён пачасаў патыліцу, кінуў цыгарэту на зямлю і прытаптаў ботам. Нешта нервовае адчувалася ў яго дзеяннях. — Зоська, я гэта… спытаць у цябе хацеў. Толькі ты не крыўдуй, дамовіліся?

— Пытайся ўжо. Чаго маўчыш?

— Зося, я хлопец добры, працавіты. Ды і бацька кажа, што мне ажаніцца трэба. Пойдзеш за мяне?

Зося глядзела на Рыгора і не ведала, што адказаць. Жартуе? Здаецца, не… І да п'янага не падобны.

— Рыгор! Рабіць табе няма чаго, калі ты да дзевак ліпнеш, як дзёгаць да бочкі? Межы пара ўжо бачыць.

— Дык, значыцца, не хочаш? Адмаўляеш? — ускіпеў Цыбульскі. — А як за Сцяпанам дык бегала.

— Што ты брэшаш?

— Тое, што і ўвесь хутар. Толькі Сцёпачка мала табою цікавіцца.

— Значыць, я да Сцяпана бегала? — з жарам падхапіла Зося. — А сам ты бачыў? Чаго вылупіўся на мяне? Ты ж да жаніцьбы яшчэ не дарос.

— Гэта я не дарос? — раззлаваўся Рыгор.

Яны нават і не заўважылі, як навокал пачалі збірацца людзі, зацікаўленыя іх размовай.

— А што, Зоська праўду кажа. Жанішок… Малако на вуснах яшчэ не абсохла! — пасмяялася дзяўчына з натоўпу.

— Што, Рыгорка, адшылі цябе па поўнай! — пажартаваў Пятрусь, пахлопаўшы сябра па плячы.

— Ды я ні за якія грошы не ажаніўся б з ёю! Знайшлася нявеста… Мне пазычанае ў Сцяпана не трэба, я сваё хачу мець…

У натоўпе пачуўся смех. Зося кінула злосны погляд на Цыбульскага, сціснула вілы ў руцэ:

— Каб мець — трэба шукаць.

— І знайду! Сам, без цябе. Я майстар на ўсе рукі, — і дэманстратыўна ўзняў высока галаву. — І нявеста ў мяне багатая будзе. І хату на зайздрасць усім пабудую. Загледзішся яшчэ. А ў цябе… Пасаг твой бедны, — Рыгор ужо пашкадаваў, што прамовіў гэтыя абразлівыя словы. Твар Зосі пачырванеў.

— Ну, Рыгорка, трымайся! — Зося кінулася ўслед за хлопцам, ухапіўшы вілы.

— Давай, Зоська, пакажы яму, дзе ракі зімуюць! — крыкнуў Пятрусь.

Дзяўчаты толькі смяяліся.

— Ой, сябры, ратуйце! Яна шалёная! Заколе! — крычаў Рыгор. А Зоська бегла за ім да апошняга стога. Рыгор спатыкнуўся і ўпаў на зямлю. Хацеў падняцца і бегчы далей, але над ім ужо стаяла ўзнёсшы вілы, Зося. Як драпежніца, глядзела з вышыні на сваю дабычу.

«Добра, што яна не коршак, — падумаў Цыбульскі. — Хоць не з'есць адразу».

— Кажаш, да Сцяпана я бегала?

— Не, не бегала! — Рыгор заварушыў нагамі. Сырая халодная зямля, на якой ён ляжаў, была для яго ўсім: і надзеяй, і магілай. — Ды не бачыў я нічога! Чаго ты да мяне прычапілася? Зосечка, прабач мяне. Пашкадуй!

— Ляжы ціха, а то пратыкну віламі — і на зямлі на аднаго здradніка ды даносчыка менш будзе…

Што яна робіць? Нашто ёй гэта?

— Уставай з зямлі. Каму кажу, уставай! — закамандавала Зося і прыняла вілы.

Рыгор абцёр кашулю ад пяску і спадылба паглядзеў на Зосю. У яе вачах больш не было злосці, толькі адценне крыўды:

— Нядобры ты чалавек, Рыгор. Шкада мне цябе.

— Добра ты яму задала, — дадаў Пятрусь. — Век цябе не забудзе.

Зося прайшла міма яго, не звярнуўшы ўвагі. Яна пойдзе дадому ад гэтых людзей… Што б яна ні рабіла — усё роўна застанецца для ўсіх дзяўчынай з хутара, без бацькі і маці. Але адзінота не так хвалявала душу, як раней.

Наступны дзень выдаўся сонечным. Можа таму, што гэта быў апошні дзень працы ў калгасе, а можа таму, што Рыгор Цыбульскі папрасіў у Зосі прабачэння… Нечакана неяк усё… Зоська прыслухалася да размовы дзяўчат. Сцяпан… Ізноў яна чуе гэта імя, ізноў вяртаецца да таго, што даўно перакрэслена. І перекрэсленна ім… Зося адышла да другога стога, каб не чуць ні пра Крэўдзіча, ні пра нявесту, з якой ён учора ішоў з крамы.

Імгненна пацямнела перад вачыма: каля стога насупраць стаяў ён… Сцяпан. З Ганнай. Сэрца моцна забілася ў грудзях, і дзяўчына прытулілася спінай да саломы,

схаваўшыся ад іх. Быццам прывід пранеслася ў думках тая апошняя сустрэча з дачкой Альховіча, якая як гаспадыня завітала да Крэўдзічаў. Ці ведае ён, што яна, Зося, таксама была ў яго хаце ў той дзень? Што прыходзіла, каб падтрымаць і дапамагчы? На жаль, не…

— Ну што, Сцёпа, накрылася тваё лясніцтва, — прамовіў Леў Пятровіч крыху жартоўна. — Што намерваешся рабіць? Можа, у калгас пойдзеш? Абяцаю, што знайду табе лягчэйшую працу.

Крэўдзіч моцна схуднеў за час хваробы, а на твары ўсё яшчэ чыталася нябачная стома. Але мужнасць брала верх, залечвала боль і раны на сэрцы. Раны ад кахання…

— Не, Леў Пятровіч. Да канца вясны падлячуся, а там назад — у лясніцтва. Не магу без лесу.

Леў Пятровіч кінуў позірк на Ганну, якая шпарка перакідвала сена.

— Бачу, справа да вяселля ідзе… Не адмаўляйся, усе ў вёсцы пра вас толькі і гавораць. Ганна твая як? Калі жаніцца збіраешся?

Сцяпан усміхнуўся:

— Не ведаю калі, але збіраюся. Ганна ж пасля таго няшчаснага выпадку з раніцы да вечара ў мяне сядзела. Першы тыдзень я быў у забыцці — такога прысніў, што і ад рэчаіснасці цяжка адрозніць. Быццам і сон, а такое адчуванне, што сапраўды гэта пражыў.

— Бывае, Сцёпачка, бывае… Калі-нікалі і такое здараецца. Мне аднойчы жонка прыснілася на возеры. Цемра наўкол, а яна плыве ў лодцы. Плыве, а куды — і сама не ведае. А я на беразе стаю і выглядаю. Ці то рыбу вудзіў, ці што я там рабіў? А калі з камандзіроўкі з Ташкента дадому ехаў, дык усю дарогу сэрца ныла. Як потым даведаўся, не проста так: Палінка мая дзіця нарадзіла і памерла. І дзіця не выжыла… Вось так і атрымалася, прыехаў на памінкі. Так адзін і застаўся…

— А мне падалося, што Аўдоцця Хведарэвіч ля майго ложка стаяла, — вымавіў напружана Сцяпан.

Леў Пятровіч перахрысціўся:

— Нічога сабе сон! Бачыць вядзьмарку да благога.

— Я нават чуў яе голас, — Крэўдзіч задумаўся, быццам успамінаў. — Але маці б яе ніколі ў нашу хату не пусціла. Дакладна, сон… Годзе пра мяне ўжо! Бачу, Леў Пятровіч, зацікавілі чымсьці вы моладзь, калі яны сюды прыйшлі.

— Сакрэт ведаю, але ён партызанскі, — пажартаваў старшыня. — Грошы цяпер усім патрэбны, вось яны і прыйшлі. Што ж, Сцяпан, адпачывай, набірайся сілы — і на працу, — Леў Пятровіч працягнуў хлопцу руку. Крэўдзіч паціснуў яе, і яны разышліся. Сцяпан крочыў у напрамку да Зосі. Яшчэ некалькі крокаў — і яны сустрэнуцца. Што рабіць? Уцякаць? Позна… І тут голас Рыгора Цыбульскага спыніў хлопца.

— Сцёпа, ты Зосю не бачыў? Ніяк не магу яе знайсці.

«Ну вось і ўсё — я прапала», — падумала Зося. Можа, адклікнуцца?

— Зося? — здзівіўся Крэўдзіч. — Якая яшчэ Зося?

— Як якая, Хведарэвіч. Працуе яна тут…

— Не, не бачыў…

Гэта быў моцны ўдар. Сцяпан адказаў так, быццам яна нікім для яго не была. Але Зося адчула па голасе, што яе імя ўсхвалявала Сцяпана. Але ненадоўга… А яна ж рабіла ўсё, каб яму дапамагчы. Нават бабулю ўпрасіла прыйсці да яго, калі ён у забыцці ляжаў. Хацелася выказаць у твар хлопцу ўсё, што яна пра яго думала.

— Кажуць, Сцяпан, вяселле ў цябе намячаецца… Няўжо Ганна акруціла? — Рыгор дзелавіта паправіў шапку і прапанаваў Крэўдзічу закурыць.

— Не, не куру, — адмовіўся Сцяпан і агледзеўся па баках. Зося… Дзе ж яна?

— Правільна робіш, я вось таксама хацеў бы, але прывык да іх, як да маці…

— Ах, Цыбульскі, Цыбульскі! Гэта ж нікатын!

На гэта Рыгор махнуў толькі рукою:

— Усё роўна ўсе памром. Як здароўечка тваё? На працу выйшаў?

— Не, доктар не дазваляе. Рука яшчэ баліць. Усю вясну мне дома адпачываць.

— Лячыся хутчэй, а то Ганна да іншага ўцячэ. Усё ж такі акруціла яна цябе, — вынес вердыкт Цыбульскі.

— Акруціла ці не, вырашаць не мне, — адказаў Сцяпан. — А жонкай яна добраю будзе. Калі хварэў, дык яна ад мяне не адыходзіла, заўсёды была побач. Ды і маці маёй яна падабаецца. Толькі як яны, дзве гаспадыні, разам ужывуцца — не ведаю. Час пакажа…

— Сцяпан, я спытаць у цябе хачу. Што ў вас з Зоськай? Назусім разышліся?

Зося… Сцяпан увесь час думаў пра яе. Дзяўчына была для яго тым святлом, да якога нельга было дакрануцца. Як бы хацелася цяпер убачыць яе, пачуць родны голас! Пачуцці агаломшылі, як у першы дзень іх спаткання, калі ён завітаў да фельчара ў надзеі атрымаць бальнічны ліст. Вельмі ж карцела з сябрамі на некалькі дзён на возера паехаць, а з лесніцтва не адпускалі. Вось і вырашыў Сцяпан прыкінуцца хворым. Заходзіць, а там — яна… Такая маладая, прыгожая… «Напэўна, новага фельчара з горада прыслалі!» — узрадаваўся хлопец. Перад вачыма паўстала цёплае возера, у якое хацелася нырнуць з галавою, некалькі дзён цудоўнага адпачынку. «Гэтую дзяўчыну я за пяць хвілін вакол пальца абвяду», — падумаў ён. Пяць хвілін расцягнуліся на гадзіну. Усё выпытала, пульс прашчупала, ціск тры разы памерала, тэмпературу таксама. А потым прыйшла сапраўдны фельчар… Гонар хлопца быў закрануты, а Зося толькі ўсміхнулася. Бальнічны ліст хлопец не атрымаў…

Цяпер усё здавалася такім недарэчным… Зося стала для яго і надзеяй, і каханнем. Хлопцу падабаліся яе сціпласць і дабрыня, блакітныя вочы, у якіх бачыўся цэлы свет, задзірысты смех… Але абяцанне адной ночы ўсё перакрэсліла. Не наканавана ім быць разам. А Ганна іншая. Сцяпан ведаў, што яна ніколі не пакіне, заўсёды падтрымае… Але Ганну ён не кахаў. Час лечыць…

— А чаму ты пытаеш? — ціха спытаў Сцяпан. — На Зоську запаў?

— Ёсць крыху… Яна ж дзяўчына баявая, трэба падыход знайсці… Ты для яе многа значыш, Сцёпа.

— Яна для мяне таксама. Але супраць родных не пойдзеш.

Яны развіталіся… Зося праглынула слёзы. За яе ўсё вырашылі… На каго цяпер скардзіцца? Час лечыць… Значыцца, і яе вылечыць. Заставалася толькі забыць Сцяпана… Час лечыць… Але як растлумачыць гэта сэрцу, якое адмаўляецца ў гэта паверыць?

* * *

Увечары таго ж дня да Хведарэвічаў завітала Ірына Якаўлеўна, вясковы фельчар.

— Зося, цяпер на дзённае аддзяленне ўрачоў набіраюць. Мне сяброўка з Мінска тэлефанавала. А табе вучыцца трэба, што ты будзеш тут рабіць? Дзяўчына ты здольная. Вопыту набярэшся, а потым, калі захочаш, вернешся. Вырашыць сёння трэба.

Зося паглядзела на бабулю. Тая маўчала. Ды ці патрэбна было штосьці казаць? Вядома, Зосьцы трэба вучыцца. Тым больш, калі лёс дае такую магчымасць.

— Яна паедзе, — прамовіла Аўдоцця. — Я паміраць не збіраюся, абяцаю дачакацца.

— Вось і добра, — падхапіла фельчар. — З нашай вёскі яшчэ Рыта Данілава едзе. Удваіх весялей будзе. Збірайся!

— Ты ж да мяне прыязджаць будзеш! — падбадзёрыла Аўдоцця ўнучку, калі фельчар выйшла за парог. Насамрэч старой было цяжка змірыцца з тым, што яе пакідаюць.

— Калі ты скажаш, каб я засталася, я так і зраблю, — толькі і змагла прамовіць Зося.

Яна баялася глядзець у вочы бабулі. Чаму? Таму, што адчувала віну перад родным чалавекам. Як яна пражыве без Зоські? Хто будзе ёй дапамагаць? Сцяпан нават і не заўважыць, што Зосі няма, а вось бабуля…

— Не, — старая адмоўна хітнула галавой. — Я не папрашу цябе застацца… — яна сціснула ў руках ваўняную хустку, што накідвала па вечарах на плечы.

Зноў паміж імі адлегласць… Некалькі гадзін таму яны яшчэ былі роднымі, а цяпер — зноў чужыя.

— Бабуля, я такая шчаслівая, што ты ў мяне ёсць…

Старая падышла да акна, хаваючы засмучаны твар ад Зосі. Зіма… Дваццаць гадоў таму… Жонка Льва Пятровіча нарадзіла дзіця, а сама памерла. «Гэта я тая жанчына, гэта я цябе ўкрала ў Зарэцкага, бо так хацелася мець унучку, а Бог сваіх дзяцей не даў!» Угаварыла доктарку Нэлю аддаць ёй дзіця. Не, яна ніколі не раскажа гэту жудасную праўду. Яна панясе яе з сабой у магілу…

## СКАРЫЦЦА ПЕРАД ВЕЧНАСЦЮ

***Выйду. Гукаю. Маўклівы прастор.***
***Пахне чабор.***
***Пахне чабор.***

П. БРОЎКА

Лета ў гэтым годзе прыйшло рана. Ужо каторы дзень у вёсцы стаяла спякота. Толькі раніцаю, калі прырода яшчэ павольна абуджалася ад соннай ночы, можна было адчуць прахалоду, адпачыць ад дзённай спёкі. Водар мядовых кветак перамешваўся з наваколлем, ярка-пунсовыя макі ўзвышаліся сярод лебяды, паварочвалі свае галоўкі да сонейка. Кукуруза і жыта ўбіралі ў сябе ўсю моц лета.

…У лясах хваёвы пах казытаў ноздры. Маладыя елачкі змагаліся за сваё месца пад сонцам сярод высокіх сасонак, спелыя суніцы так і прасіліся ў кошык.

На вузенькай лясной сцяжынцы ўзнік сілуэт жанчыны. З кошыкам у адной руцэ, з торбачкай — у другой. Яна спынілася каля магутнага дуба, паставіла свае рэчы на мох, перавязала хустку. Ганна… Знаёмы дарослы позірк… Яна ўхапіла кошык і пакрочыла ў лес. Ужо месяц прайшоў, як яны са Сцяпанам пераехалі з вёскі сюды, бліжэй да лесу. Калгас пабудаваў для іх хату, а Сцяпан, як і марыў дагэтуль, вярнуўся працаваць у леснічоўку. Здавалася, што ўсё спраўдзілася. Жылі яны няблага, і новае прозвішча мужа ёй было даспадобы. Пра што яшчэ было марыць? Ганна нетаропка збірала суніцы, як да яе падышоў Сцяпан.

— Неяк ты сёння рана…

Жанчына ўсміхнулася ў адказ:

— Сумна мне без цябе, Сцёпачка. Вось вырашыла працай заняцца. Суніцы ў гэтым годзе ўрадзілі вялікія, — і паказала Сцяпану на кош. Спадзявалася, што ён яе абдыме, пацалуе. Але не…

— Добра, збірай. Толькі далёка не адыходзь, — і Сцяпан пайшоў наперад, паглыбляючыся ўсё далей і далей у лес. Трэба было абысці замацаваную за ім тэрыторыю лясніцтва. Гэтыя мясціны ён добра ведаў. Было ў іх штосьці незвычайнае, дарагое сэрцу. За гэты час Сцяпан крыху пастарэў. Можа таму, што за некалькі месяцаў пражыў палову свайго жыцця? Рука яшчэ калі-нікалі ныла, але гэта быў больш тупы боль. Наўкол стаяў прыемны водар кветак. І што б магло так пахнуць? Сцяпан агледзеўся: пад нагамі — ігліца, наўкол мох, маліннік, зверабой… Ён пайшоў далей, але водар кветак крочыў разам з ім. Хруснула ламачча… Сярод маленніку мільганула постаць дзяўчыны. Сэрца Сцяпана моцна забілася. Няўжо гэта яна? Няўжо лёс дазволіць з ёй сустрэцца? Шчаслівы, ён хутка пакрочыў да малінніку і аклікнуў дзяўчыну:

— Зося!

Дзяўчына абярнулася — Сцяпан спыніўся. Перад ім стаяла незнаёмка ў бялюткай хусцінцы з блакітнымі вачыма.

— Прабачце, я прыняў вас за іншую, — Сцяпан хацеў павярнуцца, але дзяўчына аклікнула яго.

— А вы ляснік, мабыць?

— Ляснік…

— А я вось заблукала. Мне да вёскі трэба выйсці. Дапаможаце?

Сцяпан растлумачыў, як выйсці да дарогі. Дзяўчына падзякавала, пачаставала яго малінамі і пакрочыла далей. Сцяпан глядзеў моўчкі ёй услед, баючыся варухнуцца, каб не згубіць лёгкі прывід шчасця. Нешта ў ёй было падобнае да Зосі. А можа, падалося? Але і тут чуўся той самы цёплы водар знаёмых кветак, які прывёў яго па сцежцы сюды. Сцяпан уважліва агледзеўся. Невысокія бялюткія кветачкі, быццам зоркі, красаваліся наўкол. Яны забіралі ў палон успаміны, грэлі душу. Толькі цяпер Сцяпан зразумеў, што так пах чабор.

Той самы чабор, які, як і тая дзяўчына, вяртаў яго да пражытага, прымушаючы скарыцца перад адзіным абяцаннем.

*Алёна ПАПКО*

# КЛІМТ НАПІСАЎ ПРА НАС СВАЕ ПАРТРЭТЫ!

* * *

Чэрвень — далёка, а верасень — хутка,
Тупае ботамі дожджык драбнюткі.
Кастрычнік малюецца жоўта-аранжавым,
Нехта спыняецца з марай
няспраўджанай.

Наша жыццё, відавочна, кляновае
Са зменай падзей па-дзіцячаму новаю:
Падобна лістоце, жылі ў вышыні,
А зараз павінны крануцца зямлі.

Снежань чакае…
Павольнымі крокамі —
Завеяў спатканні пад цёплымі вокнамі.
Нашы надзеі расквечаны Ніцаю,
Кавай гарачай з духмянай карыцаю,

Сонечным джазам —
душа прагне музыкі!
Зашпільваем лёсу працёртыя гузікі.
І цудаў чакаем ў дарослым сусвеце,
Якія з усмешкай вяртаюць нам дзеці.

* * *

Не сумуй…
Будзе дзень, калі сотня дарог —
Як адна.
Ды і я ўжо, на жаль, не твая.
Нічыя…
Прыйдзе час, што хвілінамі не падлічыць,
Не раўнуй…
Трэба крочыць і жыць.
Вежы нашых надзей дабудуй караблём
І пусці у Сусвет.
Не шкадуй, што згубіў гэтым днём
Ты пакінуў свой след.
Ды і музыка восені —
*Fife and drum blues,*
Дынамічна кранецца душы.
Я — пяшчотай тваёй застануся,
Беражы…

**НАНОВА**

Наш прыпынак — зімовы,
Гуллівы на жарты, багаты на словы.
Гарачаю кавай сагрэтыя думкі,
І слізкія вуліцы нам ў падарункі.
Чакаю Калядаў… У зорах зямля,
Цудоўная казка, на жаль, не мая.
Дзе прынцаў штодзённа чакаюць
прынцэсы,
Дзе з ваты аблокі, па лесвіцы крокі —
І мы ўвышыні. Уцякаем ад прэсы!
Нам толькі сямнаццаць, і гэта так дзіўна
Ўдагонку за часам — бадзёра,
няспынна…

* * *

Усё-ткі мой…
Падзякую жыццю
І восені,
дажджом афарбаванай.
Чужому не малюся больш агню,
Бо ведаю,
што буду я каханай.
І погляд твой зычлівасцю кране,
І па руцэ прачытаны сакрэты.
Як рэчаісна падалося мне:
Клімт напісаў пра нас свае партрэты!
Як запавет,
сустрэцца на зямлі…
Патоне ў хрызантэмах надвячорак,
Дзе нашы лёсы сцежкай праляглі
Да вечнасці, здаецца…
Ці да зорак?

* * *

Белы вецер, белы дым…
Нехта скажа: «Вы знаёмы?..»
І бянтэжны прыпамін
Сэрца апячэ затым…
Белы дзень, як белы дым.

Нашай восені ўзмах —
Стынуць вершы на паперы.
Белы дзень, як белы шлях…
Твой — далёкі, мой — нясмелы.
Восені маёй узмах…

**ШЫПШЫНА**

Я — калючая,
Адыдзіся!
Каб не страціць памяці ўласнай.
Я — пякучая,
Бараніся!
І прабач мне за ўсё, няшчаснай!
Я — балючая,
Не крані!
Размінуцца вятры над магілаю…
І душа мая, як карані,
Зарасце паступова шыпшынаю.





*Марыя СТРАЛЬЧЭНЯ*

# СЛОВЫ ГІНУЦЬ, А ЛЮДЗІ ЖЫВУЦЬ

* * *

Апусцеў у вёсцы дом. Зсірацелы,
Закрыў вокны і дзверы… Маўчыць.
Сагравалі тут нават і сцены,
І было добра ў доме тым жыць.

Нібы вочы ўвечар гарэлі
Вокны роднага дома майго…
Сталі сумнымі нават арэлі,
След прапаў да духмяных стагоў.

Не чуваць больш бабулінай казкі,
І ручнік недашыты ляжыць…
Толькі голас, пяшчота і ласка
Успамінамі ў сэрцы трымціць.

**ВЁСКА**

Як і спрадвек, мігцяць тут зоры
І яркі Млечны Шлях вядуць.
І птушкі ў лесе верасовым
Свой ціхі голас падаюць.

Яшчэ гучаць тут песні ў хаце,
Тут ручнікі на кроснах ткуць
І просяць бласлаўлення маці…
Яшчэ жывуць тут… Шчэ жывуць!

**ЗІМОВЫ СОН**

Цішыня і бязлюддзе.
Лес цямнее стары.
Мне сказалі, што будзе
Баль заечы ў бары.



***Марыя Стральчэня нарадзілася 25 сакавіка 2000-га ў вёсцы Чудзін Ганцавіцкага раёна. Вучыцца ў 9 класе СШ № 3 Ганцавіч, займаецца ва ўзорным літаратурным аб'яднанні «Верасок». Друкавалася ў газетах «Савецкае Палессе», «Заря», «Народная трыбуна». Дыпламант абласнога творчага конкурсу «Брэсцкі рупар» у намінацыі «Літаратурная работа».***

Я — на лыжы і бегма
Па бялюткім сняжку.
Во, прыглушаны снегам,
Нейкі рух у ляску.

Поўнач. Зорак трымценне.
Рассыпаецца змрок,
І заечыя цені
Серабрацца здалёк.

Стол святочны сабралі
Шаракі, белякі;
Чыстым снегам заслалі,
Бы абрусам якім.

І сядзяць, і гамоняць
За сталом тым усе.
Брэх ці стрэл іх не згоніць,
Не спужне дрывасек.

І частуюцца сокам,
Умінаюць бліны.
Потым пойдуць у скокі
На палянцы яны.

Будуць скрыпкі  пілікаць…
Як я бачыла баль?
Добры зайчык паклікаў,
Незнаёмы, на жаль.

Забягаў на хвілінку
У пакой ноччу ён
І прынёс мне ялінку,
Потым знік, як і сон.

* * *

Часта сеюцца словы ў паветры.
А ці шчырасць ў тых словах гучыць
І ці рвецца з душы, з самых нетраў?
Можа, з’едліва-жорстка маўчыць?

А навошта сціскаць свае сэрца,
Лезці ў прорву глыбей і глыбей?..
Свет адразу цямнейшым здаецца
Ад прамоў ганарлівых людзей.

…Чалавек сее словы ў паветры,
Але ўсходу яны не даюць.
І праходзяць жыцця кіламетры —
Словы гінуць, а людзі жывуць.

*Кацярына МЯДЗВЕДЗЕВА*

# РАЗЛАМАШКІ МАЙСТРА ЛЮФТА

*Аповесць*

Прафесар гартаў уводзіны да Антонавага дыплома і на вачах змрачнеў.

— Даражэнькі, што за тэма? — сказаў ён нарэшце. — Я разумею, нікому не хочацца вывучаць музычныя скарбонкі, усім рэдкасці падавай. Я разумею, што разламашкі майстра Люфта — гэткая прыгожая казка, шмат каго натхніла пастуміць менавіта да нас, у школу вытанчаных рамёстваў. Але і вы ж мяне зразумейце! У дыпломе павінна быць практычная частка: фатаграфіі, схемы, аналіз вытворчасці, распрацоўкі мадэлі. А калекцыя разламашак — і вы гэта ведаеце не горш за мяне — на выставы не вывозіцца, захоўваецца ва ўдавы майстра Люфта пад замком! Старая ашалела, нікога не пускае ў дом. На якім матэрыяле вы збіраецеся працаваць? Міфы і легенды нашага мястэчка? Старыя газетныя артыкулы ды чорна-белыя здымкі трыццацігадовай даўнасці? Вы правеліце дыплом!

— Але я напісаў мадам Люфт ліст з просьбай прыняць мяне! — горача запярэчыў Антон. — Упэўнены, яна не адмовіць. Я збіраюся пагасцяваць у яе і зрабіць фотаздымкі калекцыі, а таксама, з дазволу гаспадыні, падрабязна вывучыць дзве-тры разламашкі і апісаць іх.

— А маладзік з нябёсаў вы заадно не дастанеце? — пацікавіўся прафесар. — Ніколі яшчэ не бачыў такой саманадзейнасці. Майце на ўвазе, да аўторка ў вас ёсць час памяняць тэму дыплома. А потым я з'язджаю на канферэнцыю, і ўжо тады выкручвайцеся як хочаце.

Антон забраў сшытак і выйшаў.

Зразумела, ён ведаў, што так і будзе: што яго высмеюць аднакурснікі ды скептычна паставіцца прафесар. Але ён ведаў і тое, што разламашкі былі зусім не вывучаны. Загадкавыя рэчы, якія на выгляд здаюцца нечым адным, а насамрэч з'яўляюцца зусім іншым. Ніхто не ўмеў іх рабіць, хоць усе марылі навучыцца. На чорным рынку за разламашку прапаноўвалі шалёныя грошы. Калекцыянеры дрыжалі над кожным экзэмплярам. І калі Антон збіраўся прысвяціць чамусьці сваё жыццё, дык гэта — вывучэнню і стварэнню разламашак. Гэта вам не гадзіннікавы механізм сабраць са спружынак і зубчастых колцаў. Разламашкі — мастацтва, паэзія, мара!



***Кацярына Мядзведзева нарадзілася 10 чэрвеня 1980 года ў Брэсце. Філолаг. Казачніца, празаік. Пераможца міжнароднага літаратурнага конкурсу «Дзіцячы Партал-2006» (Украіна). Галоўная мара — выхад зборніка казак у адным з беларускіх выдавецтваў.***

На дыванку пад дзвярамі Антона чакаў ліст. Ад мадам Люфт. Ён чытаў яго, калі ішоў у студэнцкую сталоўку, і яго твар усё больш хмурнеў.

«Сябручок, — было напісана там мудрагелістым почыркам. — Дом майстра Люфта — не гасцініца для студэнтаў, а таксама не музей. Вашу просьбу змушана адхіліць. З прывітаннем, мадам Люфт».

— З прывітаннем, — прамармытаў Антон. — З прывітаннем…

— Антон! — да хлопца падсела яго аднакурсніца Юлія.

Вочы ў страуса большыя, чым ягоны мозг. Пра Юлію можна было смела казаць тое ж самае. Мабыць, за прыгожыя вочы яе і трымалі ў школе, іншых прычын Антон не ведаў, таму што вучылася дзяўчына вельмі дрэнна.

— Чаго журышся? Благія весткі? — спытала яна на здзіўленне зацікаўлена.

— Ды ўжо ж, — прамармытаў ён.

— Знаёмы почырк, — прагаварыла Юлія. Выхапіла ліст, прабегла вачамі. — Вой, толькі не кажы, што ты сур'ёзна вырашыў заняцца Люфтавымі разламашкамі!

— Аддай! — ускінуўся Антон. — Чым хачу, тым і займаюся. Што тут такога?

— Ды нічога асаблівага, — яна паціснула плячамі. — Гэта свайго роду благая традыцыя. З году ў год у школе знаходзяцца дзівакі, якім падавай міфічныя разламашкі міфічнага Люфта. Усімі шляхамі яны спрабуюць пракрасціся ў прыстанак засмучанай удавы, каб увачавідкі ўбачыць калекцыю. І, што самае цікавае, пасля гэтага яны ніколі не вяртаюцца ў школу. Адны з глуздоў з'язджаюць, другія трапляюць у турму за спробу крадзяжу з узломам…

— Адкуль такая дасведчанасць? — спытаў Антон хмура.

— Ды бачыш, — яна агледзелася па баках, — са згоды дырэкцыі я вучуся тут пад выдуманым прозвішчам. А насамрэч майстар Люфт даводзіўся мне родным дзедам. І на выхадныя я з'язджаю туды, дзе не гасцініца і не музей. Да маёй ненагляднай бабулі з прыветам.

Антон разявіў рот.

— І што вы ўсе знаходзіце ў дурных дзядулявых забаўках? — прагаварыла Юлія задуменна. — Барахло барахлом. Для мяне, дык караллі з чорных перлін ці брыльянтавыя дыядэмы — значна цікавей.

— Ты бачыла разламашкі? Можа, і ў руках трымала?! — недаверліва спытаў Антон.

— Само сабой, — кіўнула яна. — Не разумею, што ў іх асаблівага? Размаляваныя дзеравякі ды бляшанкі. Дзецям, можа, такое і цікава. А дзяўчаты, накшталт мяне, аддаюць перавагу даражэйшым цацкам.

— Юлія! — Антон учапіўся ў яе. — Юлія!

— Не працягвай, у мяне адкрылася здольнасць да тэлепатыі, — усміхнулася яна. — Прапаную абмен. Ты пішаш за мяне дыплом па каралях з перлін усходніх мораў, а я бяру цябе на выхадныя ў дом бабулі Люфт.

— Ды я напішу сто дыпламоў за магчымасць дакрануцца хоць да адной разламашкі! — усклікнуў Антон. — Але скажы, твая бабуля… не будзе лаяцца, калі ты прыедзеш дахаты не адна? Гэта прыстойна?

— Што-небудзь прыдумаем, — Юлія зірнула на ручны гадзіннічак. — На тваім месцы я б не расседжвалася. Бібліятэка зачыняецца ў восем, а я заўтра павінна паказаць выкладчыку першы раздзел.

Жыллё майстра Люфта было падобна да легендарных разламашак. Няскладны, рознакаляровы, дзівакаваты дом з мноствам вежак, мансард, флюгераў і, невядома навошта, з байніцамі. Мабыць, каб адстрэльвацца ад дакучлівых прыхільнікаў.

Кутняе акно на другім паверсе было забрана кратамі. Хутчэй за ўсё, менавіта там жыла бабуля Люфт у абдымку з каштоўнай калекцыяй. У акне па суседстве курыла пякучая брунетка нявызначаных гадоў. А ў акенцы мезаніна сядзела дзяўчынка з коскамі і пускала мыльныя бурбалкі.

— Мая стрыечаная сястра Кіра, — буркнула Юлія. — На рэдкасць надакучлівае стварэнне. Тая, што паліць, — яе маці Аліна. Дужа з'едлівая асоба, не прымай яе словы на веру, гэта істэрыка па сыходзячай маладосці. Імкніся клікаць яе па імені, за «цётку» можа аплявуху ўляпіць. І ў цэлым, не надта звяртай увагу на маё сямейства, яны з дзівацтвамі. Зрэшты, як і ўсе.

Дзверы ім адчыніла сама бабуля Люфт. Далікатная сталая лэдзі ў іскрыстай чорнай сукенцы. На шыі ў яе вісеў масіўны залаты ключ, аздоблены дыяментамі. Не горш дыяментаў паблісквалі і бабуліны вочы, калі яна расцалавала спачатку Юлію, потым Антона, чаму апошні невымоўна здзівіўся.

— Дзеці мае, як я радая, — прагаварыла яна, бадзёра ўстрасянуўшы сівымі кудзеркамі. — Чысціце пёркі, пераапранайцеся, праз паўгадзіны вячэра.

Бабуля віртуозна развярнулася на высокіх абцасах і накіравалася ў глыбіні дома. Толькі цяпер Антон заўважыў, што яе суправаджаў чорны калматы сабака, памерам з дарослую авечку.

— Гэта Люфі, — растлумачыла Юлія, — дзядуля ў ім душы не чуў.

Яны падняліся на другі паверх.

— Што ты сказала пра мяне? — спытаў здзіўлены Антон. — Я не чакаў такога ветлівага прыёму.

— Даведаешся за вячэрай, — Юлія адчыніла дзверы. — Вось твой пакой. І не забудзься надзець гальштук. Бабуля вельмі педантычная ў пытаннях этыкету.

— Твой пакой побач? Раптам мне штосьці спатрэбіцца.

— Нават не ведаю, што табе можа спатрэбіцца ў маім пакоі? — прагаварыла Юлія задуменна. — Не, я жыву ў іншым канцы калідора.

Антон прысеў на ложак і расчыніў чамадан. Неабходна было апрануць нешта прыстойнае, каб уразіць бабулю-арыстакратку. Ён узрадаваўся, што захапіў касцюм.

Тут дзверы адчыніліся, і ў пакой увайшла тая самая дзяўчынка з мыльнымі бурбалкамі, Кіра. Цяпер у яе руках быў нейкі трапічны пупс. А следам за ёй уціснуўся ў дзверы Люфі і пачаў уважліва абнюхваць Антона.

— Прывітанне, — павітаўся Антон. — Я ведаю, ты Кіра, сястра Юліі.

Дзяўчынка моўчкі глядзела на яго вялікімі сінімі вачамі, якіх наогул не бывае ў прыродзе. Яе сукенка — пышная, з вялікім карункавым каўняром і стужкай замест пояса — нагадвала лялечную. Унучка майстра Люфта, падумаў Антон. Напэўна, менавіта ў гэты момант, поруч з казачнай накрухмаленай дзяўчынкай, ён усвядоміў нарэшце, дзе знаходзіцца, і ў яго трохі закруцілася ў галаве.

— Скажы, ты памятаеш свайго дзядулю Люфта? — спытаў ён. — Які ён быў? Ён распавядаў табе казкі на ноч?

Дзяўчынка ўсё гэтак жа моўчкі глядзела на яго. Люфі таксама. Гэтыя двое быццам чакалі ад яго нейкіх слоў ці ўчынкаў, і Антон крыху разгубіўся.

— Чым абавязаны? — спытаў ён ненатуральна ветлівым тонам.

— Кіра, дзетка, ты стамляеш нашага дарагога госця, — раздаўся голас з калідора, і ў пакой зазірнуў поўны лысаваты мужчына. — Карл, бацька гэтага цудоўнага стварэння, — прадставіўся ён.

— Адрамантуй маю ляльку, калі ласка, — сказала Кіра.

— Тваю ляльку ніхто не зможа паправіць, бо яе рабіў сам дзядуля Люфт, — хмыкнуў лысаваты Карл. — Не стаў маладога чалавека ў няёмкае становішча.

— Не, чаму ж, я паспрабую! — загарэўся Антон. Яго рукі прагна цягнуліся да рэчы, зробленай самім майстрам. — Дазволь, я зірну?

Кіра працягнула яму ляльку і тут жа выбегла. Чорны сабака патрухаў следам, абвёўшы Антона змрочным поглядам.

— Не марнуйце дарма час, малады чалавек, мая вам парада, — пакруціў галавой Карл. — Лепш згуляем у карцішкі. Покер, прэферанс, у падкіднога?

— Прабачце, не гуляю, — развёў рукамі Антон.

— Э-э, што за моладзь пайшла, — расчаравана працягнуў дзядзька і схаваўся за дзвярамі.

Антон толькі гэтага і чакаў, каб драпежна накінуцца на лялькy. Але яго чакала расчараванне. Гэта быў даволі прымітыўны трапічны паяц, зусім мяккі навобмацак, набіты каменьчыкамі ці крупамі. І што ў ім можа быць зламана, калі ён, як кажуць, без касцей?

Тут з'явілася Юлія ў вячэрняй сукенцы колеру шампанскага і з ніткай перлін ледзь не да пупка.

— Ты што, з глуздоў з'ехаў? — прашыпела яна. — Вячэра праз дзесяць хвілін, а ты яшчэ не прыняў душ і не апрануў касцюм! Пакінь у спакоі гэтую няшчасную лялькy, Кіра ўсім гасцям з ёй надакучае, і яшчэ ніхто не разгадаў сакрэт.

Яны спусціліся ў сталовую, трымаючыся за рукі, так загадала Юлія. Антон, з вільготнымі валасамі, у касцюме і гальштуку, адчуваў сябе быццам на здымках кінастужкі. Гэта адчуванне ўзмацнілася за сталом. Сурвэткі ў срэбных колцах, графіны і соуснікі, шампанскае ў вядзерцы з лёдам, мужчыны адсоўваюць крэслы дамам, дамы ў вячэрніх туалетах, у мужчын колер гальштука супадае з колерам палосак на кашулях ды іншае…

Разглядаючы старадаўні парцалян і срэбра, Антон дзівіўся: кім жа прадставіла яго Юлія, калі дзеля яго наладжваюць такі прыём? А што сямейства Люфтаў штодня трапезнічае ў падобных дэкарацыях, яму неяк не верылася.

Ён сядзеў побач з Юліяй і разглядаў астатніх. Кіра, у чорнай аксамітавай сукенцы з асляпляльна белым каўняром, нагадвала школьніцу на іспыце. Яна роўна трымала спіну і хмурна глядзела ў пустую талерку. Яе маці нервова круціла відэлец у тонкіх пальцах з доўгімі чырвонымі пазногцямі і чамусьці драпежна ўсміхалася. Дзядзька Карл з энтузіязмам чытаў этыкетку на бутэльцы шампанскага і быў цалкам паглынуты гэтым заняткам. Бабуля сядзела ў тарцы стала і вышуквала для Люфі смачныя кавалачкі на вялікім блюдзе з мяснымі далікатэсамі. Заўважыўшы, што Антон назірае, бабуля растлумачыла:

— Люфі — ён жа не для аховы. Для натхнення. Майстар Люфт быў з ім неразлучны.

Тым часам мілавідная жанчына ў фартуху абыходзіла стол, пхаючы перад сабой сервіравальны столік з вялікай супніцай і разлівала суп срэбным чарпаком. Антон падумаў, што гэта прыслуга, і быў здзіўлены, калі жанчына таксама ўселася за стол, а фартух зняла і павесіла на спінку свайго крэсла. Яе прычоска збілася, некалькі каштанавых кудзерак прыліплі да лба. Юлія пазірала на яе так, нібыта саромелася. Аказалася, гэта яе маці, мадам Клара, і ў яе хатнія абавязкі ўваходзіць гатаванне ежы на ўсю сям'ю. Насупраць мадам Клары крэсла пуставала.

— На жаль, бацька Юліі ў камандзіроўцы, — сказала бабуля Люфт, заўважыўшы, куды пазірае Антон. — Але не смуткуйце, сябручок, вы пазнаёміцеся з ім пазней. Усе ціха! — загадала яна, пастукаўшы нажом па крыштальным келіху. —

Я маю паведаміць нешта прыемнае. А прыемныя навіны, як вядома, лепш выслухваць нашча. Шампанскага!

Дзядзька Карл клапатліва прыняўся адкаркоўваць бутэльку.

Бабуля паднялася, трымаючы ў руцэ напоўнены келіх. Залаты ключ паблісквaў у яе на грудзях.

— Дазвольце прадставіць вам Антона, — прамовіла яна. — Гэта жаніх Юліі. Ён зрабіў дзяўчынцы прапанову, яна дала згоду. Будучай вясной адбудзецца вяселле.

Антон папярхнуўся сліной. Вытарашчыўшы вочы, ён паспрабаваў штосьці сказаць, але яго тут жа штурхнулі нагой пад сталом. Добра так штурхнулі, з усёй закаханасцю, на якую здольна палкая юная нявеста.

— Як гаварыў майстар Люфт, складнага вам жыцця! — прамовіла бабуля, і ўсе паднялі келіхі.

Антон глядзеў на Юлію і не ведаў, як неўзаметку прашаптаць ёй усё, што ён думае. А яна падміргвала яму, піла келіх за келіхам і весялілася. Яму ж і кавалак у горла не лез. А тым часам вячэра ішла сваім ходам, усе выпівалі і закусвалі, закусвалі і выпівалі, гучалі тосты, змяняліся стравы, мадам Клара мітусілася паміж кухняй і сталовай, прыносячы новыя пачастункі, а Люфі абыходзіў усіх па чарзе, скавытаў і лісліва зазіраў у вочы.

Антон бачыў, што на яго пазіраюць. Цётка Аліна вывучальна, як на кавалак торта, быццам разважала: есці яго ці паберагчы фігуру. Дзядзька Карл — іранічна, мадам Клара — усхвалявана і з нейкім незразумелым жалем. А вось Кіра яго трохі спалохала. Дзяўчынка глядзела так пільна і злосна, быццам разгадала яго сапраўдны план. Сустрэўшыся поглядам з Антонам, яна апусціла вочы і прынялася з азвярэннем выкалупваць грыбы з валаванаў. «Яна здагадваецца», — зразумеў Антон і для блізіру пачаў ажыўлена гутарыць з Юліяй, прыкідваючыся не закаханым, але зацікаўленым. А бабуля задуменна пацягвала шампанскае і раптам ізноў пастукала нажом.

— Я хачу абвясціць тост за чалавека, які пабудаваў гэты дом. За чалавека, дзякуючы якому ўсе мы цяпер тут. За майго дарагога мужа.

— Нябожчыка-мужа, — дадаў Карл ціха, але бабуля пачула.

— Як табе не сорамна, — паўшчувала яна. — Ты старэйшы сын, спадкаемец, як смееш ты жадаць смерці бацьку?

— Але ён і напраўду памёр, — паціснула плячамі цётка Аліна. — Пяць гадоў ужо прайшло, пара б змірыцца.

— Ён не памёр, а знік, — запярэчыла бабуля. Яна павярнулася да Антона. — Многія лічаць, што ён зрабіў разламашку, усярэдзіне якой хаваўся цэлы свет. Зазірнуў у акенца — і не вытрываў, сышоў пагуляць туды. Таму я і не растаюся з разламашкамі, нягледзячы на выгодныя прапановы, — бо ўсярэдзіне адной з іх — яго душа.

— Бог з ёй, з душой, цела дзе? — прагаварыў Карл, а цётка Аліна прамовіла лісліваым голасам: — Прадаць душу — гучыць прывабна. За яе, звычайна, даюць нядрэнныя грошы.

— Наўрад ці д'яблу цікавыя разламашкі, — хмыкнуў дзядзька Карл, — а простыя смяротныя даўно ўжо не вераць у існаванне душы.

— Шкада, што вы не цікавіцеся разламашкамі, малады чалавек, — павярнулася бабуля да Антона. — На жаль, дзеці і ўнукі майстра Люфта не адчуваюць аніякай павагі да ягонай працы.

— Ды як жа не цікаўлюся? Ды я ж, — пачаў Антон, але тут яго зноў штурхнулі пад сталом так, што ён ойкнуў і замоўк. Юлія люта зірнула на яго. Бабуля

зірнула таксама. Мабыць, у яе складвалася не лепшае ўражанне пра жаніха ўнучкі. Дзіўны нейкі, пастаянна пацепваецца, ніводную фразу дагаварыць не можа, давіцца ўвесь час.

Непрыемная тэма сышла на нішто. Бабуля завяла нудную гутарку з цёткай Кларай пра заўтрашняе меню ды спаржу. Дзядзька Карл учыніў рэвізію графінам з вінам. Цётка Аліна вымаўляла Кіры з прычыны локцяў, якія нельга ставіць на стол, а потым запаліла, страсаючы попел у сваю талерку. Кіра ж, так і не прыбраўшы локці, задуменна складала з сурвэткі фігурку жырафа. А можа, гэта быў маяк. Антон сачыў за яе рукамі, дзівячыся лоўкасці. «Дзядулева лоўкасць, дзядулева… Цікава, ці вучыў яе майстар сваім сакрэтам?» Антон уявіў сабе новую шыльду на краме: «Кіра Люфт, разламашкі ды іншае балаўства».

Калі падалі каву, Юлія паднялася з-за стала і пацягнула за сабой Антона. Яны выйшлі ў цёмную гасцёўню, а адтуль — на другі паверх. Там таксама было цёмна. Юлія ўштурхнула хлопца ў нейкі пакой.

— Паслухай, што ты сабе ўявіла?! З якой радасці ты заяўляеш, што мы заручаны? Мы так не дамаўляліся!

— А ты ведаеш іншы спосаб незамужняй дзяўчыне прывесці ў дом староннягa мужчыну? — фыркнула Юлія.

— Але гэта ж падман, — прагаварыў Антон.

— Справа таго вартая, ці не так? — Юлія пстрыкнула ўключальнікам. Антон слепа залыпаў, а калі прыгледзеўся, у яго галава закруцілася, таму што сцены ў пакоі былі абвешаны зашклёнымі паліцамі, на якіх стаялі каштоўныя, непаўторныя, унікальныя разламашкі. Ды за тое, каб патрымаць хоць адну ў руках, Антон душу быў гатовы прадаць, не кажучы ўжо пра тое, каб прыкінуцца жаніхом прыгожай дзяўчыны. Разламашкі ззялі, вабілі, запрашалі.

— Ах, — выдыхнуў ён. — Божачкі…

— Задаволены? — усміхнулася Юлія. — Вось яны, твае скарбы. І што ты знаходзіш у гэтым пыльным барахле?

— Ты не разумееш, — прагаварыў Антон.

— Любуйся, — дазволіла Юлія. — Толькі хутчэй. Пакуль нас не застукалі.

— Што? — здрыгануўся Антон. — Так мы тут без дазволу тваёй бабулі?

— Зразумела, — чмыхнула Юлія. — Яна не дазваляе малазнаёмым людзям чапаць рукамі дзядуляву калекцыю. Бачыш стрэльбу на сцяне? Бабуля часта пускае яе ў ход. Прыйшлося наплесці ёй, што ты вывучаеш банкаўскую справу і цябе цікавяць выключна акцыі ды вексалі. Аматара разламашак яна б і на парог не пусціла.

Антон, не слухаючы яе, ужо прыціскаўся носам да шкла, каб лепей разгледзець разламашкі. Спічасты капялюшык і круглы шар, курыльная люлька і бляшаная бутэлечка з залатым вечкам, табакерка, люстэрка, караблік… Караблік… Цікава, якую загадку захоўвае ён у сваім труме?

— Даўнютка бабуля іх не перабірала. Усе пыльныя, — грэбліва сказала Юлія, выцягнуўшы пару разламашак.

— На, трымай, — яна сунула Антону пясочны гадзіннік, з чырванаватым, дробназярністым пясочкам. — Ужо пяць гадоў, як іх не трэба пераварочваць, пясок сыплецца і сыплецца, — Юлія казала сумным голасам, нібы праводзіла экскурсію для школьнікаў ці турыстаў.

Потым яна дала яму ў рукі патсігар, што прыкідваўся жалезным акладам для кнігі вершаў. Зрэшты, цыгарэты таксама можна было ўсім знайсці, калі націснуць незаўважную кнопачку.

— Вось гэта, — Юлія падчапіла ногцем бліскучы завіток, і выехала бясшумна аддзяленне з дзесяццю тонкімі жаночымі цыгарэткамі, — дзед падарыў цётцы Аліне, а яна пакруціла ў руках і чмыхнула, што не чытае вершаў. Ён раззлаваўся і адабраў падарунак. Ён быў строгі, мой дзед, — прамовіла Юлія з незразумелай інтанацыяй.

— А гэты караблік насамрэч — сальніца. Гэта прасценькая рэч, калісьці такія ставілі на стол, пазначаючы месца гаспадара дома. Калі дзядуля знік, бабуля прыбрала брыганціну за шкло. Абыходзімся звычайнымі, парцаляванымі сальніцамі. — А вось, — яна дастала з шафы вялікі срэбны мандарын, абцерла з яго пыл, — бабуліна ўлюбёная разламашка, адна з самых старых. Гэту штуковіну дзед ёй падарыў у дзень іх змовін. Усярэдзіне ляжалі пярсцёнкі. Бабуля часам адкрывае яе і журыцца.

— Было б выдатна пакласці ўнутр што-небудзь, — летуценна сказаў Антон. — Зрабіць тваёй бабулі сюрпрыз. Яна адкрые і — узрадуецца.

— Так, гэта было б пацешна, — пагадзілася Юлія, хіхікнуўшы. — Вось старушэнцыя здзівілася б. Вырашыла б, што дзядуля ёй з таго свету прывітанні шле.

Раптам Юлія кінулася да дзвярэй, пагасіла святло і зноў схапіла Антона за руку.

— Хтосьці ідзе! Хавай хутчэй разламашку!

Не паспеўшы сцяміць, Антон сунуў мандарынку ў кішэню.

Ён сядзеў на ложку, трымаў разламашку ў руках і адчуваў сябе сапраўдным злачынцам. Як там казала Юлія? «Адны з глуздоў з’язджаюць, другія трапляюць у турму за спробу крадзяжу з узломам». Яму і ўзлом рабіць не давялося, абышоўся крадзяжом на даверы. Нядобра, брыдка атрымалася. Трэба знайсці момант, пракрасціся і пакласці на месца. Адно цешыць: мяркуючы па колькасці пылу, мадам Люфт рэдка зазірае ў сваю скарбніцу, значыць, час ёсць.

Мандарын паступова награваўся, пераймаючы цяпло ад далоняў, Антон задуменна круціў яго так і гэтак, і ў нейкае імгненне разламашка нібы ажыла і з ціхім звонам расчынілася — не на дзве часткі, як чакаў Антон, а нібы кветка, на шэсць пялёсткаў. Так, больш трапны футарал для заручальнага пярсцёнка не прыдумаць. Можна было б і цяпер пакласці ўнутр якую-небудзь каштоўнасць, але ў Антона нічога не мелася. Ды і добра, кветка ці цукерка таксама падыдуць, бо галоўнае — неспадзеўка, галоўнае — запоўніць пустэчу. Хаця… Гэта будзе ўсяго толькі запоўненая пустэча цацачнага мандарына. А жыццё мадам Люфт так і застанецца пустым без каханага чалавека. Антон уздыхнуў і паспрабаваў сябе пераканаць, што зусім не пустое жыццё чалавека, у якога поўны дом дзяцей і ўнукаў, ды яшчэ шыкоўная калекцыя разламашак прыхавана ў спальні. Але ў глыбіні душы скробся сумнеў, ці перавешвае ўсё гэта адсутнасць таго адзінага і самага галоўнага чалавека. Антон пакуль не ведаў гэтага, ён проста тэарэтызаваў.

Сунуўшы разламашку ў верхнюю шуфляду тумбачкі, ён загасіў лямпу і лёг спаць. У доме стаяла цішыня. Ён пазяхнуў і падумаў пра тое, што пакой Юліі на іншым канцы калідора. І раптам цяпер бабуля пільнуе ў засадзе, са стрэльбай напераверс, чакаючы, калі жаніх адправіцца ў госці да нявесты. Вось дык строгія норавы ў гэтай сям’і. Цяпер рэдка такое сустрэнеш.

Ён ужо амаль заснуў, калі знадворку штосьці глуха бомкнулася аб зямлю. Антон здрыгануўся. Што за шум? Падкраўшыся да акна, ён убачыў цень у садзе. Нехта невядомы імкліва наблізіўся да дома і ўлез у акно першага паверха. Антон вырашыў бы, што ўсё яму здалося, калі б цень не выдаваў пры хадзе ледзь чутны шум. Але хто гэта? Няўжо таемны палюбоўнік цёткі Аліны? А можа, рабаўнік? Паляўнічы на

разламашкі? Раптам ён ужо ў бабуліным пакоі? Няшчасная старая звязана па руках і нагах, а рабаўнік шпурляе ў мяшок каштоўныя рэчы.

Пры думцы, што разламашкі ў небяспецы, сэрца Антона забілася моцна і хутка. Як быў, у піжаме і босы, ён выскачыў у калідор і паспеў заўважыць, як груvasткая постаць шаснула ў суседнія з ім дзверы. Хм, цікава, чый гэта пакой, падумаў Антон і тут жа абарваў сябе: ты прыехаў сюды разламашкі вывучаць ці ў чужой бялізне капацца?

Антон спаў, і яму сніўся майстар Люфт: сівы, дабрачынны дзядок у чорнай аксамітавай камізэльцы. Яны сядзелі побач за варштатам і майстравалі вятрак, які адначасова быў кавамолкай. Крылы былі пафарбаваны яркай жоўтай фарбай. Круціш ручку — і зерне мелецца ўсярэдзіне, а крылы трашчаць ды круцяцца. Антон казаў, што крылы павінны круціцца па гадзіннікавай стрэлцы, а майстар Люфт пярэчыў: — Хіба ты не ведаеш, што ветракі заўсёды круцяцца супраць гадзіннікавай стрэлкі? Гэта няпісаны закон!

— Ды што вы разумееце! — пырснуў Антон. — І наогул, вы памерлі, вось і маўчыце сабе!

— Гэта я памёр? — закрычаў майстар Люфт і выцяў Антона кавамолкай па галаве.

Антон прачнуўся, з крыкам схапіўшыся за галаву.

Перад ім стаяла Юлія з газетай у руках.

— Хіба балюча газетай? — спытала яна вінавата. — Ты не прачынаўся і не прачынаўся! А як можна спаць у такі момант?!

— У які? — спытаў Антон з’едліва. — Любячая нявеста забівае жаніха згорнутай газетай, выпадкова прыняўшы яго за камара?

— Табе ўсё жартачкі, — Юлія адкінула газету, — а ў бабулі знік самы дарагі і рэдкі экзэмпляр калекцыі! Яго выкралі ўчора, пакуль мы вячэралі. Ты не заўважыў, ці выходзіў хто-небудзь з-за стала? Я так надралася шампанскага, што нічога не памятаю, абсалютна, — яна ўзялася за галаву і застагнала.

— Жах ды і толькі! — сказаў Антон. — Трэба неадкладна выклікаць паліцыю і ачапіць дом! Магчыма, рабаўнік яшчэ не паспеў збегчы!

— Паліцыя ўжо едзе, — кіўнула Юлія.

Ён усміхнуўся і адправіўся ў ванную.

Юлія, камечачы хустачку, так і сядзела на ложку, пакуль ён прымаў душ і апранаўся. Разам яны спусціліся ў сталовую, дзе заспелі цётку Аліну з цыгарэткай у зубах і ўскудлачанага дзядзьку Карла, які спрабаваў адвёрткай адчыніць бар.

— Усё ў іх эканоміцца, — мармытаў ён, — усё у іх на ключ замкнута.

— Ты б адразу ахнуў дынамітам, — з’едліва сказала цётка Аліна. — Навошта размяньвацца на дробязі. Давай, праяві смеласць.

— Цябе аптэкару трэба здаць, — працадзіў скрозь зубы дзядзька Карл. — Яд у цябе выдатны. Чым уядаць, лепш бы з’ездзіла ў краму ды купіла мне лекі…

— Каб я табе за выпіўкай ездзіла? — цётка Аліна тузанула плячом. — Знайшоў пабягушку.

— Як у горле перасохла, — з нудой сказала Юлія. — Антоша, паспрабуй ты, у цябе рука лёгкая.

І яму ўручылі адвёртку. Замочная шчыліна не ўпершыню падвяргалася падобнаму нападу, яна ўся была падрапана. Мабыць, смага даймала тутэйшых жыхароў рэгулярна, і гэтак жа рэгулярна з гэтай смагай хтосьці змагаўся. За гэты час можна было ўжо зрабіць васковы злепак і абзавесціся ўласным ключыкам.

Але, мабыць, жыхары гэтага дома вылучаліся непрактычнасцю і адсутнасцю кемлівасці.

— У каго-небудзь ёсць невідзімка? — спытаў Антон. Дамы пакруцілі хораша прычасанымі галовамі.

— Можа, гэта падыдзе? — і дзядзька Карл працягнуў гальштучную шпільку. І гэта падышло. У Антона, сапраўды, былі лёгкія рукі. Гэтыя рукі выцягвалі патрэбны білет на іспыце, завязвалі гальштук віндзорскім вузлом, будавалі самыя ўстойлівыя картачныя домікі. Але ён спадзяваўся, што рукі спатрэбяцца яму ў вырабе арыгінальных, складаных, вытанчаных разламашак. А замест гэтага ўжо другі раз за суткі даводзілася прымерыць касцюм злодзея. Так, на дзіўныя ўчынкі штурхалі яго жыхары гэтага дома…

Калі ўсе выпівалі здабыты віскі, у сталовую спусцілася бабуля, у хатняй сукенцы і з жалобнай аксаміткай на шыі.

— Бабуля, ты хіба не едзеш на рынак за спаржай? — спытала Юлія.

— Які ўжо тут рынак, — адказала бабуля. — Мне цяпер не спаржы хочацца, а атруты выпіць, каб толькі не думаць пра тое, што здарылася.

— Аліна, атрута — гэта па тваёй частцы, — заўважыў дзядзька Карл, неўзаметку прыбіраючы за спіну шклянку і бутэльку. Яго жонка чмыхнула, але прамаўчала.

Усе селі за стол. Цётка Клара ўнесла глыбокае блюда з аўсянкай і пачала раскладваць кашу па талерках. У гэты момант спусцілася зверху Кіра.

— Ізноў спазняешся да сняданне, — упікнула яе Аліна.

Твар у Кіры быў бледны і рашучы. Напэўна, маці зноў адчытала яе за штонебудзь, падумаў Антон. Дзяўчынка чамусьці падабалася яму, хоць яшчэ ні разу ён не бачыў усмешкі на яе тварыку.

— Якое гора, якое гора, — прагаварыла бабуля, прыціскаючы хустачку да вачэй. — Вы чулі, Антон, пра наша няшчасце?

— Няшчасце? — перапытаў ён.

— Выкрадзена самая каштоўная разламашка, — дрыготкім голасам прамовіла бабуля. — Верагодна, гэта здарылася ўвечары, калі мы былі захоплены вячэрай і гутаркай. Вядома, вам не зразумець усяго трагізму сітуацыі, вы ж ніколі не бачылі разламашак, не ведаеце ім кошту.

Антон машынальна ківаў, усё яшчэ не верачы ў сур'ёзнасць таго, што адбываецца.

— Я ўжо выклікала паліцыю, яны будуць з хвіліны на хвіліну, — сказала бабуля, паглядзеўшы на кішэнны гадзіннік, і Антон ледзь не падавіўся аўсянкай. Тут жа, ва ўнісон яго кашлю, загрукаў дзвярны малаток.

Мадам Клара кінулася адчыняць.

— Паліцыя! — раздаўся гучны бас, і ў сталовую, грукаючы падковамі ботаў, уваліўся магутны афіцэр з закручанымі вусамі.

— Мадам Люфт, мае самыя шчырыя спачуванні! — казырнуў ён бабулі, і яна кіўнула яму з месца, як каралева.

— Не перажывайце, каштоўнасць вернецца на месца, мы зробім усё магчымае, каб адшукаць нягодніка, і ён адкажа па ўсёй строгасці закона! Ух, пападзіся ён мне! — і паліцыянт зрабіў маляўнічы жэст, як быццам адшрубоўваў камусьці галаву.

— Самы дарагі экзэмпляр калекцыі, — праенчыла бабуля, трымаючыся за скрыні.

Антон пахаладзеў, паблёднеў, , яму здалося, што ён зраўняўся колерам твару з пабеленымі сценамі пакоя. Самы дарагі экзэмпляр калекцыі спакойна ляжаў у верхняй шуфлядзе тумбачкі, рукою падаць. Божа, якая недарэчная сітуацыя. Бракавала толькі, каб яго палічылі злодзеем. Трэба неяк неўпрыкметку пракра-

сціся ў пакой бабулі і пакласці штучку назад. «Ах, як нядобра выйшла, падумаў Антон. Як нядобра!»

— Прашу прабачэння, што перашкаджаю вам снедаць, — прагрукатаў паліцыянт, — але справа не церпіць адкладу. Прашу ўсіх падняцца наверх і стаць ля дзвярэй сваіх пакояў, не ўваходзячы ўнутр. Неабходна абшукаць дом. Мадам Люфт, вы ж разумееце, гэта не з-за недаверу да дзяцей і дамачадцаў, гэта фармальнасць, так прынята.

— Рабіце сваю працу, афіцэр, — велічна адказала бабуля.

Вядома, яны не паслухаліся і не стаялі кожны ля свайго пакоя, а натоўпам пераходзілі ўслед за паліцыянтам і глядзелі, як ён капаецца ў іх рэчах… Антон, як у тумане, заўважыў толькі асобныя эпізоды з таго, што адбывалася. У спальні Юліі — нераспакаваны чамадан, да якога паліцыянт чамусьці не дакрануўся. Пад ложкам у дзядзькі Карла і цёткі Аліны — батарэя пустых бутэлек і перапоўненая попельніца. Сярод цацак Кіры няма ніводнай лялькі. А гаспадыняй пакоя, куды заходзіў гэтай ноччу незнаёмец, апынулася маці Юліі. Атрымліваецца, да мадам Клары ходзіць па начах палюбоўнік? Вось якая падманлівая знешнасць! Зрэшты, хто б казаў. Ён і сам з хвіліны на хвіліну зменіць статут прыстойнага маладога чалавека на незайздросную ролю фальшывага жаніха і раскрадальніка фамільных скарбаў…

Пакой Антона абшуквалі ў апошнюю чаргу. «Пакінулі на дэсерт», — падумаў ён. Сямейства Люфтаў стоўпілася ў дзвярах і любавалася, як паліцыянт капаецца ў чамадане Антона, вытрасае яго кашулі, запісныя кніжкі, бялізну…

— Якія займальныя рэчы, — прагаварыла цётка Аліна.

— Як табе не сорамна, дарагая, — папракнуў дзядзька Карл.

Антон стаяў ззаду ўсіх і ў яго трэсліся паджылкі. Сэрца вожыка б'ецца амаль трыста разоў за хвіліну. Антон пачуваў сябе не проста вожыкам, а псіхічна неўраўнаважаным вожыкам. Вожыкам на грані нервовага зрыву.

— Ды добра, гэта ж жаніх Юліі. Ужо член сям'і, можна сказаць. Не думаеце ж вы… — прамовіў дзядзька Карл. — Кідайце гэтыператрус, афіцэр, хадземце лепш вып'ем чарачку люфтавай наліўкі.

— Яшчэ вось тумбачку праверу, — прабасіў паліцыянт.

«Вось цікава, — лянiва падумаў Антон, — калі пераскокваць праз тры прыступкі ці атрымаецца дасягнуць уваходных дзвярэй раней, чым усе хопяцца? А калі праз чатыры?» Але чамусьці ён не змог ссунуцца з месца.

Калі адкрылі тумбачку, ён ледзь не самлеў. За спінамі іншых ён нічога не бачыў. Чаму ніхто не кідаецца на яго з праклёнамі? Чаму паліцыянт не грукоча наручнікамі, а Юлія не траціць прытомнасць ад гора?

— Не зразумеў? — сказаў паліцыянт, звярнуўшыся да астатніх.

— Які цікавы паварот падзей, — прамовіла бабуля.

Антон не вытрымаў, прыўстаў на дыбачкі і зазірнуў у пакой.

Шуфляда тумбачкі была пустая.

Дакладней, там сядзеў Кірын паяц і скаліў зубы.

Усе вярнуліся да астылай аўсянкі, а паліцыянт прыняўся складаць пратакол вобыску. Не ў сілах бачыць гэта, Антон збег наверх. Спаслаўся на тое, што яму трэба напісаць пару спешных лістоў. Ён сядзеў у сваім разварушаным пакоі, круціў у руках паяца і нічога не разумеў у гэтай гісторыі. Зразумела, што яго падставілі:

паліцыянт выдатна ведаў, дзе шукаць. Але навошта ўсё гэта? Каму ён нашкодзіў? Ці разам з ім хацелі абвінаваціць і Юлію, што так неабдумана прыняла яго ў дом? Можа, тут уся справа ў спадчыне? Хтосьці жадае, каб бабуля перастала давяраць Юліі, на карысць іншых спадчыннікаў?

Дзіўна, што Юлія анічога не памятае пра тое, што сама дала яму ў рукі срэбны мандарын. Можа, яна хлусіць? Але якая ёй карысць? Хто будзе пісаць ёй дыплом, калі Антона засадзяць за рашотку? І хто выкраў каштоўнасць з тумбачкі? Юлія? Бо яна была ў пакоі раніцай, пакуль ён спаў.

Антон горка ўздыхнуў. Раней пры слове «разламашка» яго душа спявала і грала на скрыпцы, а свет абсыпаўся залацістымі бліскаўкамі. Але пасля падзей раніцы ён уздрыгваў і зладзеявата аглядаўся пры адным згадванні пра неацэнныя Люфтавыя вырабы.

Тут дзверы адчыніліся і ўвайшоў дзядзька Карл.

— Не звяртайце вы ўвагі на гэту ляльку, — махнуў рукой ён, заўважыўшы паяца ў руках Антона. — Бацька Люфт часам рабіў дзіўныя рэчы. Мне, напрыклад, ён неяк падарыў кубак, з якога нельга было піць. І яшчэ калоду карт, якая ніколі не выйгравала. Я згалеў, перш чым гэта зразумеў.

Ён падышоў да акна, маркотна вызірнуў у двор і, не змяняючы тону, прамовіў: — Уліп ты, мой хлопчык. На тваім месцы я б выкінуў гэтую штуковіну куды далей, разбіў бы яе чым-небудзь цяжкім ці спаліў.

— Як жа яе спаліш, калі яна срэбная, — адказаў Антон раней, чым паспеў падумаць.

— А ты адкуль ведаеш? — падскочыў дзядзька. — Пра тое, што яна срэбная, не было сказана ані паўслова.

Ён зарагатаў і пагразіў пальцам.

— Не бойся, я цябе не выдам. Нельга спаліць — дык выкінь яе. Закапай у садзе ці ўтапі ў бочцы з дажджавой вадой. Скінь у памыйнае вядро на кухні. Потым хто-небудзь знойдзе — і будуць думаць, што ўсё выйшла выпадкова.

— Што вы, я не маю да гэтага ніякага дачынення, — прамямліў збляднелы Антон.

Дзядзька Карл хмыкнуў і выйшаў.

«Чорт ведае, што такое», — падумаў Антон. Ён нерваваўся ўсё больш. Паліцыя ў доме, ён пад падазрэннем, варта агледзець пакой бабулі на прадмет адбіткаў пальцаў — і ўсё высветліцца. Яго не выратуе, што разламашку — таксама з яго «пальчыкамі» — хтосьці прыхаваў да пары.

Ён спусціўся ўніз. Яму трэба было з кім-небудзь пагаварыць, хоць бы з Юліяй. Як-ніяк, яе ён ведаў даўжэй, чым астатніх.

У сталовай бабуля і паліцыянт пілі наліўку, абмяркоўваючы, якіх неймаверных вышынь дасягнула цяпер дактыласкапія.

— Гнісці нягодніку ў турме, хлебам і вадой сілкавацца, — паліцыянт адсёрбнуў яшчэ, азірнуўся на Антона і дадаў зычна: — І пацукі будуць начамі бегаць па яго злачынным целе.

Антона перасмыкнула.

З падносам у руках увайшла мадам Клара.

— Дарагі, зрабіць табе каву ці прынесці шкляначку віскі?

Афіцэр папярхнуўся ад нечаканасці, а потым натужліва вымавіў:

— Мадам, на жаль, я пры выкананні.

— Так-так! — пляснула рукамі мадам Клара, — я зноў усё пазабывала, прабач, дарагі!

Бабуля злавіла здзіўлены погляд Антона і з уздыхам пакруціла пальцам ля скроні. Антон зразумела кіўнуў. Цяпер ясна, чаму Юлія такая недалёкая, — у яе маці, пры ўсёй дабрыні і пакорлівасці, зусім дрэнна з мазгамі.

— Дык вось я пра што тлумачу? — паліцыянт паварушыў вусамі. — Паднімемся ў ваш пакой, мадам Люфт, знімем адбіткі пальчыкаў — і не пройдзе сутак, як гэтыя пальчыкі будуць, збялеўшы, сціскаць турэмную рашотку…

Бабуля раптам гаротна пляснула рукамі:

— Ах, што ж я нарабіла! Баюся, адбіткі пальцаў вы не знойдзеце! Сёння раніцай я распачала ў пакоі вільготную ўборку… Падчас яе і выявіла прапажу разламашкі.

Паліцыянт не знайшоўся што адказаць, а ў цішыні выразна прагучаў уздых палёгкі Антона. Ён быў гатовы праваліцца скрозь зямлю, і выратавала яго мадам Клара, якая зноў прыйшла з кухні і далікатна спытала:

— Дарагі, што прыгатаваць на абед? Можа, кураня?

Бабуля закашлялася. Паліцыянт падняўся і прабасіў:

— Прабачце, мадам, праца патрабуе маёй прысутнасці ў камендатуры.

Слухаючы, як аддаляецца грук падкаваных ботаў, Антон разважаў: а можа, кінуць усё і з’ехаць? Вядома, разламашка знікла. Хтосьці яе забраў. Але што перашкодзіць зноў падкінуць яе Антону і навесці паліцыю? Ён заблытаўся. Калі яго хацелі падставіць, то рабілі гэта вельмі няўмела. Лепш хутчэй пакінуць дом, спаслаўшыся на неадкладныя справы. Але гэта выглядала б уцёкамі і прыцягнула б увагу. Так што Антон вырашыў пачакаць.

Абед прайшоў ціха. Ні ў каго не мелася жадання гутарыць і абмяркоўваць здарэнне, ды і кураня пад слівавым соусам было такое смачнае, што не пакідала часу на гутаркі.

А ўвечары да Антона прыйшоў чарговы візіцёр. Дзверы адчыніліся без груку, і ў пакой увайшла Аліна. Насуперак звычаю, яна была без цыгарэты. Антон прыўзняўся з ложка, апраўляючы адзежу.

— Чым абавязаны?

Цётка Аліна драпежна ўсміхнулася.

— Паслухай, навошта табе гэта разламашка? Прадай яе мне, за добрыя грошы.

— Не разумею, пра што вы, — прамармытаў Антон.

— Кінь, выдатна разумееш, — Аліна правяла чырвоным доўгім пазногцем па яго шчацэ. — Я бачыла ўчора, як вы з Юліяй выходзілі з-за стала… Я ведаю, што ты пракраўся ў дом дзеля разламашкі, і гэтае дзяўчо дапамагло табе яе выкрасці…

— Вы трызніце, — прамямліў Антон, адчуваючы, што заліваецца здрадлівай чырванню.

— Ты ўсё адно не зможаш яе прадаць! — горача і злосна вымавіла яна. — Ты не ведаеш патрэбных людзей!

— Ды не збіраюся я яе прадаваць! — ляснуў Антон. І, апамятаўшыся, дадаў: — Таму што ў мяне яе няма…

Але цётка Аліна яго не слухала.

— Дурань, ты нічога неразумееш, — нервова казала яна. — Разламашкі для цябе — артэфакт, скарб, прадмет даследавання, ты напішаш пра іх нікому не патрэбную дысертацыю, якую прачытаюць і пахваляць два-тры прафесары… А сапраўдныя знаўцы Люфтавага майстэрства заплацяць шалёныя грошы за любую разламашку з нашай хатняй калекцыі!

Калі Аліна нарэшце сышла, Антон устаў пад халодны душ. Яго сэрца білася так, што грук, напэўна, быў чутны на першым паверсе. «Што адбываецца, — думаў ён, — што адбываецца?»

Пасля душа ён паведаміў Юліі, што прыхварэў і да вячэры не спусціцца. Пераапрануўся ў піжаму, замкнуў дзверы на ключ і з галавой лёг пад коўдру.

Абудзіў яго знаёмы ўжо шум — хтосьці зноў пераваліўся праз плот і рухаўся да дома. У гэты раз Антон і не думаў выглядваць у калідор. Ён толькі задуменна праводзіў таямнічага наведвальніка поглядам і пажадаў таму поспехаў. Можа, так яно і лепш — ціхай сапай, пад сховай цемры, чыніць свае справы. Хм, а гэта думка!

Праз сем хвілін Антон, ужо апрануты і абуты, выкінуў праз акно свой чамадан і выскачыў сам. Другі паверх яго не палохаў — тут было невысока. Ён спрытна прызямліўся на ногі. Замёр, прыслухаўся. Здаецца, яго ўцёкі пройдуць незаўважанымі.

У небе ззяла поўня. Антон загледзеўся на яе і ледзь не страціў прытомнасць ад нечаканасці, калі за спінай раздаўся голас:

— Ты адрамантаваў маю ляльку?

За ім стаяла Кіра і задуменна глядзела на чамадан.

— Яшчэ не, прабач, — прагаварыў Антон. Паяца ён пакінуў у пакоі, на падушцы, разам з нешматслоўнай цыдулкай.

Кіра таксама зірнула на неба і прагаварыла:

— А раптам поўня — гэта вялікая разламашка? І яна зусім не тое, што мы думаем, гледзячы на яе ў тэлескоп.

— Вялікі срэбны мандарын, які завіс у небе? — прамармытаў Антон.

Кіра зірнула на яго з цікавасцю. Пашастала ў кішэні, працягнула яблычную карамельку.

Адчыніліся ўваходныя дзверы, на ганку з'явілася бабуля і стала высвістваць Люфі.

«Чорт, не спіцца ж ім», — падумаў Антон, імкнучыся неўзаметку адфутболіць чамадан глыбей у кусты. А бабуля заўважыла іх і наблізілася.

— Не спіцца, моладзь? — бадзёра спытала яна. — Вось і мне не спіцца. Усё думаю, куды магла дзецца разламашка, які злыдзень выкраў яе, адзіную ўцеху маёй самотнай старасці…

— Знойдзецца, — буркнула Кіра непрыязна.

— Кіра, наша перлінка, — бабуля патрапала яе па шчацэ.

Пачулася гучнае дыханне, і вялікімі скокамі да іх наблізіўся Люфі. Бабуля ўзяла яго за ашыйнік.

— Ну, дабранач, дзеці. Не гуляйце доўга, начное паветра залішне свежае…

— Калі я і перліна, то няправільнай формы, — прагаварыла Кіра, як толькі бабуля і сабака схаваліся ў доме. — Не ўпісваюся ў сямейнае калье.

Антон усміхнуўся.

— Няправільныя перліны шануюцца даражэй за правільныя, — сказаў ён. — Дзядуля распавядаў табе пра знакамітыя каштоўнасці мінулых стагоддзяў?

— Ведаю, — працягнула Кіра нудным тонам. — Тулава вадзяніка, цела пеўня. Ці шмат радасці быць часткай кампазіцыі.

— А ты хочаш быць саліцёрам? — засмяяўся Антон.

— Лічу за лепшае зусім не належаць да класа каштоўнасцей, — сказала Кіра ўпарта.

— Навошта ты так? — здзівіўся Антон. — Табе выпаў гонар быць членам такой знакамітай сям'і, а ты хацела б быць біжутэрыяй, забаўкай?

— Разламашкай, — у тон яму адказала Кіра. — Я хацела б быць разламашкай. Драўлянай ці алюмініевай. Рэччу ў сабе. І каб нічые цікаўныя пальцы не ўлезлі мне ў душу.

— Хм, — Антон закашляўся, прыняўшы апошняе на свой кошт.

— Ды не, я не цябе маю на ўвазе, — прамовіла дзяўчынка. — Ты бяскрыўдны. — Яна ўсміхнулася. — Хочаш, пакажу табе дзядулеву майстэрню?

Яны прайшлі ў глыбіню саду, дзе стаяла маленькая скасавураная хацінка. Антон здзівіўся, што майстар Люфт, чые творы каштавалі нечуваных грошай, працаваў у такой развалюшцы. Кіра нібы пачула яго думкі.

— Дзядуля не дазваляў рамантаваць майстэрню, — растлумачыла яна. — Ён лічыў, што стары і рыпучы дамок, здольны навеяць больш цікавых думак. Так што тут і дах працякае, і падлога месцамі прагніла. І яшчэ… ты не баішся пацукоў?

Яны ўвайшлі ў цёмнае памяшканне, Кіра намацала і запаліла свечкі. Адчувалася, што яна часта тут бывае.

У майстэрні ўсё выглядала так, быццам гаспадар выйшаў на ганак пакурыць і вось-вось вернецца. На стале валяліся бінакуляры, ювелірныя абцужкі і некалькі тонкіх срэбных пласцінак, і двума круглымі каменьчыкамі быў прыціснуты да стала абрывак абгортачнай паперы са спехам накрэсленай схемай. Стос чарцяжоў віднеўся ў шафе за шклом. Там жа грувасціліся гэблі і пасацiжы, цюбікі з фарбай, скрынкі з пацеркамі ды чарапкамі, клубкі і звязкі абрэзкаў, пэндзлі і мастыхіны ў трэснутым гліняным гарлачыку. На падлозе звалены драўляныя калодачкі, лісты металу, скруткі дроту, стаяў паяльнік, у куце Антон заўважыў маленькае кавадла. Штосьці рытмічна грукала пад столлю. На сценах віселі карты ды малюнкі, звязкі іржавых ключоў, мяшэчкі з цвікамі і мяшэчкі з арэхамі, старая рыбалоўная сетка з вялікім зелянявым кухталём. Шкляны шар цьмяна мігцеў, свечка адлюстроўвалася ў ім. «Калісьці ён плаваў у моры, падумаў Антон, цяпер жа збірае пыл у душным пакоіку». Але ж не, пакоік не быў душным, тут пахла паперай, габляваным дрэвам, растваральнікам для фарбы і яблычнымі карамелькамі, якія адну за адной запіхвала ў рот Кіра.

— Арэхі — гэта для мяне, — растлумачыла Кіра, паказаўшы на мяшэчак. — Дзядуля казаў, што ад арэхаў разумнеюць.

— А ключы навошта?

Кіра ўсміхнулася.

— Дзядуля збіраў ключы. Заўсёды падымаў, калі знаходзіў на дарозе. Казаў, што да кожнага ключыка адшукаюцца дзверцы. Часам ён рабіў замкі для сваіх улюбёных ключоў, каб ім не было сумна без працы.

Антон усміхнуўся.

— Некаторыя лічылі яго вар’ятам, — сказала Кіра. — Ды што некаторыя. Усе, акрамя бабулі ды мяне…

— Людзі часта асуджаюць тое, чаго не могуць зразумець, — сказаў Антон. — Толькі абраныя здольны разгледзець у геніі — генія. Большасці значна прасцей абазваць генія — вар’ятам…

— Добра, што мае бацькі не геніі, — сказала яна. — Інакш мне давялося б таксама даказваць, што я не горш. А мне зусім не хочацца быць часткай нейкай параўнальнай канструкцыі.

Антон задумаўся. Ён таксама не лічыў сваіх бацькоў геніямі. Першым геніем у сям’і будзе ён. Прынамсі, так ён думаў яшчэ некалькі дзён таму. Сёння ж разважаў пра тое, як бы не стаць першым у сям’і катаржнікам…

— У будучым годзе я паступаю ў школу вытанчаных рамёстваў, — прамовіла Кіра, калі паўза зацягнулася.

— А мне яшчэ два гады вучыцца, — адазваўся Антон. — Будзем бачыцца.

Яна чамусьці збянтэжылася. Адвярнулася да акна. І праз хвіліну Антон пачуў дзіўна знаёмы трэск. Падышоў да падаконніка. Кіра задуменна круціла ручку жоўтага млына-кавамолкі. Крылы млына круціліся супраць гадзіннікавай стрэлкі…

Раніцай ішоў дождж. Антон сядзеў ля расчыненага акна і трымаў у руках Кірынага паяца. Што ж не так з гэтай старой цацкай? Можа, усярэдзіне нейкі механізм, які акісліўся? Ці сілкаванне скончылася? Распароць бы гэту рознакаляровую скурку ды зазірнуць унутр. Хоць усярэдзіне ніякай механікі не прамацваецца. Так, грэчка ці дробныя каменьчыкі. Паяц глядзеў на яго бесцырымонна. «Куды табе, прасцяку, раскрыць сакрэт майстра Люфта», — казала яго вышытая ўхмылка. Не, тут штосьці іншае, нейкая хітрынка, падвох, і каб яго разгадаць, трэба было паставіць сябе на месца майстра Люфта, старога, якому раптам уздумалася сшыць сваімі рукамі лялька для ўнучкі. Антон паглыбляўся ў роздумы. Здавалася, ён вось-вось ухопіць нітку…

Дзверы нечакана расчыніліся. Здаецца, у Юліі з’явілася благая звычка — урывацца кожную раніцу ў яго спальню. Добра б, каб па вяртанні ў школу гэтая звычка знікла.

— Ну вось і ўсё, — сказала Юлія, пстрыкнуўшы паяца па носе. — Рабаўніка арыштавалі, і выкрадзеная разламашка вось-вось вернецца пад утульнае бабуліна крыло.

— Што? — падхапіўся Антон. — Як жа так? Арыштавалі? Каго?

— Адзінага, хто ў гэтым доме мог пакваліцца на чужую ўласнасць, — холадна вымавіла Юлія. — Маю стрыечную сястрыцу.

— Ёсць доказы? — спытаў Антон, спрабуючы здавацца спакойным.

— Ды якія там доказы, — яна паціснула плячамі. — Кіра і раней траплялася на дробязі, то грошы гаспадарчыя з кухні сцягне, то ключы ад кладоўкі. А цяпер вось на бабуліну спадчыну замахнулася. Нарэшце дзядзька Карл прыкусіць язык і перастане ўказваць маёй маці, як трэба правільна выхоўваць дзяцей.

Антон сядзеў на ложку і разгублена падкідаў паяца. Паяц шчэрыўся. Ён ведаў, хто быў сапраўдным вінаватым ва ўсёй гэтай мітусні.

— Так, дарэчы, нас усіх выклікаюць на допыт у паліцэйскі ўчастак, — сказала Юлія. — Давай пасля сняданку сходзім і скончым з фармальнасцямі.

Далейшае адбывалася, быццам у сне. Антон запомніў толькі забраныя ў краты вокны ўчастка.

«Не турма, але так падобна. А ў турму засадзяць зусім не вінаватага чалавека, а я буду гуляць на волі. Я таксама невінаваты. Аднак разламашку ўзяў я. Ды яе ў мяне няма. Але хто мне паверыць?» — Ён сціскаў зубы, каб не застагнаць ад злосці і разгубленасці.

Дзверы кабінета адкрыліся, і дзядзька Карл вывеў цётку Аліну. Цётка прыціскала да твару хустачку.

У кабінеце апынуўся той самы паліцыянт, які ўчора папіваў наліўку ў доме Люфтаў. Цяпер ён дапытваў Антона і Юлію як сведак.

— Што вы рабілі ў доме Люфтаў? — грозна спытаў паліцыянт. Падаўшыся наперад, ён навіс над сталом, нібы жадаў учапіцца ў Антона зубамі і вырваць з яго прызнанне.

— Я прыехаў разам з Юліяй, — пачаў Антон, але дазнаўца яго перабіў:

— Я не пытаю, з кім ты прыехаў, блазнюк, я пытаю, для чаго ты пракраўся ў гэты дом, скарыстаўся гасціннасцю…

— Ён мой жаніх, — хутка адказала Юлія. — Прыехаў пазнаёміцца з сям'ёй.

— Дык гэта ж зусім іншая рэч! — расплыўся ва ўсмешцы паліцыянт. — Што ж ты маўчыш?

— Ды я… — сказаў Антон, але зноў быў перабіты:

— Ці бачыў ты выкрадзены прадмет?

— Адкуль жа ён мог бачыць, — жвава прамовіла Юлія, калі Антон яшчэ і рота раскрыць не паспеў.

— Наогул, — пачаў Антон.

— Наогул, — перабіла яго Юлія, — ён мог яе бачыць, у нас у школе ёсць альбом з фатаграфіямі разламашак.

— Увечар пятніцы, калі быў здзейснены крадзеж, што ты рабіў? Ці выходзіў падчас вячэры? — драпежна спытаў паліцыянт, утаропіўшы цяжкі падазроны погляд у збляднелага Антона.

— Падчас вячэры… я… — Антон запнуўся. Вось ён, момант сказаць праўду!

— Падчас вячэры ён вячэраў, — паспешна дадала Юлія, да болю сціскаючы Антонаву руку. — З-за стала не выходзіў. Мы ўвесь вечар трымаліся за рукі, спадар дазнаўца. У нас неўзабаве вяселле.

— О, мае віншаванні! — паліцыянт ізноў расплыўся ва ўсмешцы. Расплывацца было, відаць, яго прафесійнай звычкай, гэтак жа, як і падазраваць. — Што ж, мадэмуазель Юлія, пытанняў да вас у мяне больш няма. Вы нічога не жадаеце мне сказаць, малады чалавек? — раптам рэзка спытаў ён у Антона. — Улічыце, чыстасардэчнае прызнанне палегчыць вашу долю на судзе.

Антон рашыўся:

— Справа ў тым, што я, — пачаў ён, але тут жа абцас Юліі з усёй сілы ўпіўся яму ў ступню, і ён заскуголіў ад болю.

— Не я, а мы, дурылка, — ласкава прамовіла Юлія. — Мой жаніх хацеў сказаць, спадар дазнаўца, што мы будзем шчаслівыя бачыць вас на нашым вяселлі!

— Буду абавязкова, калі гэта не пойдзе насуперак з маім службовым абавязкам, — падміргнуў паліцыянт і дазволіў Юліі выцягнуць размяклага Антона з кабінета.

Антон ішоў дахаты ў засмучаных пачуццях.

«Што ж гэта дзеецца? З-за яго дзівацтва, жадання разгледзець разламашкі, бедная дзяўчынка сядзе ў турму? Не, трэба вярнуцца і прызнацца. Але ці паверац яму? І калі паверац, то яшчэ чаго добрага засадзяць разам з Кірай. А чалавек, які сцягнуў разламашку з тумбачкі, будзе на волі пракручваць свае цёмныя справы. Не, так не пойдзе», — І Антон вырашыў з чыстасардэчным прызнаннем пачакаць.

— Ох, Антошка, — сказала Юлія загадкавым голасам. — Глядзі, не нарабі глупстваў.

Антон толькі ўздыхнуў.

Абедзенны стол пуставаў. Толькі бабуля сядзела на сваім месцы, пагладжваючы залаты ключ, ды мадам Клара хадзіла сюды-туды з талеркамі і падносамі. Яна напявала сабе пад нос і выглядала шчаслівай, і гэта ў такі момант! Здаецца, яе зусім не хваляваў лёс пляменніцы. Антон падзівіўся падобнай чэрствасці. Дарэчы, бацька Юліі ўсё яшчэ не вярнуўся з камандзіроўкі, і, мабыць, мадам на ўсю моц гэтым карысталася, кожную ноч прымаючы таямнічага госця.

Падчас дэсерту зашоргала на пад'яздной дарожцы машына, і ў дом уваліўся стомлены дзядзька Карл, ён на хаду адшрубоўваў корак з бутэлькі віскі. За ім ішла цётка Аліна з насупленай Кірай.

— Навошта вы прывезлі дзяўчынку дахаты? — буркліва спытала бабуля. — Жадаеце, каб яна яшчэ што-небудзь спёрла?

— Абвінавачванне знята, — сказала цётка Аліна ўрачыста. — У іх няма аніякіх доказаў. Прэзумпцыя невінаватасці, чорт бы яе пабраў, усё яшчэ дзейнічае ў нашай краіне. Вечарам у дом прыйдзе паліцыя з сабакамі, якія па паху адшукаюць гэту разламашку. І вы ўбачыце, што ўзводзілі дарэмшчыну на дзіця.

Усе ўселіся абедаць. Мадам Клара замітусілася, разносячы стравы. Зрэшты, ніхто не зважаў на ежу. Бабуля прамовіла доўгі маналог пра сучасную юстыцыю і прапанавала ўвесці прэзумпцыю вінаватасці, а менавіта — выпускаць на волю толькі тых, хто падасць доказы сваёй невінаватасці, а ўсіх іншых трымаць за рашоткай, вось так яно спакайней. Цётка Аліна злавалася і курыла. Дзядзька Карл маўкліва напаіваўся. Кіра глядзела ў падлогу, і твар у яе быў, як у маленькага злога эльфа з сярэднявечных гравюр.

Антон сядзеў бы на іголках. Мала прыемнага, што з-за цябе ў сям'і такі разлад, усе перасварыліся, усе адзін аднаго падазраюць. Але разам з тым ён адчуваў і тое, што разлад у гэтым сямействе пачаўся не сёння і не ўчора, а значна раней. Ён са здзіўленнем думаў: «Цікава, а якім быў майстар Люфт? Такім жа падазроным і з'едлівым, як яго жонка? Гэтак жа нервова паліў, як цётка Аліна, вечна знікаў, як загадкавы бацька Юліі? Каго ён больш любіў, сваю ціхоню дачку Клару, усеагульную прыслугу ды кухарку, ці аматара закласці за каўнер дзядзьку Карла? А можа, ён быў расчараваны ў дзецях і спадзяваўся на ўнукаў? Наўрад ці яго ўлюбёнкай была Юлія, якая марыць хутчэй выйсці замуж і з'ехаць з гэтага дома, далей ад сумных разламашак. Хоць і Кіра не цалкам адпавядала ўяўленню Антона пра ідэальную ўнучку. Дзіўная дзяўчынка, скрытная, паспрабуй зразумей, хто яна насамрэч, рамантычная натура, якая любуецца поўняй, ці замкнёны падлетак, што крадзе грошы? Стоп, я ж ведаю выдатна, што яна нічога не крала, падумаў ён злосна. А ў дом хутка прыйдуць сабакі і адшукаюць след разламашкі. Хтосьці ж узяў яе. Хутчэй бы ўсё скончылася…»

— Дарэчы, малады чалавек, паліцыянты загадалі, каб з дома ніхто не выязджаў, — папярэдзіў дзядзька Карл.

— Але як жа? У мяне заўтра раніцай цягнік, у мяне заняткі ў школе, — замямліў Антон.

— З'едзеце — гэта будзе падобна да ўцёкаў, — пацiснуў плячамі дзядзька. — Мая справа — папярэдзіць.

Пасля абеду Антон стаяў на ганку і разглядаў кусты, спрабуючы ўспомніць, куды ўночы схаваў чамадан.

— Ты чаго такі змрочны? — неўзаметку падышла Юлія і тузанула яго за рукаў. — Пойдзем у сад, прагуляемся.

Яны ішлі па сцяжынцы. Справа і злева тапырыліся плямістыя альстрымеры. «Цікава, хто ў гэтай сям'і даглядае сад, няўжо ўсюдыісная мадам Клара?»

— Ты б не гультаяваў, а абдумваў мой дыплом, — сказала Юлія. — Перлінавыя каралі, ведаеш, не любяць мітусні. Нядобра ўсё пісаць у апошні дзень. Ты склаў план?

— Склаў, — Антон уздыхнуў. — Ты не турбуйся. Там усё ўлічана, выгляд перлін, таўшчыня нітак і сны, якія сніліся ракавінкам у дзень перад раскрыццём.

Юлія, не міргнуўшы вокам, праглынула апошні сказ. Паківала з разумным выглядам.

— Паслухай, — сказаў Антон шчыра. — Ты што, сапраўды нічога не памятаеш?

— Ты гэта пра што? — падазрона спытала Юлія.

— Пра вечар пятніцы. Пра тое, як ты прывяла мяне ў бабулін пакой, паглядзець на разламашкі.

Юлія засмяялася.

— Жартачкі ў цябе дурныя.

— Я не жартую! Ты што, не памятаеш, як сама дала мне ў рукі разламашку? Срэбны мандарын з шасці долек, на адной з іх лісток з кропелькай расы.

— Што? — ахнула Юлія.

— Там і твае адбіткі пальцаў, — дадаў ён злосна.

— Гэта, вядома, вар'яцкі смешна, — сказала Юлія. — Я, вядома, выдатна напілася за вячэрай і дрэнна памятаю той вечар. Але бабулін пакой замыкаецца на ключ, і ключ бабуля носіць на шыі, ты бачыў гэтую блямбу, абсыпаную дыяментамі. Каб пакой быў не замкнёны — гэта выключана! Так што пры ўсім жаданні мы не маглі туды ўвайсці і штосьці выкрасці, жанішок.

Антон нахмурыўся. Яна што, здзекуецца?

А Юлія раптам нахмурылася таксама.

— Значыць, з шасці долек, лісток з кропелькай расы? — прагаварыла яна. — Але адкуль ты ведаеш такія падрабязнасці? У каталогу няма фатаграфіі мандарына, бабуля ніколі не паказвала яго журналістам. Хочаш сказаць, што ты трымаў яго ў руках?

Антон маўчаў. А яна сказала задуменна:

— І любы замок ты ўмееш адкрыць звычайнай шпількай для гальштука…

— Прычым тут гэта? — раздражнёна спытаў Антон. А потым зразумеў, што гэта Юлія яго падставіла. Нейкім чынам яна ўмудрылася адкрыць дзверы бабулінага пакоя, а потым пры сведках прапанавала Антону адчыніць бар, выдатна ведаючы па школе, як лоўка ён абыходзіцца з замкамі. Дзіва што, яны ж праслухалі цэлы курс лекцый «Ключыкі-замочкі», Юлія тады атрымала пераздачу, а вось Антон заслужыў на іспыце апладысменты. І цяпер яго ўменне адкрываць замкі ўвойдзе ў склад злачынства, нароўні з нездаровай цікавасцю да разламашак.

— І куды ты яе дзеў? — будзённа спытала дзяўчына. — Схаваў дзесьці ў садзе? Улічы, у цябе яе не возьмуць ні ў адным ламбардзе.

Антон маўчаў.

— Але ж ты не станеш яе прадаваць. Засядзеш дома з лупай на воку і прымешся разбіраць па шрубцы, вывучаць, даследаваць, пісаць дыплом пра скрадзеную рэч, — Юлія ўздыхнула. — Я не буду цябе выдаваць, Антон. Мне няма справы да дзедавых цацак, гары яны агнём. Але мець зносіны з табой я больш не буду.

Ён маўчаў.

— Я так хацела табе дапамагчы, — з асуджэннем прамовіла Юлія. — Я да цябе па-сяброўску, з усёй душой, а ты апынуўся чарговым зладзюгай. Ты хоць бачыш, што нарабіў? Ты ўсю нашу сям'ю перасварыў, ты маю сястру пад падазрэнне падвёў. Калі б я ведала! Я думала, што знайшоўся сапраўдны бескарыслівы знаток дзядулевага майстэрства, а ты… — голас яе задрыжаў.

«Дарэмна яна паступіла ў школу вытанчаных рамёстваў, — падумаў Антон. — Ёй бы акцёрскаму мастацтву вучыцца. Талент у наяўнасці: з такімі сумленнымі вачамі так нахабна хлусіць». Ён зірнуў на дзяўчыну — і знямеў: у яе вачах блішчалі слёзы.

Хмуры і насуплены, Антон сядзеў у сваім пакоі. Чамадан ён так і не знайшоў. Што ж, хай праз месяц-другі гэту прапажу адшукае садоўнік, які падстрыгае кусты, і ўсё сямейства Люфт яшчэ раз пасмяецца над няўдачлівым залётнікам Юліі, што так паспешна збег, губляючы рэчы. А збегчы ён вырашыў канчаткова. Ён ужо нічога не разумеў, ён нікому ўжо не верыў, ён хацеў толькі аднаго — пакінуць хутчэй гэты дом. Далей ад усёй гэтай звар'яцелай сямейкі, і чорт бы пабраў усе гэтыя разламашкі з майстрам Люфтам заадно. Як там казала Юлія? Ці выжываюць з розуму, ці трапляюць у турму? Ён цяпер быў аднолькава блізкі да абодвух варыянтаў развіцця падзей. Антон нявесяла ўсміхнуўся. За два дні, праведзеных тут, ад глыбокай павагі перад разламашкамі не засталося і следу. Цяпер гэта слова трывала асацыявалася з вялікімі непрыемнасцямі. Ён баяўся выказаць здагадку, што будзе заўтра: што вынюхаюць паліцэйскія сабакі, чый след яны возьмуць? Зрэшты, Антону турбавацца няма чаго. Адбіткі пальцаў сцерла бабуля Люфт, разламашку ў яго выкралі, ён чысты. Хай паспрабуюць штосьці даказаць! А адразу ж пасляператрусу ён адчаліць адсуль. І, можа, у школу не вернецца таксама. На чорта яму школа, ён паступаў туды з марай пра разламашкі, пра чароўныя рэчы з загадкай усярэдзіне. А кляпаць музычныя скарбонкі і без яго досыць умельцаў. Лепш ужо працаваць сантэхнікам ці таксістам, каб сумленным рамяством зарабляць на жыццё.

«З вачэй далоў гэтую дзіўную ляльку», — падумаў ён, паглядзеўшы апошні раз на пагардлівую ўхмылку паяца. Рыўком адкрыў верхнюю шуфляду тумбачкі і — здрыгануўся. Загадкава пабліскваючы зярнёнымі долькамі, у шуфлядзе ляжаў срэбны мандарын.

І, як у нядобрым перадранішнім сне, у гэтае ж імгненне за акном раздаўся залівісты сабачы брэх. Паліцыя! Так, яны, безумоўна, ведалі, што ахвяра ўжо чакае іх, цёпленькая, з падкінутым доказам.

— А вось і сабачкі, — раздаўся на калідоры бадзёры голас дзядзькі Карла. — Вырашылі не адкладваць на заўтра.

— Надакучылі ўжо, — млява адазвалася цётка Аліна. — Ізноў перавернуць мне ўсю бялізну ў камодзе.

У адно імгненне перад вачамі Антона прамільгнула ўяўленне: яго выводзяць у наручніках і саджаюць за краты. Ён уявіў шок у вачах сваіх бацькоў. Прадставіў, як прафесар вернецца з канферэнцыі, прачытае газету і скажа: «А я ж яго папярэджваў!» А Юлія ў сталовай за кубкам чаю распавядзе чарговаму дурылку, які захапіўся разламашкамі, пра сумны лёс яго папярэдніка.

Сцёршы з ілба халодны пот і ўявіўшы сабе ўсё самае горшае, Антон прыкметна супакоіўся. Што ж, яму цяпер сядзець і чакаць, пакуль сцапаюць? Ну ўжо не, дудкі. Ён пойдзе да бабулі Люфт, верне ёй разламашку і папросіць толькі аб адным: ціха выпусціць яго з дома.

Ён пастукаў, і дзверы неўзабаве адчыніліся. Мадам Люфт у начной кашулі і ўсё з тым жа залатым ключом на шыі глядзела здзіўлена і незадаволена.

— Табе чаго, сябручок? — спытала яна. — Я па начах візіцёраў не прымаю. Узрост, як бачыш, ужо не той.

— Справа ў тым, што… мадам Люфт, уласна, мне… я хацеў… — блытана пачаў Антон, запнуўся і моўчкі дастаў з кішэні срэбны мандарын.

— Божачкі мае! — сказала бабуля Люфт. Схапіла свой залаты ключ, паднесла яго да вуснаў і пранізліва засвістала, так, што ў Антона заклала вушы.

— Сюды, хутчэй сюды! Рабуюць, забіваюць, рассякаюць няшчасную жанчыну! — загаласіла яна.

— Мадам Люфт! — у роспачы прагаварыў Антон. Але было позна. Усе тут жа збегліся, быццам чакалі за дзвярамі пакояў. Мадам Клара ў бігудзі, цётка Аліна ў празрыстым пеньюары, дзядзька Карл з сетачкай на валасах, насупленая Кіра. Юлія таксама была тут, стаяла ля сцяны.

— Што, малады чалавек, не здолелі адкрыць і прыйшлі мяне катаваць ды мучыць, каб я выдала вам сакрэт? Дык вось, гэты сакрэт памрэ разам са мной! — сказала бабуля задзірліва.

— Зусім не, вы памыляецеся, я ўмею адкрываць гэтую разламашку. Я хацеў вас пацешыць і падкласці туды сюрпрыз. Толькі не паспеў.

Ён націснуў сакрэтную кнопку, і мандарын звыкла распаўся на долькі. Але пустаты не было — усярэдзіне ляжала штосьці маленькае і бліскучае. Карамелька ў глянцавай абгортцы. Яблычная карамелька…

У дзверы праціснуўся вялікі чорны сабака. Паглядзеў на ўсіх нуднымі вачамі і лёг каля пустога крэсла.

— Люфі, — Кіра ўселася на падлогу і пачала гладзіць яго. На Антона яна не глядзела, а вось ён хацеў шмат пра што яе спытаць.

— Калі ласка, прапусціце ж мяне, — раздаўся знаёмы басавіты голас, і ў пакой увайшоў паліцыянт. Той самы, вусаты і грозны, што абяцаў згнаіць выкрадальніка за кратамі. Цяпер ён выканае сваё абяцанне, зразумеў Антон. Яго сэрца плаўна спаўзло ў пяткі, перамясцілася яшчэ трошкі ды затаілася дзесьці ў мыску левага чаравіка.

Антон пакорліва працягнуў рукі, каб на іх надзелі наручнікі. Але паліцыянт гэтых рук не заўважыў. Ён бухнуўся ў крэсла і прыняўся расшпільваць кіцель.

— Тата, зрабіць табе чаю? — спытала Юлія пяшчотна.

— Лепш разагрэй чаго-небудзь паесці, — прагаварыў паліцыянт нязвыкла лагодным тонам. — Што там сёння мама на вячэру кухарыла?

— Біточкі, твае улюбёныя, — ахвотна адклікнулася мадам Клара, уцякаючы на кухню. — Я мігам!

— Пазнаёмся, сябручок, гэта і ёсць бацька тваёй нявесты, — прагаварыла бабуля Люфт, адразу страціўшы свой ваяўнічы выгляд і ператварыўшыся ва ўтульную хатнюю бабульку. — Гэта ён прабіраўся дахаты па начным садзе і быў прыняты табой за рабаўніка ці палюбоўніка адной з дам.

Паліцыянт хмыкнуў.

— Ты ўжо прабач, што мы зрабілі табе такую праверку, — працягвала бабуля. — Юлія нам вельмі дарагая, і мы не маглі аддаць яе замуж за першага сустрэчнага.

— Праверку? — перапытаў Антон, хаваючы рукі ў кішэні.

— Так, — лагодна ўсміхнулася бабуля. — Занадта шмат прайдзісветаў палюе за калекцыяй. Мы павінны былі дакладна ведаць, што ў цябе няма карыслівага інтарэсу. Мы далі табе ў рукі разламашку і паглядзелі, што будзеш рабіць далей: раскруціш яе на шрубкі…

— Прадасі за кругленькую суму, — працягнула цётка Аліна.

— Выкінеш у памыйнае вядро, — дадаў дзядзька Карл.

— Ты паводзіў сябе годна, — падсумавала бабуля. — Ты гатовы быў прызнацца ў тым, чаго не здзяйсняў, пайсці за рашотку, абы не пацярпеў невінаваты. Гэта многа значыць для нас, Антон. Мы рады прыняць у сям'ю такога чалавека. Мы благаслаўляем ваш з Юліяй шлюб.

«Вы, можа, і радыя, — падумаў Антон нервова. — Але я зусім не гару жаданнем увайсці ў вашу сям'ю. Насупраць, у мяне ёсць толькі адно імкненне — як найхутчэй апынуцца далей ад гэтага гасціннага даху. Праверку яны зрабілі, трэба ж. Гэта

ганебнасць, так здзекавацца над людзьмі. Хутчэй бы адсюль!» Яму кацела закрычаць на іх усіх і затупаць нагамі, як робяць пакрыўджаныя дзеці.

Але дом майстра Люфта не дазваляў істэрык. Самыя гадкія і непрыемныя рэчы тут было прынята казаць спакойна, ціха, з іранічнай усмешачкай. «Вы здзекаваліся з мяне, смяяліся ў мяне за спінай, выставілі мяне ідыётам. Істэрыкі ды скандалу вы ад мяне не дачакаецеся».

Ён азірнуўся на Юлію. Яна стаяла, склаўшы рукі, і глядзела ўбок з самым абыякавым выглядам.

— Ведаеце, мадам Люфт, — стрымана адказаў ён, — адбылося прыкрае непаразуменне. Я не з'яўляюся жаніхом вашай унучкі. Мы добрыя сябры, не больш. Дзякую вам за гасціннасць, але цяпер я змушаны пакінуць ваш утульны дом.

Павісла паўза.

— Што ж, выпрабаванне на вытрымку ты таксама прайшоў, — спакойна адказала мадам Люфт. — Ветлівасць і стрыманасць — важныя якасці для…

— Я паўтараю, мадам Люфт, я не кахаю вашу ўнучку і не збіраюся на ёй жаніцца! — перабіў яе Антон, напляваўшы на ўсялякую ветлівасць. Яго словы выклікалі дружны смех.

— Сябручок, ніхто і не прымушае цябе жаніцца, — прабуркатала бабуля. — Давай прысядзем, і я распавяду табе, як ідуць справы.

Гэтак жа хутка, як прыйшлі, сваякі разышліся па пакоях. Нібы тэатральная трупа па загадзе рэжысёра. Засталіся толькі бабуля і Антон, на канапе перад чайным столікам, ды яшчэ Кіра прыладзілася з нагамі ў глыбокім крэсле ды задуменна глядзела на Антона вялікімі сінімі вачамі, якіх не бывае ў прыродзе. Люфі задрамаў на дыване.

— Не сярдуй на нас, сябручок, — гаварыла бабуля, разліваючы бог ведае адкуль узятую гарачую гарбату ў напаўпразрыстыя кубачкі. — Я ведаю, што ты думаеш цяпер: ах, каты, запрашаюць у дом гасцей і здзекуюцца над імі, перадражніваюцца за спінай.

Антон злавіў сябе на тым, што згодна ківае.

«Умее загаварыць зубы», — падзівіўся ён. Бо яшчэ хвіліну назад ён ненавідзеў усё сямейства Люфтаў, а цяпер ужо не адчуваў нічога, акрамя стомленасці.

— Усе гэтыя пасткі прыдумала я, — сказала мадам Люфт, памешваючы ў кубку. Будзённа так сказала. Антон здзіўлена ўтаропіўся на яе. — Так, так, ты цяпер здзіўляешся: навошта ёй на старасці год такія несумленныя забаўкі. Так, раней у мяне былі іншыя спосабы пазабаўляцца. Мой любы муж дарыў мне разламашкі, і я павінна была разгадваць іх сакрэт, — бабуля сумна ўсміхнулася. — Але, як бачыш, сябручок, пяць гадоў таму здарылася сумная гісторыя. Майстар Люфт знік. Замкнуўся ў майстэрні, робячы чарговую разламашку, а раніцой знік, пакінуўшы замест сябе толькі гэта…

Яна дастала драўляны чорны куфар. На яго вечку стаялі чатыры чарапахі, на чарапахах — слон, а на яго спіне нейкім чынам трымалася круглая маленькая планетка. Яна круцілася ад дакранання, і ў ёй часам адкрываліся і зачыняліся шкляныя акенцы.

— Гэта яго апошняя праца. Ніхто не ведае сакрэту, нават я. Няма ні ключа, ні замочнай шчыліны. Усе кажуць, што ён памёр, патануў, знік, а я думаю: раптам ён нудзіцца пад замком усярэдзіне гэтай разламашкі? Ніхто не верыць у гэта, і мне застаецца толькі захоўваць куфар, каб ён не патрапіў у чужыя рукі.

Бабуля ўздыхнула зноў.

— Я часам чакаю, што ён вызірне з акенца. Думаеш, я звар'яцелая старая? Ён сышоў, а я засталася ахоўваць яго працы. Ніхто з сям'і не стаў мне памагатым. Нібы змовіўшыся, яны прапанавалі прадаць калекцыю і падзяліць грошы пароўну. Дзіва што, ніхто з іх не ўмеў адкрыць нават простую табакерку-разламашку, не кажучы ўжо пра такія загадкі, як кубак-невылівайка ці вечны пясочны гадзіннік. Яны не ўмелі разгадаць сакрэт — і лічылі за лепшае збыць яго з рук. Адна толькі Кіра, — бабулька пяшчотна ўсміхнулася дзяўчынцы, — сваімі спрытнымі пальчыкамі змагла адкрыць амаль усе разламашкі. Яны слухаліся яе, адчувалі ў ёй гаспадыню. Сям'я яшчэ не ведае, але ўсю спадчыну я адпісала Кіры.

Кіра сядзела пахмурная і ціхая. Відаць, яна была ў курсе ўсіх бабуліных задум. Ці не ўсіх? Антону вельмі не хацелася думаць, што і Кіра яго ашуквала.

— Яна вялікая разумніца, — ласкава сказала бабуля. — Але яна ўсяго толькі дзяўчынка, ёй будзе цяжка адной берагчы калекцыю.

Бабуля зрабіла паўзу і стала піць гарбату, нібы даўшы час Антону самому сцяміць, пра што далей пойдзе гаворка. Але ён таксама пачаў піць гарбату, чакаючы працягу.

— Ты быў бы выдатным мужам для Кіры, — пачала бабуля нечакана, і Антон папярхнуўся гарбатай.

Ён паглядзеў на дзяўчынку. Кіра сядзела, апусціўшы галаву, шчокі яе румяніліся. Але ж і Юлія днём плакала вельмі пераканаўча. Антон зноў заблытаўся. Верыць ці не? Кіра не з тых, хто любіць хлусіць, гэта ён зразумеў, але ж яе маглі прымусіць. Зрэшты, у любым выпадку, — якое гэта мае значэнне? Бо і Кіру ён не кахае, і не збіраецца жаніцца на ёй, тым больш па разліку.

— З вас атрымалася б цудоўная пара, — працягвала мадам Люфт. — Ты ствараў бы новыя разламашкі, працягваючы традыцыі майго мужа. Кіра была б адданай жонкай і захавальніцай ачага. Ты падабаешся Кіры, яна прызналася мне, што згодна выйсці за цябе замуж, — зразумела, калі дасягне паўналецця. Слова за табой. Падумай, Антон, ты станеш уладальнікам неверагоднай калекцыі. А я буду ведаць, што душа майго мілага Люфта ў надзейных руках, — скончыла бабуля сумна. І змагу памерці спакойна.

На паміраючую, зрэшты, мадам Люфт зусім не была падобная. Яна сёрбала гарбату і глядзела на Антона бліскучымі цёмнымі вачамі. Яна нагадвала яму варону. Разумную, хітрую, якая пралічыла ўсё на трыста гадоў наперад.

— Гэта вельмі кранальна, — сказаў Антон, як мог, ветліва. — Але ж, бачыце, жаніцца на калекцыі ці на яе спадчынніцы, — мне аднолькава не патрэбна. Калі я захачу жаніцца, то па зусім іншых прычынах. Прабач, калі ласка, Кіра. Ты добрая. Проста я не ўмею жыць вось так, як вы ўсе. Прадумваць хады, падстройваць пасткі, палохаць людзей і з усмешкай глядзець, як яны мітусяцца…

Ён машынальна ўзяў у рукі куфар, пакруціў у руках, адкрыў…

— Як?! Як ты гэта зрабіў? — падскочыла бабуля, і Кіра рванула да яго з крэсла, і са сну абурана забрахаў Люфі. — Ён ніколі раней не адкрываўся!

— Таму што быў замкнёны з сярэдзіны, — сказаў хтосьці сварліва. Антон падумаў, што ўжо чуў гэты голас калісьці, але калі і дзе?

— У сне, малады чалавек, у сне, — кпліва прагаварыў усё той жа голас.

Яны ўсе азірнуліся. У дзвярах пакоя стаяў майстар Люфт. Чорная камізэлька, растрапаныя сівыя валасы і мяшок новых разламашак, нядбайна кінуты на падлогу. Люфі радасна скакаў вакол старога, скавытаў, з усіх сабачых сіл віхляючы хвастом.

— Дзядуля! Я ведала, ведала, што ты не памёр! — выклікнула Кіра. Упершыню Антон убачыў, як яна ўсміхаецца, і міжволі загледзеўся. Што ні кажы, а дзяўчаты ў сям'і Люфт былі вельмі прыгожыя.

— Як бачыш, — развёў рукамі майстар Люфт. — Я падарожнічаў па іншых светах, выглядаючы часам у акенца на свой дом, пакуль вы падшуквалі мне годнага вучня. І нарэшце вы яго знайшлі!

— Што ж, з вяртаннем, — сказаў Антон стомлена. — Гэта вялікі гонар для мяне, прысутнічаць пры такой грандыёзнай падзеі. Але цяпер дазвольце развітацца. Мяне чакаюць неадкладныя справы.

Пара Люфт моўчкі глядзела на яго.

Антон выцягнуў з кішэні Кірынага паяца, працягнуў дзяўчынцы.

— Адрамантаваў? — ціха спытала Кіра.

— Не, — прызнаўся Антон. — Так і не разабраўся, з якога боку падысці да гэтай штуковіны. Не варты я быць стваральнікам разламашак, не па зубах мне гэтыя сакрэты… І ў мужы табе не падыходжу, — з усмешкай дагаварыў ён.

Кіра раптам ізноў пачырванела, і Антон са здзіўленнем зразумеў, што яна не хлусіць, ён сапраўды ёй падабаецца, і ад гэтага, як ні дзіўна, яму стала цёпла і прыемна. Напэўна, Кіра была адзіным чалавекам у гэтым доме, хто не выклікаў у яго адмоўных пачуццяў.

— Хацела б я ведаць, як можна адрамантаваць тое, што не зламана, — усміхнулася мадам Люфт. — Кіра, скажы дзякуй маладому чалавеку за тое, што ён не распароў тваю паяцу жывот і не ўставіў унутр драцінкі з батарэйкамі. Бывалі ў нас такія прэцэдэнты…

— Вось ты і прайшоў апошняе выпрабаванне. Прызнаць, што ты чагосьці не ўмееш — вельмі сумленна, — сказаў задаволена майстар Люфт. — Ужо каго я сапраўды не жадаў браць у вучні, так гэта ўсёведа, які вучыць птушак лётаць і рыбу плаваць.

— Шчаслівчык, — замілавана прамовіла бабуля Люфт. — Ты хоць разумееш, якога гонару ўдастоіўся? Ты будзеш вучнем самога майстра Люфта!

Антон стаяў разгублены. У гэтым доме з ім абышліся, як з паддоследным пацучанём. Правялі па лабірынтах, пахвалілі — «кемлівы!» — і далі цукрык ва ўзнагароду. Вось толькі Антона каламуціла ад гэтага ласунка. І ў тым, што гэта выпрабаванне апошняе, ён не быў упэўнены. Мець зносіны з людзьмі, якія так проста хлусяць, яму не хацелася.

На падлозе стаяў мяшок з разламашкамі. Там штосьці вабна паблісквала: тырчалі фасетачныя вочы, слюдзяныя крылы, віднеліся драўляныя колцы і самі па сабе пазвоньвалі нябачныя бразготкі… Разламашкі вабілі да сябе. Кіра глядзела задуменна прыгожымі сінімі вачамі. Усміхаліся старыя. А ўнутраны голас нашэптваў Антону, што спакойныя нервы значна важней за прыгожыя рэчы. І што, урэшце, не такія ўжо і дрэнныя музычныя скарбонкі…



*Яўгенія ПРАКАПЧУК*

# Я ДА СТА Ў СОТЫ РАЗ ЛІЧУ



***Яўгенія Пракапчук нарадзілася 1 жніўня 1997 года ў Брэсце. Вучаніца СШ № 3 Ганцавіч. Займаецца ва ўзорным літаратурным аб'яднанні «Верасок». Друкавалася ў газетах «Савецкае Палессе», «Заря», «Народная трыбуна». Двойчы пераможца абласнога конкурсу юнацкай паэзіі (2013, 2014), з нагоды чаго гэтай восенню едзе ў Швецыю.***

* * *

Песня хаўтурная
Сцелецца ў горадзе рэхам.
Неба расчульвае:
Шчодра адорвае снегам.

Нібы стараецца
Боль заглушыць на часіну
Не сунімаецца —
Падае ўніз з аблачыны.

Голле халоднае
Ад маразоў засланяе,
Нібы гаротнае,
Людзям ў бядзе спачувае.

* * *

Ціха зёлкамі з роснай смугой
Прытулюся да роднае хаты.
Мяне ж лічаць чужой
І завуць крапівой,
А я толькі здзічэлая мята.

Не шкадуюць маіх каранёў,
Кажуць, нібы зямля мной хварэе.
Не скажу злосных слоў,
Хоць мяне гоняць зноў,
Але рукі пячы я не умею.

То хай нішчаць і зерне, і цвет,
Покуль мара ўнутры шчэ не б'ецца!
Хай адыдуць ад бед —
У нязведаны свет
Хоць яны з неапаленым сэрцам...

* * *

Пачакаю. Злічу да ста.
Боль адыдзе. Не ўпершыню.
Мне б не ліст, дык хоць паўліста,
У адвечную вышыню.

Мне б ні песню — адзін прыпеў,
Мне б мелодыю родных слоў,
Кволы лісцік з магутных дрэў,
Сіні прыцемак вечароў.

Мне б жалобны напеў пачуць
Навальніц і глухіх завей...
Я да ста ў соты раз лічу.
Боль схаваўся ў душу глыбей…

* * *

Пакідаю абразы, згрызоты
За дзвярыма, за ўмоўнай мяжой.
І з якойсь асаблівай пяшчотай
Удыхаю дрыготкі спакой.

Пройдзе ўсё. Хваляванні, турботы
Не пакінуць у сэрцы слядоў.
Дай жа, Божа, з такою ж ахвотай
Мне заўсёды вяртацца дамоў.

* * *

Шэрае неба боль свой трывае,
У цёмныя хмары слёзы збірае.
Дыхае цяжка панурае неба,
Колкім дажджом прыпадае да глебы.
Громам вітаецца з чорнай зямлёю,
Каб недзе ў травах ажыць з цішынёю.

* * *

Імкнуцца дрэвы да нябёс.
З натугаю ўздымаюць голле.
Яны клянуць уласны лёс,
Яны шукаюць лепшай долі.

Не адчуваюць маразоў
І гнуцца пад шалёным ветрам,
Не спяць у цемры вечароў —
Іх душыць роднае паветра.

Яны з агідаю з зямлі
Выцягваюць сваё карэнне…
Не кіньце ж роднае раллі:
Знайшлі вы смерць, а не збаўленне.



*Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ*

# НАШЧАДКІ

*Апавяданне*



***Таццяна Дземідовіч нарадзілася 13 лютага 1979 года ў Брэсце. Укладальніца рэгіянальнага альманаха «Свая стыхія» і дзіцячай кніжкі «Карусель». Глыбока перакананая, што мастацкія творы павінны заўсёды пакідаць чытачу надзею на лепшае, добрае, светлае...***

Мы збіраліся адзначыць заканчэнне ўніверсітэта на прыродзе, ля возера ды з шашлыкамі, але ў Лёлькі знянацку памёр дзядуля… Лёлька з дзядулем не вельмі ладзілі… Што казаць — стары пасля інсульту! З такім чалавекам і гаварыць няпроста, а даглядаць і таго цяжэй. Сумняваюся, што смерць дзядулі вельмі засмуціла Лёльку. Хутчэй, яна была напалохана і збянтэжана. І ёй так хацелася, каб мы, лепшыя сябры, былі побач!

…У той вечар Лёлька чамусьці была ў сукенцы… Бэзавая, прыталеная, яна сядзела на дзяўчыне як на цумаўскім манекене, і я ўпершыню пазайздросціла Лёльчынай стройнай постаці.

— Ты не ў джынсах? — здзівілася я.

— Ну, як добра?! — какетліва крутнулася перада мною Лёлька. — Цяпер заўсёды буду так апранацца. Я нават валасы вырашыла адпусціць да плячэй, сталею, мяняю імідж…

Я з недаверлівасцю паглядзела на Лёльку і прамаўчала… У гэты момант я прыгадала Лёльку-першакурсніцу: яе каштанавыя кудзеркі, чысты, без макіяжу і падлеткавых вугрэй твар, сціплая сукенка да каленяў. Навошта ёй тады трэба было пад вожыка стрыгчыся? Ну якая з яе Хакамада?

Але пяць гадоў таму Лёлька ачмурэла ад нечаканай свабоды. Яна расла без бацькі і да васямнаццаці гадоў маці трымала яе ў строгасці. Лёльцы прыйшлося скончыць абрыдлую музычную школу, хадзіць на ўрокі малявання, быць прымай танцавальнага гуртка. Маці ляпіла з Лёлькі выдатніцу, а потым усе турботы адразу кінула, бо выйшла замуж за немца ў гадах і назаўсёды з’ехала за мяжу. Так дзяўчына засталася жыць з дзядулем.

Першы тыдзень Лёлька баязліва паглядвала на нашу студэнцкую кампанію, мы ж таксама не адважваліся клікаць яе да сябе. Думалі, флегматычны «сухар», дзе ёй з намі, крутымі і сучаснымі, сябраваць! Але Лёлька аказалася знаходлівай, смелай. Яна не проста стала сваёй — мы лічылі яе нашай атаманшай. Куды яна збочыць — туды і ўсе, загадзя ведаючы, што гэты шлях самы верны і кароткі….

* * *

Я прайшла следам за Лёелькай на кухню. На стале, як грыб на палянцы, з кучы зашмальцаваных падручнікаў тырчала настольная лямпа. Нізкая, на выгнутай ножцы-дроціку — поўны мадэрн! Свет балюча біў у вочы, але для кухні яго не хапала.

За сталом ужо сядзела «салодкая парачка» — Марго і Блазан. Яны сустрэлі мяне радасным воклічам…

— Саракаградуснай прынесла? — адразу пацікавіўся Блазан.

— Зараз, разбеглася… Джын-тонік будзем піць! — абвесціла я і дастала з пакета чатыры бутэлькі.

— Як ведаў! — хіхікнуў Блазан і паставіў на стол бутэльку гарэлкі. — Нядобра так, Адэля, трэба ж дзядулю памянуць, светлы чалавек быў, — прысароміў ён мяне. — Ну і ўнівер заадно трэба ўспомніць. Як жа без гэтага…

Я пакасілася на дзверы:

— А дзядуля ў зале?

— У зале… Заўтра хаваць будзем, — прашаптала Лёлька.

— Мне б хацелася зайсці развітацца, ды нябожчыкаў баюся, — выбачлівым тонам прызналася я і махнула рукой: — Эх, Блазан, налівай!

Блазан гаспадарліва працёр ручніком запыленыя на далёкіх кухонных паліцах чаркі і ўзяўся за справу.

— Пашанцавала Лёльцы — і дыплом мае, і спадчыну ад дзядулі атрымала! — прамовіў ён. — А нам вось з Марго ў бацькоў давядзецца пакуль жыць…

— Цішэй, ты! Усялякае глупства гаворыш, як маленькі, — спалохана закруціла галавой Марго і чамусьці прыкрыла далонню рот. — Дзядулю яшчэ не пахавалі…

Блазан нярэдка паводзіў сябе эпатажна. Часам і здагадацца было цяжка: сур'ёзна ён кажа ці жартуе. Але мы ведалі, што Блазан, як артыст, прымервае розныя маскі і ролі, жанглюе чужымі эмоцыямі і пачуццямі. І ўсё дзеля таго, каб прыцягнуць да сябе ўвагу, вылучыцца, здзівіць. Для яго цыркавая арэна ўзнікала паўсюль, дзе толькі можна, а публіка збіралася спантанна.

У Марго Блазан закахаўся яшчэ на першым курсе. Памятаю, як першы раз ён зайшоў у наш пакой, сеў на падаконнік і звесіў ногі з дванаццатага паверха. Уражлівай Марго адразу зрабілася кепска… Але ж, на самай справе, Блазан быў вельмі разумным чалавекам. Вучоба яго не напружвала. Чырвоны дыплом ён атрымаў, як нам здавалася, гуляючы...

— Добра пажыў мой дзед! Да дзевяноста гадоў дацягнуў, — пасля хвіліннага маўчання загаварыла Лёлька і падняла чарку: — Давайце памянем…

І мы выпілі. Блазан гучна занюхаў гарэлку лустай хлеба і аглушальна чхнуў.

— Дарэчы, анекдот па тэме ўспомніў смешны, — перавёўшы дыханне, загаварыў ён. — Карацей кажучы, прыходзіць смерць да дзеда і кажа…

— Знайшоў месца анекдоты травіць! Грэх, — раптам сыкнула на свайго любага Марго. — Хопіць!

Мы з Лёлькай таксама дакорліва заківалі.

А праз паўгадзіны ўсё роўна маладосць ды алкаголь узялі сваё. Лёлька брынкала на гітары і спявала сумныя рамансы, Блазан разбаўляў музычныя нумары анекдотамі, Марго і я пацяшаліся з Блазана і смяяліся з кожнай яго рэплікі.

Усё было б як на звычайнай студэнцкай вечарыне, калі б не Лёльчын дзядуля ў труне ў суседнім пакоі.

Мы развіталіся за поўнач… Блазан ледзь вываліўся з пад'езда. Ён зусім не трымаўся на нагах і, не змаўкаючы, штосьці балбатаў. Марго паслухмяна цягнулася за ім.



*Малюнак В. І. ПУЗАНКЕВІЧА.*

Мяне заўсёды здзіўляла яе жаноцкая вытрыманасць. Іншы раз думалася, што яна заблукалала недзе ў свеце серыялаў ды прыгожых казак пра каханне, што яна таксама, як і Блазан, гуляе. Толькі сцэнарый у яе іншы. Марго гэткая наіўная, рамантычная Беласнежка…

— Адэлька, сядай, падвязём! — як толькі яны дабраліся да машыны, прапанавала мне Марго.

— Не трэба, мне зусім блізка — праз двор і ўжо дома! — буркнула я і паслала Блазану на развітанне паветраны пацалунак.

Блазан у адказ узняў руку і цяжка, быццам мяшок з бульбай, паваліўся на сядзенне кіроўцы. Як кранулася машына, я ўжо не бачыла, бо адразу завярнула за кут дома і паскорыла крок.

* * *

На другі дзень я доўга не асмельвалася патэлефанаваць Лёльцы… З сумам назірала за капрызлівым надвор'ем і піла спехам прыгатаваную каву…

Горкая, без цукру, з агіднымі рудымі крошкамі, кава балюча апякала мае вусны…

За акном спачатку прыпякала. Сонечныя бліскаўкі падалі на паркет. Я глядзела на сваё акно і здзіўлялася: колькі ж на ім бруду ды пылу. Здаецца, на тым тыдні націрала шкло да бляску і вось…

А потым раптам цёмнымі плямамі на небе абазначыліся дажджавыя хмары і пачалася залева. Цяжкімі бруямі біла па гарачым асфальце, хвастала па кволай лістоце, па-вар'яцку скакала па дахах… Але хутка стамілася, бязгучна заплакала сляпым дажджом… І пругкія кропелькі-шарыкі павольна высыхалі на маім шкле… І я зноў падумала: «Шкло не такое ўжо і бруднае, здалося ў святле промняў, а мне ўсё ж такі неабходна патэлефанаваць Лёльцы, бо больш немагчыма так катаваць сябе».

Я па-дзіцячы заплюшчыла вочы і хутка набрала нумар.

— Гэта нам пакаранне, Лёлька! Нам усім пакаранне, — пачуўшы знаёмае «алё», я адразу зараўла ў трубку: — Не трэба было нам у той вечар збірацца… Маглі б пасля пахавання ці пасля дзевяці дзён… Якія ж мы ідыёты, га, Лёлька?!

Лёлька, мабыць, ужо ўсё ведала, таму і маўчала. Мне хацелася грукаць тэлефонам па стале, крычаць, тупаць нагамі, толькі б яна што-небудзь адказала! Я хацела пачуць, як яна ўсхліпвае, бо не магла адна гарэць у гэтым горы, бесперапынна праглядваючы ў памяці слайды ўчарашніх падзей… Тады, на паветраным пацалунку ўсё абарвалася… Вось такая дзіўная пячатка пад пратаколам нашага сяброўства…

Гэта была, як я тады думала, містычная трагедыя. У труне ляжаў Лёльчын дзядуля, у калідоры пахла ненатуральнымі кветкамі і смерцю… Я нават баялася туды зазірнуць. У пакоі, дзе пасялілася смерць, нам, жывым, здаровым і маладым рабіць не было чаго! Бо мы на другім беразе ракі, на другой старонцы, у самым пачатку кнігі. Вясна ж цяпер як ніколі радасная, ветлівая. Толькі нам яна ўсміхаецца!

— Ну, пасмяяліся крыху, Лёлька, ты чуеш мяне? І дзядуля, мабыць, любіў пасмяяцца ды пажартаваць. Дык мы шчыра суперажывалі і дзядулю памянулі як трэба. Але навошта ж ён Блазана пацягнуў за сабой? У чым грэх, га? Лёлька?

Лёлька працягвала маўчаць… Мне трэба было бегчы да яе. Думалася, што мы яшчэ штосьці зможам зрабіць: выратавальнае, важнае, цудадзейнае… Хаця б кроў здадзім для Марго. Яна ж выжыла, не звалілася следам за Блазанам у гэтую смяротную пастку. Ёй трэба хутчэй выйсці з рэанімацыі, вырвацца з пагібельнай павуціны, у яе яшчэ ёсць шанс, у яе ўсё яшчэ можа быць...

— Лёлька, якая я дурніца! Няхай Марго закаханая! Я ж магла спыніць Блазана… Ён зусім п'яны быў… Куды яму за руль у такім стане? П'яны, няголены, спацелы, але жывы! Не ведаю, Лёлька, чаму ён вось такім у маёй памяці засеў. Я хачу прыбраць гэты стоп-кадр і нічога не атрымліваецца. Галава, як пашкоджаны відэамагнітафон. А памятаеш, які Блазан быў прыгожы на апошнім экзамене — у касцюме, з кветкамі… Я тады падумала, што шчаслівая наша Марго… Добры хлопец побач з ёй… Чаго ж ты маўчыш, Лёлька?!

Мне раптам здалося, што Лёлькі на тым канцы дроту наогул няма. Што нікога нідзе няма, а вясна за акном — бутафорыя, і наш вечар — дурны сон, быццам бы я выпіла сапсаваны кактэйль і пакутую ў трызненні… А заўтра мы абавязкова ўсе будзем разам… Сустрэнемся на старым месцы ля студэнцкага кафэ…

— Лёлька, паслухай! Смерць павінна быць лагічнай. Мне страшна далей жыць, я за акно глядзець баюся, баюся пазногці на руках фарбаваць, бо мне здаецца, што мае рукі ў любы момант могуць стаць мёртвымі і нерухомымі… Вось дзядуля твой дзяцей вырасціў, вайну прайшоў, працаўніком сумленным быў… Усё здзейснілася, адбылося… Лёлька, скажы хаця б што-небудзь, давай жыць… Лёль! Калі людзі ў вайну змаглі выжыць у голад, з бядой на плячах, чаму цяпер мы мусім паміраць? — крычала я ў істэрыцы.

— Жыць?! — нарэшце глуха адгукнулася Лёлька. — Ты мне кажаш жыць?! Блазан бесталкова пайшоў і над Марго не злітаваўся… Чаму я буду кагосьці шкадаваць, чаму я так доўга баялася сказаць праўду? Я больш не магу ўсім міла ўсміхацца! Я стамілася! На-вош-та? Я хворая, Адэлька! Я цяжка хворая… У мяне СНІД. Эх, думала, першая пайду… Гэта не праклянцце, Адэля, гэта збег абставін. Ты думаеш, вайна скончылася і нам у спадчыну дастаўся «Мір, Труд, Май»? Вайна і цяпер ідзе, вайна бурліць у кожным з нас і ніхто не ведае імя пераможцы… Вораг сядзіць унутры кожнага з нас. І мы яго вырошчваем дзень за днём, і надыходзіць імгненне, калі замагацца з ім немагчыма…

— Лёлька…

Я апусцілася на падлогу і моцна сціснула тэлефонную трубку. Я гатова была разбіць яго аб сцяну, як небяспечную рэч, як перадатчык жудасных навін.

Цяпер мне стала зразумела, чаму Лёлька вырашыла змяніць свой знешні выгляд. Ёй хацелася застацца ў нашай памяці прыгажуняй… Лёлька заўсёды магла спакойна і сур'ёзна ўсё прадумаць, пралічыць наперад… І на табе!

А я думала, як жа ёй удалося так хутка забыць свайго байкера? Першае каханне ўсе ж такі, хоць і запозненае… У дваццаць гадоў першы пацалунак! Смешна…

Байкер Міхась прылятаў раптоўна ўвечары на сваім «кані», сігналіў пад вокнамі і чакаў. Лёлька адразу кідала ўсе справы, разгублена бегала па пакоях, шукала рас-

кіданыя па кватэры рэчы, хапала джынсы, красоўкі, скуранку ў бліскучых заклёпках і выбягала на вуліцу. А потым мы з Марго, стоячы ў пад'ездзе, крайком вока назіралі за тым, як закаханыя ад'язджаюць. Мы гадалі, якога ж колеру ў Міхася вочы, валасы? Які ён? Суровы ці дабрак? Яго твар заўсёды захіляў шлем…

Байкер Міхась з'явіўся ніадкуль і гэтак жа раптоўна знік. Лёлька мужна маўчала пра прычыну сваркі і расстання! Вось жа, унучка партызана…

* * *

Лёлька памерла праз пяць гадоў восеньскім дажджлівым днём… Пасля пахавання я некалькі дзён правяла за камп'ютарам: разбурала свет, страляла з кулямёта, падрывала гарады, вырывала з коранем дрэвы. Я была ўсемагутным супергероем, жыхаром камп'ютарнай стралялкі. І кожны раз, калі падала галавой уніз з абрыву, ажывала, бо была самай моцнай у плоскім прамакутніку віртуальнага акенца. Акенца, за якім нічога няма… Ні заходаў сонца, ні досвіткаў, ні дабра, ні зла… Ні-чо-га…

Мне яшчэ хацелася разбураць, ламаць, таптаць, але ўвечары адышлі воды і давялося адпраўляцца ў раддом.

— А раней прыехаць не магла? — злавалася ўрач.

Я пацiснула плячыма. Не буду ж расказваць пра камп'ютарную гульню. І пра тое, што мне ўсё роўна. Грамадзянскі муж вярнуўся да былой жонкі, Лёлькі больш няма… А што можа здарыцца яшчэ на гэтым свеце, для мяне ўжо няважна…

— Неабходна рабіць кесарава сячэнне… Другіх варыянтаў няма, — развяла рукамі доктарка.

Праз некаторы час тонкія стрэлы шпрыцоў павольна свідравалі маю спіну. Боль пацiху сціскаўся ў кропачку і, нарэшце, зусім аслабіў свае шчупальцы, заручыўшыся нерухомасцю майго цела.

Я глядзела на патрэсканую пабелку столі — як разлом ільду на рацэ… Пераступіць боязна… А што мне? Я ляжу. Мысленна вылепіла чалавечка — забаўнага, з галавой, як дзьмухавец, і бліскучымі рукамі-нітачкамі. Павяла яго па столевым ватмане да сцяны… Вось ужо і да круглага азярца насценных гадзіннікаў дабралася. Дзядок-паромшчык стрэлкай кіруе. Сядзіць у самым цэнтры, на выспачцы, і чорныя палотны сонечнымі ніткамі расшывае. А побач залатыя дываны ляжаць. Ён іх не чапае, а толькі зрэдку на выцертыя месцы паглядвае ды хітае галавой. Бязглуздзіца поўная…

— Адэля, дзеўка ў цябе! — пачулася мне ў паўдрымоце…

Я недаверліва паморшчылася. І толькі пералівістае, упэўненае «у-а, у-а» заглушыла цоканне гадзінніка. Быццам бы званочак цацачнага трамвайчыка папярэджваў аб прыбыцці новага пасажыра…

Праз некаторы час медсястра прынесла беленькі скрутак.

— Вось, паглядзі на сваю рапуху!

У малой тварык быў яшчэ добра не выцерты, як у малочнай пенцы ўвесь, а сонныя вочкі ўжо глядзелі… Дзіва!

— Божа, дзякуй, — раптам прашаптала я, а потым з крыўдай сказала медсястры: — І зусім не рапуха… Прыдумаеце ж!

І так спакойна на душы зрабілася, быццам на мяккіх крылах-аблоках ляжу, а ўсё дрэннае ды цёмнае дзесьці там, у глыбокай чорнай бездані засталося.

«Дзякуй, Божа, за шчасце такое… Будзе нам цяпер з Марго на дваіх адна радасць у жыцці! — размазваючы па твары слёзы, думала я. — Даруй нам, Божа… І Блазану, і Марго, і Лёльцы, і мне… Усяму пакаленню нашаму даруй. А то так усе павыміраем, як неразумныя маманты. А так жа хочацца жыць…»

Марыя КОБЕЦ

# А РЫФМА ТЧЭЦЦА...



**Марыя Кобец нарадзілася 19 кастрычніка 1974 года ў вёсцы Валішча Пінскага раёна. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. Калесніка. Аўтар паэтычнага зборніка «Кроплі». Пачала спрабаваць сябе ў прозе. «Маладосць» надрукуе.**

* * *

Асенні сум. Дажджынак плач.
У одуме заціхлі дрэвы.
А я прашу цябе: «Прабач,
Трывожу часам без патрэбы».

Прабач, што я ў тваё акно
Гляджу перадсвітальнай зоркай.
За тое, што тваёй даўно
Я стала праміж будняў золкіх.

У думках, мроях, нібы здань,
Тваёй хаджу я ўслед дарогай
З адной мальбой: «Дазволь мне, дай
Ў нягодах быць перасцярогай!»

Дазволь пярсцёнкам на руцэ
Мне быць, каб чуць твае далоні,
Дажджом на валасах, шчацэ —
Употай лашчыць зноўку скроні.

Ну вось! Апраўдваюся! Ў чым?
За што ж прашу я прабачэння?
За тое, што імя ўначы
Тваё шапчу, хаця сумленне

Прасуе, мучыць брыдкі тлум
І спакушае адрачыся.
…Але ж трывожыць звыклы сум:
Апраўдвацца — не развучыцца.

Даволі! Хопіць. І прабач,
Калі твой свет я зноў трывожу.
Мой лёс — спектакль, а я — глядач,
Змяніць нішто яго не зможа.

* * *

…Забяры ў мяне глебу з-пад ног.
Чуеш? Не? Ну навошта мне крылы?!

Яны мкнуць да нябесных дарог,
На зямлі — хутка страчу ўжо сілы.

На раллі колас мой не расце.
Каласіцца, ды зерня ў ім мала.
І хоць сонца купае ў расе,
Каранёў жа не мае трывалых.

І хоць звонку высокі, страмкі
(А чаму? Проста цягнецца ў неба!),
Ды не хоча — характар такі —
Каб навечна прывязвала глеба.

…Забяры ў мяне глебу з-пад ног —
І я ў хвілю адчую бязважкасць.
Уздымуся ў блакітны разлог.
Узлячу. Мне не трэба адважнасць.

Можа стацца, ўпаду — як дасць Бог.
…А пакуль — я распраўлю ўміг крылы,
І пакіну знаёмы мурог,
І сягну ў вышыню небасхілу!

* * *

Кубак склеены.
І што?
Карыстаешся.
А варта?
Ды гарчыць з яго пітво:
Ці віно там,
Ці гарбата.
Рэжа вусны даўні скол,
Ды й няўстойлівым стаў посуд.
Сорам ставіць і на стол...
Не нап’ешся з кубка ўдосталь.
Не натоліш — разальеш.
Частаваць — не пачастуеш.
Часцей вусны ўкроў свае
Зрэжаш.
Звыкла?!
Ці ж не чуеш?!
Ці ж не бачыш тое, што
Ужо даўно навідавоку.
Ставіш ў шафу — «Мо й нішто?..» —
Бокам круціш вабным воку.
Усё хаваеш скол стары —
Звычка — справа не для ўпартых.
Кубак склеены. Бяры!
Пі пітво сваё!
А варта?

* * *

Удар са спіны. Злом крыла.
Нянавісць гадаўкай уецца.
Шчаслівай?!
Ці ж калі была?
А рыфма тчэцца, ўсё-ткі тчэцца.
…Ішла.
Без пэўнага святла.
Уцехі ў дробязным шукала.
«Ткачыхай» — зроду не была,
Ды рыфму ткала, рыфму ткала.

Хоць сцежка лёгкай не была,
І фарбаў пэўных не ставала,
Я з шэрых — свой узор пляла,
і ўсё-ткі ткала, шчыра ткала.

…Хай будзе так, як Бог спаслаў.
Хай крыўда болем адгукнецца.
Удар са спіны. Злом крыла.
Хай так. Так лепей рыфма тчэцца.

* * *

…Чамусьці не бярэ віно.
І не цяплеюць штосьці рукі.
Ну што такое?.. Дно відно!..
Ну хоць бы ўзяў хто на парукі?!

Ну хоць бы хто прынёс агню!
Расклаў на мармуру падлогі!
Крычу! Я ўжо ў званы званю!
Ад золі ўшчэнт знямелі ногі!

Кілішак з чырванню іскрыць.
Мядовы прысмак стаў згарчэлым.
Світанне хутка займжыць!..
А я — у холадзе здзічэлым.

Раскрыю ў поцемкі акно!
Ў сутонне выпрастаю рукі!
Чамусьці не бярэ віно...
Але ж гучаць Арфея гукі...

*Сяргей БЕЛАЯР*

# АПАЛОН-18

## *Сцэнарый навукова-фантастычнага фільма*

***«There is no dark side of the moon really. Matter of fact it's all dark».***

«Eclipse». Pink Floyd



***Сяргей Белаяр (Мартынюк) нарадзіўся 19 красавіка 1978 года ў Брэсце. Па адукацыі гісторык. У мінулым годзе заняў трэцяе месца ў намінацыі «Малая проза» Брэсцкага абласнога літаратурнага конкурсу «Мы рождены для вдохновения» і другое месца ў літаратурным конкурсе фантастычных апавяданняў выдавецтва «Новая реальность» (Масква).***

*Месяц. Акіян Бур. Кратар Каперніка.*
*20 ліпеня 1973 года*

Падымаючы пыл, чатырохколавы транспартны планетаход праехаў яшчэ чатыры дзясяткі футаў і спыніўся. Астранаўты — камандзір «Апалона-18» Рычард Гордан і пілот месяцовага модуля Джо Генры Энгл — быццам па камандзе павярнулі галовы ў бок кратара. Сваім памерам (амаль шэсцьдзесят міль у дыяметры і глыбінёй у дзве з паловай) Капернік выклікаў павагу. Вал кратара меў тэрасападобную структуру. Тэрасы былі падзелены глыбокімі расколінамі. У цэнтры знаходзіўся комплекс пік, якія здалёк нагадвалі гарадскія разваліны, што падвергліся інтэнсіўнай бамбардзіроўцы.

На працягу некалькіх хвілін астранаўты разглядалі кратар, а затым Энгл перавёў рычаг, які размяшчаўся паміж сядзеннямі, мужчыны выбраліся з машыны. Работы было шмат: даследаванні па выкідах часціц месяцовай паверхні і па метэарытах, эксперыменты па вызначэнні электрычных уласцівасцей грунту і цеплавога струменя, геалагічных даследаваннях, вывучэнне гравітацыі і касмічнага выпраменьвання, вымярэнні ўзроўняў энергій нейтронаў і гравітацыйнага поля, пабудова сейсмічнага профіля, агляд рэгаліту… На правядзенне эксперыментаў адводзілася ўсяго тры дні.

Пасля паўгадзіннай трасяніны было прыемна зноў адчуць пад нагамі цвёрдую глебу. Гордан адышоў, дакладней, адскочыў ад планетахода на дзясятак футаў і агледзеўся, пакінуўшы ровар і кратар за спінай. Перад вачыма — несамавітая шэрая паверхня. Калі б не сляды ад падзення метэарытаў, яе лёгка можна было прыняць за пустыню Махавэ або Даліну смерці. Слізгануўшы позіркам па запыленай скарынцы, камандзір «Апалона-18» перавёў яго на Зямлю.

Выпуклы сіне-белы шар здаваўся неверагодна вялікім і вельмі яркім.

Гордан загадаў:

— Разгружаемся!

Напарнік кіўнуў, і мужчыны пачалі выцягваць інструменты і абсталяванне з планетахода. Рычард абраў прыдатную для даследванняў пляцоўку. Астранаўты перанеслі туды абсталяванне і падрыхтавалі яго да мантажу. Калі ўсё было гатова да работы, камандзір заняўся прыборамі, а пілот прыступіў да збору ўзораў парод і свідравання грунту для адбору проб. Работа ішла лёгка, і амерыканцы маглі разлічваць на тое, каб укласціся ў даволі жорсткі графік. Час ад часу Джо Генры фіксаваў панараму Месяца на стужку кінакамеры.

Праз паўгадзіны свідравання Энгл нечакана наткнуўся на нешта цвёрдае, і быў вымушаны спыніцца, выцягнуць інструмент з лункі і апусціцца на калені, каб разгледзець перашкоду. Джо Генры пачаў разграбаць рэгаліт рукамі. Рабіць гэта ў тоўстых пальчатках з нейлону з неапрэнавым пакрыццём было няпроста, таму пілот месяцовага модуля выцягнуў з сумкі айсбаль. Некалькі ўдараў — і дыяметр дзіркі пашырыўся. Джо Генры разгроб кавалкі рэгаліту і здзіўлена ўтаропіўся на прычыну затрымкі: чорнае кроплепадобнае ўтварэнне памерам з далонь дарослага чалавека.

— Сэр?

— Што, Джо? — адгукнуўся камандзір.

— Вы не маглі б падысці, сэр? — пацікавіўся Энгл, спрабуючы зразумець, што ж такое яму трапілася.

— Што ў цябе? — пацікавіўся капітан, наблізіўшыся да таварыша.

— Зірніце на гэта, сэр!

— Хм! І што гэта па-твойму?

— Не ведаю, сэр! — адказаў пілот, здымаючы артэфакт на кінакамеру.

На працягу хвіліны астранаўты глядзелі на кроплю, а затым Энгл сказаў:

— Калі вы не супраць, сэр, я хацеў бы ўзяць гэтую рэч з сабой!

— Лічыш, што яна незямнога паходжання? — з іроніяй спытаў капітан, для якога мара падначаленага — наладзіць кантакт з насельнікамі іншых планет — сакрэтам не была. За спінай Энгла называлі Летуценнікам.

— А чаму б і не? Адкуль нам ведаць, як выглядаюць іншапланецяне? — парыраваў таварыш, для якога факт наяўнасці братоў па розуме не выклікаў ніякіх сумненняў.

— Ты ж вучоны! — нагадаў камандзір «Апалона-18».

— І што?

— Як ты можаш верыць у «зялёных чалавечкаў»? — запытаў капітан. — Гэта ж лухта!

— Гэта не лухта! — з выклікам кінуў Энгл. — Ці ведаеце вы, сэр, што людзі са старажытных часоў фіксуюць факты наведвання Зямлі іншапланецянамі? У хроніках, легендах і старажытных творах захавалася нямала паведамленняў пра невядомыя прадметы правільнай формы, якія перыядычна з'яўляюцца ў нябёсах. Пра гэта пішацца ў старажытных тыбецкіх тэкстах «Кандшур» і «Тандшур», у старажытнаіндыйскім манускрыпце «Вайманіка шастра», у «Пытанні натуралізму» Сенэкі, у «Натуральнай гісторыі» Арыстоцеля, запісах Ціта Лівія, Анаксагора, Плутарха, Цыцэрона, Плінія Старэйшага, шэрагу старажытных хрысціянскіх крыніц і сярэднявечных аналах! Пачынаючы з Новага часу, з'яўленне на Зямлі НЛА фіксуецца практычна кожны год!

— Ці мала што бачаць абывацелі! — чмыхнуў капітан, які менш за ўсё хацеў працягу дыспуту.

— НЛА бачаць не толькі абывацелі!

— Не разумею, Джо, навошта ты прыляцеў на Месяц? Спадзяешся сустрэць іншапланецян?

— Чаму б і не? Шліман верыў у тое, што знойдзе Трою, і знайшоў яе! А падстаў спадзявацца ў мяне мноства! Гэта і слаістая будова спадарожніка Зямлі, і перавага ў рэгаліце тугаплаўкіх рэчываў, іх нізкая цеплаправоднасць, і адсутнасць унутранага сейсмічнага жыцця!

— Хочаш, я дапамагу табе знайсці адказ? — спытаў кіраўнік місіі, маючы намер завяршыць бессэнсоўную размову.

— Слухаю!

— Усе гэтыя так званыя неапазнаныя лятаючыя аб'екты ёсць ні што іншае, як вынік недасканалай аптычнай тэхнікі і падсвядомага жадання назіральнікаў убачыць чаканае — звышнатуральнае або матэрыяльнае! І статус астранома зусім не гарантуе поўнай аб'ектыўнасці! Тыя ж успышкі святла і мігатлівыя агні, што рухаюцца на паверхні спадарожніка Зямлі, пра якія ты прагудзеў нам з Брандо ўсе вушы, гэта толькі аптычная ілюзія! Пра якую дасканаласць тэхнікі назірання можа ісці гаворка ў 20—30 гады? Твой «ліпавы» эксперт Прайз, які заявіў пра знаходку ім на Месяцы «моста» штучнага паходжання, усяго толькі хацеў прыцягнуць да сябе ўвагу грамадскасці!



*Малюнак* ***В. І. ПУЗАНКЕВІЧА.***

— А як жа словы Гордана Купера? — нагадаў пілот месяцовага модуля. — Ён жа прызнаў, што назіраў кіраваны лятальны апарат пазаземнага паходжання!

— Глупства! Ці мала што магло прымроіцца астранаўту!

— А фотаздымкі Джэймса Мак Дзівіта?

— Дэфект фотакамеры!

— Месяц яшчэ занадта слаба вывучаны, каб сцвярджаць штосьці катэгарычна! Мы проста не можам нічога не сустрэць!

— Ведаеш, якая верагоднасць кантакту з пазаземнай формай жыцця? Амаль нулявая!

— Ну і што? Разлікі без хібнасці — не разлікі! Трэба спадзявацца і верыць! Тым больш што Месяц ужо самім фактам свайго існавання прымушае нас сумнявацца!

Энгл сеў на ўлюбёнага канька. З уласнага вопыту капітан ведаў, што гарцаваць на ім падначалены можа гадзінамі. І на Зямлі, і ў палёце, і пры прызямленні пілот літаральна трызніў сустрэчай з пазаземнай цывілізацыяй.

— Бяры, — пагадзіўся Рычард, — але перш правер дазіметрам!

Джо Генры кіўнуў, выцягнуў з торбы лічыльнік Гейгера і абследаваў кроплю, пасля схаваў дазіметр і скарыстаўся айсбалем для таго, каб выцягнуць знаходку з грунту. Здзіўляла, што ўсюдыісны пыл да кроплі чамусьці не чапляўся. Джо Генры

схаваў артэфакт ў сумку для ўзораў і працягнуў работу. Згодна з планам місіі, забор грунту трэба было праводзіць як мінімум у трох кропках, адна з якіх павінна знаходзіцца на схіле кратара Каперніка. Па гэтай прычыне пасля заканчэння свідравання і збору рэгаліту, Энгл папярэдзіў камандзіра «Апалона-18» пра тое, што спускаецца.

— Джо, давай без фанатызму! — папярэдзіў капітан. — Гэта ўсяго толькі работа!

— Я памятаю, сэр! — кіўнуў напарнік і накіраваўся да краю.

Вугал нахілу дазваляў перамяшчацца па ім без дадатковай страхоўкі.

Пілот, трымаючы свідар у левай руцэ, павольна спусціўся на два дзясяткі футаў. Затым, падумаўшы, яшчэ на дваццаць. Перасоўвацца даводзілася асцярожна, бо празмерна моцны імпульс мог адправіць астранаўта ў палёт з немалой верагоднасцю падзення. Бур увайшоў у рэгаліт, і Энгл пачаў круціць калаўрот, адзначыўшы незвычайнае паглыбленне, у верхняй частцы якога стаяў амерыканец. Вышыня сценак ямы не перавышала фута, так што збоку яна не кідалася ў вочы. Але асэнсаваць убачанае і знайсці верагодную прычыну ўзнікнення паглыблення не атрымалася — свідар раптам глыбока ўвайшоў у грунт, а праз імгненне ад лункі пабеглі расколіны. Яшчэ імгненне, і паверхня пад нагамі астранаўта разышлася…

Джо Генры не паспеў нават закрычаць, не кажучы ўжо пра тое, каб адскочыць. Маса цела разам з вагай скафандра і ранцавай сістэмай жыццезабеспячэння пацягнула астранаўта ўніз. На шчасце, падзенне доўжылася нядоўга, і ўжо праз некалькі секунд падэшвы з вогнеўстойлівай гумы на аснове фторкаўчука крануліся чагосьці цвёрдага. Амерыканцу пашанцавала, што месячная сіла цяжару была ў шэсць разоў меншая за зямную. Але сустрэча з дном усё роўна аказалася непрыемнай: па нагах быццам ударылі бітай. Даследчык не ўтрымаў раўнавагі і паваліўся на правы бок, паспеўшы прыціснуць да цела правую руку, а левай закрываючыся ад кавалкаў рэгаліту, што сыпаліся зверху.

Пілот месяцовага модуля ледзь не закрычаў ад болю, калі яму паміж рэбраў кальнула нешта вострае. Мужчына зажмурыўся і сціснуў зубы, а калі расплюшчыў вочы, то ўбачыў, як па шчытку шлема цячэ хваля дробнай мешаніны, за якой вісіць маналітная шэрая сцяна. Джо Генры не адразу зразумеў, што гэта пыл, узняты пры падзенні. Вакуум заглушаў усе гукі, і збоку тое, што адбывалася, выглядала як нямое чорна-белае кіно…

Энгл прыслухаўся да ўласных адчуванняў. За выключэннем месца ўколу, нічога не балела, рукі і ногі аказаліся цэлыя, слабасць адсутнічала. Скафандр вытрымаў, і кісларод свабодна паступаў у лёгкія. Астранаўт паспрабаваў прыўзняцца — боль у баку раздражняў. Без усялякіх намаганняў пілот месяцовага модуля сеў і дакрануўся рукой да бока. Як аказалася, прычынай болевага раздражнення была месяцовая кропля. Артэфакт прабіў не толькі брызентавую сумку, але і некалькі слаёў скафандра: вонкавы, ахоўны, са шклотканіны і з тэфлонавым пакрыццём, майларавы, цеплаізаляцыйны, герметычную абалонку з нейлону з неапрэнам, мяккую пракладку з нейлону, лёгкі суцэльнаскроены касцюм з датчыкамі для біятэлеметрыі, цудам не закрануўшы трубкі з вадой. Энгл здзіўлена хмыкнуў, бо «яйкагаловыя» сцвярджалі, што скафандр зможа вытрымаць велізарныя нагрузкі: ціск навакольнага асяроддзя, павышаную гравітацыю, перапады тэмпературы, патокі мікраметэарытаў, электрамагнітнае, інтэнсіўнае інфрачырвонае і ўльтрафіялетавае выпраменьванне, а таксама выпраменьванне ў бачным дыяпазоне... На шчасце, месца ўколу было невялікім, як след ад іголкі. Кропля прайшла паміж нітак.

Мужчына паазіраўся, аднак з-за пылу і цемры так і не змог зразумець, куды трапіў. Над галавой навісала вялізная чорная дзірка, з чатырох бакоў — сцены, адна з якіх была заслонена кавалкам месяцовай пароды, пад нагамі роўная, як дошка, падлога.

— Сэр? — усклікнуў пілот, але камандзір «Апалона-18» не адказаў. У слухаўках шумела. — Капітан? — мужчына некалькі разоў пляснуў рукой па шлеме. Мера аказалася дзейснай, шумавы фон знік, і пачулася дыханне Гордана. — Сэр?

— Чую цябе, Джо! Што здарылася? Дзе ты?

— Сэр, я зваліўся ў нейкую яму, — коратка патлумачыў Энгл. — Яна прыкладна ў сарака футах ад краю кратара.

— Не варушыся! Іду да цябе!

— Зразумеў, сэр! — запэўніў астранаўт і падняўся на ногі.

Рычард з'явіўся менш чым праз хвіліну. Да гэтага часу пылавое воблака крыху асела, так што пілот змог адрозніць белую пляму скафандра таварыша.

— Джо? — паклікаў камандзір «Апалона-18».

— Я тут, сэр! — адгукнуўся Энгл і памахаў рукой.

— Бачу цябе! Ты цэлы?

— Так, сэр! Тут невысока, усяго з дзясятак футаў!

— Зразумела! Я скіну табе трос і выцягну!

— Пачакайце, сэр!

— Што такое? — захваляваўся капітан.

— Гэтая яма вельмі падобная на памяшканне!

— Памяшканне? — здзіўлена перапытаў таварыш.

— Так, сэр! — пацвердзіў пілот і пастукаў нагой па падлозе, нібыта даказваючы сабе і Гордану, што чатыры сцяны, падлога і столь, якія паваліліся, яму не мрояцца. — І яно высечана не з каменя, а выліта з металу!

— Ты ўпэўнены? — у голасе Рычарда чуўся недавер.

— Упэўнены, сэр! Камень ад металу адрозніць я магу!

Некалькі бясконца доўгіх імгненняў камандзір «Апалона-18» асэнсоўваў словы падначаленага. Нарэшце вымавіў:

— Значыць, памяшканне... Што яшчэ ты бачыш?

— Яно пустое, сэр! — адгукнуўся Джо Генры. — Тут няма нічога, акрамя пылу, кавалкаў рэгаліту і металу… Я не магу вызначыць яго прыроду! Ён падобны на тытан з дамешкам!

— Адкуль на Месяцы тытан? — здзівіўся Рычард. — «Апалоны» яго дакладана не пакідалі. Хіба што рускія…

Павісла паўза.

Астранаўты абдумвалі сітуацыю. Канкурэнцыя паміж ЗША і СССР мела месца не толькі на Зямлі, але і ў космасе. Абедзве звышдзяржавы лічылі справай гонару заваяванне Селены. Рускія спачатку пасылалі да яе аўтаматычныя міжпланетныя станцыі, а затым і касманаўтаў. Аналагічную тактыку абралі і амерыканцы. Аднак ні Штаты, ні Саветы асаблівых поспехаў у засваенні Месяца не дасягнулі. Ва ўсякім выпадку, так сцвярджалі ў НАСА…

Першым ачуняў пілот. Энгл схаваў абломак у сумку для ўзораў і падышоў да месца, дзе была столь. Па яе рэштках можна было лёгка выбрацца з ямы — кавалкі ўтварылі лесвіцу. Метал пакрывалі расколіны і варонкі ад мікраметэарытаў. Меліся і сляды карозіі.

— Сэр?

— Слухаю цябе, Джо!

— Гэта зрабілі не рускія!

— Як цябе разумець?

— Метал не мог «сапсавацца» так моцна за такі кароткі час! — растлумачыў пілот. — Нават калі выказаць здагадку, што на Месяц першымі высадзіліся «чыр-

воныя», а не мы! Чатыры гады для тоўстага сплаву, хай і ў жорсткіх умовах, не тэрмін!

— Табе зноў мрояцца іншапланецяне? — без хітрыкаў запытаў капітан.

— Гэта адзінае разумнае тлумачэнне, сэр! Я ж казаў, што рана ці позна кантакт адбудзецца, — у голасе Джо Генры чулася ўрачыстасць. — Што мы атрымаем сведчанне таго, што не адзінокія ў Сусвеце! Аднак мне ніхто не верыў! І вось доказ! Тысячагоддзямі людзі працавалі на зямлі, асвойвалі планету, аднак ва ўсе часы іх позірк быў звернуты да неба з захапленнем і пакланеннем! Чалавецтву заўсёды здавалася, што ўсё сапраўднае, добрае і яркае павінна знаходзіцца менавіта там!

— Не будзем спяшацца з высновамі! — сказаў камандзір «Апалона-18», баючыся, што падначалены пачне скакаць, бо мара стала рэальнасцю.

— Гэта не маглі зрабіць рускія! — паўтарыў Энгл з немалой доляй крыўды ад таго, што таварыш не падзяляе яго перакананасці. — Я ўпэўнены ў тым, што лабараторны аналіз сплаву пацвердзіць мае словы!

— Паглядзім!

Джо Генры прыгнечана паківаў галавой, аднак хутка забыўся пра напарніка, бо заўважыў слабы агеньчык. Свяцілася адна з маленечкіх дзірак. Энгл падаўся наперад і зазірнуў у яе. Убачанае прымусіла даследчыка адскочыць і закрычаць:

— Кантакт!

Рычард тузануўся. Рэакцыя пілота прымусіла капітана ўсумніцца ў псіхалагічным здароўі таварыша. Падобна на тое, што эмоцыі ад палёту і пасадкі аказаліся занадта моцнымі і выклікалі пагаршэнне разумовай дзейнасці.

— Гэта кантакт, сэр! — радаваўся Джо Генры. — Можаце называць мяне вар’ятам, але гэта не схавае праўды!

— Джо, супакойся! — запатрабаваў Гордан.

— Я спакойны! — запэўніў пілот, аднак падмануць таварыша ў яго не атрымалася.

— Вазьмі сябе ў рукі! — паўтарыў капітан. — Гэта загад!

— Са мной усё о’кей! Не думайце, сэр, што я звар’яцеў! За плітой — калідор!

— Які яшчэ калідор? — не зразумеў Рычард.

— Доўгі, і ён свеціцца! — патлумачыў падначалены.

Камандзір «Апалона-18» не ведаў, што і думаць. Розум імкліва каціўся да краю прорвы. Рацыянальная частка свядомасці неадкладна схапілася за найбольш верагодную версію: рускія пабудавалі на спадарожніку Зямлі базу, на якую і натрапілі астранаўты.

— Джо, нічога не прадпрымай! — загадаў капітан. — Я спускаюся!

— Добра, сэр! Вы асабіста пераканаецеся ў тым, што я меў рацыю!

Гордан пакінуў словы пілота без каментарыяў. Капітан асцярожна спусціўся па імправізаванай лесвіцы, якая сапраўды аказалася металічнай. Джо Генры саступіў камандзіру месца.

За абваленым перакрыццем знаходзіўся падобны да кішкі доўгі праход.

Калідор меў форму выцягнутага пад вуглом у сорак пяць градусаў эліпса з трохі здушанай асновай. Памеры «кішкі» здзівілі: яны дазвалялі не толькі ісці ў поўны рост, але і ехаць на ровары, калі б астранаўты мелі магчымасць загнаць яго ўнутр.

Капітан адарваўся ад дзіркі толькі праз хвіліну. Глыбока дыхаючы, спрабуючы суняць тахікардыю. Ад хвалявання Гордана кінула ў пот: «Як рускія змаглі пабудаваць такое?»

— Цяпер вы самі бачыце, сэр, што людзі — не адзіныя насельнікі Сусвету! — настрой Энгла быў блізкі да трыумфальнага. Версію пра зямное паходжанне ходу Летуценнік адмёў.

Рычард адмахнуўся, чым справакаваў паток аргументаў на карысць іншапланетнага характару «кішкі». Іншы на месцы камандзіра даўно б патануў у словах, але капітан трымаўся, бо рацыянальная частка свядомасці не магла дапусціць думкі пра рэальнасць «зялёных чалавечкаў». Гордан не стаў казаць, як моцна надакучылі фантазіі таварыша на Зямлі і ў палёце. Навошта крыўдзіць падначаленага? Плюралізм — вось на чым стаялі, стаяць і будуць стаяць Злучаныя Штаты!

— Я прапаную даследаваць калідор, каб даказаць ці абвергнуць мае словы! — сказаў Энгл. Гордан задумаўся. Ад прапановы за мілю патыхала авантурай, але хіба найвялікшыя адкрыцці ў гісторыі здзяйсняюцца не авантурыстамі?

Ніякіх дакладных інструкцый на выпадак кантакту ў камандзіра «Апалона-18» не мелася. Толькі прадпісанне дзейнічаць па абставінах. Верагоднасць сустрэчы з іншапланецянамі на спадарожніку Зямлі кіраўніцтва НАСА разглядала як нулявую, але на ўсялякі выпадак падстрахавалася. Пілоту адводзілася роля пасрэдніка, таму на фантазіі Энгла глядзелі скрозь пальцы. Сам жа Джо лічыў сябе не пасрэднікам, а дыпламатам. Цяжка сказаць, наколькі гэта было апраўданым.

— Так і зробім! — пасля нядоўгага роздуму сказаў капітан.

Нішто не магло выклікаць у напарніка большай радасці. Мужчыны ўзяліся за пліту і сумеснымі намаганнямі ссунулі яе на некалькі футаў, вызваліўшы дзірку дастатковай для праходу велічыні. Спачатку пілот вырашыў зафіксаваць праход на кінастужку, аднак тут высветлілася, што кінакамера моцна пацярпела пры падзенні і пра далейшыя здымкі не магло ісці і гаворкі.

— Пакінь! — загадаў Рычард, вылаяўшыся ў думках.

Джо Генры паклаў камеру на падлогу.

Перш чым ісці ў калідор, Гордан праверыў яго з дапамогай эмульсійнага і тэрмалюмінесцэнтнага дазіметраў. Прыборы не паказалі нічога небяспечнага, як і партатыўны ручны вымяральнік радыяцыі, захоплены капітанам з каманднага адсека.

— Чыста! — паведаміў камандзір.

— З Богам! — выдыхнуў пілот і асцярожна ўвайшоў у праём. Нагу апусціў павольна і мякка, імкнучыся выбраць месца, дзе было менш кавалкаў рэгаліту. Як ні намагаўся Джо Генры не падымаць пыл, драбнюткія часціцы ўсё ж ўзляцелі на вышыню чатырох-пяці цаляў.

Некалькі імгненняў Энгл не адважваўся перанесці другую нагу. Выгляд трывалай, на першы погляд, падлогі яго зусім не супакойваў. Нарэшце Джо Генры сабраўся з духам і асцярожна зрабіў другі крок, пасля чаго спыніўся, гатовы неадкладна адскочыць. Нічога не адбылося — паверхня вытрымала вагу чалавека ў скафандры. На ўсялякі выпадак астранаўт пастукаў па падлозе нагой, як хлапчукі правяраюць таўшчыню лёду на рацэ. Пры гэтым пілот не адрываў позірку ад чорнай паверхні. Маніпуляцыі Энгла прывялі толькі да з'яўлення некалькіх новых пылавых аблачынак. Ні расколін, ні дзірак…

Пераканаўшыся ў тым, што падлога трымае, Джо склаў пальцы ў знаку «O'key».

— Выдатна! — кіўнуў Гордан. — Наперад!

Энгла не трэба было прасіць двойчы — пілот павольна рушыў па калідоры. Рычард пайшоў следам, слізгаючы позіркам па сценах і столі.

Калідор асвятляўся слабым матавым святлом, якое ішло нібыта з ніадкуль. Як ні імкнуліся астранаўты, але выявіць крыніцу асвятлення так і не змаглі. Ні агнёў, ні лямп напальвання, ні ядзерных, ні хімічных свяцільняў. Гарэлі самі сцены, і гэтага святла было цалкам дастаткова для таго, каб арыентавацца.

— Што думаеш? — пацікавіўся камандзір. Удакладняць, што мае на ўвазе Рычард, патрэбы не было.

— Падобна на тое, што крыніцу святла варта аднесці да біялюмінесцэнтнага тыпу, — адказаў пілот месяцовага модуля. — Акісленне паліва і награванне прадуктаў згарання, як і распад ізатопаў або дзяленне ядраў унутры сцен у такім маштабе, проста неэканамічна, якімі б невычэрпнымі крыніцамі энергіі не карысталася незямная цывілізацыя!

— Мне таксама так здаецца, — сказаў Гордан. — Вось толькі я незнаёмы з бактэрыямі, здольнымі свяціцца так раўнамерна! І як біялюмінесцэнцыя можа адбывацца без малекулярнага кіслароду? Аналізатар паказвае абсалютны вакуум!

— А калі кісларод для хемілюмінесцэнтных рэакцый падаецца праз трубкі або шлангі ўнутры сцяны? — выказаў меркаванне Энгл. — Навошта запаўняць паветрам увесь калідор, калі можна абысціся мінімальнымі выдаткамі? Не так ужо складана збудаваць сістэму цыркуляцыі нават у такіх маштабах! Тыя ж паветраныя кішэні па ККД будуць больш эфектыўныя за суцэльную напоўненасць аб’екта паветрам!

— Магчыма! — вырашыў не супярэчыць капітан, асэнсаваўшы сказанае таварышам. У словах падначаленага мелася рацыя. Навошта марнаваць рэсурс карабля на запампоўванне паветра ў пустыя адсекі, калі можна абмежавацца яго падачай у асобныя секцыі? Працаваць можна і ў скафандры.

— Праверым? — пілот спыніўся і павярнуў галаву, з загадкавым бляскам гледзячы на Гордана скрозь празрысты назіральны шчыток.

— Добра! — згадзіўся камандзір. — Толькі будзь асцярожны!

— Не хвалюйцеся, сэр! — усміхнуўся пілот. — Я ведаю розніцу паміж рызыкай і неразважлівасцю!

Энгл наблізіўся да правай сцяны. Старанна агледзеў яе, пры гэтым імкнучыся выявіць шчыліну або стык. Нічога не знайшлося. Толькі тонкія — не таўсцейшыя за лязо для галення — расколіны праз кожныя паўтара фута. Вузкія палоскі пакрывалі калідор, нібы гіганцкая спіраль. Пры ўважлівым аглядзе аказалася, што віткі да таго ж могуць пахваліцца сваёй даўжынёй: яны нідзе не перарываліся, сыходзілі наперад па калідоры, як вінтападобныя нарэзы ў канале ствала. Для таго каб пераканацца ў тым, што расколіны сыходзяць і назад, было дастаткова аднаго позірку.

Пілот здзіўлена хмыкнуў.

— Нешта не так? — удакладніў Рычард.

— Не магу знайсці шчыліны, каб раскрыць сцяну, сэр! — прызнаўся Энгл. — Яна як маналіт! Такое ўражанне, што яе адлівалі цалкам!

— Гэта ж якімі рэсурсамі і магчымасцямі неабходна валодаць, каб зрабіць такое! — камандзір не мог уявіць працэс адліўкі сцен. Карціна атрымлівалася ўражлівай.

Энгл, заняты аглядам паверхні калідора, пакінуў словы капітана без адказу.

Матэрыял столі, сцен і падлогі быў гладкім і бліскучым, без адзінага следу зваркі ці іншага спосабу злучэння. Мозг не прамінуў нагадаць, што падобная тэхніка на Зямлі не выкарыстоўваецца. І ў той жа час рацыянальная частка свядомасці нагадала пра тое, што людзі пакрываюць паверхні фарбай і тынкоўкай.

Мяркуючы па ўсім, падобная думка прыйшла ў галаву і пілоту месяцовага модуля. Джо Генры ўшчыльную наблізіўся да сцяны і пачаў вадзіць па яе паверхні пальчаткай. Стыкоўных швоў не было. Аднак Энгл не адчайваўся. Астранаўт выцягнуў адвёртку і паспрабаваў пракалупаць матэрыял. На паверхні сцяны не засталося і следу. Нібы амерыканец вадзіў па ёй не інструментам, а гумкай. Джо ўзмацніў націск, але і другая спроба аказалася няўдалай. Сцяна не паддавалася. Аднак не такі быў Энгл, каб здацца проста так. Астранаўт узяўся за адвёртку дзвюма рукамі, прыставіў наканечнік да паверхні і наваліўся на інструмент усім целам.

На гэты раз намаганні Джо Генры былі ўзнагароджаныя, вось толькі не зусім так, як разлічваў пілот. Металічны стрыжань не вытрымаў напружання і пераламаўся. Ад нечаканасці Энгл ледзь не ляснуўся шлемам аб сцяну — у апошні момант выпусціў інструмент і адскочыў. Абломкі ўпалі на падлогу і зніклі ў пыле. Джо, раззлаваны вынікам, мудрагеліста вылаяўся. Нахіліўся, для гэтага яму давялося скарыстацца сістэмай сілавога падцягвання, падняў ручку і стрыжань і сунуў іх у сумку.

— Не атрымліваецца? — пацікавіўся камандзір, таксама засмучаны асечкай.

— Атрымаецца! — запэўніў пілот.

Няўдача не збянтэжыла Энгла. Выдаткаваўшы некалькі імгненняў на выбар тактыкі, астранаўт вырашыў скарыстацца зубілам і айсбалем. Але, як ні стараўся Джо адбіць ад сцяны хоць бы маленькі кавалак, нічога не выходзіла. Метал з'язджаў са сцяны, не пакідаючы ні драпіны.

Бачачы, што Энгл гатовы змагацца да канца, капітан загадаў:

— Спыніся!

З відавочным незадавальненнем падначалены пакінуў сцяну ў спакоі.

— Хіба не бачыш, што гэта дарэмна? Нашымі інструментамі здабыць узор для аналізу мы не зможам... Што ж гэта за матэрыял такі?

Джо Генры са шкадаваннем схаваў зубіла ды айсбаль, і мужчыны рушылі далей.

Па дарозе ўсюдыіснага пылу і кавалкаў рэгаліту станавілася ўсё менш, а затым смецце зусім знікла, нібы па калідоры прайшліся з венікам і мокрай анучай. Калідор быў пустым, але не закінутым з выгляду.

Камандзір перыядычна звяраўся з паказаннямі лічыльніка Гейгера, але пакуль дазіметры небяспекі не выяўлялі. Хацелася спадзявацца, што так будзе і надалей.

Праз некалькі хвілін высветлілася, што калідор пакрываў не толькі цудоўны зігзаг, але і мноства іншых фігур: выпуклыя дэльтоіды, рамбоіды, прастакутныя трапецыі, больш за ўсё мелася правільных додэкагонаў і гексагонаў. Шматкутнікі здаваліся намаляванымі вугалем.

Астранаўты спыніліся і пачалі разглядаць паверхню.

Фігуры мелі розны памер — ад шасці з паловай цаляў да сямі футаў — і размяшчаліся без якога-небудзь парадку. Гордану яны нагадалі канфецці. Камандзір не мог растлумачыць, чаму ў яго галаве паўстала менавіта гэтая асацыяцыя. Хутчэй за ўсё, у чужым свеце мозг імкнуўся аперыраваць знаёмымі паняццямі. Крыху пазней стала зразумела, што, нягледзячы на хаос, пэўная заканамернасць у размяшчэнні фігур усё ж прысутнічала. Але зразумець гэтую заканамернасць было немагчыма.

— Што гэта? — слізгаючы позіркам па сцяне, спытаў Рычард. — Упрыгажэнне ці нешта ўтылітарнае?

— Не ведаю, сэр! — адказаў пілот. — З аднолькавай верагоднасцю гэта можа быць і тым, і гэтым! Не ведаючы псіхалогіі тых, хто стварыў падмесяцовы свет, нічога нельга сцвярджаць адназначна! Але нешта мне падказвае, што гэта — не ўпрыгажэнне!

— Чаму ты так вырашыў? — павярнуў галаву да таварыша камандзір «Апалона-18», ужо здагадваючыся, якім будзе яго адказ. І не памыліўся.

— Шмат вы бачылі размаляваных калідораў на прамысловых прадпрыемствах, сэр? Нават улічваючы тое, што мы імкнёмся падагнаць усё пад рамкі звыклага для нас, але ёсць жа агульныя для ўсіх разумных стварэнняў законы! Які сэнс упрыгожваць тэхнічныя памяшканні і пераходы, якімі карыстаюцца выключна па неабходнасці?

Рычард кіўнуў.

— Гатовы паставіць на кон паўгадовы заробак, што гэта дзверы! — выдаў сваю версію прыроды дзіўных утварэнняў Джо. Карыстаючыся маўклівай згодай капітана, пілот наблізіўся да сцяны і дакрануўся пальчаткай да аднаго з дэльтоідаў. Фігура не была патоплена ў сцяне. Яна выглядала намаляванай. Энгл правёў рукой па контуры, жадаючы пераканацца ў тым, што вочы яго не падманваюць. Стык, калі і меўся, праз тоўсты пласт нейлону з неапрэнавым пакрыццём не прамацваўся.

— Нічога, сэр! — у голасе пілота прагучала крыўда. Памятаючы, што здарылася з адвёрткай, Джо Генры вырашыў больш прыладамі не рызыкаваць, хоць жаданне стукнуць па сцяне дзюбай айсбаля было вялікім. — І ўсё ж такі мне здаецца, што гэта дзверы!

— Я гатовы прыняць тваю версію ў дачыненні да вялікіх фігур, але што рабіць з маленькімі? Яны для каго? Ці чаго?

Энгл адліп ад сцяны і развёў рукамі. Пілот выдатна разумеў, што яго здагадка «кульгае». Праверыць тэорыю практыкай астранаўты не маглі.

— Дый як гэтыя дзверы адчыняць? — ці то цікавіўся, ці то гутарыў сам з сабой камандзір. — Я нідзе не бачу ні рычагоў, ні ручак, ні кнопак!

— Можа, голасам? — выказаў меркаванне Джо.

— Гэта ў тым выпадку, калі калідор запаўняўся паветрам, — нагадаў Рычард. — У вакууме галасавое адкрыццё замка губляе ўсякі сэнс!.. Дый як крычаць у скафандры, калі пашкоджаны знешні гучнагаварыцель або астранаўт страціў голас? Не, гэтыя дзверы голасам не адчыніць... Павінен быць іншы спосаб!

На працягу некалькіх хвілін мужчыны вельмі ўважліва аглядалі сцяну ў фуце вакол выпуклага дэльтоіда, аднак ні гукаўлаўлівальнікаў, ні якіх-небудзь панэляў так і не знайшлі. Нічога не даў і агляд суседняй фігуры — двухфутавага гексагона. Сцяна была чыстая.

Заставацца на месцы не было сэнсу. Таму мужчыны рушылі далей. Памеры калідора не мяняліся. Фігур на сценах дадалося. Як і раней, у іх размяшчэнні не прасочвалася ніякай выразнай заканамернасці. Заставалася нявысветленым і прызначэнне шматкутнікаў. Мелася і яшчэ адно пытанне, якое патрабавала адказу: для чаго наогул быў патрэбны калідор?

Найбольш праўдападобнай выглядала версія выкарыстання калідора ў якасці тэхнічнага памяшкання, сумешчанага з аварыйным выхадам. Прымаючы пад увагу верагоднасць выкарыстання геаметрычных фігур у якасці дзвярэй ці тэхналагічных адтулін, гіпотэза выглядала не такой ужо і неверагоднай. Ускосным сведчаннем служыла тое, што насупраць фігур вялікага памеру меліся аналагічныя. Марнаваць час на разгадку можна было яшчэ доўга, таму камандзір вырашыў адкласці пошук адказу на потым, калі сабранай інфармацыі будзе дастаткова для вынясення канчатковага вердыкту.

Праз пяцьдзясят пяць футаў астранаўты натыкнуліся на вугальна-чорны, вышынёй у тры футы, выраст, які сыходзіў удалячынь, наколькі хапала вока. Самай правільнай аналогіяй да ўтварэння было параўнанне яго з манарэйкай. Яно нібы вырастала з падлогі. Мужчыны не бачылі нічога, што можна было б назваць штучнымі мацаваннямі фрактала.

Прайсці міма манарэйкі астранаўты не маглі — адвечная людская цікаўнасць. Мужчыны спыніліся і схіліліся над утварэннем. Доўга і пільна разглядалі яго. Гордан пашкадаваў, што камера разбілася пры падзенні. Колькі сенсацыйнага матэрыялу маглі б зняць даследчыкі! На жаль, другая камера засталася ў ровары.

— Падобна на элемент транспартнай сістэмы! — вынес вердыкт Рычард, асцярожна дакранаючыся да ўтварэння. Манарэйка была цвярдзейшай за камень.

— Праўда, — кіўнуў Энгл і паклаў на выраст рукі. Сэнс маніпуляцый пілота стаў зразумелы праз імгненне: Джо Генры перанёс вагу і адарваў ад падлогі ногі, павісшы на ўтварэнні. Гордан не заўважыў нічога, што магло б паказваць на тое, што падначалены, няхай і страціўшы большую частку масы цела, скафандра, ранцавай аўтаномнай сістэмы жыццезабеспячэння, выклікаў змяненне параметраў выраступ. Капітан не сумняваўся, што маналіт вытрымае вагу двух астранаўтаў нават пры падвышанай у некалькі разоў сіле цяжару.

Павісеўшы на манарэйцы, пілот апусціўся на падлогу і сказаў:

— Гэтая штука цвярдзейшая за бетон!

— Хацелася б мне паглядзець, што за транспарт па ёй ездзіць! — сказаў капітан.

Астранаўты пакрочылі па калідоры. Манарэйка, якая першапачаткова рассякала калідор на дзве амаль роўныя часткі, патроху сыходзіла налева і павялічвала кут нахілу адносна падлогі. Прыкладна праз паўтары сотні футаў вышыня выраступ павялічылася на тузін цаляў. Кут, які ўтваралі падлога і манарэйка, зноў склаў дзевяноста градусаў.

Мужчыны рухаліся справа ад выраступ, слізгаючы поглядамі па сценах, столі і падлозе, з-за адсутнасці камеры імкнучыся візуальна запомніць як мага больш дадзеных. На Зямлі астранаўтам давядзецца пісаць справаздачы пра місію не толькі для НАСА, але і для ФБР і ЦРУ.

Праз шэсцьдзесят ці семдзесят футаў калідор збочваў направа, з-за чаго поле зроку Гордана і Энгла аказалася рэзка абмежаваным. Астранаўты сцішылі крок. Праз некалькі хвілін манарэйка нечакана абарвалася, прымусіўшы камандзіра і пілота спыніцца. З гэтага боку выраст нічым не адрозніваўся ад таго, які бачылі Рычард і Джо Генры раней, так што ніякай новай інфармацыі мужчыны не атрымалі. Калідор сыходзіў направа занадта крута, так што астранаўты не маглі бачыць, ці ёсць далей працяг манарэйкі. Існаваў толькі адзін спосаб праверыць гэта.

— Наперад! — распарадзіўся капітан. Аднак неўзабаве Гордану і Энглу сустрэлася чарговае невыразнае ўтварэнне ў выглядзе велізарнай колькасці стрыжняў і наканечнікаў рознага памеру і вастрыні. Першыя нагадвалі зямныя сталактыты і сталагміты, але раслі яны не на столі і падлозе «кішкі», а на яе сценах. Невялікія ўтварэнні выклікалі ў камандзіра асацыяцыю з геліктытамі — яны таксама мудрагеліста скажаліся і віліся, выпіраючы з падлогі ў адвольных напрамках.

Колер утварэнняў быў вугальным з насычаным антрацытавым адценнем. Стрыжні выглядалі цямнейшымі. Адрозніваліся пікі і паверхнямі — на буйных формах яны нагадвалі крывую Коха з вышынёй фрактала ў паўтары-дзве цалі, а наканечнікі пакрывалі маленькія ўспучванні, падобныя да зубчыкаў пілы і аздобленыя геоідамі валасінкі.

Здзіўленыя ўбачаным, Рычард і Джо Генры сцішылі хаду і ўтаропіліся на пікі. Прайшло не менш за хвіліну, перш чым Гордан спытаў:

— Як ты думаеш, што гэта?

— Што заўгодна, толькі не элементы канструкцыі, сэр! — пасля невялікай паўзы адказаў Энгл і растлумачыў: — Нават для гэтага дзіўнага месца яны ненатуральныя!

Капітан быў гатовы падпісацца пад словамі пілота, бо занадта ўжо дзіўна выглядалі ўтварэнні. Яны, несумненна, не мелі ўтылітарнага прызначэння. Пікі ўтваралі частакол, прайсці праз які, не кажучы ўжо пра тое, каб працаваць сярод стрыжняў і наканечнікаў, было справай вельмі цяжкай.

— Я б аднёс іх да нацечных утварэнняў! — падзяліўся сваімі думкамі Энгл.

— Аналагічна, — кіўнуў камандзір «Апалона-18», ловячы сябе на думцы, што нават дзівацтвы творцаў падмесяцовага свету не ў стане растлумачыць з'яўлення пік і наканечнікаў у якасці арганічных частак калідора.

Утварэнні не прапускалі святло і сваёй кансістэнцыяй нагадвалі кроплепадобны артэфакт, знойдзены Энглам на схіле кратара Каперніка. Пілот нямала здзівіўся знешняму падабенству знаходкі і частаколу. Тым не менш выносіць канчатковы вердыкт Джо не спяшаўся. Вонкавае падабенства зусім не азначала ўнутранага.

— Сэр?

Пытанне не мела патрэбы ва ўдакладненні.

— Будзь акуратны! — загадаў Рычард.

Энгл кіўнуў і падступіў да бліжэйшага наканечніка, дастаючы з сумкі айсбаль. Прысеўшы ля ўтварэння, Джо перахапіў інструмент і прымерыўся да ўдару, пасля чаго размахнуўся і стукнуў айсбалем па псеўдагеліктыце. Як аказалася, яго структура не была падобнай да матэрыялу сцен. У месцы сустрэчы дзюбы і выраcту з'явілася невялікае паглыбленне.

— Паддаецца! — узрадаваўся пілот і нанёс новы ўдар — мацнейшы за папярэдні. Айсбаль адбіў некалькі мікраскапічных кавалачкаў, а вакол прабоіны з'явіліся расколіны. Ад трэцяга ўдару іх глыбіня прыкметна павялічылася. Кропку паставіў чацвёрты ўдар. Наканечнік адламаўся ад асновы і ўпаў пад ногі астранаўта.

Энгл схаваў айсбаль і падняў асколак. Па форме ён адрозніваўся ад «кроплі», а вось суадносіны памеру і масы былі такімі ж. Як і шчыльнасць. Падкінуўшы некалькі разоў на далоні кавалак псеўдагеліктыта, пілот схаваў трафей у сумку для ўзораў. Радасна заявіў:

— Я ж казаў, што гэта не частка канструкцыі!

Гордан няпэўна паварушыў пальцамі. Камандзіра больш турбавала, як прайсці небяспечны ўчастак. Нягледзячы на тое, што стрыжні і наканечнікі не выглядалі вострымі, рызыка прапароць скафандры ўсё ж была вялікай. Рычард жа, разумеючы, што без яе не абысціся, хацеў звесці яе да мінімуму.

Капітан абвёў вачыма частакол. На шчасце, лес пік аказаўся не занадта густым, інакш мужчынам давялося б вяртацца, а рабіць гэтага ні Гордан, ні Энгл не хацелі. Як і не мелі жадання рабіць у частаколе просеку. Часу і высілкаў на гэта пойдзе шмат. І дзе гарантыя, што стрыжні будуць такімі ж падатлівымі, як і наканечнікі?

Пакуль Рычард разважаў, пілот нецярпліва пераступаў з нагі на нагу. Джо Генры нават не патрабаваўся загад на тое, каб нырнуць у гушчу ўтварэнняў. Камандзір дазволіў яму рушыць у лес пік, не забыўшыся пра тое, каб нагадаць пра бяспеку. Падначалены адмахнуўся, што магло азначаць як тое, што распараджэнне прынята да ведама, так і тое, што напамін залішні. Нягледзячы на прыродны авантурызм Энгла, пілот безразважна наперад не палез. Для пачатку абраў у частаколе больш-менш свабодны ад шыпоў участак, а затым узброіўся айсбалем, каб у выпадку неабходнасці збіваць выраcты. І толькі пасля гэтага акуратна ступіў у гушчар. Прасоўвацца давялося, то нахіляючыся, то прысядаючы, то пераступаючы пікі. Збоку «шпацыр» Джо нагадваў дзівакаваты танец, але Гордану было зусім не да смеху. Рычард з замiраннем сэрца сачыў за падначаленым.

Энгл ішоў асцярожна і дакладна выконваў інструкцыі капітана, тым не менш ледзь не прапароў ранец доўгай загваздкай з сіняватым адлівам, прымусіўшы камандзіра «Апалона-18» пакрыцца халодным ліпкім потам. Папаўненне запасу кіслароду і рамонт ранцавай сістэмы жыццезабеспячэння магчымыя толькі ў месячным модулі і на караблі.

— Не хвалюйцеся, сэр! Усё пад кантролем! — запэўніў Энгл.

Юрась ЛАЎРЫК

# АДНА АРХІЎНА-ДЭТЭКТЫЎНАЯ ПРЫГОДА, або

## *Распавед пра кнігазбор, які зберагаўся ў рэкалекцыйнай келлі князёў Радзівілаў у канвенце айцоў рэфарматаў у Белай, што на Падляшшы*



Слова «гісторыя» ў перакладзе з грэчаскай мовы азначае «расследаванне» — так назваў некалі сваю кнігу Герадот, і з ягонае лёгкае рукі гэтае азначэнне сталася найменнем цэлай галіны ведаў. Праца гісторыка сапраўды нярэдка нагадвае працу следчага: доўга ідзеш «па нітцы», разблытваючы паволі вузельчыкі ды пяцелькі, — ажно даходзіш да канца, што хаваўся ў сярэдзіне клубка, і гэта напаўняе цябе радасцю адкрыцця. Часам адкрыццё бывае невялікім і некаму можа падацца нязначным, але яно заўсёды з'яўляецца залатой крупінкай новых ведаў, і гэта дазваляе табе адчуць шчасце першапраходца. Ужо не кажучы пра тое, што сам шлях да яго — гэта сапраўдная прыгода, нярэдка поўная інтрыгі ды нечаканых паваротаў. Прапанаваны нарыс нарадзіўся з жадання распавесці пра адну з такіх прыгод. А каб неспрактыкаванаму ў гісторыі чытачу было лягчэй арыентавацца ў падзеях мінуўшчыны, я буду суправаджаць свой распавед экскурсамі-тлумачэннямі пра тую ці іншую з'яву або асобу.

* * *

На пачатку гэтай «прыгоды» я займаўся вывучэннем францішканскіх бібліятэк пры канвентах розных адгалінаванняў гэтага закона, якія некалі — ад сваіх першых місій у Вільні ў XIV стагоддзі і да сярэдзіны XIX стагоддзя — дзейнічалі на Беларусі. Вышукваючы дакументы, па сваёй тэме, я шмат часу бавіў у гістарычным архіве — і трэба сказаць, не без поспеху. У прыватнасці, у вопісу 1 фонда 694 (т. зв. «Радзівілаўскага») мяне зацікавілі два дакументы (адзінкі захавання 268 і 493), якія, паводле сваіх загалоўкаў, павінны змяшчаць матэрыялы канвентуальнай бібліятэкі айцоў рэфарматаў у Бялай.

Першы з дакументаў фігураваў у вопісу пад назвай «Апісанне кніг рэфармацкага ордэна» і быў датаваны XVIII стагоддзем; другі ж меў наступны загаловак: «Бібліятэка. Спіс кніг бібліятэкі ксяндзоў Рэфарматаў у Бялай. 1736 г.». На першы погляд, гэта здавалася неверагоднай удачай, бо рэфарматы, у адрозненне ад бернардынаў ды францішканаў, не дужа цешылі сваёй увагай Беларусь, і знаходка матэрыялаў, звязаных з іх бібліятэкай, дазволіла б запоўніць шмат якія «белыя плямы» ў гісторыі айчыннай кніжнасці.

Разам з тым, радавацца не выпадала, бо тая частка радзівілаўскага архіву, што трапіла ў Мінск, паступіла ў савецкі час, калі вывучэнне дарэвалюцыйнай гісторыі, а тым больш, мінуўшчыны магнацкіх ды шляхецкіх родаў, не віталася. Адпаведна, не было і спецыялістаў, якія б добра валодалі даўняй польскай ды лацінскай мовамі і маглі кваліфікавана «апісаць» дакумент. Гэта прыводзіла не толькі да недакладнай атрыбуцыі таго ці іншага акта, але часам нават да істотных скажэнняў зместу дакумента, і мне ўжо не раз у сваёй практыцы даводзілася сустракацца з такімі недакладнасцямі і нават памылкамі. Таму мае сэнс азнаёміцца з дакументамі, а ўжо пасля гэтага рабіць высновы пра іх дачыненне да той ці іншай бібліятэкі.

Але на гэтым месцы варта перапыніцца і хаця б у агульных рысах распавесці, хто такія рэфарматы, а таксама — што з сябе ўяўляюць францішкане ўвогуле.

**ЭКСКУРС І. РЭФАРМАТЫ**

*Рэфарматы* — гэта размоўная назва адной з «семьяў» францішканскага ордэна, якая належыць да адгалінавання рэгулярнай абсэрванцыі (строгага трымання статута). Поўная назва гэтай супольнасці на лаціне — афіцыйнай мове Каталіцкай царквы: Ordo Fratrum Minorum Strictioris Observantiae Reformatorum, што ў перакладзе азначае «Ордэн (або, іначай — Закон); рэфармаваных братоў меншых найстражэйшае абсэрванцыі»; дзеля абазначэння прыналежнасці тае ці іншае асобы да гэтага закона пасля імя змяшчалася абрэвіятура: OFMRef.

*Францішкане* (гэта назва таксама размоўная) узніклі на пачатку XIII стагоддзя як рух у межах Каталіцкай царквы, які ставіў на мэце зварот да евангелічных ідэалаў, а таксама прапаганду адмаўлення ад маёмасці і імкнення ў аснову свайго жыцця пакласці любоў да бліжняга. У 1223 годзе рух аформіўся ў закон з зацверджаным Папам рымскім статутам і афіцыйнай назвай «Ordo Fratrum Minorum»; у звычайнай гаворцы яго прадстаўнікі называліся францішканамі ад імя заснавальніка — памерлага і кананізаванага Францішка з Асізу. Адной з асноўных задач закона стала змаганне са шматлікімі тады ў Заходняй Еўропе герэзіямі шляхам прапаведніцтва, як і ў створаным у той самы час ордэне дамініканаў; але калі дамінікане клалі ў аснову сваёй дзейнасці вучонасць, то францішкане рабілі акцэнт на хрысціянскай любові.

Яшчэ адной рысай францішканаў на пачатковым этапе было катэгарычнае адмаўленне ад усялякай маёмасці і жыццё за кошт міласціны: менавіта з гэтае прычыны іх (як і дамініканаў, а таксама аўгустыянаў ці кармелітаў) называлі законамі жаброўнымі, або — з лаціны — мендыкантамі.

Тым не менш, ужо пры жыцці св. Францішка адрознасць падыходаў да інтэрпрэтавання статута (regulae), пакладзенага ў аснову дзейнасці Ордэна братоў меншых, спрычынілася да з'яўлення ў гэтым законе дзвюх процілеглых плыняў: францішканаў спірытуальных і канвентуальных. Першыя імкнуліся да асабістага ўдасканалення і сціслага захавання статута. Другія схіляліся да неабходнасці паглыблення адукацыі і пашырэння душпастырскай працы, што аўтаматычна цягнула за сабой неабходнасць змякчэння пэўных статутавых патрабаванняў, а найперш, прынцыпу нішчымніцтва, бо патрэбы навучання вымагалі наяўнасці канвента (кляштара) з бібліятэкай і месцам для заняткаў; зрэшты, сетка канвентаў была неабходна і для ўсталявання больш ці менш строгай структурнай арганізацыі ордэна. Пачаткова было вырашана, што канвенты будуць

належаць не ордэну, а Каталіцкай царкве ўвогуле; аднак гэта давала толькі часовае развязанне праблемы: пакуль закон быў малалікім, а веянні часу спрыялі вандроўнаму прапаведніцтву.

Крызіс, што напаткаў Лацінскую царкву ў 2-й палове XIV стагоддзя, не мог абмінуць на той час ужо развіты ды шматлюдны францішканскі ордэн і прывёў да больш лёгкага ўспрымання брацій пунктаў статута: францішкане ўсё болей прыпадабняліся да традыцыйных законаў (напрыклад, бенедыктынаў). Разам з тым, супрацьстаянне ўсярэдзіне ордэна не перапынялася: сцяг спірытуалаў падхапілі абсэрванты, якія працягвалі іх традыцыі ў менш вострай форме. Супярэчнасці паміж абсэрвантамі і канвентуаламі прывялі да вылучэння ў 1517 годзе апошніх у асобны закон — Ordo Fratrum Minorum Conventualium.

Пасля аддзялення канвентуалаў у аднолуленым Ордэне братоў меншых спрэчкі адносна належнага выканання статута працягнуліся паміж прыхільнікамі, з аднаго боку, строгай абсэрванцыі (Regularis Observantiae), а з другога — найстражэйшай (Strictioris Observantiae). Гэта прывяло да чарговага падзелу, дзякуючы якому з'явіліся новыя законы. Абсэрванты вядомыя ў Польшчы ды на Беларусі пад назвай бернардынаў, а таксама рэфарматаў; апошнія, у адрозненне ад абсэрвантаў, далей за Падляшша на ўсход не прасунуліся: у XVIII стагоддзі яны мелі толькі два канвенты ў тагачасным Падляскім ваяводстве — у Боцьках ды Венграве, і адзін у Берасцейскім — у Белай, якую сёння мы называем Падляскай[1].

* * *

Вернемся да нашых дакументаў. Назва першага з іх у перакладзе на беларускую мову з польска-лацінскай «трасянкі» гучыць наступным чынам: «Рэестр кніг, нядаўна змешчаных у рэкалекцыйнай келлі Яснаасвечанага князя Ягонай міласці Караля Станіслава Радзівіла, князя на Алыцы, Нясвіжу, Біржах, Дубінках, Слуцку, Копылю, Клецку і графа Святое Рымскае імперыі на Міры, Шыдлаўцу, Крожах і Белай, вялікага канцлера Вялікага Княства Літоўскага, старосты Браслаўскага і г. д., у канвенце Айцоў Рэфарматаў закону св. Францішка найстражэйшае абсэрванцыі ў Белай Падляскай, што належыць Фундатару гэтага канвента»[2].

Такім чынам, арыгінальны загаловак дакумента не развейвае нашых сумненняў: паводле змешчанай у ім інфармацыі мы бачым, што незадоўга перад складаннем вопісу пералічаныя ў гэтым акце кнігі былі размешчаны ў рэкалекцыйнай келлі нясвіжскага ардыната кн. Караля Станіслава Радзівіла. Але з працытаванага загалоўка не вынікае адназначна кім гэтыя кнігі былі там змешчаны: самім фундатарам ці айцамі рэфарматамі, і каму ўласна яны належалі. Іначай кажучы, ці была гэтая бібліятэчка канвентуальная, ці ўсё ж прыватнаўласніцкая, а таксама, у які час яна збіралася і чыталася?

Прабегшы тэкст вачыма, можам сцвердзіць, што непасрэднага ўказання на ўладальніка няма. Аднак, як і ва ўсялякім іншым дакуменце, ёсць шэраг дэталей, якія могуць стаць для нас падказкамі. Дзеля гэтага неабходна ажыццявіць, як кажуць гісторыкі, «унутраную крытыку тэксту».

Напрыклад, прыпіска па-французску напрыканцы дакумента сведчыць, што бібліятэчка месцілася ў 2-х куфрах[3]. Гэты звычай, хутчэй, шляхецкі, чым кляштарны: у канвентах на той час кнігі захоўваліся ў шафах, сведчанні чаго мы неаднойчы сустракаем у актах; дый французская мова прыпіскі ўказвае на свецкую, а не на духоўную асобу. З другога боку, кнігі ў вопісу падзелены паводле фармату, у такой

[1] Актавая лацінамоўная назва Белай Падляскай — Alba Ducalis, даслоўна: Белая Княская; яна названа так дзеля адрознасці ад шматлікіх іншых мясцовасцей з падобнай назвай, што ляжалі па-за межамі ардынацыі.

[2] Regestr Xiąg Swieżo Kollokowanych in cella Recollectionis Jaśnie Oswieconego Xiążęcia Jmci Karola Stanisława Radziwiłła Xiążęcia na Ołyce, Nieswieżu, Birżach, Dubinkach, Słucku, Kopylu, Klecku y S$^{o}$ P$^{a}$ N$^{o}$ Hrabi na Mirze, Szydłowcu, Krożach y Białłej, Kanclerza W$^{o}$ W$^{o}$X$^{o}$L$^{o}$ Brasławskiego ettc Starosty in Conventu PP$^{m}$ Reformatoru$^{m}$ ordinis S. Francisci strictioris Observantiae Albae Ducalis Fundatoris Eiusdem Conventus. (Тут і далей усе загалоўкі і цытаты падаюцца з захаваннем правапісу арыгінала).

[3] «Ces unis Derniers livres se trouvent dans les deux coffres…»

паслядоўнасці, як яны ў той перыяд — у XVII — 1-й палове XVIII стагоддзя — зазвычай прысутнічаюць у кляшторных інвентарах. Дый раздзелы каталога азагалоўлены на лаціне, што пераконвае нас пра ўдзел канвентуальнага бібліятэкара ў яго складанні. Праўда, той бібліятэкар мог заінвентарызаваць і княскі кнігазбор, які захоўваўся ў канвенце, — сам удзел ні пра што не сведчыць...

А ці не падкажа нам што-небудзь зместавы і моўны склад бібліятэчкі? Бадай, не, бо месца яе размяшчэння — рэкалекцыйная келля. Зразумела, што літаратура там павінна быць, перадусім, рэлігійная. Але ўсё ж прыгледзімся да пералічаных у вопісе кніг, бо нам жа цікава, што чыталі Радзівілы.

Кнігі падзелены на тры часткі паводле фармату: *Libri in Folio* («Кнігі ў аркуш» — крыху большыя памерам за цяперашні фармат паперы А4), *Libri in majori Folio* («Кнігі ў вялікі аркуш» — аграмадныя «таміны», якія сёння гісторыкі завуць «фаліянтамі»; іх можна суаднесці з сённяшнім фарматам А3, а часам і з А2 ), *Libri in Quarto et Minori Folio* («Кнігі ў чвэрць аркуша і ў малы аркуш» — дыяпазон сённяшніх фарматаў А і В ад 5-га памера да 4-га). Напрыканцы дакумента іншай рукой дададзены спіс яшчэ з пяці тытулаў без указання фармату. Як бачым з загалоўкаў раздзелаў, тут прысутнічаюць толькі кнігі вялікага або сярэдняга фармату, прызначаныя для чытання за сталом або пюпітрам. Таму гэта, зразумела, не паходная бібліятэчка.

Як мы і чакалі, у вопісу прадстаўлены кнігі, пераважна, рэлігійнага зместу. Гэта творы духоўнага і маральна-выхаваўчага характару: рознага роду зборнікі казанняў, пабожных рэфлексій, духоўных практыкаванняў і да т. п.; зрэдку можна сустрэць літургічна-малітоўную літаратуру (напрыклад, «Парадак штодзённага набажэнства» або некалькі выданняў «Рымскага брэвіяра»). Згадкі свецкіх кніг у рээстры маюць адзінкавы характар, напрыклад, «Кнігу па матэматыцы».

Рэлігійная літаратура, перадусім, прадстаўлена творамі езуітаў (не менш за 70 назваў), што цалкам зразумела, паколькі на той час кнігі прадстаўнікоў гэтага закона масава выходзілі з друку і карысталіся вялі-

**Прыпіска па-французску напрыканцы дакумента сведчыць, што бібліятэчка месцілася ў 2-х куфрах. Гэты звычай хутчэй шляхецкі, чым кляшторны: у канвентах на той час кнігі захоўваліся ў шафах**

кай папулярнасцю ў рэлігійна заангажаванага чытача. Поруч з імі ў заўважнай колькасці прысутнічаюць творы, якія рэпрэзентуюць францішканскую духоўнасць (не менш за 19 выданняў), відаць, айцы рэфарматы ўсё ж мелі пэўны ўплыў на фарміраванне згаданай бібліятэчкі. Верагодна, гэты ўплыў праявіўся таксама і ў камплектаванні яе творамі блізкіх па духу рэфарматам аўгустыян-ерамітаў (не менш за 8 выданняў).

Сярод згаданых у вопісе імёнаў можна назваць папулярных у той час замежных і айчынных аўтараў як Ігнат Лаёла, Пётр Скарга, Францішак Сальскі (Салезі), Антон Шырма, Тамаш Младзяноўскі, Адаль-берт Тылькоўскі, Ян Кваткевіч, Гаспар Дружбіцкі, Аляксандр Даўгяла, Амбражэй Нешпаркоўскі, Антон Венгрыновіч і іншыя. Характэрна, што ў рээстры прысутнічаюць творы прадстаўнікоў княскага роду: славутая «Пэрыгрынацыя» Мікалая Крыштапа Радзівіла ды творы Альбрыхта Станіслава Радзівіла, які лічыў сябе духоўным пісьменнікам.

З прычыны пашыранага ў XVII—XVIII стагоддзях звычая даваць польскамоўным кнігам лацінскія назвы, а таксама з-за лаканічнасці бібліяграфічнага запісу ў нашым рээстры, не заўсёды існуе магчымасць адназначна выказацца наконт мовы таго ці іншага выдання. Тым не менш, можна меркаваць, што лацінамоўных твораў у вопісе крыху больш за палову. Кнігі на польскай мове прадстаўлены не менш як 90 выданнямі; некаторыя з іх — гэта пераклады з французкай ды іншых моў. Прысутнічаюць і тры выданні на італьянскай мове, прычым, у адным выпадку нават адмыслова пазначана, што дадзеная кніга — «po Włosku».

Усяго першы раздзел рээстра змяшчае 24 пункты, другі — толькі 8 (праўда, тут прысутнічае памылка складальніка ў нума-

**Бібліятэчка мусіла належаць пабожнаму «Юстусу», а не авантурнаму «Пане каханку», які лепей умеў пісаць кулямі, чым пяром. Але мы не можам кіравацца толькі павярхоўнымі ўяўленнямі**

рацыі: насамрэч запісана 9 кніг), трэці — 158 (і тут мы бачым памылку ў нумарацыі: насамрэч паказана 159 тамоў). З улікам дададзенага пазней спісу з 5-ці кніг агульная велічыня фонду бібліятэчкі дасягала амаль дзвюх соцень тамоў.

Аднак напрацягу існавання бібліятэкі колькасць кніг не заставалася нязменнай. Пра гэта сведчаць дапіскі іншай рукой напрыканцы асобных раздзелаў і рэестра ў цэлым, а таксама зробленыя на палях рукапіса падчас некалькіх зверак фонда каментарыі і пазначэнні наяўнасці або адсутнасці таго ці іншага выдання. У сувязі з актуальным для нас пытаннем пра прыналежнасць кніг менавіта каментарыі — назавём іх «рэплікамі рэвізора» — набываюць надзвычайную важнасць, бо дапамагаюць нам знайсці адказ.

Справа ў тым, што менавіта ў гэтых рэпліках і праглядаецца права аўтара запісаў распараджацца кнігамі; таксама відаць і тое, што некаторыя з пералічаных назваў адсутнічаюць, бо атрыманы ў дарунак рэфарматамі: «te [xiążkę] darował**em** Reformatom Bialskim» («гэтую [кнігу] **я** падараваў бельскім рэфарматам»), «donatum Patribus S. Francisci Reformatis Albae Ducalis» («падаравана рэфармаваным айцам Св. Францішка ў Белай Падляскай»). Гэтыя запісы дазваляюць нам зрабіць выснову, што апісаныя ў акце кнігі належалі не канвенту, а ардынату — згаданаму ў загалоўку князю Каралю Станіславу Радзівілу.

Такім чынам, адна з мэт дасягнута: мы даведаліся, што гэтая бібліятэчка паводле свайго характару не кляшторная, а прыватная і належала аднаму з Радзівілаў; аднак не будзем на гэтым спыняцца. Адсутнасць даты на дакуменце ставіць перад намі чарговае пытанне: хто з’яўляецца ўладальнікам бібліятэчкі? Які з Караляў Станіславаў Радзівілаў згадваецца ў загалоўку акта?

Справа ў тым, што ў Нясвіжы было два ардынаты з такім імем: 1) славуты з прычыны эксцэнтрычнасці сваіх паводзін Караль Станіслаў Радзівіл «Пане каханку» (1734—1790), і 2) ягоны дзед, значна менш вядомы шырокаму чытачу — Караль Станіслаў Радзівіл «Юстус» (1669—1719). Калі грунтавацца на вобразах гэтых асоб, што прысутнічаюць у літаратуры (як мастацкай, так і навуковай), то пытанне здаецца нескладаным: нашая рэлігійная бібліятэчка мусіла належаць пабожнаму і закаханаму ў Белую «Юстусу» (што, да слова, азначае на лаціне «Справядлівы»), а не авантурнаму «Пане каханку», які лепей умеў пісаць кулямі, чым пяром. На першы погляд, так… Але мы не можам кіравацца толькі павярхоўнымі ўяўленнямі пра тую ці іншую асобу, мы павінны знайсці больш пераканаўчыя аргументы.

Прыгледзімся да складу бібліятэчкі: яна адрозніваецца ад традыцыйных кнігазбораў лацінскіх кляштараў прысутнасцю ў ёй заўважнай колькасці твораў грэка-каталіцкіх аўтараў (Іпацін Пацея, Якуба Сушы, Дзяметра Занкевіча), а таксама і праваслаўных (Янікій Галятоўскі). Такая акалічнасць сведчыць пра зацікаўленне ўладальніка бібліятэчкі Усходняй царквой, што, зноў жа, ускосна паказвае на кн. Караля Станіслава Радзівіла «Юстуса» — гарачага прыхільніка ды пратэктара базыльянаў, які спрыяў іх з’яўленню ў Белай. Але і гэта — толькі ўскоснае сведчанне, якое сілы паўнавартага доказу не мае; таму не будзем спяшацца з высновамі.

Найпрасцейшым шляхам было б высветліць прыкладны час стварэння дакумента на падставе філіграней, якія зазвычай можна бачыць на старой паперы. Да XIX стагоддзя папера выраблялася ручным спосабам: паасобныя аркушы адліваліся ў прастакутных формах з сітавым донцам, і майстры, каб вылучыць сваю прадукцыю, часта прымацоўвалі да гэтага донца скручаную з дроту выяву-сімвал. У гэтым месцы слой папяровай масы атрымліваўся танчэйшы, і пасля высыхання аркуша на свет можна было ўбачыць т. зв. «вадзяныя знакі»: «сетку» з вертыкальных ды гарызантальных ліній (якія навукоўцы называюць на французскі манер

«вержэрамі» ды «панцюзо») і сюжэтныя малюнкі-філіграні.

Сёння існуе вялікая колькасць укладзеных спецыялістамі альбомаў філіграней, таму датаванне дакумента на папяровым носьбіце пры дапамозе такога каталога з'яўляецца адным з найбольш частых і надзейных спосабаў. Вось толькі ёсць праблема: філіграні на паперы могуць і адсутнічаць. Напрыклад, як на большасці кніг, выпушчаных Скарынам. Такім чынам, пытанне ўсё яшчэ не знаходзіць адказу. Што ж, будзем шукаць далей…

Перачытаем дакумент яшчэ раз, але ўжо з іншай мэтай: можа, якая-небудзь дэталь у тэксце здольна падказаць нам час, калі акт пісаўся? У загалоўку Радзівіл названы фундатарам, ці дае нам гэта хоць штосьці? Бадай, не, бо фундатар не абавязкова з'яўляецца заснавальнікам: надаць фундуш можна і ўжо існаму манастыру, а архіўныя акты часта называюць фундатарам не толькі ахвяравальніка, але і ягоных нашчадкаў. Акрамя таго, вядома, што айцы рэфарматы былі ў Белай ужо нават пры бацьку «Юстуса» — Міхале Казіміры, які збудаваў ім касцёл.

Але вось яшчэ адна нітачка, за якую мы можам «пацягнуць»: у загалоўку дакумента мы бачым сярод пераліку ўладанняў Слуцк і Копыль, а таксама Біржы і Дубінкі — тыя мясцовасці, што ўваходзілі ў склад «нойбургскіх маёнткаў», якія канчаткова адышлі да нясвіжскай лініі Радзівілаў толькі ў 1744 годзе. Ці ж не ўказвае такі факт на «Пане каханку» як уладальніка бібліятэкі? Каб гэта высветліць, выпадае больш дэталёва азнаёміцца з калізіямі валодання «нойбургскімі маёнткамі».

## ЭКСКУРС II: «НОЙБУРГСКІЯ МАЁНТКІ»

*«Нойбургскія маёнткі»* — гэта спадчынныя землі, што па смерці Багуслава Радзівіла ў 1669 годзе перайшлі да ягонай дачкі Людвікі Караліны, а з часам сталі «яблыкам раздору» паміж дзвюма родамі Вялікага Княства Літоўскага — Радзівіламі і Сапегамі.

Гэтыя ўладанні ўключалі Слуцкае і Копыльскае княствы, Себежскае і Невельскае графствы, Копысь, Койданава, Біржы, Дубінкі, Заблудаў і іншыя маёнткі. Людвіцы Караліне было вызначана 12 апекуноў, сярод якіх ці не найпачэснае месца займаў электар[1] брандэнбургскі і князь нойбургскі Фрыдрых Вільгельм Гагенцолерн, адзін з прэтэндэнтаў на польскі каралеўскі пасад, кандыдатуру якога падтрымлівалі і Радзівілы, і Сапегі. Уласна ж род Радзівілаў быў прадстаўлены сярод апекуноў Міхалам Казімірам — згадваным намі вышэй бацькам «Юстуса».

Дзякуючы намаганням Фрыдрыха Вільгельма, Людвіка Караліна на пачатку 1681 года выйшла замуж за Людвіка Гагенцолерна, прыносячы яму ў пасаг абшырныя ўладанні біржанскай лініі Радзівілаў. Шлюб, аднак, пратрываў нядоўга, бо праз шэсць гадоў Людвік памёр ад тыфусу.

Нацэльваючыся, відаць, на радзівілаўскую спадчыну, пачаў сватаць Людвіку Караліну за свайго сына Якуба кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ян III Сабескі. Была нават падпісана ўмова пра страту Радзівілоўнай згаданых маёнткаў у выпадку, калі раптам яна перадумае і адмовіцца ад заручын. Як сапраўдная жанчына, Людвіка Караліна неўзабаве змяніла думку і ўжо ў жніўні 1688 года выйшла замуж за князя нойбургскага Караля Філіпа. Тым не менш, зракацца радзівілаўскіх латыфундый яна не пажадала, хоць Ян Сабескі і імкнуўся спагнаць «няўстойку».

Людвіку Караліну падтрымалі Сапегі, яе сваякі па жаночай лініі, якія на той час здабылі ў Вялікім Княстве амаль неабмежаваны ўплыў. Адзін з правадыроў роду — вялікі гетман літоўскі Ян Казімір Сапега — хоць і быў некалі праціўнікам шлюбу Радзівілоўны з Людвікам Гагенцолернам, цяпер прыняў бок сваячкі і заняў спрэчныя ўладанні сваім войскам.

Ян III Сабескі імкнуўся дзейнічаць як дыпламат, стараючыся дасягнуць сваіх мэт шляхам права і палітыкі; зрэшты, гэта далёка не заўсёды яму ўдавалася. Напрыклад, атрыманая каралём пастанова рады сенату, якая прызнавала за ім права апекі над «нойбургскімі маёнткамі», была аспрэчана Сапегамі ў Трыбунале Літоўскім, дзе гетман атрымаў рашэнне на сваю карысць.

З таго часу як Сапегі перайшлі ў апазіцыю да каралеўскага двара, Ян Сабескі ў сваёй «вялікалітоўскай» палітыцы пачаў абапірацца на Радзівілаў, зрабіўшы стаўку на свайго пляменніка па сястры Караля Станіслава «Юстуса». Апошні адыграў ролю і ў «нойбургскіх справах», калі пасля смерці Людвікі Караліны ў сакавіку 1695 года

[1] Электар — адзін з членаў Электаральнае Рады, якая выбірала імператара Германскай Святое Рымскае імперыі; апрача маркграфа брандэнбургскага ў Раду ўваходзілі арцыбіскупы Майнца, Трыра і Кёльна, а таксама пфальцграф рэйнскі, герцаг саксонскі і кароль Багеміі.

выступіў як прэтэндэнт на спрэчныя маёнткі, хоць паводле закона большае права на іх мелі Сапегі.

З гэтага моманту распачалося бурнае доўгатрывалае змаганне паміж Сапегамі і Радзівіламі за «нойбургскія маёнткі». Доўжылася яно з пераменным поспехам ажно да 1744 года. Да часу, пакуль не было знойдзена агульнапрымальнае рашэнне, і «нойбургскія маёнткі» нарэшце перайшлі канчаткова да Радзівілаў пад умовай выплаты зацікаўленым асобам кампенсацыі.

Такім чынам, мы і на гэты раз павінны канстатаваць, што «след» ложны: паколькі ўжо Юстус прэтэндаваў на «нойбургскія маёнткі», то ён, натуральна, павінен быў пералічваць сярод іншых валоданняў у сваім тытуле — а значыць, іх прысутнасць у загалоўку дакумента нам нічым не дапаможа.

Паколькі на гэтым этапе мы не можам даць адназначнага адказу на пытанне пра асобу ўладальніка бібліятэчкі, то адкладзём першы дакумент і прыгледзімся да другога.

* * *

Гэты другі дакумент, згаданы намі на пачатку артыкула, уваходзіць у склад архіўнай адзінкі захавання, што змяшчае некалькі спісаў кніг. Гэтыя спісы, хоць і звязаны з фундаванымі Радзівіламі кляштарамі, аднак паходзяць з рознага часу і розных месцаў. Акт, які нас цяпер цікавіць, з'яўляецца вопісам, вынятым з нейкага інвентара і ўкладзены ў вокладку з загалоўкам на польскай мове: «Бібліятэка[, што знаходзіцца] у айцоў Рэфарматаў бельскіх. Тут таксама і малая польская Бібліятэка Яснаасвечанай Княжны Яе міласці Дабрадзейкі Канцлеравай Вялікай Вялікага Княства Літоўскага. Месяца верасня 1736 падчас рэвізіі ў Белай»)[1]. Новая вокладка была далучана да дакумента пазней. Лацінская літара «Н», якой пазначаны раздзелы вопісу, паказвае, што ён пачаткова з'яўляўся часткай абшырнага інвентара. Трэба думаць, менавіта згаданай верасьнёўскай рэвізіі 1736 года ў радзівілаўскім маёнтку Бяла.

З загалоўка на вокладцы вынікае, што дакумент складаецца з дзвюх частак: 1) апісання пэўнага кнігазбору, што знаходзіцца «ў айцоў рэфарматаў у Бялай», і 2) «малой польскай бібліятэчкі Яснаасвечанай княгіні». І сапраўды, на другім аркушы другой часткі прысутнічае цытаваны намі загаловак першай часткі, але па-французску: «Bibliotheque des Livres de chez les R. R. P. P. Reformez»; а на дзявятым аркушы — загаловак другой часткі ў крыху змененым варыянце: «Bibliotheque Particuliere de son Altesse Composée des livres Polonais Spirituels et d'atres» («Асобная бібліятэчка Яе высокасці, складзеная з польскіх духоўных і іншых кніг»).

Прыгледзімся да кнігазбору, што захоўваўся «ў айцоў рэфарматаў у Бялай». Гэты дакумент пацвярджае зробленую намі раней выснову адносна прыналежнасці ўключаных у яго кніг да прыватнай бібліятэкі аднаго з ардынатаў: па-першае, фармулёўка загалоўка ўказвае на тое, што паказаныя тут кнігі захоўваліся «ў айцоў рэфарматаў», а не належалі апошнім; па-другое, гэты вопіс адрозніваецца ад іншых інвентароў канвентуальных бібліятэк таго часу, тым, што: а) усе звесткі па-за непасрэдным апісаннем кніг пададзены па-французску (гэтая асаблівасць збліжае яго з шэрагам іншых вопісаў радзівілаўскіх кнігазбораў XVIII стагоддзя, што захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі), б) пры бібліяграфічным апісанні паасобных кніг у ім падрабязна ўказаны выходныя дадзеныя, што ў кляштарных інвентарах можна сустрэць не так часта.

Кнігі ў рэестры падзелены на 4 асноўныя раздзелы паводле зместу і мовы: *Numero 1. Livres Spirituels en Latin*, *Numero 2. Continuator des Livres Latins et Spirituels de chez les R. R. P. P. Reformez*, *Numero 3$^{tio}$. Livres Polonais Sacre et Spirituels de chez les R. R. P. P. Reformez*, *Numero 4. Continuation des Livres Precedens Polonais*. Загалоўкі і апісанні кніг са страчанымі тытульнымі аркушамі пададзены па-французску. Першы раздзел змяшчае 31 пункт, другі — 53, трэці — 30, і чацвёрты — 51; такім чынам, у вопісу паказана 165 кніг. Змены колькасці кніг у гэтым вопісе не фіксаваліся.

[1] Bibliotheka u O. O. Reformatow Bialskich. Tuż y mała Biblioteka Polska JO Xiężney Jmci Dobrodz[ieyki] Kancler[zyney] W WXL. Mens: sbris 1736 przy rewizyi w Białej.

Параўнанне вопісаў з першага і другога дакументаў паказала, што яны ў значнай ступені звязаны між сабой, прычым супадзенне большасці пунктаў выразна прасочваецца нягледзячы на адрознасць падыходаў да складання бібліяграфічнага запісу ў гэтых двух актах. У прыватнасці, з прысутных у другім вопісу 165 пунктаў нам удалося атаясаміць 162 з аналагічнымі апісаннямі ў першым рэестры; прычым, існуе верагоднасць, што з астатніх трох кніг некаторыя таксама могуць значыцца ў першым дакуменце пад іншымі назвамі.

Напрыклад, у раздзеле «Нумар 2» другога вопісу паказаны дзве кнігі на італьянскай мове. Адна з іх («L'Officio di Maria Virgine Madre di Dio») супала з выданнем, прысутным у першым рэестры. Другая ж запісана як «La Sacro Sancto Casa di Nazaret», прычым, адсутнічаюць імя аўтара і выходныя звесткі; для дадзенага вопісу такая лаканічнасць не вельмі характэрна, таму можна меркаваць, што яна абумоўлена стратай тытульнага аркуша. У гэтым выпадку бібліёграф, апісваючы кнігу паводле ацалелага авантытула, мог зафіксаваць у вопісе не сапраўдны тытул, а паралельную назву ці загаловак першага раздзела.

Звернем увагу, што ў першым дакуменце мы знаходзім выданне на італьянскай мове пад назвай «Le Glorie Maestose del Sanctuario di Loreto». Паколькі святыняй санктуарыя ў Ларэта з'яўляецца домік, у якім, паводле падання, жыў Ісус Хрыстос, і які быў перавезены з Назарэта купцамі Анжэлі, то можна дапусціць, што на авантытуле кнігі значылася: «La Sacro Sancto Casa di Nazaret», і мы маем справу менавіта з названым выданнем. (На жаль, сёння ў фондах навуковых бібліятэк і музеяў Рэспублікі Беларусь гэтая кніга адсутнічае, таму праверыць здагадку на практыцы не ўдалося.)

Таму амаль поўнае супадзенне выданняў другога інвентара з кнігамі, прысутнымі ў першым, не можа быць выпадковым; яно сведчыць пра тое, што мы маем справу з двума вопісамі аднаго і таго ж кнігазбору, складзенымі ў розны час. Адсутнасць некаторых выданняў у адным спісе і прысутнасць іх у іншым паказвае страты або набыткі бібліятэкі за перыяд, што прамінуў паміж стварэннем гэтых двух актаў. А каб

**Да XIX стагоддзя папера выраблялася уручную: аркушы адліваліся ў прастакутных формах з сітавым донцам, і майстры, каб вылучыць сваю прадукцыю, прымацоўвалі да донца скручаную з дроту выяву-сімвал**

даведацца, ці маем справу са стратамі ці з набыткамі, неабходна высветліць, які з дакументаў з'явіўся раней.

У першым з разгляданых актаў фігуруе на 32 пункты болей, чым у другім. Прыкладна 30 % з гэтых кніг не прайшлі ўжо адну з першых зверак наяўнасці і маюць прыпісаныя побач рэвізорам заўвагі адносна прычыны іх адсутнасці ў фондзе («ta Xięga wzięta do zamku», «te darowałem Reformatom Bialskim» і да т.п.). Паколькі ніводнае з пазначаных падобным чынам выданняў у другім рэестры не згадваецца, можна зрабіць выснову, што першы вопіс (адз. зах. 268) з'яўляецца храналагічна больш раннім і пачаткова змяшчаў кнігі, якія з часам з фонду выбылі, а таму ў другі вопіс ужо не патрапілі. Гэта значыць, што згаданы інвентар паходзіць з перыяду да 1736 гада і цяпер ужо адназначна паказвае на кн. Караля Станіслава Радзівіла «Юстуса» як на збіральніка разгляданай бібліятэчкі (бо «Пане каханку» нарадзіўся толькі ў 1734 годзе).

Зрэшты, дзякуючы падрабязнасці бібліяграфічнага запісу ў вопісе з 1736 года мы маем магчымасць прааналізаваць гады выхаду прысутных у ім выданняў і прыкладна высветліць час з'яўлення кнігазбору. Безумоўна, дата выхаду таго ці іншага выдання не дазваляе нам катэгарычна выказвацца адносна часу паступлення яго ў бібліятэчку, бо мусім памятаць пра «залеглясць» выданняў на складах, а таксама пра разнастайнасць спосабаў камплектавання, якія, акрамя закупкі новых кніг, могуць уключаць дарункі, набыццё і да т. п. Больш таго, выходныя дадзеныя пазначаны не на ўсіх змешчаных у інвентары кнігах, што не дазваляе атрымаць цэласнай карціны.

Тым не менш, аналіз звестак пра час выхаду кніг можа даць нам агульнае ўяў-

ленне пра час фарміравання бібліятэчкі, а таму згрупіруем іх паводле гадоў выпуску. У 1605, 1610, 1616, 1617, 1620, 1624, 1633, 1635, 1645, 1646, 1649, 1654 і 1662 выйшла па адной кнізе, а за гады 1664—1668 не пазначана ніводнага выдання. У 1669 ды 1670 гадах выйшла па адной кнізе, за 1671 — зноў ніводнай, у 1672 — ажно 3, а ў 1673 ды 1674 гадах — зноў па адной, пасля чаго бачым перапынак ажно да 1679 года.

З наступнага года, кнігі пачынаюць паступаць бесперапынку («пустым» аказваецца толькі 1689 год): так, 1680 годам пазначана 2 кнігі, 1681 — 2, 1682 — 2, 1683 — 2, 1684 — 1, 1685 — 3, 1686 — 1, 1687 — 1, 1688 — 1. З 1690-х колькасць выданняў, што ўбачылі свет у гэты час рэзка ўзрастае: у 1690 — 5 кніг, 1691 — 2, 1692 — 1, 1693 — 3, 1694 — 2, 1695 — 1, 1696 — 1, 1697 — 3, 1698 — 3, 1699 — 4, 1700 — 2.

Найбольш кніг з бібліятэчкі пазначаны гадамі першай дэкады XVIII стагоддзя: 1701 — 3, 1702 — 14 (!), 1703 — 4, 1704 — 6, 1705 — 3, 1706 — 5, 1707 — 3, 1708 — 4, 1709 — 5, 1710 — 6. Хоць і меншай, але ўсё яшчэ высокай застаецца колькасць выданняў, апублікаваных у наступную дэкаду (праўда, тут ужо зноў сустракаюцца пропускі — за 1712 і 1718 гады). Так, у 1711 годзе выйшла 4 кнігі з прысутных у бібліятэчцы, у 1713 — 2, 1714 — 2, 1715 — 4, 1716 — 6, 1717 — 10; і апошні год, што фігуруе ў вопісу — 1719, — прадстаўлены 1 кнігай.

Прааналізаваўшы гады выхаду прадстаўленых у вопісу выданняў, можна заўважыць досыць выразную тэндэнцыю, якая характарызуецца наступнымі прыкметамі:

1) большая частка прысутных у вопісу кніг выйшла ў свет у перыяд паміж 1680 і 1719 гадамі, непасрэдна пры жыцці кн. Караля Станіслава Радзівіла «Юстуса»;

2) перыяд паміж 1680 і 1719 гадамі для бібліятэкі характарызуецца «кучнасцю» выданняў. За гэты час сустракаецца ўсяго некалькі пропускаў у гадах прысутных там кніг, што сведчыць пра мэтанакіраванае камплектаванне фонду;

3) найбольшыя па колькасці гадавыя паступленні (ад 3 да 14 кніг) таксама трапляюць у межы гэтага перыяду: 1685, 1693, 1695, 1697—1699, 1701—1711, 1715—1717;

4) найпазнейшае выданне пазначана 1719 годам, на падставе чаго можна меркаваць, што паступленне кніг у фонд бібліятэчкі канчаткова перапынілася менавіта ў год смерці «Юстуса».

Вышэйсказанае канчаткова пераконвае, што бібліятэчка належала Каралю Станіславу Радзівілу «Юстусу». Цяпер, калі мы высветлілі, хто ўладальнік, хочацца трохі даведацца і пра яго асобу.

### ЭКСКУРС ІІІ: КАРАЛЬ СТАНІСЛАЎ РАДЗІВІЛ «ЮСТУС»

Караль Станіслаў Радзівіл нарадзіўся 27 лістапада 1669 года ў Кракаве ў сям'і Міхала Казіміра і Кацярыны з Сабескіх і даводзіўся пляменнікам будучаму каралю польскаму Яну ІІІ Сабескаму. Хроснымі бацькамі маленькага Караля сталі тагачасны кароль Міхал Карыбут Вішнявецкі і яго маці Грызельда. З дзяцінства «Юстус» жыў у асяродку каранаваных асоб.

Вучыўся Караль Станіслаў разам са сваім братам Юрыем Язэпам у езуіцкім калегіуме ў Любліне, і ў гэтым сэнсе яго асоба становіцца сімвалічнай для кастрычніцкага нумара «Маладосці», бо злучае сваёй постаццю дзве мясцовасці, якім гэты выпуск прысвечаны: Люблін і Падляшша.

Відаць, менавіта ад езуітаў вынес малады Радзівіл добрае валоданне лацінскай мовай і зацікаўленне тэалогіяй ды справамі рэлігійнымі. Гэтыя моманты пазней праявяцца ў камплектаванні бельскай бібліятэчкі. І хоць, здаецца, адмыслова блізкіх кантактаў з езуітамі «Юстус» пазней не меў, аднак іх аўтарытэт у пашырэнні асветы цаніў. І менавіта таму дапамог Таварыству Ісуса выбудаваць у 1686—1688 гадах другі калегіум у Нясвіжы.

Больш цесная духоўная повязь лучыла Караля Станіслава з рэфарматамі, чый канвент у Варшаве знаходзіўся побач з палацам яго бацькі. Францішканская духоўнасць у сваёй скрайняй праяве была вельмі блізкай Радзівілу. Таму падчас жыцця ў Белай ён адбываў рэкалекцыі менавіта ў канвенце «Strictioris Observantiae».

Разам з тым, не ігнараваў «Юстус» і іншых законаў: ён збудаваў і забяспечыў багатым фундушам дамініканскі канвент у Нясвіжы, а ў Белую запрасіў сёстраў шарытак дзеля апекавання над хворымі і вядзення школы. Але асабліва спрыяў Караль Станіслаў базыльянам: заснаваў для іх кляштар у Белай.

Аднак вернемся да жыццёвага шляху «Юстуса». У 1681 годзе памірае яго бацька, і Караль

Станіслаў атрымлівае ў спадчыну нежынскае староства.

У 1684—1687 гадах ён, разам са сваім братам, выпраўляецца ў падарожжа па краінах Заходняй Еўропы, наведвае Аўстрыю, Італію, Францыю, Галандыю… Пачаткова гэтае падарожжа планавалася як звычайная паездка для дзяцей айчынных магнатаў з мэтаю вучобы ў замежных універсітэтах, аднак Радзівілам давялося вырашаць і некаторыя палітычныя задачы, якія забяспечвалі інтарэсы роду Сабескіх, з якім яны былі звязаныя праз маці, што даводзілася сястрой Яну III. Між іншым, палітычныя мэты падарожжа былі паспяхова дасягнуты, што прынесла Каралю Станіславу ў 1686 годзе пасаду канюшага літоўскага.

У 1689-м, пасля смерці брата, які не пакінуў нашчадкаў, «Юстус» становіцца ардынатам і наследуе ўсе ўладанні нясвіжскай лініі. Але яшчэ раней, толькі вярнуўшыся з Еўропы, ён актыўна ўключаецца ў палітычнае жыццё краіны: удзельнічае ў якасці пасла ў працы гродзенскага ды варшаўскага сеймаў і рады сенату, старшынствуе на Трыбунале Літоўскім і мінае ў сваім жыцці яшчэ цэлы шэраг падобных вехаў.

У снежні 1698 года Караль Станіслаў дасягае пасады канцлера. З гэтай нагоды яго жонка Ганна Кацярына з Сангушкаў, згодна са звычаямі свайго часу, тытулавалася «Канцлеравай Вялікай Вялікага Княства Літоўскага».

Жыццё «Юстуса» ў большай ступені адзначана дзейнасцю палітычнай, чым вайсковай, хоць у якасці генеральнага палкоўніка навагрудскага ваяводства яму давялося ўдзельнічаць падчас Паўночнай вайны ў баявых дзеяннях і ў перамовах. Яму нярэдка даводзілася адыгрываць ролю міратворцы і пасярэдніка, імкнучыся дасягнуць кампрамісу паміж рознымі родамі і партыямі. І гэтая роля найболей адпавядала ягонаму характару.

Памёр Караль Станіслаў пасля доўгай хваробы ў жніўні 1719 года ў Белай, а пахаваны быў у Нясвіжы.

* * *

P. S. Пасля смерці «Юстуса» ягоная рэкалекцыйная бібліятэчка больш за паўтара дзясятка гадоў перахоўвалася ў канвенце айцоў рэфарматаў у Бялай. Пазней гэты збор быў уключаны ў фонд бяльскай бібліятэкі Радзівілаў, пра што сведчыць вопіс апошняй з 1745 года. У названым вопісу ўдалося выявіць каля 100 кніг з тых, якія згадваюцца ў рэестры рэкалекцыйнай бібліятэчкі з 1736 года.

## Як сапраўдная жанчына, Людвіка Караліна змяніла думку і выйшла замуж за Караля Філіпа. Ян Сабескі імкнуўся спагнаць «няўстойку»

Можна меркаваць, што з канвента ў маёнтак паступіла значна большая колькасць кніг, аднак у 1745 годзе кнігі апісваліся непаслядоўна: доўгія загалоўкі нярэдка скарачаліся, замест асноўнай назвы запісвалася паралельная, лацінскія тытулы часам перакладаліся на польскую мову, а ў некалькіх выпадках абазначаўся характар выдання (напр., «Modlitwy i nabożenstwa różne»); прысутнічае таксама і шэраг кніг «bez intytulacyi». І хоць у шэрагу выпадкаў відавочна, што гаворка ідзе пра тыя самыя выданні, але пералічаныя вышэй моманты не дазваляюць нам катэгарычна выказацца адносна тоеснасці пэўнай часткі кніг з гэтых двух вопісаў. Таму мы гаворым толькі пра тыя, якія ўдалося ідэнтыфікаваць адназначна. Варта адзначыць, што ў акце 1745 года гэтыя кнігі сустракаюцца блокамі па некалі асобнікаў або нават па некалькі дзясяткаў асобнікаў. Гэта сведчыць пра тое, што ўсе яны паступілі адначасова і «ўліваліся» ў фонд без адмысловай сістэмы: механічна ставіліся на паліцы там, дзе было вольнае месца.

Верагодна, перавоз рэкалекцыйнай бібліятэчкі з рэфармацкага канвенту ў замак Белая можна разглядаць у кантэксце тых захадаў па ўпарадкаванні ардынацкіх кнігазбораў, якія ў сярэдзіне 1740-х гадоў ажыццяўляла ўдава па «Юстусе», Ганна Кацярына з Сангушкаў Радзівіл. Пра гэтыя захады мы таксама даведваемся з некаторых дакументаў, што захоўваюцца ў НГАБ. У прыватнасці, днём 11-м лютага 1745 года датуецца «**Cathalogue des Livres de la Biblioteque Francoise de Białła qui vont á Nieśwież**», паводле якога ў нясвіжскую бібліятэку адсылалася 1 860 кніг. А іншы акт — «**Registre des Livres Nouveaux de la Biblioteque Francoise de Białła, que S. A. S.me Mdme á fait venir d'Amsterdam, et quelle á Ordonné d'Envoyer a Nieswiz. 1745**» — сведчыць, што праз месяц у Нясвіж павінны былі адправіцца і выданні новазакупленыя княгіняй у Амстэрдаме. Але гэта ўжо тэма для іншай прыгоды.

# ЖЫЦЦЁ БЕЗ ЛЮБОВІ — ТО ДРАМА



***Ганна КАРУЛЬЧЫК нарадзілася ў 1987-м на Падляшшы, вывучала паліталогію ў Любліне, жыве ў Варшаве. Яе вершы — «удзячныя і зычлівыя».***

* * *

***для цябе***

найпрыгажэй ты маўчаннем мне прамаўляеш,
часам думаеш што я цябе не разумею
што не змагу з табой размаўляць.
не змагу. маўчы мне.

твае вочы гаворыць больш пераканаўча.
не ашукаеш мяне. я цябе не ашукаю.
ты забываеш як на цябе я падобна
і не ведаеш нават як я цешуся з гэтага.

памаўчым разам за тваёй гарбатай
гэта нічога што пахне яна так дзіўна.
зірні на мяне зялёна і ўбач у маім блакіце
што ты найважнейшая. і добрая. і прыгожая.

мама. хадзем на шпацыр па нашым садзе.
давай затанчым з асенняй лістотай. выпусці зрэшты сабаку.
мама. часам я думаю што не люблю цябе.
толькі тады калі забываюся якая ты добрая.

вазьмі мама тую сухую галінку.
напэўна зробіш з яе штосьці арыгінальнае.

бо гэта ты татавымі рукамі будуеш наш дом.

* * *

***Госі***

вечарам я прыйду выплакацца
у штыўны каўнер твайго пінжака
і ў кілішак чырвонага віна
(мама не была б гэтым задаволена)
з табою заўсёды
усё падаецца больш простым

не нашмат даўжэй за мяне
ходзіш па гэтым свеце
але ведаеш пра яго значна болей
і не дазваляеш давяраць людзям
якія толькі ўсміхаюцца і гладзяць па галоўцы

ты заўтра пазычыш мне жоўтую блузку
і зноў будзе ўсё добра

* * *

***тату***

ты казаў
што ніколі не будзеш мне выбіраць
жыццёвых партнёраў
зрабі гэта раз за мяне
калі ласка
маё сэрца ўжо сто дзён
нічым не сілкуецца
а п'е толькі слёзы
тата
я заўсёды любіла слухаць цябе
раскажы мне казку на ноч
і хай ноч гэтая ўрэшце
будзе сапраўды добрай

ты казаў
што шчасцю часам трэба дапамагчы
але як тое зрабіць
калі я ўжо забылася нават
як чысціць зубы
тата
вазьмі мяне за руку
так як пятнаццаць гадоў таму
і правядзі мяне па стромкай такой гэтай лесвіцы

я так вельмі баюся
расстанняў і павяртанняў

* * *

я люблю паміраць. трэба ўжо ў гэтым прызнацца.
перад тым як заснуць разважаю пра смерць.
я зусім не баюся. Ты здзіўляешся.
а гэта адзіная аксіёма ў няпэўным жыцці
як і тое што заўтра я вып'ю гарбаты.
/калі будзе заўтра. я сумняюся./

калі я паміраю /ад тугі. ад глупства. няважна./
то станаўлюся бляклым палатном для мноства мастакоў.
а ты будзь ім. намалюй успаміны.
хай будуць крыху перамаляваныя.
могуць быць нават сцёртымі. выбачу.

я люблю паміраць. тады я раблюся пупам свету.
і твайго таксама. вазьмі пэндзаль.
намалюй неба. хоць раз падаруй рай.
/так пасуе ляжаць мне ў гэтай дубовай труне./
перш чым памерці я падумаю пра цябе.

паміранне — добрая рэч
але не тады калі хтось хоча прылашчыць
мяне да смерці.
бо кат**ы** ходзяць уласнымі сцежкамі.
а я надта часта сляды на іх пакідаю.



***Наталля КАЗАК***
***Нарадзілася ў 1998-м у Бяла-Падлясцы. Лаўрэатка Агульнапольскіх літаратурных конкурсаў. 2014 — год яе дэбюту. У яе творах — «выспеленае слова і высублімаваная метафара».***

* * *

я накарміла цябе
маімі снамі
дала шалёныя думкі
расчараваная
лаўлю толькі мімалётныя позіркі
ты прыйшоў
і забраў у мяне
натхненне

не гавары
слоў я баюся
яшчэ хтось пачуе
гэта напружанне паміж намі

я маю ў сабе задужа
фантазіі
ты мог бы разгадаць мой
позірк

а калі не… вярні мне
хаця б натхненне

### ДА Э. Д. ДРУГІ РАЗ

вязень розуму
апантаны дэманамі
уласнага цела

я не хацела жыць
хоць спрабавала

няпэўны рух далоні
і рызыкоўная вандроўка
па непрыдатнай прасторы…
слоў свету і аркуша паперы

чатыры сцяны
і цела —
поле ўнутранай барацьбы

цэлы свет на дне скрыні
тысяча семсот семдзесят пяць…
каб стаць вялікім
мусіш памерці
нікім

### ПАРАДКІ

пратэрмінаваны позірк
ільгота страх
мая пакута
некалькі слоў
пераблытаных здарэнняў
Чорная Каралева
у сукенцы з мараў

ментальныя парадкі

сабрала пажыткі
у адно месца

запыленыя думкі абстракцыяністкі

сметнік паэткі…

***Міраслаў ХАДЫНІЦКІ нарадзіўся ў 1957-м, дэбютаваў у 2006-м. Яго творчасць — «спроба выпрацавання ўласнай паэтыкі і пошук сэнсу не проста жыцця, а звычайнасцей».***



### ПАМЯТАЕШ?

мы ішлі да касцёла
трымаючыся за рукі
а лета тады было далікатна-цёплае
ты ў сукенцы
не не ў той менавіта
тамтэйшай

а потым дома мы елі марозіва з алкаголем

зноў будзе лета
што пахне нядзеляй
аздобленае ветрам і пухам з таполяў
што пырхае тут і там

бо алавянае неба
і дождж са снегам
не назаўжды

* * *

чараўнік з ілбом зморшчаным
задумаўся над пяром
якое між іншым
вярнуў вечнасці

яно ж
напісала верш
пра чорнае дрэва й шары амялы
на тле сакавіцкіх
снежных хмараў

цяпер дык дакладна ўжо
прычакаем вясну

**ХВІЛЯ**

яна зазірнула золатам заходу
белым дымам сасновым
паляцела ў неба
безлістотная ціша і эльфы ў танцы
зайгралі на промнях апошніх

змярканне
яна тонкімі пальцамі лашчыць павекі
рассыпае сон па падлогах

не
не запальвай святла
бо цені памруць



***Рышард ХАЕЦКІ***
***нарадзіўся ў 1939-м. Гэты паэт — «назіральнік відавочнасці». Рэфлексіі і тэзы, схаваныя ў яго вершах, — гэта «ўніверсум, пад якім можна смела падпісвацца».***

**НАЗАЎСЁДЫ РАЗАМ**

*хворым на цыклафрэнію*

Катавальніца-гідра, цыклафрэнія…

Усё было хворым:
і менш нешчаслівым
і з дна роспачы.

Ты змярцвяла ў зародку кожную радасць,
атручвала вёсны зялёныя.

Адбірала гады ў маіх летаў,
каляровыя восені замяніла на жахі.

Змучала сэрца маё шэрасцю,
безнадзейнасцю, смуткам.

Шмат разоў я прагнуў не быць.

І пагражаў: ты са мною памрэш.

Катавальніца-гідра, цыклафрэнія…

Злітуйся нада мной.

**НЯСТАЧА**

Жыццё без любові — то драма.

Трагічныя
«дабрыдзень», «дабранач»,
штодзённыя абавязкі,
шпацыры,
пакупкі,
размовы, званкі тэлефонныя…

Усё ёсць скажоным нястачай,

Жыццё без любові быццам хвароба.

***Дамінік СОБАЛЬ***
***нарадзіўся ў 1988-м у Бяла-Паблясцы, вывучаў гісторыю ў Любліне, жыве ў Тэрэспалі. Яго творчасць «характарызуецца асаблівым кліматам надбужанскага культурнага памежжа, поўніцца мудрым паглядам і з'яўляецца пошукам аўтэнтычнай любові».***



* * *

я першы ў сям'і
паэт
як такі

раней
ніхто не хацеў
альбо не мог
быць ім

трэба было
араць сеяць баранаваць
і гэтак далей

таленты былі ў вязніцы
брудных пазногцяў
стомленых рук

маё вылучэнне
разглядаць можна
у катэгорыях цуду

альбо
непрыстасавання
да чагось ажно так відавочнага
як чыгуначнік ці настаўнік

## СПАДАРЫНЯ СМЕРЦЬ З МАЛОЙ ВЁСКІ

яна не горшая
за тых дам
што займаюцца вулічным фітнесам

у
Варшаве
Познані Кракаве

можа і мае крыху
таўсцейшыя косці
але гэта не мае значэння

вастрыё зброі ўсюды
мае аднолькавую эфектыўнасць

* * *

я не гару на падсвечніку
ціхутка ступаю па зямлі

я маю знаёмых:
атэістаў
дэістаў
агностыкаў
больш і менш веруючых
розных

я іх не ацэньваю

я сябе пасвяціў пражыванню
ўласным спосабам
*па-дамінікаваму*

ушануйце гэта
не паказвайце пальцам —

радыкалы ад сямі смуткаў



***Якуб ВЕЖБІЦКІ нарадзіўся ў 1994-м у Радзыню Падляскім. У яго вершах, «акрамя маладога веку, шмат болю, неспакою, часам роспачы».***

**МАТЫЛЬ**

я калісьці збіраў матылёў
і мне не хапала літаральна аднаго
калі аднойчы яго прыдбаў
то раптам выпусціў
быў такі далікатны
не меў права жыць
пад маёю апекай
у маіх руках
і знайшоў яго іншы
і жыве матыль
хоць і пад шкляным каўпаком

а я не забуду таго дотыку
не забуду цябе

* * *

чорная гарбата
пакінутыя ў кубку чаінкі
чорны спалены тытунь
застаецца ў попельніцы
чорны фон
з белымі цітрамі пасля фільма
я вельмі люблю свае малыя прыемнасці

чорная кава
якая чакае знаёмых
чорныя кветкі
што пахнуць колерамі вясёлкі
чорныя думкі якія ёсць мінуўшчынай
ненавіджу гэтыя малыя прыемнасці



***Элігіюш ДЫМОЎСКІ нарадзіўся ў 1965-м. Францішканец, выкладчык тэалогіі, паэт, літкрытык. Рэчам звычайным ён надае паэтычны памер, а штодзённым вандроўкам — характар выключных.***

**ПРЫЯЦЕЛЬ КОТ**

***майму бацьку ў дзень імянін***

мой кот
з чароўным імем Какаін
зусім не прымхлівы
спакойна пераходзіць дарогу
без патрэбы не караскаецца на дрэва
не варожыць на картах таро
і не раскладае пасьянсаў
затое калі я прамаўляю адправы
ён як дзяўчына-падлетак чапляе
каляровыя стужкі
а на голас званоў на Анёл Гасподні
бадзёра хвастом адбівае рытм аб ножку крэсла
прыглядаючыся да мяне ўважліва сваімі
кацінымі вачыма
апроч таго што вельмі ён любіць пінжакі
(асабліва клятчастыя)

зразу зазірае ў кожны рукаў
быццам хоча гуляць у хованкі

калі я апранаю піжаму ўвечары
ён у радасным трансе пачынае шалёны
свой танец
прадчуваючы
што не будзе адзін напрацягу доўгіх гадзін

мой кот так жа як я
часам бяздарна выцягвае лапкі да неба
каб прасіць у свайго боства
міску неабходнай ежы
што дае сілы на звыклую штодзённасць

і як тут не дзякаваць Богу
што ён даў чалавеку
такое кашэчае шчасце

**НАРАДЖЭННЕ КРАСЫ,**
**АЛЬБО ПЕРШАЕ ЗДЗІЎЛЕННЕ**

гэта кабета з белай ружай
ані святая ані грэшніца

гэта кабета з белай ружай
па-свойму размаўляе з Богам

пра цябе

калі хочаш штосьці зрабіць для яе
то дай у другую руку ёй
любоў

і ўбачыш як слепне яна павольна
ад шчасця

***Барташ ПУШКАРСКІ***
***нарадзіўся ў 1998-м на Падляшшы.***
***Лаўрэат некалькіх***
***Агульнапольскіх літконкурсаў.***
***Клапоціць яго сучасная цывілізацыя,***
***свет, што яго атачае.***




**УТОПІЯ**

ідэальная каралева тая
якая кіруе ідэальнымі рабочымі
вернымі ёй больш за сабак

ідэальнае грамадства
аддасць усё што мае сваёй каралеве
нават жыццё
ідэальныя ваяры
выйдуць на рысталішча нават з гігантамі
але абароняць каралеву
няма спрэчак
няма беззаконнасці

а гэта ж звыклы мурашнік…

* * *

вечарам я ляжу ў халодным ложку
і не магу заснуць
чакаю таго аднаго
адзінага
якое ўвесь час прыходзіць
але заўжды ў непрадбачаны час
якое ўпарадкоўвае мае думкі
складае з элементаў хаосу
выкшталцоную цэласць

я чакаю таго што заўсёды хаваецца дзесь
за рогам свядомасці

о натхненне маё!
Дзе ты?

**ПАМІЖ**

я стаю над безданню
адной нагой на беразе
на якім я і дагэтуль дзіцёнак
другой жа там
дзе я ўжо цалкам дарослы

мае нервы ўжо сталеюць
але думкі мае і дагэтуль дзіцячыя
я бачу праблемы зусім з іншага боку
але надалей усё выйсця шукаю

я нібы ўжо дарослы
апаноўваю сваімі пачуццямі
але смутак боль і туга
надалей з-пад кантролю выходзяць

я не ведаю якім я буду
але пакуль я той хто стаіць паміж



***Лешак САКАЛОЎСКІ нарадзіўся ў 1958-м у Варшаве, жыве на Падляшшы. З'яўляецца лаўрэатам літаратурных і сатырычных конкурсаў, займаецца агратурыстычнай гаспадаркай. Яго вершы — «паэзія бунту і пакоры, месцамі вельмі лірычная, часам мужчынская, шорсткая».***

**CDN**

шмат паэзіі ўляцела ў космас
а тое што ўпала
разам з зорамі
асела на ранішняй расе
іншыя страфы ў пясок тварам
упалі

**СКАЖЫ МНЕ...**

скажы мне яшчэ які май
ці кветкі ў садзе як
заўжды
штогод так цудоўна
што аж цяжка дыхаць
і жыць так цяжка

ці часта смяешся
ці ты каханая
столькі я маю пытанняў
столькі клопату

цяпер я ўжо плакаць умею
і кахаць
і заўсёды я
ў подыху ветру
у ранішніх туманах

там я заўсёды чакаю

скажы мне яшчэ
які май
ці цёплы
ці лугі ўжо квітнеюць
а птушкі высока
у небе як і заўжды

ці чытаеш паэзію
ці маеш спакойны сон
ці носіш у сэрцы штось
я маю столькі пытанняў
столькі клопату
пра цябе

*Пераклад з польскай Арцёма КАВАЛЕЎСКАГА*

***Падляскі альбом падрыхтаваны пры падтрымцы галоўнага рэдактара часопіса «Падляскі квартальнік культурны» Гжэгажа МІХАЛОЎСКАГА. Шчыра дзякуем!***

Спасибо твоей маме и отцу,
Что дали жизнь такому молодцу!
В твой День Рождения хочу я пожелать,
Чтоб путь твой был — сплошная благодать!

Здоровья, счастья и улыбок,
Жить невозможно без ошибок...
Но пусть они, все до одной,
Будут стройны и хороши собой!

Много, много долгих лет
Крепкого здоровья,
Новых жизненных побед,
Сил и хладнокровия.

Для семьи опорой быть,
Меньше огорчаться,
С юмором всегда дружить,
Чаще улыбаться.

Оптимистом быть всегда,
Жить без сожалений,
И на многие года —
Много дней рождений!

# Бярозка

№ 10/2014(1036)









**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





# Так хочацца ў гэту казку і мне!

## Мары

У небе маленькая зорачка ззяе,
Крынічанька ў лесе ціхенька пяе,
А сонейка хуценька промні хавае,
Бо вечар ужо настае...
Вось кветкі пялёсткі змыкаюць свае,
Вось дрэўцы ў цішы засынаюць...
Так хочацца ў гэту казку і мне!
І мары мае пачынаюць
Ляцець у лясы, на палі, да крыніцы...
Ім хочацца ўзняцца да зорак нябёс,
Напіцца, як неба, той чыстай вадзіцы,
Якую нам ліпеньскі дождждык прынёс!
Але гэта проста чароўныя мары,
І цень летуценні маёй...

На небе цяпер толькі чорныя хмары,
І снег, што кружыць над зямлёй.

***Крысціна ВАЛЫНЕЦ,***
***11 клас, СШ № 3, Міёры***





## Каштанавы ўспамін

Падаюць каштаны...

Падаюць, засцілаюць сцяжынку. Страшна ступіць: яны ж жывыя, баюся растаптаць. Падбіраю адзін каштан, другі...

Цёмна-карычневыя камячкі саграваюць руку, напаўняюць пяшчотай і любоўю сэрца. Здаецца, гэтыя два маленькія стварэнні сабралі ўсю моц гарачага сонца і аддаюць мне свае скарбы. Але ж восень не вечная: так нечакана пачынае халадаць, сонца хаваецца, і ўсё часцей змрочны дожджык гаспадарыць над светам.

Падаюць каштаны...

Радуюць, цешаць, саграваюць...

Хутка дождж ператворыцца ў калючы снег, які схавае залатую восень пад сваю белую коўдру. І я не ўбачу тады ні гэтага стракатага дывана з апалай лістоты, ні гэтых мілых каштанчыкаў. А так хочацца зберагчы сонца ў сваім сэрцы! Вазьму ў восені падарунак, прынясу каштаны дамоў. І калі за акном будзе шалець злая завіруха, мяне сагрэе гэты каштанавы ўспамін...

## Ружа



Каралева кветак нечакана зацвіла.

Чаму нечакана? Ды позна ўжо!

Пяшчотныя пялёсткі, тонкая сцяблінка. Чароўная восень, відаць, вырашыла пажартаваць з прыгажуні-кветкі. Не падумала толькі, як сумна ружы цвісці адной. Сум гэты таксама восень падаравала. Ды і трывожна беднай кветачцы: а раптам мароз ударыць! Загіне тады прыгажосць раней часу...

Усе яе сяброўкі даўно скінулі свае ружовыя пялёсткі, а яна радуецца асенняму цяплу, такому ненадзейнаму, падманліваму... Радуецца сама і шчодра дорыць сваю прыгажосць людзям. І хто здагадаецца, пра яе непакой, калі кветка так цешыць вока.

***Аляксандра НОВІК,***
***9 клас, Ждановіцкая СШ***

## Мая восень

**Мая восень —** гэта вальс стракатых лісточкаў
з ветрам, залатыя сукенкі бярозак
і барвовыя плашчы клёнаў.

**Мая восень —** гэта букеты жоўтых аксамітак,
гэта астры і вяргіні за плотам.

**Мая восень —** гэта халодны дождж за акном
і цеплыня ўтульнай хаты.

**Мая восень —** гэта клянова-бярозавы вальс
пад музыку ярка-чырвоных асінак.

У **маёй восені** асаблівы настрой, незвычайны рытм,
непаўторная рыфма.

У **маёй восені** багатае ўбранне, дарагія ўпрыгожанні.
Яна ў мяне яшчэ і модніца, і гаспадыня старанная...

**Мая восень...**

*Дар'я САЛАНІНКА,*
*9 клас, Ждановіцкая СШ*

● **Погляд**

# Кожная кніга — гэта маленькае жыццё...

Больш за ўсё ў сучасным свеце мяне засмучае тое, што людзі сталі менш чытаць. Мы можам гадзінамі «падарожнічаць» па інтэрнэце, час ад часу прагортваем газеты ці часопісы ў пошуках цікавага матэрыялу, але літаратуру — класічную, міравую, па-сапраўднаму якасную літаратуру — мы, на жаль, чытаць амаль перасталі. Асабліва гэта датычыцца моладзі, сярод якой чытанне стала чамусьці нямодным...

Вядома, куды лягчэй паглядзець фільм, які знялі па кнізе, палюбавацца на прыгожых акцёраў, спазнаць тую ж гісторыю, што была і ў кнізе, але патраціўшы на гэта значна менш часу і душэўных сіл. Іншымі словамі, бяздумна і бязмэтна правесці дзве-тры гадзіны свайго жыцця.

А ты мог бы не проста глядзець фільм, а сам перажыць гэтую гісторыю, падзяліць думкі, эмоцыі, пачуцці герояў. Мог бы сам уяўляць сабе карціны прыроды, партрэты галоўных герояў, змену іх твараў пры розных эмоцыях, іх жыллё, наваколле... Але ж ты выбраў фільм, дзе ўсё гэта зрабілі за цябе, дзе ніхто не спытаў, што ты хочаш бачыць, ці такім ты ўяўляеш сабе таго ці іншага героя, ці згодны ты з рэжысёрскай пазіцыяй... А яшчэ фільм не дазваляе табе глыбока акунуцца ў атмасферу, дзе адбываецца дзеянне, ён не дае табе магчымасці адчуць і зразумець герояў, прычыны і матывы іх учынкаў. Увогуле, фільм многае адбірае ў цябе... і нават тваё ўражанне ад фільма, яно не зусім тваё! Гэтае ўражанне табе навязалі рэжысёры, акцёры, дэкаратары, мадэльеры — усе, хто ўдзельнічаў у стварэнні фільма. Яны зрабілі самае галоўнае і цікавае за цябе, а табе засталося толькі знайсці чужую працу і думкі ў інтэрнэце, паглядзець фільм, выключыць і, забыўшыся на яго, працягваць жыццё далей. Жыццё, у якім наўрад што змянілася пасля такога прагляду.

Я ні ў якім разе не супраць фільмаў, час ад часу і сама іх гляджу, але што значыць фільм у параўнанні з кнігай? Гэта толькі маленькі кавалачак, які ўвабраў у сябе ўсё самае цікавае, маляўнічае, яркае, але не заўсёды самае галоўнае, самае важнае. Вось, напрыклад, фільм «Мушкецёры» ў фармаце 3D. Безумоўна, ён вельмі насычаны, цікавы, прафесійна зняты, але што засталося ў ім ад кнігі, акрамя імён галоўных герояў і месца дзеяння? Рэжысёр змяніў усё, у тым ліку характары, мову, звычкі герояў — і ў выніку мы атрымалі фільм, які з вядомай кнігай яднае толькі назва. А яшчэ рэжысёр не перадаў нам самага галоўнага — сэнсу гэтай кнігі. Мы не ведаем, чым кіраваліся героі ў сваіх учынках, чаму яны зрабілі так, а не інакш, мы не ведаем іх думак, мы не ведаем нічога, акрамя прыгожай карцінкі, якую мы бачым на працягу амаль дзвюх гадзін. Так, чытанне кнігі заняло б



значна большы час, але якую ўзнагароду мы б атрымалі ўзамен! Цэлы свет, які стварыў Аляксандр Дзюма з яго бясцэннымі ўрокамі сяброўства і сапраўднай, шчырай мужнасці і адданасці. І гэта толькі адзін з мільёнаў прыкладаў.

І таму больш за ўсё я б хацела вярнуць моду на кнігі, бо кожная кніга — гэта маленькае жыццё, перажыўшы якое ты станеш хоць трошкі ды лепшым, бо, як бы там ні было, ніводная кніга не можа прайсці праз цябе, не закрануўшы ніводнай струны тваёй душы.

*Марына КУРНІЦКАЯ,*
*студэнтка 1-га курса*
*Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта,*
*фота Наталлі ЖУРАЎЛЁВАЙ*





# Вікторыя МЕННАНАВА: «Мы заўсёды падтрымліваем дзіцячыя ініцыятывы»

***Як вядома, «Бярозка» — часопіс для падлеткаў. Таму наш карэспандэнт наведаў установу, якая па сваёй прыродзе ўжо вельмі даўно працуе з падлеткамі, — Беларускую рэспубліканскую піянерскую арганізацыю.***

— Мы заўсёды падтрымліваем дзіцячыя ініцыятывы. Сёлета ўпершыню правялі чэмпіянат па інтэлектуальнай гульні «Што? Дзе? Калі?».

**— Мая любімая гульня!**

— На закрыццё чэмпіянату прыехаў удзельнік элітарнага клуба «Што? Дзе? Калі?» Алесь Мухін і асабіста павіншаваў дзяцей.

Ініцыятыва праекта ўзнікла на Гомельшчыне. Там, вы ведаеце, вельмі шырока распаўсюджана гэтае дзеянне. Тамтэйшыя піянеры выявілі жаданне паспаборнічаць з дзецьмі з усёй рэспублікі. Перамагла каманда Мінска. Пераможцаў запрасілі ў якасці гасцей на тэлевізійную версію гульні «Што? Дзе? Калі?». Для дзяцей гэта ў любым выпадку гонар. Павінен жа быць нейкі дадатковы бонус. Не толькі «стаў пераможцам, атрымаў прыз, дыплом і — да пабачэння». Трэба каб гэта запомнілася.

Ёсць у нас дасягненні і ў спорце: летась у лістападзе ў рамках профільнай змены ў Нацыянальным дзіцячым цэнтры «Зубронак» мы праводзілі фінал па піянерболе. Першае месца падзялілі каманды Мінскай вобласці і Ліды.

**— А зорачкі зараз чапляюцца?**

— Так, у нас ёсць акцябрацкая зорачка.

**— А што бывае з піянерамі, якія няправільна завязваюць гальштук?**

— У нас такіх не бывае. А што датычыцца акцябрат, мы ладзілі і ладзім гульню «Прыгода». «Тысяча і адно захапленне» — гэта яе леташняя назва, а сёлета — «Пароль: акцябронак». Сутнасць гульні ў тым, што дзеткі цягам навучальнага года вядуць дзённікі сваіх захапленняў. Заданні яны атрымліваюць з газеты «Зорька», якая з'яўляецца нашым асноўным партнёрам (а калі вы да нас таксама далучыцеся, то, думаю, і супольна з вамі будзем ладзіць гэты праект). А першага чэрвеня, у Міжнародны дзень абароны дзяцей, мы

зладзілі для іх свята ўзнагароджання дыпломамі і прызамі, звадзілі ў музей акіянаграфіі, а пасля — у Тэатр юнага гледача на прадстаўленне «Чырвоны каптурок». Дзеткі ад'язджалі з радаснымі тварамі, і было прыемна глядзець, як яны гартаюць свае дзённікі, дзеляцца ўражаннямі з іншымі дзецьмі...

**— А вы самі былі піянерам?**

— Я зрабілася піянерам толькі ў васямнаццаць год, калі пачала займацца гэтай дзейнасцю, бо нарадзілася не на Беларусі. У нас узрост піянераў не абмежаваны. Калі ў БРСМ узрост указаны дакладна — ад 14 да 31, то ў нас — ад сямі і да бясконцасці.

**— Я таксама магу ўступіць у піянерскую арганізацыю? Што для гэтага трэба?**

— Можаце. Напісаць заяву і здаць рэгістрацыйны ўзнос, які прадугледжвае набыццё гальштука. Правы і абавязкі вы пабачыце ў статуце піянерскай арганізацыі: права браць удзел ва ўсіх мерапрыемствах і быць адказным за ўсё, што робіш.

**— Распавядзіце, калі ласка, крыху пра праграмы «Спадчына» і «Сем Я».**

— «Сем Я» — гэта праграма самапазнання, самаразвіцця членаў арганізацыі. Бо арганізацыя — адна вялікая сям'я, і ў гэтай сям'і ўсе павінны жыць дружна. Мы мусім развіваць і захоўваць дружбу не толькі сярод дзяцей Рэспублікі Беларусь, але і за мяжой. Дарэчы, у нас ёсць партнёры, напрыклад, Віцебская вобласць вельмі цесна кантактуе з расійскімі піянерамі Масквы і Маскоўскай вобласці. Што датычыцца «Спадчыны», то гэта праграма захавання і пашырэння нацыянальных традыцый праз краязнаўчую і экалагічную дзейнасць. Тут ужо дзеці і з прыродай працуюць, і ў цімураўскіх атрадах бяруць удзел. Ёсць такое паняцце — «цімуравец».

**— Мне гэта зразумела, бо я «Цімура і яго каманду» чытаў.**

— Дык у нас гэта ўсё захавалася! Цімураўцы дапамагаюць бабулям, дзядулям, ветэранам, удзельнікам вайны, усім самотным пажылым людзям... З намі цікава! Далучайцеся!

*Гутарыў Віктар ЛУПАСІН*





● Літаратурныя старонкі

*Уладзімір СІТУХА*

# Пра сакрэты і прыкметы ДЗІВАСВЕТУ

***Перад табой, дарагі чытач, старонкі кнігі, якая неўзабаве выйдзе ў «Выдавецкім доме «Звязда». За ідэю, а таксама падтрымку праекта выказваем падзяку намесніку старшыні Брэсцкага аблвыканкама Леаніду Аляксандравічу Цупрыку.***



* * *

Наш прыродны ДЗІВАСВЕТ
Аб'ядноўвае СУСВЕТ,
І нікому не сакрэт
Пазнаём мы шмат з прыкмет...
Так і створаны сюжэт:
Пра забавы, іх выток,
І пра родны наш куток —
Кожны ў кніжачцы радок.

* * *

Па Лясной бабёр, нібы буксір,
Дрэва цягне з усіх сіл.
Просіць ласкава Валодзя:
Правязі на цеплаходзе.

* * *

Гаварыла Уладзю Надзя:
— Святкавала на парадзе.
Дзед купіў там мне суніцы...
Чырванее ўся спадніца!

* * *

Па вялікаму сакрэту
Расказала Насця Свеце,
Што паспелі ў іх ранеты...
Пра сакрэцік як жа гэты
Хутка ведалі ўсе дзеці?

* * *

У рабят збылася мара —
Шчупака злавілі ў Шчары...



Толькі хлопцам неўдамёк —
Як шчупак з іх рук уцёк?..

* * *

Бусел раніцай клякоча —
Разбудзіць Міколку хоча.
Ну хіба ж не знае ён —
Самы смачны зараз сон?!.

* * *

Млеў на лузе кураслеп,
Ад якога крот аслеп.
І таму ад той пары
Не вылазіць ён з нары.

* * *

Зайка чулы ды нясмелы,
Ён і шэры...
Ён і белы...
Абягаючы палі,
Колер зменіць ён калі?

* * *

Каля Буга ў кветках луг.
І пяе ён, і стракоча.
А буслы — за кругам круг:
Мо падняць аблокі хочуць?

* * *

Месяц выйшаў — вые воўк.
Спёка — на грымоту.
Салавейка ранкам змоўк,
Шпак пяе з ахвотай.

* * *

Задае нам шмат турбот
Шчыры брацік — шэры кот:
Увесь час будуе планы —
Як дабрацца да смятаны.
Ён да сала вельмі ласы...
І прыхоўвае прыпасы.

* * *

Тупату не чутна ножак —
Паляўнічы хітры вожык!
Ты крануць яго захочаш —
Тут жа згорнецца ў клубочак.
І замок яго, і ключык
З добрых зроблены калючак.

* * *

Наш сабака — Эленвар
Любіць мяса і навар.
Абавязак знае свята —
Двор вартуе ён і хату.
Ды чагосьці каля будкі
Вельмі нюхаў незабудкі...

* * *

Рагатала ў ноч мяцеліца,
А цяпер ажно не верыцца.
Бо, на дзіва нам усім.
Белы высланы кілім.
Гурбы снегу ўсюды зранку.
Мы хутчэй дасталі санкі...

* * *

Зноў давёў дзяцей да слёз
Раззлаваны Дзед Мароз.
Вось хутчэй бы Новы год —
Разам станем у карагод:
Атрымаем у дарункі
Ад Дзядулі падарункі...

* * *

Мой унучак добры Уладзік
З кім заўгодна ён паладзіць.
Любіць птушак, любіць коз.
Верабейчыка прынёс:
Птушанятка скінуў вецер,
Толькі Улад яго прыкмеціў
Хлеба даў. Вады наліў
І да сэрца прытуліў.
Вераб'ю жылося з шыкам —
Ён Уладзіку чырыкаў...
Кожным летам іх, дарэчы,
Грэюць новыя сустрэчы.

* * *

Рагатаў на градзе боб —
І жывот парваў, і лоб...
А таўсцеючы гарбуз
Сёння ў лужыне загруз...

* * *

Чуе Уладзік: «Ох і ох» —
Гэта трэскае гарох.
Мышка хап яго — у рот,
А за ёй пагнаўся кот.
Коцік добры вартавы —
Без дазволу не бяры.

* * *

З самай раніцы гракі
Гаманілі ля ракі:
«На дарогу, на адлёт
Напаўняйце свой жывот».

* * *

Цэлы дзень сланечнік мой
Сваёй круціць галавой:
Тварык грэючы на сонцы —
Паварочвае бясконца.
Каб паспелі вам, рабяткі,
Вельмі смачныя зярняткі.

* * *

Вожык вунь, бы бамбавоз,
Дзічак некалькі павёз.
Для зімовае пары
Ён збірае і грыбы.

* * *

Каб хваліцца футрам добрым —
Трэба многа на зімку здобы:
Вось чаму снуюць на золку
Па арэшніках ваверкі.

* * *

Сад паспеў — і столькі дзіў:
Многа яблык, груш і сліў.
Так і просяцца — у рот,
І спіну падставіў плот.
Цэлы рай для дзетвары —
Шчырай восені дары.
Колькі хочаш іх бяры.
Сёння ў садзе ўсе сябры.

* * *

Мые коцік для красы
Ранкам твар свой і вусы...
А на вішні нашай птушкі
Сабе робяць завітушкі...
Нават Тузік — злы сабака
Языком глянцуе лапы:
Будзе дождж, ці дзень пагожы —
Трэба быць заўжды прыгожым.

Алена МАСЛА



# Жахліва-вясёлыя гісторыі, або Прыгоды легендарнага Цмока*

## Гісторыя пра тое, як ліст ад Цмока напалохаў усю сям'ю

Няцяжка ўявіць, што рабілася з Хлопчыкам, калі ён атрымаў *такі* ПЕРШЫ АДКАЗ на свой ПЕРШЫ ЛІСТ! Ён стаў клікаць да камп'ютара Маму, Тату, Старэйшага Брата і любімую бабулю Ружу. Ён крычаў так голасна, што Мама кінула рабіць сваю складаную гімнастыку, Тата выпусціў з рук свярдзёлак, якім круціў у сцяне дзіркі пад паліцу з кнігамі, Старэйшы Брат сказаў сваёй дзяўчыне: «Пасляператэлефаную!», а бабуля Ружа ад перапуду замест бліннага цеста плюхнула на патэльню кампот са сліваў. Усе яны ў адначассе кінуліся да Хлопчыка ў пакой.



Ад узрушанасці Хлопчык не мог ужо гаварыць і толькі паказваў на экран камп'ютара пальцам. Усе моўчкі пачалі чытаць ліст.

— А што я казала! — першай падала голас Мама. — Не дарма я супраць таго, каб дзеці ў камп'ютары сядзелі! Не дарма я свайму сыну толькі два разы на тыдзень дазволіла да яго падыходзіць! Гэта ж трэба: толькі завялі электронную скрыню, як ужо нехта шальмуе, даверліваму дзіцяці галаву тлуміць! Нейкі Цмок у кватэры маёй сястрыцы? Падман! Ці я сястры сваёй не ведаю? Пусціць незнаёмца ў хату, пакінуць яго там аднаго? Ды яна да такога ніколі не дадумаецца!

Пакуль Мама гучна абуралася Тата, Старэйшы Брат, бабуля Ружа і Хлопчык хутка абуваліся і апраналіся, каб бегчы да Цётухны.

* Працяг. Пачатак у № 9 за 2014 год.

Справа ў тым, што Цётухна славілася сваёй летуценнасцю, прагай да прыгод, рызыкоўных падарожжаў і здольнасцю трапляць у неверагодныя гісторыі! Яна лётала ў навальніцу на параплане над морам; хадзіла ў паходы па непралазных горных сцежках; каб праверыць сябе на смеласць, выпраўлялася ўночы да разбуранага замка са зданямі... Да таго ж, працавала палеантолагам — вывучала жыццё на Зямлі дагістарычных часоў. Таму Цмок у яе кватэры ўсім — нават Маме, калі яна, выказаўшыся, змоўкла і на імгненне задумалася — падаўся з'явай да таго верагоднай, што ўсе перапалохаліся і зазбіраліся на выратаванне Цётухны. Узброіліся хто чым мог: Тата схапіў свярдзёлак, Мама — выбівалку для дываноў, Старэйшы Брат — хакейную клюшку, бабуля Ружа — гарачую патэльню, а Хлопчык закінуў на плячо драўляную стрэльбу.



(Трэба сказаць, што Хлопчык адразу ўпадабаў Цмока, таму ён са сваёй драўлянай стрэльбачкай ішоў не ваяваць, а заступіцца за яго, калі спатрэбіцца, перад сваімі роднымі).

Дом Цётухны быў непадалёк, і узброенае да зубоў войска праз некалькі хвілін стаяла ўжо ля пад'езда. Яшчэ крыху — і ліфт падняў заступнікаў на апошні паверх. Яны пачалі націскаць кнопку званка, але ім не адчынялі. Тады яны сталі барабаніць у дзверы рукамі і нагамі — ніхто за дзвярыма не варухнуўся. Тады ў ход пусцілі свярдзёлак, выбівалку, клюшку і патэльню, якая да таго часу паспела астыць.

— Усё, — сказала Мама. — Сэрца маё не вытрывае! Дарагі, прыдумай штонебудзь, каб выратаваць маю сястрыцу! — з дакорам зірнула на Тату.

Тата не мог трываць дакорлівых маміных позіркаў, таму хуценька дастаў мабільны тэлефон і пачаў набіраць нумар службы выратавання, як раптам...

Не, спачатку мы раскажам, чаму дзверы ў кватэру не адчыняліся.

## Гісторыя пра тое, як Мама, Тата, Старэйшы Брат і бабуля Ружа напалохалі Цмока, а ён — будаўнікоў-верхалазаў, і як Цётухна ратавала ўсіх

Прыгадаем, калі Цётухна пайшла, Цмок дасёрбаў каву, з’еў усё, што было да яе пададзена і ўсеўся да камп’ютара. Пакуль ён пісаў ліст Хлопчыку, непакой паціху рос.

«Гэта Цётухна, няйначай, вельмі хітрая кабета. Яна мяне тут замуравала, а сама за падмогай пабегла. З чаго б ёй быць такой добрай?» — думаў Цмок, нецярпліва, чакаючы адказу ад Хопчыка. Ён жа не ведаў, якімі занятымі бываюць сучасныя дзеці. І, пакуль Хлопчык вучыўся ў школе, займаўся ў секцыях, гуляў у футбол, чытаў на ранішніку вершы, Цмок пакутаваў ад невядомасці. За акном сюды-туды соўгалася люлька з будаўнікамі-верхалазамі, але Цмок, як і было яму загадана, блізка да акна не падыходзіў. Ён патузаў уваходныя дзверы, думаючы праз іх прарвацца на волю, але яны былі замкнёны. Урэшце Цмок стаў шукаць цёмнае месца, каб крыху падрамаць і лягчэй перанесці невядомасць ды знайшоў лазню.



У лазенцы было хораша! Па-першае, падлога аказалася цёплай, і Цмок з асалодай пагрэў на ёй лапы. Пасля ён агледзеў душавую кабінку і ўзрадваўся. Хто ж не ведае, якія чысцюлі Цмокі! Яны любяць купацца і штодзень ходзяць у лазню. Вось і Цмок, які трапіў у кватэру да Цётухны, не быў выключэннем. Ён паліваў сябе то гарачай вадой, то халоднай, шмараваў спіну мачалкаю, націраў галовы шампунем, зрабіў сабе манікюр, педыкюр, маскі для скуры, завіў чупрыну з дапамогай плойкі, надушыўся рознай парфумай — і, урэшце, думаць забыўся пра ўсе свае трывогі.

Расчырванелы, распараны Цмок выйшаў з лазі і накіраваўся да камп’ютара. Вось тут ён і пачуў грукат і гвалт за дзвярамі!

«Во я і далётаўся! — роспачна падумаў Цмок. — Нельга, нельга давяраць жанчынам! Загубяць, як ёсць, загубяць!»

Цмок кінуўся да акна. Левая Галава завішчала, што пасля купання на свежае паветра яна не палезе, бо прастудзіцца. У яе ж хранічны бранхіт, танзеліт, трахеіт і перыядычныя прыступы хітрасці! Але Правая і Сярэдняя Галовы не слухалі яе. Няхай лепш адна галава пасля пасмаркаецца і пакашляе, чым прападаць усяму Цмоку!

Грукат мацнеў, звінеў званок — дзявацца не было куды. Цмок расчыніў акно і нос у нос сутыкнуўся з верхалазамі Сашам і Сярожам. Яны нема зараўлі, бо да той пары цмокаў ніколі не бачылі і таму напалохаліся. Верхалаз Саша ўпусціў свой зварачны апарат, а верхалаз Сярожа разліў на дно люлькі клей і прыклеіўся.

Невядома, чым бы гэта ўсё скончылася, але раптам...

Раптам замок на ўваходных дзвярах шчоўкнуў, і на парозе з'явілася Цётухна.

— Пан Цмок! — ускрыкнула яна. — Прашу вас, адыдзіцеся ад акна! Там вецер дзьме, фрызуру вам сапсуе! Бач, як вы хораша завіліся, сапраўды цырульнік-прафесіянал!

— А вы, — рашуча наблізілася Цётухна да адчыненага акна, за якім сядзелі ў люльцы напалоханыя верхалазы і штосілы раўлі, — спыніце паніку! Напалохаеце нашага госця, больш ніколі на людзях не пакажацца. Давайце лепш заходзьце ў вітальню — пасядзім, пагамонім, я вас гарбаткай пачастую!

Цётухна гаварыла так рашуча і пераканаўча, што яе паслухаліся ўсе. Цмок плюхнуўся ў мяккі фатэль, а Саша з Сярожам ускочылі ў пакой праз акно (Сярожа быў без чаравікоў, бо яны прыклеіліся да дна люлькі). Пасля дзверы ў кватэры расчыніліся, і на парозе паўсталі родзічы са «зброяй» у руках.

— Авохці! Што тут робіцца? — здзівілася яна. — Я крышку затрымалася, бо да доктара страшэнна вялікія чэргі. Такое ўражанне, што хварэе ўвесь горад. Давялося пачакаць. А ў вас тут за гэты час, я гляджу, нешта здарылася?

Тата, Мама, Старэйшы Брат і бабуля Ружа кінуліся наперабой расказваць Цётухне пра ліст, які атрымаў Хлопчык на сваю электронную скрыню і выказваць заклапочанасць яе лёсам. Адзін толькі Хлопчык ціхутка прамовіў:

— Цётухна, а Цмок яшчэ ў цябе? Можна на яго паглядзець?

Вось тут Цётухна асцярожненька павярнула ключ у замку і апынулася ў кватэры якраз тады, калі напалоханы Цмок збіраўся вылезці праз акно.

## Гісторыя, у якой выяўляецца гжэчнасць пана Цмока і высвятляецца, што ён і бабуля Ружа — землякі

Наш Цмок быў зусім іншай пароды, чым лютыя, з даўнейшых казак. І луска яго пераліваласся, як вясёлка, і памераў ён быў самых памяркоўных — да жырандолі і тое не даставаў галовамі. І, у дадатак, хвост у яго зусім не такі, як у звыклых ката, сабакі ці каровы. Па-праўдзе, кожны, хто крыху разбіраецца ў цмоках, адразу засведчыў бы, што гэты Цмок больш падобны да



бяскрыўднага. Але Мама з бабуляй Ружай у цмоках не разбіраліся зусім, і таму ледзь не самлелі.

Але ж Цмок папярэдзіў непрыемнасць! Ён падхапіўся, укленчыў на адно калена і: Правая Галава пацалавала ручку Маме, Левая — бабулі Ружы, Сярэдняя Галава таксама не разгубілася і па-сяброўску прыкладася па чарзе да макавак Таты, Хлопчыка і Старэйшага Брата.

А вось Саша з Сярожам да такога не дадумаліся. Яны нават не ўсталі, калі кабеты ўвайшлі ў кватэру. Яны нават павітацца забыліся. Відаць, з перапуду, а не ад нявыхаванасці.

О, кабетам шляхетныя кавалеры падабаюцца! І Маме, і бабулі Ружы раптам стала ўсё адно, колькі галоў у гэтага Цмока. І нават на тое, што перад імі Цмок, якім дзяцей страшаць. Во як добрыя манеры падкупляюць людзей!

Бабуля Ружа нават слязу пусціла і сказала:

— Я сваю ручку цяпер мо тыдзень мыць не буду. Гэты пацалунак мне будзе напамінам пра старыя добрыя часы. Як я была маладая і жыла ў Мізарэччы, паны абавязкова паням і паненкам ручкі цалавалі!

— У Мізарэччы? — узрушыўся Цмок. — Перапрашаю, пані, у тым Мізарэччы, што недалёка ад замчышча ў Прудніках?

— Так-так, адкуль пан Цмок ведае?

— О, пані, дык там жа мая бацькаўшчына! — радасна ўсклікнуў Цмок. Ён, ні кропелькі не зважаючы на тое, што ніхто нічога не разумее, сабраўся пусціцца ў доўгія расповеды, але тут азвалася Цётухна.

— Пан Цмок! Давайце мы за стол сядзем! Хутка падвячорак, а яшчэ ніхто і не абедаў! За гарбаткай весялей даўніну ўзгадваць!

Хто ж ад такой прапановы адмовіцца! Тым больш, што пасля перажыванняў есці хочацца асабліва моцна. У вітальні расклалі вялікі абедзены стол, заслалі яго абрусам і заставілі стравамі: мачанкай з блінамі, капустай квашанай, гуркамі салёнымі, бульбай печанай, клёцкамі з душамі, бабкай са шкваркамі, кісялём журавінавым і нават качка, засмажаная з яблыкамі, з’явілася на стале.

Складаней было разлічыць, колькі ж прыбораў ставіць. З гаспадыняй, Мамай, Татам, бабуляй Ружай, Старэйшым Братам, Хлопчыкам, верхалазамі Сашам і Сярожам атрымлівалася восем персон. А як Цмока лічыць, калі ў яго тры галавы?

Задачку сам Цмок і дапамог вырашыць.

— Стаўце, — сціпла сказаў ён, — тры прыборы, лішнім не будзе. Кожнай галаве па талерцы, каб не сварыліся. А відэлец і нож — як усім, лапы ж у мяне дзве. Адну галаву пакармлю, а дзве няхай самі харчуюцца.

***Працяг у наступным нумары***



● **Табе навука**

# Праўда, яны прыгожыя?

*Навукова-папулярны праект новай «Бярозкі»!*
*Штомесяц з 2015-га!*
*Каб чытаць заўсёды, трэба падпісацца!*
*Індэкс: 74879.*

Вазьмі звычайны роўнастаронні трохвугольнік.

Цяпер пасярод кожнай стараны пастаў другі трохвугольнік, утрая меншы. Атрымаецца зорачка.

Цяпер на кожнай з 12 старон зорачкі пастаў яшчэ адзін трохвугольнік, зноў у тры разы меншы. Паўтарай да бясконцасці.

Атрымаецца так званая сняжынка Коха.

Калі ў 1904 годзе яе адкрылі, матэматыкі ўсяго свету былі агаломшаны. Справа ў тым, што сняжынка Коха — не зусім крывая і не зусім паверхня, а нешта паміж тым і другім. Яе даўжыня бясконца вялікая, а плошча нулявая. А яшчэ сняжынка Коха пры павелічэнні застаецца самападобнай.

Такія аб'екты атрымалі назву фракталаў.

З тых часоў было вынайдзена вялікае мноства розных фракталаў. Адны з іх нагадваюць дрэвы, другія — горы, трэція нічога не нагадваюць, але вельмі прыгожа выглядаюць. А некаторыя фракталы выглядаюць мо не так прыгожа, але выкарыстоўваюцца ў навуцы. Ужо ёсць вельмі вялікая галіна матэматыкі, якая так і называецца — фрактальны аналіз!

Бо цягам доследаў выявілася, што вельмі шмат якія рэчы і працэсы ў нашым жыцці — фракта-










лападобныя. Ад будовы нашага сусвету (напрыклад, атамы падобныя да сонечных сістэм) і аж да завіхрэнняў кавы, калі ты мяшаеш яе лыжачкай (прыглядаўся калі-небудзь да яе?). У людзей фрактальная крывяносная сістэма, фрактальны малюнак на скуры, жывём мы на мацерыках з фрактальнай паверхняй і фрактальнай берагавой лініяй... (Хм, то мо і прыгожымі нам здаюцца фракталы таму, што падобныя да нечага жывога?)

А яшчэ ёсць цэлы кірунак у мастацтве — фрактал-арт. Проста бярэш і малюеш розныя цікавыя фракталы. Праўда, яны прыгожыя?

Гэта не так складана. Я сам асабіста прыдумаў тры сімпатычныя фрактальчыкі, якія ты можаш намаляваць ад рукі. Гэта дрэўца Лупасіна, дыямент Лупасіна і завіхрушка Лупасіна. Як малююцца дрэўца і дыямент, зразумець лёгка, а каб ты не заблытаўся ў завіхрушцы, я дам табе тры пачатковыя стадыі.

Ці лепей прыдумай свой фрактал. Намалюй і дашлі нам у «Бярозку», дамовіліся?

*Віктар ЛУПАСІН*

● **Заяўка на Парнас**

# Патушы мой запал!



***У нашай рубрыцы «Заяўка на Парнас» апавяданне Паўла Бушкова «Патушы мой запал!».***

***Апавяданне Паўла даволі своеасаблівае і, магчыма, не ўсе з чытачоў «Бярозкі» правільна яго зразумеюць і ацэняць. Але ж у сучаснай беларускай літаратуры маюцца і такія авангардысцкія напрамкі... І, на нашу думку, літаратуры такая featuresznabakovasць толькі на карысць...***

Я і Віктар, як звар'яцелыя, імчым з нечалавечай хуткасцю.

На нашым шляху стаяць выратавальнікі, здзіўленыя нават больш за мяне.

І звяры, якія толькі што зразумелі, што іх накрылі.

— Стоп! Знята! Пачнём здымаць з самага пачатку.

## 1

Напэўна, кожны з вас ведае пра чароўнае свята Купалле. І той небарака, хто ў гэтую ноч знойдзе кветку папараці, якая зацвітае, атрымае здольнасць разумець гаворку ўсіх зямных жывёл ды вялікую моц. Такім небаракам у гэты

год давялося быць мне. Ох, як адплаціў я потым за гэта! Але можаце верыць, можаце асуджаць, ніколькі не шкадую, што знайшоў яе.

Пайшоў я аднойчы ў свой родны лес. Адкуль там з'явілася шыльда, не ведаю, але гэта быў толькі пачатак таго, чаго я і сам не разумею. «Лясное Княства Беларускае».

Я не здзівіўся, бо эколагі заўсёды выкідаюць такія жартачкі. Чаму я потым не пайшоў дадому? Прабачце, калі ласка! Але далей аповед будзе весці вар'ят.

І ўсё ж, чаму ж я не пайшоў дадому?

На маім шляху стаяў шалёны натоўп барсучкоў і на іх вачах (я таксама барсучок) бабёр-алігарх, пасля прамовы, перарэзаў шэра-бура-малінавую стужку. Далей, як я памятаю, было неяк спакайней. Карэспандэнт газеты «На хвасце» Надзея Сарокаўка брала інтэрв'ю ў дырэктара кампаніі па перапрацоўцы мёду Мядзведзя Арыстархавіча.

Раптам нейкае ваверчанё ляснулася мне на галаву і з крыкам: «Я трымаю! Я трымаю!» — ухапіла мяне за вушы. Каб здзерці з твару гэтага «маладога чалавека», мне давялося ляснуцца заднім месцам аб дрэва. Ды адкуль я ведаў, што ў ім жывуць пчолы? Стала неяк сумна, і вырашылі мы ўцячы ад іх: пяткі гарэлі, як у абмарожаных.

Стаміліся мы з вавёркай-Віктарам кіламетраў праз дзесяць. Я з радасцю прыняў прапанову асвоіць дайвінг: пчолы джалілі так, што было не да смеху. Такой лаянкі ад рыб ні я, ні ваверчанё ніколі не чулі. Далей мы ішлі павольна, як два лепшыя сябры. Мне было неяк сорамна за свой учынак. Нехта прачытаў мае думкі. Нейкі невядомы птах схапіў майго спадарожніка і паляцеў. Я, доўга не думаючы, пацэліў снежкай у драпежніка і выратаваў сябра. Дзесьці пачуліся крыкі: «Ратуйце!». Па небе праляцеў мядзведзь.

## 2

— На старт! Увага! Рушым!

— Як ён ідзе! Вы паглядзіце на яго спрыт! Абыходзіць трэцяга, другога... Запарожац з нумарам «04» абыходзіць усіх садернікаў і... — тараторыў дыктатар.

— Яўхіім... Яўхім Пятровіч, прачынайцеся і пакладзіце міску майго пёсіка на месца, — прашаптала сава-асістэнт сваёй саве-настаўніку.

— Фу на цябе! Такі момант абарваў! Я ж на рэкорд ішоў! — гаварыў чэмпіён.

— Ды чорт бяры з гэтым вашым рэкордам! Смяшынку варыць патрэбна далей...

— Так ішоў, так ляцеў! — пракрычаў настаўнік.

— Усе інгрэдыенты ёсць.

— А якія былі апладысменты!.. Як кідаліся з месцаў!.. — а потым цішэй дадаў: — Дадому.

— Не хапае толькі вашага турэмнага, ой, пільнага назірання.

— Усе інгрэдыенты кажаш? А рог аднарога? Га? З'еў?

— Вось ён, даражэнькі.

 

— Ды не існуе ж у свеце аднарогаў! Вар'ят!

«Адзін супраць мяне стаіць», — падумаў асістэнт пра сябе.

Пачалі яны варыць смяшынку.

— А не ірване? — запытаўся пёсік асістэнта.

Цішыня...

— Сава, адчыняй! Мядзведзь прыйшоў! — крычаў мядзведзь.

ВЫБУХ!!!

Міша не чакаў гэткага цёплага прыёму і вырашыў крыху палётаць.

## 3

Мы з Віктарам пабеглі клікаць на дапамогу жывёлін, але іх спрыту мне было недастаткова, каб затушыць пажар. Таму я хуценька залез у тэлефонную будку і патэлефанаваў у пажарную. Звяры чамусьці адразу разбегліся. Прыехалі выратавальнікі і хвілін за пяць патушылі полымя.

— Які жах! Як гэта на такой забытай зямлі мог адбыцца пажар? Ды яшчэ ўзімку?!

— Маўчыце, спадар дзівак! — прашаптаў я прышпільнаму малому.

— Дзе ж гэтыя, тапатуны? — спытаў другі, гледзячы на сляды, пакінутыя на снезе.

— Чый гэта запарожац? — цікавіўся трэці.

— О, глядзіце, смяшынка! Гі-гі-гі! — прамовіў чацвёрты і ўжо не мог супыніцца. Давялося везці яго ў шпіталь.

Яны паехалі.

Жывёлам чамусьці не вельмі спадабалася маё свавольства. Ох, як бег я ад гэтых нелюдзяў. Д'ябал з імі! Ледзь не дагналі. А чаму? А дзякуючы тым жа выратавальнікам.

***Павел БУШКОЎ,***
***9 клас, Ялізаўская СШ, Асіповіцкі раён***

## Вынікі казачнага конкурсу

**ПЕРШАЕ месца:** казка **«Як Бог хадзіў па зямлі беларускай»** Лізаветы Міхалап з гімназіі № 3 Салігорска.



**ДРУГОЕ месца** падзялілі казкі: **«Жыла-была дзяўчынка»** Марыны Рогавай з Зачысцкай СШ Барысаўскага раёна і **«Хакей у акварыуме»** Дзяніса Буторына з мінскай гімназіі № 1.



**ТРЭЦЯЕ месца: «Як Смерч, Вецер і Паветра аб людзях размаўлялі»** (Ірына Радзіхоўская з Дворнасельскай СШ Міёрскага раёна), **«Як зайчык Антоха Вугольчыка паслухаў»** (Таццяна Мацейка з Грыцэвіцкай СШ Клецкага раёна), **«Прыгоды зайчыка Скока»** (Лізавета Саевіч з гімназіі № 29 Мінска).

***Пераможцы атрымаюць ганаровыя дыпломы і падарункі.***

***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 56 200 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 22 900 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 71 200 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 16 200 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактары *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19.
Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 09.10.2014. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 00,00. Тыраж 2000 экз. Заказ 0000. Кошт нумара ў розніцу 19 100 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/106.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.




**maladost@bk.ru http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**